*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*

●

**Заснаваны ў 1953 годзе**



# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

**7**

**ЛІПЕНЬ**

**МІНСК, 1968**

**Выдавецтва «Звязда»**

**АПОВЕСЦЬ ПРА РЭЙДЫ Ў ГЛЫБОКІ ТЫЛ**

**СПРАВЫ МОЛАДЗІ МАГІЛЁЎШЧЫНЫ**

**БЕЛАРУСКАЕ ШКЛО, ФАРФОР, РАЗБЯРСТВА — НА ВЫСТАЎЦЫ**

**ЯК ПАВОДЗІЦЬ СЯБЕ НА ЭКЗАМЕНАХ**

**У ЛАБАРАТОРЫІ ПІСЬМЕННІКА**

**ТАМ, ДЗЕ ХАДЗІЎ КУПАЛА**

**У АБ'ЕКТЫВЕ — ЗОРКІ МЕДЫЦЫНЫ**

**ГУТАРКА ПРА САМАЕ ІНТЫМНАЕ**

## У НУМАРЫ:

**Віктар ЯРАЦ.** Збіраюць шчаўе... Чым пахне дождж... Дняпроўскія плёсы. Сцяжынак пыл... У моры зеляніны. Вершы . . . . . . . . 4
**Генадзь БУРАЎКІН.** Колькі ні кляні... У лясах чужынцаў косці... Хтось палюе... Ідуць дажджы... Другія з доўгіх падарожжаў... Вершы . . . . 6
**Напалеон РЫДЗЕЎСКІ.** Парашуты на дрэвах. Дакументальная аповесць . . . . . . . . . 9
**Алег ЛОЙКА.** Ніхто са мной... Мне спакой, як маленства... Не знаю, ці гэта мала... О, як многа табой мне дадзена... Калі ў дарозе ты. Вершы . . 43
**Яўгенія ЯНІШЧЫЦ.** Я ведала... Ад веку дадзена нам мова... Я на тваё: «прыйду не скора»... Пазаві мяне... Вершы . . . . . . . . . . 45
**Эдуард ЗУБРЫЦКІ.** Суэма. Аповесць . . . . 48
**Алесь МАСАРЭНКА.** Страшна, калі знячэўку... Усё-такі паэты — ёсць паэты... Чужое ісціны не трэба... Студэнтачкі Асадава чытаюць... Імкнуся я... Вершы . . . . . . . . . . . 74
**Валянціна КОЎТУН.** Свяшчэнны боль... А дождж на шыбіне... Прыходзіць сталасць... Вершы . . 75
**Алесь ПАЛЬЧЭЎСКІ.** Кароткія апавяданні . . . 77
**Яўген КРУПЕНЬКА.** Шчодрасць. Сяяння. Вершы . 80
**П'ер БЕРТАН.** Мая вайна з дваццатым стагоддзем. Апавяданні . . . . . . . . . . 82

**Далёкае — блізкае.** Інтэрв'ю з сакратаром Магілёўскага абкома ЛКСМБ **Уладзімірам ГРЫГОР'ЕВЫМ** . . . . . . . . . . . . . 90
**Валянцін ЖДАНОВІЧ.** Песня спяшаецца на фестываль . . . . . . . . . . . . 105
**Уладзімір МЯЖЭВІЧ.** Зоркі ў белых халатах . . 107
**Уладзімір ЕЛІСЕЕЎ.** Незабыўнае знаёмства . . 111

Нгуен Мінь Дыонг. Мяне кліча Радзіма-маці . . 114
Мікалай БРАТУШЭНКА. Наш камісар . . . . 117
Якаў РЭЗНІКАЎ. Мемарыяльны летапіс . . . 121
Ці помнім мы ўсё! . . . . . . . . . . 123
Міхаіл КЛЯЎЧЭНЯ. Ці страшныя экзамены . . 125
Добра, што пішацца. Інтэрв'ю з Янкам БРЫЛЁМ . 127
Мечыслаў ШАХОВІЧ. Подых Нарачанскага краю 132
Уладзімір ЮРЭВІЧ. Аўтарытэт крытыка . . . 133
Ядвіга РАМАНОЎСКАЯ. Купалавы сцежкі . . . 136
З рэдактаравай шуфляды . . . . . . . . 141
Інтымныя размовы . . . . . . . . . . 142
Барыс РОЗЕН. У нетрах крышталяў . . . . 147
З усмешкай і без яе . . . , . . . . 150
Фізіка на палетках . . . . . . . . . 151
Людміла МІХАЙЛОЎСКАЯ. Замак над Міранкай . 152
Аляксандр СПІВАЧУК. Дзекабрысты ў Бабруйску 154
Цікава ведаць, што... . . . . . . . . . 157
Эдуард БРУК і Вячаслаў КЕМЕРАЎ. Пошукі сну . 158
Нашы аўтары . . . . . . . . . . . 160

Вокладка В. Шаранговіча.

Шмуцтытулы В. Шаранговіча (стар. 3) і А. Борчыка (стар. 89).







# ПАЭЗІЯ ПРОЗА

● ВІКТАР ЯРАЦ ● ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН ● НАПАЛЕОН РЫДЗЕЎСКІ ● АЛЕГ ЛОЙКА ● ЯЎГЕНІЯ ЯНІШЧЫЦ ● ЭДУАРД ЗУБРЫЦКІ ● АЛЕСЬ МАСАРЭНКА ● ВАЛЯНЦІНА КОЎТУН ● АЛЕСЬ ПАЛЬЧЭЎСКІ ● ЯЎГЕН КРУПЕНЬКА ● П'ЕР БЕРТАН

# ПАЭЗІЯ


• Збіраюць шчаўе...

•• ———————

••• Дняпроўскія плёсы

•••• ———————

••••• У моры зеляніны




*Вырвацца з аднастайнасці, імкнучыся думкай да светлых высяў, нязведаных таямніц, стаць вышэй за жыццёвыя дробязі, непатрэбную мітусню і неразумную зайздрасць — прагну я. Не заўважаць жыццёвых турбот, людской бяды і радасці, святла і цемры, дабра і зла — не магу я.*

*Зямныя трывогі, людскі боль пакідаюць след у маёй душы, не даюць ёй спакою. У шумнай сталіцы і на родных прасторах Прыдняпроўя, у паяздах і цесным студэнцкім пакойчыку снуюцца думкі, якія і нараджаюць жаданне выказацца перад людзьмі і, часам, пранікнуць у сутнасць падзей і з'яў.*

*Як у фокусе лінзы збіраюцца ўсе промні, каб потым адбіцца, так у сэрцы— прыбой пачуццяў і думак, якія і нараджаюць вершы.*

*Віктар ЯРАЦ.*



**Віктар ЯРАЦ**

•

Збіраюць шчаўе на лугах жанчыны
І, маладое, кідаюць ў прыпол.
Перабіраюць пальцамі ўспаміны,
Абпалены калісь кранаюць дол.
Вясною кожнай шчаўе ім нагадвае
Вайну-нішчымніцу...
                    На вогнішчах лясных
У кацялках закіпвалі блакадныя
Баршчы пустыя
                    для дзяцей малых.
Сярод жанок і ты, мая матуля,
Збіраеш, слухаеш зарэчную зязюлю...
Нясуць жанчыны шчаўе у прыполе,
Перабіраюць на парозе шчаўе — сваю долю.

••

Чым пахне дождж ў дуброве весняй
І вецер буйны паміж лоз?
Напэўна, кветкамі
                    і песняй,
Ляціць якая з-пад нябёс.
Чаму бярозка маладая
Стаіць сумотна на мяжы,
Хоць сонца
                    ў кожнай кроплі ззяе
І звоняць весела дажджы?..

•••

Запрашаюць бакенаў агеньчыкі
Прыязджаць чаромхавай вясной
На разлівы сінявы расквечанай,
Для якіх я —
                    проста хлопец свой.
Там вякамі пойма залівае
Зімні сон, даліны і лугі,
У глыбінях — сонца праплывае,
Прарастаюць
                    маладыя мурагі.
Пераплецен свет вады і неба
Промнямі
                    і светлай сінявой.
У пралесках захмялела глеба,
Каля ног
                    паводкі веснавой.
Шырыня на столькі кіламетраў —
Ледзьве журавы пераляцяць!
Красавік
                    разліўся сінім ветрам —
Нават заяц
                    хоча сінім стаць.
Параходы
                    трубяць серабрыста,
І плывуць па плёсах рыбакі...
— Навігацыя! — гукнулі прыстані,
Выпусціўшы лодкі у блакіт...

••

Сцяжынак пыл на санцапёку,
Асмяглы колас хоча піць...
І, як збавенне, ў небе рокат
Грамоў
І шчодрасць навальніц.
Вада зіхціць ў далонях лісцяў,
Дождж узахліп травінкі п'юць...
І чую я
                    ў далёкім Мінску:
Дняпровы хвалі
                    ў неба б'юць.

●●●●●

Я анямеў у моры зеляніны.
Я страціў слых у цішыні густой,
Дзе рознакаляровыя разлівы
Гайдаюцца між небам і зямлёй.

Застаўся ззаду пыл дарог далёкіх
І сцежак, што вялі мяне сюды,
Дзе дыхаць у далінах летніх лёгка,
Дзе спяць на золку ў туманах сады.

Дзе у лугах, як на пасцелях
                    хмельных,
Ты можаш спаць,
            забыўшыся пра ўсё...
І сніць вышыні
            сосен карабельных,
І сніць дарогі —
            ў новае жыццё...

ПАЭЗІЯ



●

## Генадзь БУРАЎКІН



*На пісьмовы стол,*
*Нібы на плаху,*
*Болей*
*Галавы не пакладу.*

*Пімен ПАНЧАНКА*

Колькі ні кляні свой стол пісьмовы,
Колькі ні хавайся ў сіні сад,



Усё роўна,
        як суддзя суровы,
Зноў вяртае ён цябе назад.

І быць можа ў тым зямное шчасце,
Каб,
    высока ўзняўшы галаву,
На пісьмовы стол яе пакласці,
Як на прыдарожную траву,

Не збаяцца ўласнага адчаю
І чужой бязлітаснай рукі,
Каб, як бой, плылі перад вачамі
Порахам прапахлыя радкі,

Каб свой верш,
        як камень барыкадны,
Калі прыйдуць смерцю пакараць,
Кінуць у збялелы твар няпраўды
І пасля спакойна паміраць...

●●

У лясах
Чужынцаў косці
Дагніваюць.
А былых салдатаў
Кулі
Даганяюць.

То інфарктам,
То сухотамі —
А толькі
Праразаюцца
Варожыя
Асколкі.

Хлопцы падаюць
Без крыку
І без стогну...
Раптам
Рана незагоеная
Торгне.

І аглушаць
Пульсу
Ціхія удары.
І на вочы
Наплываюць
Чужынцаў твары.

Не закрыцца
Ні акопам,
Ні бранёю,
Ні мінулай
Пераможнаю
Вайною.

Тыя кулі,
Што калісь
Заселі ў целе,
Даляцелі ўсё ж
Да сэрца,
Даляцелі...

●●●

Хтось палюе на сініцу,
Хтосьці ловіць жураўля...
Мне ж багацце і не сніцца —
Толькі родная зямля,

Толькі маці,
        толькі песня,
Кнігаўкі над лугам крык...
Лёс мяне не вельмі песціў.
Я да простага прывык.

І багацця мне не трэба,
Без прысмакаў пацярплю —
Толькі б хлеба,
 толькі б неба
Ды бацькоўскую зямлю...

●●●

Ідуць дажджы. Асенняя пара.
Заплаканыя вокны спахмурнелі.
Аўторка не адрозніш ад нядзелі,
Ад бынянягу — шпачынага пяра.

За тыдзень свет, здаецца, пастарэў.
За вёскай — непралазнае балота.
Апошняя цяжкая пазалота
Злятае з абсвістаных ветрам дрэў...

А потым
 сонца высветліць блакіт,
І дрэвы ўміг ізноў памаладзелі,
І над ракою ў золаце нядзелі —
Наструненыя постаці ракіт.

Заблытаны лісткі календара.
У чыстым небе, маладым і сінім,
Пераплялісія промні з павуціннем...
Ах, восень,
 пераходная пара...

●●●●●

Другія
 з доўгіх падарожжаў
Дамоў, да любых у двары,
Што найдзіўней, што найдарожай
Вязуць заморскія дары.

А я
 з далёкае дарогі
Табе на памяць прывязу
Падкову —
 месячык двурогі
І зорку —
 сінюю слязу.

І не абмыўшы пот салёны,
На шчасце наша ці бяду,
Табе ў халодныя далоні
Свой лоб гарачы пакладу.



# ПРОЗА



Напалеон РЫДЗЕЎСКІ

Мал. І. ДАВІДОВІЧА

# ПАРАШУТЫ НА ДРЭВАХ

ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ

## ЧУЖАЯ ЗЯМЛЯ



акое ёсць правіла, што самы цяжэйшы павінен пакідаць самалёт першы, бо яго парашут зніжаецца хутчэй, можа насцігнуць некага ў паветры, а такое сутыкненне небяспечна. Але гэтае правіла не было ўзята пад увагу: кіраваліся больш важнымі меркаваннямі, якія вынікалі з пастаўленай кожнаму з нас задачы. Так здарылася, што мне, самаму цяжкаму ў групе, давялося скакаць не першым, а апошнім. Ды ці такая небяспека чакала нас унізе, на варожай зямлі, якая здавалася з вышыні бездапню...

Пераадольваючы сябе, я ледзь адарваўся ад дрыготкай прыступкі самалёта, якая адна цяпер звязвала мяне з далёкай Радзімай. Нейкі момант я нічога не адчуваў, нічога не чуў, акрамя пранізлівага ветру, які з магутнай сілай струменіў насустрач. Але вось мяне моцна тузанула, лямкі нацягнуліся, абціскаючы ногі, і, нібы за нешта зачапіўшыся, я павіс і завагаўся, як маятнік.

Парашут падаў роўна. Я пачаў углядацца ўніз. Там, наперадзе, заўважыў тры белыя сподкі раскрытых парашутаў. «Прызямліліся. Без стрэлу»,— падумаў я з палёгкай. Глянуў на компас, каб вызначыць напрамак іх прызямлення, але стрэлка няўрымсліва пульсавала, і я падумаў, што прасцей будзе арыентавацца па зорках. Якраз над трэцім парашутам ярка ззяла



зорка Венера. Калі я зноў зірнуў уніз, на парашут, ён раптам страціў сваю форму і, як капшук, застыў нерухома. Значыць, унізе стары лес і парашут павіс на дрэве. А меркавалася, што мы прызямлімся на малады хмызняк. Прамільгнула думка, што пад шатамі старога лесу можа і нельга будзе заўважыць зоркі.

Адчуваючы блізкасць зямлі, я ўвесь падцяўся, шчыльна звёў ногі, каб не пакалечыцца, калі патраплю на сукі. І якраз у час паспеў зрабіць гэта, бо тут жа пачуў, як з трэскам крышылася нада мной сучча. Парашут павіс, але да зямлі не дастаў. Унізе было цёмна, нібы там быў глыбокі калодзеж. Не спрабуючы вызваліцца ад лямак, я адразу ж хапіўся за аўтамат. Прыслухаўся. Стрэлаў не чуваць. Ціха. Гучна білася сэрца. Паспешліва адшпільваю рукзак і выпускаю яго з рук. Туга напакаваны боепрыпасамі, радыёбатарэямі, кансервамі, сухарамі, ён важка чмякнуўся аб зямлю. Я прыкінуў: да зямлі не менш пяці метраў. Рэзаць стропы і скакаць небяспечна — можна паламаць ногі.

Вочы хутка прызвычаіліся ў цемнаце, і я ўбачыў справа і злева ад сябе тоўстыя аголеныя камлі. Стараюся дацягнуцца спачатку да аднаго, а потым да другога рукой, але мне гэта не ўдаецца. Нацягнутыя стропы не даюць разгойдацца. Рассякаю некалькі стропаў з аднаго боку кінжалам, і мяне адразу тузанула ўлева — я апынуўся каля самага камля, паспеў абхапіць яго нагамі. Адсек астатнія стропы і слізгануў на зямлю. Вобмацкам знайшоў рукзак, закінуў яго за плечы і зноў насцярожана прыслухаўся, сціскаючы аўтамат.

І хоць яшчэ не сустрэўся ні з адным з дзевяці сваіх сяброў-разведчыкаў, якія прызямліліся недзе побач, мною авалодала нейкае своеасаблівае пачуццё: я стаяў на зямлі ворага. Праз многія зімы і леты мы нарэшце дабраліся сюды, у бярлогу фашысцкага звера. Значыць, хутка яму канец. І хоць кожны з нас, відаць, не надта верыў, што дажыве да перамогі, але ўсе ведалі — яна хутка настане.

Некалькі разоў я падскочыў на месцы, каб праверыць, ці добра падагнана амуніцыя. Аўтамат, пісталет, гранаты, заραджаныя запасныя дыскі, палявая сумка з картамі, кінжал, компас, гадзіннік, кішэнны ліхтарык — усё было спарадкавана як мае быць. Некалькі мінут я прастаяў, мяркуючы, як зняць парашут. Нельга ж яго пакінуць на дрэве. Раптам пачуўся трэск ламачча, я насцярожыўся, стаіўся. Побач праходзілі людзі. Я падаў умоўны сігнал і пачуў адказ. Падышоў камандзір разведгрупы Павел Крылатых.

— Усё ў парадку? — спытаў ён у мяне.

— Парашут засеў.

— Гэта ўжо другі, хай яго... Цяжка зняць — сосны высокія. Пакінем. Трэба шукаць астатніх.

Я далучыўся да іх, і мы пайшлі далей. Набрылі на лейтэнанта Мікалая Шпакава і радыстку Зіну. Яны таксама спрабавалі сцягнуць парашут.

— Кіньце,— сказаў ім Крылатых.

— Як жа? — развяла рукамі Зіна.— Адразу ж выявяць!

— Два парашуты пакінулі ўжо вісець, твой будзе трэці,— сказаў камандзір.— Ноч кароткая. Наўрад ці ўдасца паздымаць іх да світання. А мы ж яшчэ не сабралі ўсіх.

— Я свой парашут закапаў,— сказаў Шпакаў.— Каб сустрэць астатніх, бадай, трэба ісці на захад. Вось так,— паказаў ён рукой, гледзячы на компас.

— Добра, так і пойдзем,— згадзіўся Крылатых.

Хутка сустрэлі Генку Юшкевіча, пятнаццацігадовага хлапчука. Ён прызямліўся ўдала. Я асабліва ўзрадаваўся яму. Мы з ім пасябравалі даўно, яшчэ ў разведгрупе «Чайка», што дзейнічала пад Мінскам.

— Ціха... Чуеце трэск? — прашаптала Зіна.

— Так, чую,— адказаў Крылатых.— Хутчэй за ўсё, гэта — нашы. Ісці ціха!

Гэта былі нашы. Два разведчыкі важдаліся з парашутамі. Адзін з іх, трымаючыся за стропы, стаяў на зямлі, а другі, пакінуўшы аўтамат і зняўшы боты, залез на дрэва.

— А ну, тузані яшчэ! — камандаваў ён зверху.

— Іван, злазь, нічога не выйдзе,— пачулася знізу.

Крылатых, не выходзячы з-за дрэў, падаў умоўны сігнал.

— Мы тут,— пачуўся адказ, хоць ён павінен быў быць пададзены толькі свістам.

— Гэта ты, Зварыка? — спытаў, падышоўшы, Крылатых.

— Я. Памажыце зняць парашут.

— А хто на дрэве?

— Іван Аўчароў.

— Цягніце! Чаго стаіце? — зноў пачулася зверху.

— Іван, злазь! — загадаў Крылатых.— Вы што ж гэта такі шум узнялі?

— Дык тут жа лес — нікога няма! — апраўдваўся Аўчароў.

— У лесе, ды не дома. Будзьце асцярожныя. Каго яшчэ няма з нашых?

— Марозавай і Мельнікава,— адказаў Шпакаў.
— Чуеце — наш сігнал! — зноў першая пачула пазыўныя Зіна.— Гэта, напэўна, Аня.
Зіна адказала на сігнал і тут жа пацвердзіла:
— Так, яна. Хадзем!
Аня з парашутам завісла паміж дрэвамі высока ад зямлі.
— Не магу злезці. Памажыце! — папрасіла яна.
— Падрэж стропы, дацягнешся да камля,— параіў Шпакаў.
— У мяне няма нажа.
— Зараз я табе падам.
Аню выбавілі з палону.
— Значыць, няма яшчэ Мельнікава,— сказаў Шпакаў.
Але тут жа пачуўся голас з цемнаты:
— А я тут. Даўно вас пачуў: ды ўсё парашут сцягнуць не мог. Так і застаўся вісець.
— Цьфу ты, чорт! — вылаяўся Шпакаў.— Шэсць парашутаў з дзесяці пакінулі на дрэвах. Але ж нічога не зробіш, не туды скінулі, куды меркавалася.
— А чаму парашуты робяць белыя? — шэптам спытаў Генка.— Хай бы яны былі зялёныя, пад колер лесу — цяжэй было б заўважыць іх.
— Праўду кажаш,— адказаў яму хтосьці.— І сапраўды — чаму яны белыя?
— Ну, таварышы, віншую вас з паспяховым прызямленнем,— сказаў Крылатых.— Памятайце, мы ў глыбокім тыле ворага. Задача наша адказная, але ганаровая. Гітлераўцы прыкладуць усе сілы, каб перашкодзіць нам выканаць яе. Нас мала. Узаемавыручка — гэта наш святы абавязак. А цяпер трэба знайсці спушчаны груз, і тады накіруемся на паўднёвы ўсход, да ракі.
Мы прачасалі лес, але груз не знайшлі. Ён нам быў вельмі патрэбны. Толькі знайсці яго ў незнаёмым лесе, ды яшчэ ноччу, калі прабіраешся амаль вобмацкам, можна толькі выпадкова. Мы адчувалі, што нашы запасы харчавання, боепрыпасаў, камплекты радыёсілкавання трапяць у рукі ворага.

Калі неба на ўсходзе пачало святлець, а зоркі гаснуць, Крылатых пастроіў групу ланцужком, пералічыў усіх.

— Трэба адсюль ісці. За мной! — загадаў ён.
Ішлі хутка. Крылатых час ад часу паглядваў на компас, радзей на гадзіннік. Рака, да якой мы спяшаліся, так і не паказвалася.
«Дзе ж мы знаходзімся?» — трывожыла кожнага думка.
— Зварыка адстае,— перадалі па ланцужку.
Крылатых спыніўся.
— Ідзі паглядзі, што ў яго? — сказаў ён мне.
Я вярнуўся назад. Зварыка, накульгваючы, даганяў групу.
— Што з табой, Юзік?
— Нагу падвярнуў, калі прызямляўся. Думаў, што абыдзецца, а вось — баліць. Ды і ношка нішто сабе.— Вочы яго з сумам глядзелі на мяне.
— Ідзі наперад,— параіў я.— Адстанеш — прападзеш!
— Не, не,— запярэчыў Юзік,— я буду ісці ззаду. Уперадзе яшчэ цяжэй. Не думай, не адстану. Толькі так хутка не ідзіце.
Спяшаючыся, ён спатыкнуўся аб пянёк і, як падкошаны, усім целам грымнуўся на зямлю. Аўтамат зляцеў з пляча. Я памог яму падняцца. Ён увесь дрыжаў, гімнасцёрка была мокрая ад поту. Ён устаў, вінавата ўсміхнуўся, падняў аўтамат.



— Нічога,— махнуў ён рукой,— ідзіце, не адстану.
— Што там? — спытаў Крылатых, калі я вярнуўся.
— У Зварыкі баліць нага. Расцягнуў сухажылле.
— Зусім ісці не можа?
— Просіць ісці крышку цішэй.
— Нам жа як мага далей трэба адысці ад пакінутых парашутаў. Невядома, дзе мы цяпер знаходзімся,— гаварыў ён мне з дакорам, быццам я мог нешта перайначыць.— Пайшлі! — І ён павёў нас у тым жа кірунку.
Прайшлі яшчэ кіламетры тры. Стала зусім светла. Недзе за лесам ўставала сонца. Першыя промні ўпалі на вяршыні соснаў. Наперадзе пачуўся і хутка пачаў нарастаць гул машын. Мы падышлі да шашы. Крылатых даў знак спыніцца і залегчы. Сам ён дастаў карту і паклікаў Шпакава. Некалькі мінут яны вывучалі карту, звяралі з мясцовасцю, але так і не змаглі вызначыць, дзе мы знаходзімся.
— Давайце перамахнём цераз шашу. Усё-такі будзем далей ад парашутаў,— прапанавала Зіна, гледзячы на Шпакава.
— Добра кажаш,— падтрымаў яе Крылатых.— Пайшлі!
У плямістых маскіровачных касцюмах разведчыкі, як статак тыграў, кінуліся на дарогу і ў момант апынуліся на другім яе баку. Там быў лес з даволі густым падлескам, кустамі арэшніку і альшанікам. Крылатых даў знак спыніцца.
— Тут застанемся на днёўку,— аб'явіў ён.— Будзем весці кругавое назіранне. Усім добра замаскіравацца,— і першы скінуў свой ранец, паклаў яго пад дрэва. Апусціўшыся на калені, зняў акуляры і працёр іх краем гімнасцёркі. Затым зноў надзеў, агледзеўся і сказаў мне:
— Будзеш з Мельнікавым назіраць за шашой. Падыдзіце як мага бліжэй.
Мы адпаўзлі ад групы метраў за пяцьдзесят і забраліся ў лапушысты куст арэшніку. Дарога з нашай пазіцыі праглядвалася добра. Прайшло каля гадзіны. Па дарозе праносіліся крытыя ваенныя грузавікі. Часам бясшумна кацілі чорныя лімузіны.
Жвавыя сінічкі не звярталі на нас увагі, зусім побач скакалі з галінкі на галінку, нешта знаходзілі, клявалі, весела пераклікаючыся паміж сабой. Так пачыналася наша першая раніца на варожай зямлі.

## НАПЯРЭДАДНІ

Мы ляжым з Мельнікавым, прыціскаючы аўтаматы да пляча, праводзім мушкай кожную фашысцкую машыну. Ад дарогі нас аддзяляюць усяго толькі якія-небудзь дзесяткі крокаў. Напэўна, ніхто не сумняваўся, што гітлераўцы выехалі лавіць нас: нездарма над лесам кружыў самалёт пасля нашага прызямлення.
Мне ўспомніўся такі ж самы пагодлівы дзень пад Смаленскам, у вёсцы Сухадол. Нас, разведчыкаў спецгрупы «Чайка», якая выконвала заданне на акупіраванай тэрыторыі пад Мінскам, выклікалі да асобага распараджэння. Фронт адкаціўся на захад. Пустэльнай, бязлюднай здавалася вызваленая Смаленшчына. Каля лавак, што туліліся ўздоўж платоў вясковай вуліцы, расла трава. Я прысеў на хваёвы гарбыль і падумаў, што, напэўна, на гэтым месцы да вайны збіраліся пасля работы вяскоўцы, каб пагутарыць, паслухаць

свайго мудраца, якога абавязкова мела кожная вёска. Інакш гэты гарбыль не быў бы такі выслізганы, адпаліраваны. Але ж які мудрэц мог прадрачы, што вайна дойдзе да гэтых мясцін і яшчэ далей — аж да Масквы!

Спяшацца мне не было куды. Тут нам была дадзена перадышка. Першая радасць ад сустрэчы са сваімі змянілася роздумам і смуткам аб тых, хто не дажыў да вызвалення, балюча было глядзець на разрабаваны край.

Думаў я і пра маці, пра сясцёр, якіх апошні раз бачыў задоўга да вызвалення. Усе яны былі ў партызанскім атрадзе. Дзе яны цяпер? Можа маці з малой Вандай вярнуліся ў родную вёску? Нават і не выпадае сустрэцца, парадавацца разам, што дачакаліся сваіх. І напісаць не ведаеш куды. Ды і што напішаш? Што чакаю новага задання? А хто ведае, якое яно, гэтае новае заданне, будзе? Лёс разведчыка такі, што побач з ім заўсёды ходзіць небяспека...

З дому, у якім усе мы пабывалі на гутарцы ў маёра Стручкова, выйшаў Генка. Па твары бачу, што ён засмучаны, значыць, адмовілі, не хочуць пакінуць хлапчука ў разведцы. Цяжкім крокам падыходзіць да мяне.

— Не бяруць,— коратка кідае, адводзячы вочы ўбок, трываючы, каб не заплакаць ад роспачы.

Мяне і самога раптам разанула па сэрцы. Ён жа мне як родны: цэлы год у адной палатцы спалі.

Упершыню сустрэліся мы восенню 1943 года пад Мінскам. Пад вечар я выехаў на сваім Гнядым з лесу на сустрэчу з сувязным. Яшчэ завідна прыехаў у вёску Ляхавічы. Трэба было пачакаць, пакуль сцямнее, каб ехаць далей, бо дарога праглядвалася з варожага гарнізона, што размяшчаўся ў Станькаве. Толькі я злез з каня, як мяне апанавалі хлапчукі.

— Дзядзя, адкуль у вас такі новенькі аўтамат?

— Як ён завецца?

— А хіба вы першы раз такі бачыце? — адказваю пытаннем на пытанне.

— Падобны, таксама з адкідным прыкладам, бачылі ў немцаў. Але ж ён не зусім такі,— адказаў чарнявы хлапчук, пачэсваючы скусаную машкарой нагу.

— Гэта, мусіць, наш, новы. Ці не з самалёта скінулі, калі на тым тыдні ноччу прыляталі? — умяшаўся бялявы, гадоў трынаццаці.

— Ого! — націснуў я пальцам, як кнопку, кірпаты яго нос.— Адкуль гэта ты такі здагадлівы?

— Мы з Юзікам абодва адсюль, з гэтай вёскі. А вось ён, Генка — з Мінска. Там яго маці павесілі, а ён уцёк. У цёткі Анэты жыве. Вунь у той хаце.

Генка таксама з цікавасцю разглядаў новенькі аўтамат, гладзіў па шыі Гнядога, але нічога не гаварыў, нічога не пытаўся. Толькі калі я выйшаў за вёску, ведучы каня за повад, Генка дагнаў мяне.

— Вазьміце мяне ў партызаны,— рашуча сказаў ён.— Усё буду рабіць, што толькі загадаюць. У разведку магу хадзіць — мне ж гэта лягчэй, чым даросламу, і рызыкі аніякай: родных у мяне нікога не засталося. Вазьміце, дзядзечка, не глядзіце, што я такі шчуплы... Мне ўжо чатырнаццаць гадоў. Я цяпер нічога не баюся. За маці помсціць хачу,— глуха прамовіў ён апошнія словы.

Вельмі мне стала яго шкада. Вярнуўшыся ў лагер, я некалькі разоў напамінаў пра Генку камандзіру Міхаілу Ільічу Мінакову і разведчыкам. Угаворваў узяць хлопчыка да сябе: на сувязь можна



будзе пасылаць... Па Генку мы прыехалі ўдваіх з Мікалаем Чарновым. Каб абрадаваць хлопца, мы нават прывялі яму каня пад сядлом.

Спачатку Генка аж не паверыў, што па яго прыехалі. А як сеў у сядло, дык ажно вочы заззялі.

— Мне трэба туды, за гумно,— паказаў ён за вёску.— Там я нешта прыхаваў.

— Паехалі разам,— кажу,— а то яшчэ конь завядзе не туды, куды трэба.

— Не завядзе,— апраўдваўся Генка, хоць трымаўся ў сядле няўпэўнена, але ж выгляду паказаць не хацеў.

Калі пад'ехалі да гумна, хлапчук споўз з каня, трымаючыся аберуч за яго шыю. Патаптаўся крыху, прыглядаючыся да нейкіх аднаму яму вядомых прыкмет на зямлі, а потым учапіўся за траву і адвярнуў ладную дзярніну.

У тайніку ляжала вінтоўка, па-гаспадарску загорнутая ў анучы, змазаная.

— Ты дзе яе ўзяў? — спытаў Мікалай.

— Вымяняў на гармонік,— ажыўлена сказаў хлопчык.— І патронаў во колькі! Сто семнаццаць штук!..

— Вазьмі на плячо вінтоўку, паглядзім, як яна табе... Э-э, ды надта ж доўгая, да пят дастае! На вось табе, таварыш Юшкевіч, зброю такую, як і належыць разведчыку. Трымай у чыстаце, у парадку — не падвядзе.

Генка асцярожна ўзяў новенькі ППШ, потым падняў на нас здзіўленыя вочы і спытаўся:

— Адкуль вы маё прозвішча ведаеце, я ж, здаецца, не гаварыў?

— Разведка! — Мікалай мнагазначна падняў уверх указальны палец.— А яшчэ вось што: скідай, браток, з сябе ўсё цывільнае. Вось табе поўная экіпіроўка.

Мы далі Генку камплект абмундзіравання, боты. Падабралі ўсё як след, так што выглядаў хлапец у форме, як сапраўдны баец.

Год прабыў ён у нашай разведгрупе «Чайка». Смелы, разважлівы хлапец, на адказныя заданні не раз хадзіў. Прывыклі мы да яго, а ён да нас. У мяне ж з ім склаліся асаблівыя адносіны — як у братоў родных.

Праўда, у прысутнасці іншых ён стараўся звяртацца да мяне афіцыйна, як і належыць звяртацца да начальніка штаба. А калі заставаліся ўдвух, то, часам, гаварыў мне «ты». Нам абодвум было гэта прыемна.

І вось настаў час развітання. Як Генка ні прасіўся, каб яго пакінулі ў арміі, паслалі на фронт, маёр яму гэтага не дазволіў. І правільна: хіба дзіцячая гэта справа! І ўсё ж Генка затаіў крыўду на маёра Стручкова.

— Сядзіць насуплены — нічым яго не кранеш! — гаварыў са злосцю.

— Ды не можа ён, зразумей ты! У цябе ж узрост не прызыўны,— суцяшаю яго.

— Хіба год назад я старэйшы быў? А ты не пабаяўся, узяў. Скажы: я замінаў вам, не выконваў загадаў?

Я маўчаў. Хай, думаю, выкажацца хлапец, лягчэй стане. Маёр праўду кажа — няхай ідзе вучыцца. Вайну і без яго кончаць.

На вуліцы паказалася дзяўчынка. Яна вяла за повад старую, аблезлую клячу, запрэжаную ў акучнік. Ззаду плялася бабка, трымаючы за ручкі акучнік. Яны кіраваліся праз двор на гарод. Там

зелянела бульба. Сяк-так яны абагналі адзін радок. Каля плоту конь прыпаў да травы, і дзяўчынка ніяк не магла яго адарваць, дарэмна тузаючы за повад. Мухі раіліся вакол. Конь узмахнуў галавой, і дзяўчынка, выпусціўшы повад, паляцела вобземлю.

Мы ўдваіх за гэтым назіралі і, не згаворваючыся, пайшлі дапамагчы. Конь быў слабы, але з горам папалам мы абагналі тую бульбу. Удзячная бабка кінулася цалаваць рукі.

— Ну што вы, бабуля! Нам жа самім хочацца пахадзіць за плугам: занудзіліся без работы,— кажу ёй.

— Але ж, дзеткі, гэта вайна ўсё, каб яна спрахла! I пачаставаць вас няма чым. Хіба бульбачкі звару, калі час у вас ёсць?

Генка моўчкі развязаў свой рэчавы мяшок. Дастаў хлеб, свіную тушонку. Намазаў лустачку і падаў дзяўчынцы.

— Падсілкуйся,— кажа,— мусіць, забылася ўжо якое тое мяса...

— Дзіва што забылася...— цяжка ўздыхнула бабка.

Другую лусту Генка падаў бабцы. Тая доўга не рашалася ўзяць. Усё аднеквалася:

— Вам жа самім, дзетачкі мае, нічога не застанецца...

На вуліцы прыпынілася грузавая машына — каля таго ж дома, дзе быў маёр Стручкоў. А неўзабаве мяне паклікалі.

— Таварыш Рыдзеўскі,— сказаў, падышоўшы, маёр Стручкоў,— вас выклікае палкоўнік.

Мы абняліся з Генкам. Відаць, ад таго, што маёр быў побач, мы нічога не сказалі адзін аднаму. Так і развіталіся моўчкі.

У пакоі за сталом сядзелі незнаёмы палкоўнік, два маёры, а з краю воддаль — наш капітан Крылатых з групы «Чайка». Перад палкоўнікам на стале ляжаў стос палявых карт.

— Прашу садзіцца,— прапанаваў мне палкоўнік.

Я сеў на табурэт, што стаяў насупраць стала.

— Ну, як адпачываеце, таварыш Рыдзеўскі?

— Дзякую, таварыш палкоўнік, ужо трэці дзень без справы.

— Дык вось што,— перайшоў палкоўнік на афіцыйны тон,— пра нашу размову ніхто не павінен ведаць. Разумееце — ніколі, ніхто, нават ваша сям'я, якая некалі будзе. Размова пойдзе пра спецыяльнае, вельмі сакрэтнае даручэнне. Перш чым раскрыць яго, напомню, што выконваць яго трэба толькі добраахвотна. Вы можаце згадзіцца або адмовіцца. Гэта справа вашага сумлення. Але скажу вам шчыра, што мы зацікаўлены, каб вы згадзіліся.

У пакоі стала ціха. Было чуваць, як б'ецца на шыбіне муха.

— Мы збіраемся закінуць вас у глыбокі тыл ворага, у Германію. Вы ведаеце нямецкую мову, а гэта вельмі важна.

— Аднаго мяне? — спытаў я.

— З групай.

Да гэтага мне ўжо давялося быць у тыле ворага больш за два гады. Часам бывала так цяжка, што, здавалася, не хопіць сіл вытрымаць. Але ж то было на сваёй зямлі, дзе людзі маглі і выручыць, і памагчы. На гэты раз давядзецца весці разведку на варожай зямлі, сярод варожа настроеных людзей. Тут ёсць пра што падумаць: ці пад сілу яно мне, такое заданне? Ці спраўлюся? Таму я не спяшаўся з адказам.

— Вы можаце задаваць пытанні,— парушыў маўчанне палкоўнік.

— Калі не сакрэт — хто будзе камандзірам групы?

— Капітан Крылатых.

— Ну што, Напалеон, паспрабуем? — умяшаўся капітан Крыла-





КАМАНДЗІР ГРУПЫ «ДЖЭК» ПАВЕЛ КРЫЛАТЫХ.

тых. Яго шэрыя, вузкія вочы пад акулярамі глядзелі з надзеяй, падбадзёрвалі.

— *Я згодзен!*

Запоўніўшы падрабязныя анкеты, я выйшаў на вуліцу. Быў поўдзень. Сонца пякло праз гімнасцёрку. Не зашкодзіла б пакупацца. Я пайшоў да рэчкі. Як толькі мінуў кусты, што закрывалі бераг, незнарок наткнуўся на дзяўчат. Яны сядзелі на беразе, апусціўшы ногі ў ваду. Убачыўшы мяне, чарнявая падхапілася і накінула плашч-палатку на брызентавыя сумкі, у якіх носяць рацыю. «Радысткі, значыць. Напэўна, з намі ў групе будуць»,— мільганула думка.

— Позна спахапілася,— кажу.— «Ці-ці, та-та, ці-ці, та-та, ішлі радысты»...— паўтарыў я словы папулярнай у той час песні.

— «Ці-ці, та-та,»— крыху разгубіўшыся, перадражніла дзяўчына мяне. Устала і яе сяброўка, мажная, сінявокая, бялявая. Яна падняла плашч-палатку, узяла ручнік і стала выціраць ногі.

— Абувайся — пойдзем,— сказала яна смуглянцы.— А ты хто такі? Наш?— звярнулася раптам да мяне.

— Напэўна ж: або я ваш, або вы нашы,— адказваю.

— Быў на гутарцы? Каго з групы ведаеш ужо?

— Капітана Крылатых, Паўла Андрэевіча, мы з ім даўно знаёмы.

— Значыць, ты наш. Давай знаёміцца. Мяне завуць Зіна, а яе — Аня.

— Як ты можаш!— накінулася на Зіну смуглянка.

— Ды хопіць табе з гэтай канспірацыяй. Відаць жа, што свой — чаго таіцца.

Так я пазнаёміўся з Зінай Бардышавай і Аняй Марозавай — радысткамі спецразведгрупы «Джэк», якую збіраліся закінуць ва Усходнюю Прусію. Дні праз два быў вядомы ўвесь склад групы. Намеснікам камандзіра быў прызначаны Мікалай Шпакаў, круглатвары беларус з рыжай барадой і светлымі вусамі.

Навічкоў у групе не было. Кожны ўжо быў у тыле ворага, знаёмы з разведкай. Юзік Зварыка быў разам з намі ў «Чайцы». Увайшлі ў групу тры Іваны — Мельнікаў, Аўчароў, Цэлікаў. Аднолькавыя імёны стварылі пэўную нязручнасць у абыходжанні. Але хутка ўсё наладзілася. Мельнікава звалі Іванам Іванавічам, Аўчарова — Іван Чорны, а Цэлікава — Іван Белы.

...Франтавы грузавік, натужна равучы, прабіраўся адной з вуліц дашчэнту зруйнаванага Смаленска. Побач з шафёрам у кабіне сядзеў капітан Крылатых, у кузаве, абапёршыся на кабіну, сядзелі Аня і Зіна, астатнія стаялі, трымаючыся адзін за аднаго. Матор гудзеў цяжка, здавалася, намагаецца з усіх сіл. Раптам ён зачыхаў і змоўк.

— Эй, салдацік, падпіхні! — кпліва гукнула Аня салдату, што ішоў па абочыне з шынялём цераз руку.

Салдацік азірнуўся, і я адразу пазнаў Генку. Не раздумваючы, мы ўсцягнулі яго ў кузаў. Ён расказаў, што быў у гаркоме камсамола. Прасіўся на фронт. Але яму далі накіраванне на курсы кінамеханікаў.

— Я ўжо быў згадзіўся, але потым збег. Буду на фронт прабірацца. Няўжо ж мяне ніхто не возьме?— у голасе Генкі адчуваўся смутак.

Усім нам стала вельмі шкада яго. Я нічога лепшага не прыдумаў, як спытаць:

— Есці хочаш? Дзе твой рэчавы мяшок?



— Пакінуў той бабцы. Ну, памятаеш, дзе бульбу абганялі...

Так Генка з намі даехаў да вёскі Залессе, што каля Смаргоні. Нам, вядома, за гэта папала ад начальства. Але потым усё абышлося як найлепш. Мы даводзілі, што Генку варта ўзяць з сабой. Ён там можа спатрэбіцца разведцы. Мала якія абставіны могуць скласціся на чужой зямлі, а на хлапчука могуць і ўвагі не звярнуць.

Нарэшце начальства згадзілася з намі. Перад адлётам на заданне мы атрымалі экіпіроўку. На цывільныя касцюмы надзелі маскіровачныя плямістыя штаны і курткі. Узброіліся аўтаматамі, гранатамі, пісталетамі, кінжаламі, компасамі, кішэннымі ліхтарамі, картамі мясцовасці. Адразу ж пачалі практыкавацца ў кідках кінжала. У Генкі спачатку кінжал біўся аб дрэва або плазам, або ручкай. Хлопцы дужаліся, дэманстравалі прыёмы. Зіна і Аня захапіліся стральбой з пісталета па яблыках на дзічцы. Якраз у разгар такіх заняткаў нам паведамілі, што адпраўленая ў тыл ворага падобная да нашай група была перахоплена «месершмітам» і расстраляна ў паветры. Усе разведчыкі і каманда самалёта загінулі.

Такая вестка ўсім сапсавала настрой. Я нават стаў шкадаваць, што ўзялі Генку. Але было позна што-небудзь перайначваць.

Пад вечар да нас падышоў каржакаваты рыжы лётчык з зоркай Героя Савецкага Саюза на грудзях.

— Здароў, арлы!— прабасіў ён.

— А тут не толькі арлы,— усміхнулася Аня.— Ёсць і «лебедзі», і «сойкі», і «вожыкі», і «зайцы»,— назвала яна мянушкі разведчыкаў.

— Лебедзі — гэта цудоўна!— згадзіўся лётчык.— Як настрой? Ляцім!

— А ці давезяцё?— спытаў Зварыка. Яго вочы з трывогай пазіралі на пілота.

— Будзьце ўпэўнены — давязу абавязкова. Я сёе-тое прыдумаў...

У палатку ўвайшоў палкоўнік.

— Пара, таварышы,— сказаў ён.— Пайшлі!

Мы падышлі да самалёта. Каля яго было вылажана дзесяць парашутаў.

— Бярыце,— прапанаваў інструктар. Ён памог правільна надзець парашуты, зашпіліць лямкі.

Неўзабаве падышоў «газік». З яго выйшаў генерал Алёшын.

— Усё гатова, таварыш Шапавалаў? — Звярнуўся ён да палкоўніка. Мы ўпершыню пачулі прозвішча свайго непасрэднага кіраўніка.

— Усё гатова, таварыш генерал! — адрапартаваў палкоўнік.

— Месяцы праз два сустрэнемся,— звярнуўся да нас генерал.

— Добра б...— не надта ўпэўнена адказваў за ўсіх капітан Крылатых.

— Глядзіце, каб вас у Кенігсберг не занесла,— пажартаваў генерал, паклаўшы рукі на плечы Ані і Генкі,— вы ж напалову лягчэйшыя за іншых.

— Не занясе, таварыш генерал, будзьце ўпэўнены!— і Генка ўзяў пад казырок, выцягнуўшыся ў струнку.

Селі ў самалёт. Зараўлі маторы. Пачуўся стрэл, вогненнымі пырскамі рассыпалася ў небе сігнальная ракета. Я глянуў на гадзіннік: 22 гадзіны 40 мінут, 26 ліпеня 1944 года. Пад крылом прамільгнула родная зямля і засталася ззаду. Хто з дзесяці зноў убачыць яе?

## ПЕРШЫ ПАЛОННЫ

Машыны праносіліся на вялікай хуткасці. Да нас з Мельнікавым некалькі разоў падпаўзаў Крылатых. Капітан выглядаў надта стомленым — твар яго стаў васковы. Напэўна, і я такі,— падумалася мне. Мельнікаў ледзь трымаўся, каб не заснуць. Адчувалася, што для гэтага мажнага хлопца ў любых абставінах было важней за ўсё пад'есці і паспаць. Ён здаваўся вельмі спакойным.

Сонца паднялося высока, прыгрэла як след. Карцела скінуць рукзакі з плячэй, вызваліцца ад грузу. Але ж нельга. Раптам здарыцца такое, што і схапіць не паспееш. А без рукзака доўга не працягнеш: там і боепрыпасы і яда.

Аднекуль здалёку пачулася маршавая песня.

— Чуеш?— кіўнуў мне галавой Мельнікаў.— Ідуць, сволачы...

Я даў яму знак маўчаць, а сам прыслухоўваюся: мне здалося, што недзе забрахаў сабака. Зноў падпоўз Крылатых, і на гэты раз з ім Мікалай Шпакаў — без шапкі, з раскудлачанымі валасамі.

Яны моўчкі прылеглі побач з намі. Усе прыслухоўваліся. Хутка з таго боку, адкуль чулася песня, паказалася калона грузавых аўтамашын. Насупраць нас адна з машын збочыла, даючы дарогу іншым, з яе высыпалі паліцэйскія. Шэсцера з іх трымалі на павадзе здаравенных аўчарак. Сабакі няўрымсліва круціліся з разяўленымі зяпамі і высунутымі ад гарачыні языкамі. Добра, што вецер дзьмуў у наш бок — сабакі не пачуюць нас. Праўда, яны могуць пачуць шорах, таму мы застылі ў трывожным напружанні. Тры паліцаі з пісталетамі на баку выцягнулі з машыны кулямёт і ўстанавілі яго на дарозе дулам у той бок, адкуль мы прыйшлі.

Як цяжка ляжаць з аўтаматам, калі вораг у цябе пад самым носам, і трываць... Тут бы і адзін пасек іх на капусту. Але ж нам нельга выдаць сябе. Не таму, што, каб увязаліся ў бой, нам амаль не засталося б шанцаў на выратаванне. Шанцаў выжыць у гэтай воўчай бярлозе і без таго мала. Усе мы разумелі гэта. А калі плаціць жыццём, то хацелася не меней, як за дзесяць варожых. Тых, што на дарозе, мы маглі б скасіць, не даўшы ім нават апамятацца. Тым больш, што калона мінула. Толькі не гэтага чакаюць ад нас там, на Радзіме. Ад нас чакаюць звестак пра ўмацаванні на варожай тэрыторыі, пра сілы, якія трымае Гітлер тут, ва Усходняй Прусіі. Што ж, трэба памятаць, што ты разведчык, і не паддавацца ні на якую спакусу, нават адкінуць думку, што калі ты не заб'еш ворага, то можаш сам загінуць ад яго жа кулі. А ў такой сітуацыі гэта вельмі верагодна: калі яны павернуць сваіх сабак і кулямёт на нас, то... Але лепш не думаць пра гэта.

— Перадай усім — рыхтавацца да бою! — шапнуў Крылатых Шпакаву.— Радысткі і Генка няхай застануцца за намі ў цэнтры.

Шпакаў бясшумна знік. Але не паспеў ён перадаць загад камандзіра, як Генка апынуўся каля мяне. Што значыць узрост: тое, што для нас усіх было цяжкім выпрабаваннем, яму здавалася хлапечай рамантыкай.

— Сцебанём!— шапнуў ён, а вочы так і ззялі пачуццём нязведанага і жаданага.

Я збаяўся, каб хлопец не нарабіў бяды: палажыў сваю руку на яго аўтамат і пакруціў галавой. Генка зразумеў мяне, сцішыўся.

Маршавая песня ўсё набліжалася. Падпоўз Зварыка:



— Трэба змывацца. Чаго чакаць?

Гэтак жа ціха на яго цыкнуў камандзір.

А вось і яны. Цяпер зразумела, чаму галасы былі такія высокія, тонкія, падобныя на жаночыя,— ішлі зусім маладзенькія хлапчукі, курсанты юнкерскага вучылішча. Яны маршыравалі бадзёра, высока ўскідваючы ногі. Ім было весела. Нам быў відаць канец калоны. Здавалася, што і яна міне нас. Але на хаду калона перастроілася, расцягнулася ланцугом.

Песня змоўкла. Пачулася каманда, і юнкеры, павярнуўшыся спіной да нас, застылі па стойцы смірна. Уперадзе іх былі паліцэйскія з сабакамі. Зноў каманда — і заклацалі затворы. Узвіліся ракеты, і гітлераўцы з крыкамі, з гіканнем кінуліся праз кювет у лес, на той бок дарогі.

— На парашуты,— пераводзячы дыханне, сказаў Крылатых.

Пранесла. Усе мы з палёгкай уздыхнулі.

— Павесялімся, ці што? — першы парушыў маўчанне Мельнікаў.

Слова «павесялімся» ў Мельнікава азначала — падсілкуемся.

— Рана яшчэ «весяліцца»,— заўважыў Шпакаў.— Трэба перш знайсці на карце вось гэтую кропку,— ён некалькі разоў тупнуў нагой аб зямлю.

Так, мы яшчэ не ведалі, дзе знаходзімся, у якім напрамку трэба ісці.

— І вечар не паспее настаць, як знойдзем гэтую кропку,— махнуў рукой Іван Мельнікаў.

Прыйшлося зноў залегчы. Калі вячэрняя шэрань апусцілася на зямлю, Крылатых распарадзіўся:

— Цяпер можна і «павесяліцца». Чуеш Іван Іванавіч?

— Заўсёды гатовы, як той піянер!— азваўся Мельнікаў.

— А мне не хочацца нешта,— сказала Зіна Бардышава.

— Хочаш не хочаш, а еж, загадваю,— не то жартам, не то сур'ёзна сказаў Крылатых.— Усю ноч прыйдзецца ісці.

Пасля вячэры камандзір загадаў разабрацца ў тым жа парадку, як ішлі сюды. Падышоўшы да Зіны і Ані, ён сказаў ім:

— Сёння на сувязь выходзіць не будзем. Пакуль што няварта. Трэба спачатку разабрацца ў абставінах.

— Зразумела,— ціха адказала Аня.

Група падалася на поўдзень. Мы натрапілі на мала прыкметную сцежку праз густы маліннік, прайшлі ёю з паўсотні метраў і выйшлі на край лесу. Перад намі быў хутар. Сярод векавых ліп бялела камяніца. Паабапал, крыху воддаль, таксама відаць былі хутары. Мы спыніліся. На двары дзынкнула вядро, пачуліся жаночыя галасы, і зноў стала ціха.

— Вось якая яна, Германія...— шапнуў мне Генка.

Па голасе я адчуў, што ён расчараваўся: чакаў убачыць нешта незвычайнае, а тут хутар як хутар.

Раптам усе павярнулі галовы направа. Там нехта насвістваў нейкую мелодыю. Яна набліжалася, гучала ўсё выразней. А вось ужо чутны і крокі. Па знаку капітана разведчыкі адышлі глыбей у лес. Мне з Мельнікавым ён загадаў «узяць языка», калі ён чаго-небудзь варты. Неўзабаве мы ўбачылі мужчыну ў ваеннай форме, які каціў веласіпед. Зброі пры ім не відаць было. Як толькі ён параўняўся з намі, мы падхапіліся разам, і я загадаў па-нямецку:

— Хальт! Хэндэ хох!

— Што такое?— падымаючы рукі ўгору, разгублена спытаў немец.— Хіба так можна...

Мельнікаў падхапіў яго веласіпед і піхнуў у кусты.

— Наперад!— паказалі мы немцу, куды ён павінен ісці.

Але ён няўцямна стаяў.

— Чаго стаіш, фрыц? Сказана ісці! — загадаў Мельнікаў. З усяго сказанага немец, відаць, зразумеў толькі адно слова.

— Я не Фрыц, я Карл,— паспяшаўся запэўніць ён нас.

Выйшлі Крылатых і Шпакаў. Толькі ўбачыўшы іх, палонны здагадаўся, з кім мае справу.

— Рот фронт Москаў!— пачаў паўтараць ён адно і тое ж некалькі разоў, падымаючы пры гэтым сціснуты кулак угару.

— Ціха!— загадаў я яму.

Побач па ўзлессі праехалі на веласіпедах, гучна размаўляючы, паліцэйскія.

— Паліцай. Патруль, паліцай,— ціха сказаў немец.

Але ўсё ж такі яго голас хтосьці з іх пачуў. Каманда прыпынілася, сціхла, прыслухоўваючыся, а потым сталі далятаць да нас словы:

— Хто там? Выходзь!

Разведчыкі надзейна трымалі палоннага за рукі, а Мельнікаў заткнуў яму рот яго ж пілоткай — так, каб ён і пікнуць не мог. Паліцэйскія крыху пакрычалі яшчэ, у лес не асмеліліся ісці і паехалі сваёй дарогай.

На допыце Карл сказаў, што служыў у арміі шэсць гадоў, ваяваў у Расіі і там адмарозіў ногі. Доўга ляжаў у шпіталі, а цяпер пусцілі далечвацца дадому. Вяртаўся ад нявесты, калі яго затрымалі.

— Тут зусім побач мая хата,— гаварыў ён.— Пусціце мяне, ужо зусім позна — дома будуць хвалявацца.

— Што вы чулі пра савецкіх парашутыстаў?— перавёў я пытанне Крылатых на нямецкую мову.

— О, вядома, усё. Іх ловяць сёння ў гэтым лесе ўвесь дзень. Наехала многа салдат, паліцыі, жандармерыі. Нават — юнкеры...

— Ну і як — пералавілі?

— Не ведаю. Напэўна, не, бо ўсе войскі засталіся ў лесе. Заўтра зноў будзе аблава. Вакол патрулі, засады.

— Як завецца ваша вёска?

— Аўэрсвальд.

Крылатых разгарнуў карту.

— Накрый мяне плашч-палаткай,— папрасіў ён Шпакава.

Калі яго накрылі, ён пасвяціў кішэнным ліхтаром і знайшоў на карце вёску Аўэрсвальд. Зрабіўшы адметку чырвоным алоўкам у гэтым месцы і каля вёскі Эльхталь, дзе мы павінны былі прызямліцца, капітан Крылатых вызначыў, што штурман памыліўся на шэсць кіламетраў. Толькі цяпер, разглядваючы карту, камандзір зразумеў, чаму яго групе так пашанцавала, што яна засталася ззаду карнікаў, якія пайшлі на аблаву. Тым, хто кіраваў аблавай, і ў галаву не магло прыйсці, што савецкія парашутысты хаваюцца ў гэтым мізэрным лапічку лесу, адрэзаным ад вялізнага ляснога масіву шырокай магістраллю Кенігсберг — Цільзіт. Ды калі б мы самі ведалі, што гэта за месца, мы ніколі не засталіся б тут. Нас жа маглі акружыць дваццацьтрыццаць чалавек. Але здарылася так, што якраз гэта нас і выратавала.

На ўсход ад вёскі Аўэрсвальд тонкай блакітнай жылкай вілася паміж хутароў рэчка Парве. Капітан вырашыў, што трэба перапраўляцца цераз яе і выйсці ў свой зададзены аператыўны раён.

— Чым можа палонны пацвердзіць, што гэта вёска, ля якой мы знаходзімся, сапраўды Аўэрсвальд?



— Справа на дарозе ў лесе ёсць указальнік.— Карла пачала нібы трасца трэсці, зуб на зуб не трапляў. Аўчароў і Шпакаў пайшлі правярыць, ці праўду кажа палонны.

— Спытай, што яму вядома пра размяшчэнне воінскіх гарнізонаў, пра абаронныя ўмацаванні. Ён жа — ваенны, павінен ведаць сёе-тое.

Я пераклаў. Немец адказаў, што ён нічога не ведае, але, крыху пачакаўшы, дадаў:

— Ёсць войскі ў вялікіх гарадах: у Кенігсбергу, Цільзіце, Інстэрбургу, Гольдапе...

На той жа самай дарозе ўздоўж лесу, па якой праехалі паліцэйскія, зноў пачуліся галасы патрульных.

— Тут рускі дэсант! Дапама...!— нечалавечым галасам закрычаў палонны, але не паспеў дагаварыць і бязгучна асунуўся на зямлю.

Мы заляглі, падрыхтаваліся адбіць напад. Патруль і на гэты раз пабаяўся ісці ў лес. Чуліся толькі крыкі.

— Хто там? Адзавіся!

Калі немцы паехалі далей, мы зноў вярнуліся да таго месца, дзе ўзялі палоннага. Прытаіліся, прыслухаліся. Амаль бясшумна міма нас праехаў веласіпедыст. Зброі пры ім таксама, як у Карла, не відаць было. Праз некалькі хвілін ён вярнуўся назад. Недалёка ад нас спыніўся, пастаяў моўчкі, а потым свіснуў, спадзеючыся, што нехта адгукнецца. Пастаяў яшчэ крыху і стаў зваць:

— Таварышы, таварышы, дзе вы?— не дачакаўшыся адказу, ён паехаў.

— Правакатар! — сказаў Крылатых.— Напэўна, за нашы галовы ўзнагароду аб'явілі — вось і хоча зарабіць.

Крылатых павёў нас па маршруце, які ён вызначыў на карце — да рэчкі Парве. З-за воблака паказаўся месяц. То справа, то злева мыміналі хутары, увесь час натыкаліся на калючы дрот, ім быў абгароджаны кожны загон, кожны палетак. Мінуўшы капусныя грады, мы апынуліся каля рэчкі. Яна тут была даволі шырокая.

— Шукайце брод,— сказаў Крылатых.— Аўчароў і Цэлікаў, ідзіце ўправа, Шпакаў з Юшкевічам — улева. Добра будзе, калі знойдзеце лодку.

Івану Іванавічу было загадана ахоўваць тыл, дзяўчатам — адпачываць, а Юзіку Зварыку ахоўваць іх і рацыю. Я вырашыў зняць жэрдку каля град і прамераць ёю глыбіню. Калі падышоў да берага, то ўбачыў, што ў вадзе нехта боўтаецца. Прыглядзеўся — чалавек.

— Хто там?— пытаюся ў Юзіка Зварыкі, які сядзеў на беразе.

— Аня броду шукае,— абыякава адказаў ён.

«Маладзец дзяўчына...» — падумаў я сам сабе.

— Дай сюды палку — памераю, ці глыбока,— падплыўшы да берага, папрасіла Аня.

Жэрдка была даўжынёй не менш трох метраў, але да дна не дастала.

Броду мы не знайшлі. Пераплысці з цяжкімі рукзакамі таксама было нельга. Што ж рабіць, як перабрацца на той бераг? На карце многа такіх вось блакітных жылак, як гэта Парве, трэба ж неяк навучыцца іх пераадольваць.

Зноў мы накрылі плашч-палаткай камандзіра, толькі на гэты раз ён вывучаў карту разам са Шпакавым. Доўга яны гаманілі, раіліся, а потым вылезлі з-пад палаткі. Крылатых сказаў:

— Уверх па рацэ, каля вёскі Вільгельмсхайдэ, ёсць мост. Толькі невядома, ці ахоўваецца ён. Пройдзем лесам у той бок, спынімся на

днёўку і будзем сачыць за мостам. Калі ўсё будзе добра, вечарам перабяромся на той бок.

Потым ён звярнуўся да радыстак:

— Выйсці на сувязь з «Цэнтрам» зможам толькі наступным вечарам. Нас, вядома, запеленгуюць, але наперадзе будзе ноч, і мы паспеем далёка адысціся. Нічога, нічога, не бядуй — работы яшчэ хопіць усім,— суцешыў ён Аню, якой вельмі карцела пасласць на родную зямлю першую вестку.

Над лесам, у тым баку, адкуль мы прыйшлі, адна за другой засвяцілі ракеты.

— Ідуць за намі,— устрывожана зазначыў Зварыка. Яму з балючай нагой было цяжэй за ўсіх.

— Яшчэ невядома, можа, для храбрасці шпуляюць,— запярэчыў Генка.

Неўзабаве пачуўся сабачы брэх.

— Пойдзем насустрач,— кіўнуў камандзір у той бок, адкуль чуўся брэх.— На беразе нашы сляды абрываюцца — немцы знойдуць іх і падумаюць, што мы перабраліся на той бок.

Мы прайшлі з паўкіламетра, сабакі брахалі зусім блізка, тады мы крута павярнулі на захад і густа пасыпалі сляды спецыяльным парашком.

## МАСКВА СЛУХАЕ КРУГЛАСУТАЧНА

Пра стому не думаеш, калі пагоня зусім блізка і ўначы брэшуць раз'юшаныя аўчаркі. Каб уратавацца, трэба заблытаць сляды, абхітрыць ворага. Была надзея, што сабакі пойдуць па нашых слядах да ракі Парве, а там гітлераўцы, напэўна, палічаць, што мы пераправіліся на той бераг. Калі ж яны і вернуцца за намі, то мы паспеем далёка адысці. Ды і ці возьмуць сабакі нашы сляды ад ракі — мы ж іх добра пасыпалі парашком.

Ісці нам было цяжка. Даводзілася ўсё несці на сябе — і боепрыпасы, і абедзве рацыі з запаснымі камплектамі сілкавання, і харчы. І ўсё ж такі мы як мага далей імкнуліся адысці ад пагоні. Час ад часу прыходзілася прыпыняцца, каб пачакаць Зварыку — ён не паспяваў за намі. Але аднойчы Юзік, прыпадаючы на пашкоджаную нагу, абагнаў усіх і, параўняўшыся з капітанам Крылатых, які ішоў наперадзе, усхвалявана сказаў:

— Стойце! Глядзіце — нашы Кенігсберг бамбяць!

Мы спыніліся. У прагалінах паміж дрэў былі відаць сполахі, і чуліся далёкія грымоты. Гэта было якраз на захадзе. Усе мы разумелі, што ніякая гэта не бамбёжка, але не хацелі псаваць Юзіку настрой, таму маўчалі. Толькі Генка па маладосці сказаў, што думаў:

— Ды не, Юзік, гэта больш падобна на маланку з громам.

— Навальніца — шчасце наша!— Крылатых паглядзеў на неба.— Хутка яна і нас засцігне. Сляды ўсе змые. Пойдзем далей. Яшчэ далёка — трэба паспець да раніцы. Вы як, дзяўчаты, вельмі стаміліся? Не вельмі? Вось і добра.

Наляцеў віхор, прыемна асвяжыла ўспацелыя твары. Стала яшчэ цямней ад нізка навіслых хмар. Упалі першыя буйныя кроплі дажджу, а потым пачаўся сапраўдны лівень. Гадзіны дзве ішлі пад праліўным дажджом. Да раніцы выйшлі на край лесу. Трэба будзе адсюль весці назіранне за мостам цераз Парве, па якім капітан намеціў перабрацца на той бераг. Прамоклыя, азяблыя, мы туліліся адзін да аднаго, каб крыху сагрэцца. Тут вогнішча не раскладзеш, не прасушышся. Аб гэтым мы маглі толькі марыць.

Раніцай мы адшукалі зручнае месца, адкуль добра праглядваўся мост і поле ўздоўж ракі — адтуль, нам здавалася, магла паказацца пагоня.

Толькі мы прымасціліся, як Мельнікаў сказаў Івану Беламу:

— Цёзка, а цёзка, давай «павесялімся». Гукні Івана Чорнага.

— Можна ўсім падсілкавацца,— сказаў Крылатых.— Мельнікаў ужо дае пазыўныя.

Гадзін у дзесяць раніцы цераз мост рушылі калоны, пешыя і на аўтамашынах. Па форме можна было пазнаць пяхоту, паліцэйскіх, жандараў. Яны перапраўляліся на правы бераг ракі і там разгорнутым ланцугом ішлі прачэсваць лес — той самы, у якім бы мы апынуліся, калі б удалося пераправіцца ноччу.

— Вось як бывае: няўдача — дабром абярнулася...— сказаў Шпакаў, адарваўшыся ад бінокля.— Крышка нам была б, каб пераправіліся на той бераг.

Хутка гітлераўцы зніклі з вачэй. Мост не ахоўваўся. Па ім праехала за ўвесь дзень некалькі веласіпедыстаў. Усе яны былі ў вайсковай форме. Хоць вакол было ціха, але мы не высоўваліся — ведалі, што на кожным кроку можа напаткаць небяспека. Капітан Крылатых амаль увесь дзень прасядзеў, абапёршыся спіной аб камель сасны. Часам ён заплюшчваў вочы, але наўрад ці спаў. Яго трывожылі думкі пра нас, пра заданне... Ці думаў якіх тры гады назад студэнт Свярдлоўскага горнага інстытута Паўлуша Крылатых, што апынецца вось тут, на варожай зямлі.

Калі звечарэла, капітан вырваў з блакнота спісаны лісток і перадаў Ані Марозавай.

— На, «Лебедзь», перадай «Цэнтру».

Зіна памагла раскруціць антэну, дастала радыёперадатчык. Аня хуценька зашыфравала радыёграму, надзела навушнікі. Усе, затаіўшы дыханне, акружылі радыстак. «Ці-ці, та-та... Ці-ці, та-та... Кропка — працяжнік, кропка — працяжнік»,— панеслі радыёхвалі ў Маскву.

Гэта была першая радыёграма групы «Джэк» Маскве. Капітан Крылатых паведамляў, што група прызямлілася ўдала, усе сабраліся, але гітлераўцы палююць за ёй. Ратуючыся ад пагоні, разведчыкі трымаюць кірунак на зададзены раён.

Аня чула, як ад хвалявання б'ецца яе сэрца. Масква адразу адказала ўмоўным сігналам: «Слухаю, прыём». І ад таго, што гэтыя гукі данесліся адтуль, з самага сэрца Радзімы, твар у Ані засвяціўся радасцю. Яна заківала галавой, жэстам дала нам зразумець, што чуе Маскву. Гэта была першая яе радыёграма. Дзяўчына была вельмі рада, што іменна ёй выпаў такі гонар. Крылатых знарок даручыў ёй першай выйсці на сувязь, а не Зіне Бардышавай. І Зіна не пакрыўдзілася. Яна ж ужо трэці раз закінута ў варожы тыл, колькі радыёграм перадала! Яна сэрцам зразумела, як патрэбна было Ані адчуць радасць здзейсненага абавязку, дзеля якога рызыкуеш жыццём.

Роўныя радкі лічбаў кладуцца на паперу. Вось і кончыўся сеанс. Зіна не стрымалася, кінулася да сяброўкі, пацалавала яе.

— Дзякую, родненькая!— расчулена сказала ёй.— Хутчэй расшыфроўвай, а я збяру станцыю.

Аня пераклала лічбы на словы і падала паперу камандзіру.



— «Гаспадар» віншуе нас са шчаслівым прызямленнем,— аб'явіў Крылатых.— Ён жадае нам поспехаў. А цяпер, браткі, уставайце: трэба ісці далей ад гэтага месца.

Спачатку ішлі па нешырокай прасецы, зарослай высокай шаўкавістай травой.

Я ішоў крыху наперадзе і справа ад Крылатых, каб знянацку не напароцца ўсім разам на засаду. Насупраць моста я звярнуў у лес. Прайшлі ўсяго некалькі дзесяткаў метраў, як перад намі, быццам з-пад зямлі, выскачыў веласіпедыст. Ён ехаў наперарэз па сцяжынцы, за спіной у яго тырчала вінтоўка. Я схапіў веласіпед за руль, крута павярнуў кола, каб ён не паспеў праскочыць, і ўчапіўся за немца. Мы абодва грымнуліся на зямлю. Я адчуў, што праціўнік слабейшы за мяне, але не мог прыціснуць яго як след, бо замінаў веласіпед, які апынуўся паміж намі. Немец з усяе сілы рвануўся, закрычаў, але мне ўдалося схапіць яго правай рукой за каўнер і сціснуць так, што немец аж захроп, задыхаючыся. У гэты час падаспеў Аўчароў, адкінуў веласіпед і перахапіў руку немца, у якой быў кінжал. Мельнікаў стукнуў немца па галаве, і той прыціх. Тым часам астатнія нашы хлопцы перахапілі другога немца, які ехаў услед за гэтым.

Мы адвялі палонных у лес. На допыце яны сказалі, што вучацца ў ваенным вучылішчы. Іх паслалі лавіць савецкіх парашутыстаў.

Нам вельмі патрэбна было раздабыць звесткі пра ваенныя часці, умацаванні, лініі сувязі. Але палонныя ўпарта сцвярджалі, што нічога не ведаюць. Доўга важдацца з імі было небяспечна, трэба спяшацца на пераправу. Тым больш, што нашу валтузню маглі пачуць іншыя патрулі.

Мы зноў выйшлі на тую ж прасеку, ёю было лягчэй прайсці да моста, але ж і небяспечней. Таму Шпакаў прапанаваў капітану:

— Ці не лепш праз лес пайсці?

— Зараз звернем,— адказаў Крылатых.

Мы ступілі ўсяго некалькі крокаў, як наперадзе пачуліся стрэлы. Я хуценька ўпаў і адкаціўся ўбок. Пачаў страляць кароткімі чэргамі, пакуль не апусцеў дыск. Астатнія таксама адкрылі дружны агонь. Немцы змоўклі, відаць, адышлі. Я падняў галаву, глянуў уздоўж прасекі і жахнуўся: тварам уніз, распластаўшыся, ляжаў наш Крылатых. Падбеглі да яго Шпакаў, Аня і Мельнікаў.

Мы перавярнулі яго, Шпакаў памацаў пульс.

— Забіты...— толькі і паспеў сказаць ён, бо пачуліся галасы.

Мы падхапілі капітана і адышлі ў лес. Зноў пачуліся стрэлы ў тым месцы, з якога мы толькі адышлі. Трэба было спяшацца. Нават развітацца як след са сваім камандзірам не давялося. Мы забралі яго зброю, компас, рэчавы мяшок — усё, што магло сведчыць, што ён савецкі разведчык. На пінжаку ён насіў ордэн Чырвонай Зоркі. Шпакаў зняў пінжак і перадаў Генку.

— Бяры, насі,— сказаў,— куля два разы ў адно месца не трапляе.

Зноў застракаталі аўтаматы, зусім побач.

— За мной!— падаў каманду Шпакаў. Цяпер ужо ён стаў камандзірам групы.

Пасля сутычкі з немцамі пераходзіць раку цераз мост было нельга. Таптацца на месцы — таксама. Спусціліся да ракі вышэй моста.

— Хто не ўмее плаваць?— спытаў Шпакаў.

— Я амаль не ўмею,— адазваўся Зварыка.

◀ **РАДЫСТКІ АНЯ МАРОЗАВА І ЗІНА БАРДЫШАВА.**

Агледзеўшыся, я ўбачыў здалёк нейкае высокае збудаванне. Паказаў Шпакаву.

— З Іванам Белым ідзіце паглядзіце, што такое,— адказаў ён.

Мы, крадучыся, падышлі і ўбачылі воданапорную вежу. Яна стаяла каля самай ракі.

— Глядзі, лодка...— шапнуў Іван Белы.

Я спусціўся да вады, каб узяць лодку, але яна была прымацавана тоўстым ланцугом да ўкапанага ў зямлю слупка. Вялізнаму замку нельга было даць рады. Што рабіць? Не кінуць жа, калі, можа, у гэтай лодцы наш паратунак... «А што, калі вырваць слупок з зямлі?»,— прамільгнула раптам думка. Я абхапіў яго аберуч і пацягнуў з усяе сілы. Але дзе там — аднаму не адолець. Паклікаў Цэлікава.

Прыйшлося павалаводзіцца. Расхіствалі, цягнулі, абліваліся потам. Нарэшце слупок падаўся, павольна папоўз уверх. Паклалі яго разам з ланцугом у лодку і пацягнулі па беразе туды, дзе нас чакалі астатнія разведчыкі.

Генка не сцярпеў:

— Вось гэта здорава! А дзе ж вёслы?

Вёслаў, вядома, у лодцы не было. Грэблі далонямі. За тры прыёмы ўсе перабраліся на другі бераг. Лодку пусцілі ўніз па рацэ — хай плыве куды далей наша збавіцелька.

Ішлі да самае раніцы. Калі заружавеў усход, мы спусціліся ў лагчыну, на дне якой цурчэў зіхатлівы ручаёк.

Мельнікаў адразу ж прыпаў да вады. Пап'е, акуне галаву, аддыхаецца і зноў п'е. Нарэшце падняўся і сказаў, абтрасаючы рукі:

— Добрая вада! Проста як нанава на свет нарадзіўся...

Мы ўсе таксама напіліся і набралі ў флягі. Вада сапраўды была вельмі смачная — крынічная, чыстая, як крышталь, і халодная. А можа нам гэта здавалася, бо смага замучыла.

Бялявы туман густа слаўся па лагчыне, і адразу нельга было разгледзець, дзе мы.

— Што гэта? — раптам спытаў Генка, паказваючы на велізарны жалезабетонны выступ.

— Супрацьтанкавы надаўбень — «зуб дракона»,— не адразу адказаў Шпакаў. Па твары яго відаць было, што гэтая знаходка яго раптам азадачыла.— Мы натрапілі на лінію ўмацаванняў — трэба разведаць мясцовасць. Толькі асцярожна...

Справа ад нас пустымі вачніцамі чарнелі шчыліны дотаў. Яны былі аблытаны густым павуціннем калючага дроту. Як потым мы даведаліся, гэта была лінія ўмацаванняў, вядомая пад назвай «Ілменхорст». Шпакаў разгарнуў карту і пачаў наносіць на яе паметы.

— Гэта ж трэба столькі набудаваць! — здзівілася Аня.— Немаведама колькі працы і сродкаў — і ўсё дзеля вайны. Вядома ж, бо — фашысты. Будзе што перадаць «Цэнтру».

Тут, у гэтай «пашчы дракона», разведчыкі размясціліся на днёўку.

— Давайце ўсе харчы сюды,— сказаў Шпакаў, раскінуўшы на зямлі плашч-палатку.

У нас засталася адна банка тушонкі і невялікая кучка сухароў.

— Іван Іванавіч, раздзялі гэта напалам. Адну палавіну з'ямо, а другую раздай на «НЗ».

— Што тут дзяліць...— незадаволена прабурчаў той.— Тут і аднаму няма чаго есці.

Але зрабіў тое, што яму загадаў камандзір.

— А цяпер палавіну дзялі на адзінаццаць порцый.



— Чаму на адзінаццаць? Нас жа ўсяго дзевяць...— няўцямна спытаў Мельнікаў.

— Як табе не сорам,— з дакорам сказала Зіна.

— Ага, зразумеў: яму двайную порцыю, значыць, капітану Крылатых.

— Вечарам наведаемся на хутары — там знойдзем, чым пажывіцца,— сказаў спакойна Аўчароў.

— Да вечара яшчэ далёка, там відаць будзе,— адказаў Шпакаў.

Пасля снедання ён сказаў, што на хутар ісці нельга, хоць харчы кончыліся, і наступны дзень будзе галодны.

— Усю ноч будзем разведваць умацаванні, а наступны дзень зноў перачакаем тут, каб вечарам перадаць у Маскву радыёграму. Значыць, ніяк нельга выдаць сябе. А потым, калі ўдасца, запасёмся харчамі.

Усё было ціха, спакойна. Але раптам апоўдні зусім побач мы пачулі галасы. Проста на нас ішла кучка дзяцей. Мы затаіліся. Калі дзеці ўбачаць нас — бяды не мінаваць. Патрымаць іх каля сябе да вечара? Але бацькі спахопяцца і пойдуць шукаць. Дзеці не дайшлі трохі да нас і спыніліся, мы пачулі рып качэляў. Качэлі былі адны, і дзеці гушкаліся па чарзе. Астатнія гойсалі па лесе, лавілі адзін аднаго. Адна дзяўчынка, хаваючыся ад сяброўак, прысела за кустом амаль што побач з Юзікам Зварыкам. Трэба было нешта прыдумаць, каб адцягнуць увагу дзяцей. Выхад знайшла Аня. Яна скінула маскіровачны касцюм, перадала зброю Зіне і пайшла ў абход, туды, дзе былі дзеці.

— Вы не бачылі тут маю гарэзу Анну-Мары? Рыжанькая такая, з вяснушкамі,— спытала яна па-нямецку.

— Не было яе тут, не было,— адказала пухленькая дзяўчынка гадоў пяці.

— Нічога, я яе знайду,— яна недзе тут схавалася. Дайце мне стаць на качэлі і агледзецца.

Нам было відаць, як Аня ўзлезла на качэлі, вакол яе тоўпіліся дзеці. Аня агледзела некалькі дачных домікаў, у якіх, напэўна, жылі гэтыя дзеці, і зноў, у абход, вярнулася да нас. Мы адышлі ў больш надзейнае месца.

Усю ноч мы абследавалі ўмацаванні. Выявілі больш дзесяці кіламетраў супрацьтанкавых надаўбняў, дротавых загарод, акопаў поўнага профілю, некалькі доўгатэрміновых агнявых кропак. Нанеслі ўсё гэта на карту. На шчасце, нават вузлавыя інжынерныя збудаванні не ахоўваліся, і мы дэталёва маглі іх агледзець.

На досвітку зноў вярнуліся ў той невялічкі лясок, дзе правялі мінулы дзень, з надзеяй крыху адпачыць, дачакацца вечара і перадаць «Цэнтру» каштоўныя звесткі пра абарончыя ўмацаванні на подступах да прускага горада Інстэрбург.

Мы былі ўжо недалёка ад таго месца, дзе ўчора днявалі, як заўважылі справа яшчэ нейкую вялікую пабудову.

— Іван Іванавіч, прайдзі з Аўчаровым — гляньце, што гэта там такое? — загадаў Шпакаў.

Я з камандзірам засталіся чакаць. Праз нейкі момант перад намі паказаліся дзве постаці. Спачатку мы падумалі, што гэта Мельнікаў з Аўчаровым вяртаюцца, але, калі сутыкнуліся твар у твар, Шпакаў па-змоўніцку штурхануў мяне локцем, ды я і сам ужо бачыў, што гэта былі немцы з вінтоўкамі на плячах. Мы наставілі аўтаматы ім у грудзі і скамандавалі:

— Хэндэ хох!

Немцы няўцямна глядзелі на нас і не спяшаліся падымаць рукі. Яны прынялі нас за свой патруль. Іх тут жа абступілі разведчыкі і забралі вінтоўкі.

— Што такое? За што нас абяззброілі? — усё яшчэ не разумеючы, з кім маюць справу, мармыталі яны.

— Вы што, не здагадваецеся, з кім сустрэліся? — спытаў Шпакаў.

Я толькі паспеў перакласці пытанне, як яны заківалі галовамі.

— О, так! Вядома, вы — рускія парашутысты.

Хоць гэтыя палонныя надта лёгка дасталіся нам, але мы не вельмі былі ім рады. Вядома, што, як служачыя спецыяльнай ваеннай будаўнічай арганізацыі гітлераўскай арміі, яны маглі даць нам каштоўныя звесткі пра абарончыя збудаванні, але ж хвалявала іншае. Трэба было неяк перажыць дзень у гэтай «пашчы дракона». Выйсці адсюль не дазваляў час — ужо займаўся ранак. Знікненне патруля, напэўна ж, будзе заўважана.

— Што будзем рабіць? — спытаў Шпакаў.

— Робійць, робійць...— паўтарыў адзін з палонных.— Іх руслянд,— стаў ён падбіраць словы, дапамагаючы жэстамі.— Я был руслянд. Смаленск, Мінск, Вільню...

— Што вы хочаце сказаць? Гаварыце па-нямецку,— кажу я яму.

— Мы — старыя салдаты,— перамагаючы хваляванне, адказаў немец.— Ваявалі ў Францыі, Югаславіі, Расіі. Мы здагадваемся, што вам ад нас патрэбна. Мы можам дамовіцца. Мы адкажам на ўсе вашы пытанні — толькі даруйце нам жыццё.

— Вось гэта разумна,— адказаў Шпакаў, не чакаючы перакладу — ён таксама крыху разумеў па-нямецку.

— Калі вас павінны змяніць на пасту? І ці будуць вас шукаць?

— Так, будуць шукаць. Нас павінны змяніць у дзевяць гадзін,— адказаў той жа немец.

— Але ж вы самі разумееце, што мы вас не можам адпусціць.

Немцы захваляваліся яшчэ больш — яны разумелі, як нам небяспечна цягнуць час, і таму баяліся за сваё жыццё. Адзін з іх на чым свет стаіць стаў лаяць Гітлера.

— Мы вас не выдадзім... Мы вас не выдадзім...— паўтараў ён за кожным словам.

Другі таксама прасіўся, каб яго не забівалі, абяцаў не выдаваць, хоць і не так энергічна, як яго напарнік.

Нарэшце вярнуліся Мельнікаў з Аўчаровым.

— Там дабудоўваюць дот,— далажыў Мельнікаў.— Мабыць і сёння будуць, бо каменедрабілка і бетонамяшалка стаяць. А гэта хто тут у вас? — спытаў, угледзеўшы чужых.

— Ды вось чорт прынёс... Сам бачыш — немцы.

— Куды ж нам з імі? — усклікнуў Мельнікаў.— Хутка ж дзень!..

Усе прамаўчалі, бо ніхто не ведаў, што рабіць.

Рашылі ісці адсюль глыбей у лес.

— Папярэдзь іх,— звярнуўся да мяне Шпакаў,— каб не думалі ўцякаць або зваць на дапамогу, калі ім жыццё дарагое.

На гэта немцы зноў заківалі галовамі, а адзін з іх — больш гаваркі — дадаў:

— Няма куды ўцякаць без вінтоўкі — у гестапа такое не даруюць.

Канваіраваць палонных даручылі Цэлікаву, Аўчарову і Генку Юшкевічу. Прыпыніліся ў густым ельніку.



— Абшукай іх, забяры дакументы. Тут і дапытаем,— загадаў мне Шпакаў.

У салдацкай кніжцы немца з кручкаватым, як у каршуна дзюба, носам і запалым бяззубым ротам было напісана, што ён — яфрэйтар, прозвішча — Готліб.

— Спытай: дзе ён служыў, у якой вайсковай часці, дзе знаходзіцца штаб, што яму вядома пра абарончыя аб'екты ў Прусіі.

Я пераклаў, але немец маўчаў, панурыўшы галаву. Я паўтарыў пытанне, папярэдзіўшы, што для яго ж карысці лепш не цягнуць час.

— Я нічога не ведаю. Я нічога не ведаю...— паспешліва забубніў ён.— У мяне баліць галава.

— А што можа сказаць ён? — спытаў Шпакаў, кіўнуўшы на другога салдата.

— Я скажу ўсё, што мне вядома,— адказаў той.— А ад яго вы нічога не даб'ецеся: ён — нацыст.

Вадзяністыя вочы Готліба ўспыхнулі халодным бляскам.

— Свіння! — сказаў ён бяззубым ротам.

— Мы вас слухаем,— разгарнуўшы карту на каленях, сказаў Шпакаў.

Немец зняў пілотку, адкрыўшы лысіну, валасы на патыліцы і скронях былі рудыя, нібы абкураныя дымам.

— Мяне завуць Курт Фішар. Простае прозвішча,— сказаў ён, разглядваючы пілотку і думаючы, што гаварыць далей.

— Працягвайце,— парушыў маўчанне Шпакаў.

— Служу ў асобым будаўнічым батальёне. Гэта відаць і па дакументах. Пераведзены сюды з Літвы. Тут, пад Інстэрбургам, прыводзім да ладу старыя ўмацаванні, рамантуем дарогі, масты, пабудавалі чатыры новыя доты. Агульны план гэтага раёна мне невядомы. Затое я добра ведаю ўсе ўмацаванні на рацэ Дайме, там мы таксама працавалі. Гэта рэчка ўпадае ў заліў Курыш Гаф і на вялікай адлегласці прыкрывае подступы да Кенігсберга. Уздоўж воднага рубяжа ўзведзена мноства абарончых збудаванняў, глыбокаэшаланіраваных, звязаных паміж сабой падземнымі ходамі, многа супрацьтанкавых надаўбняў. Напэўна, такіх магутных збудаванняў больш нідзе няма. Фактычна, гэтая лінія абароны — непрыступная.

Пра непрыступнасць нямецкай абароны, як і пра непераможнасць гітлераўскай арміі, без раздражнення цяжка было слухаць: набілі аскому гэтыя выхваленні фашыстаў. А б'юць жа нашы іх. Фронт скора і сюды дакоціцца. Не дарэмна ж і нас сюды закінулі. Але мы стрымаліся, не сталі аспрэчваць Курта Фішара. Не дазваляў час і абставіны.

— Што вы ведаеце пра ўмацаванні Кенігсберга? — паставілі мы чарговае пытанне.

— Магутныя фарты-крэпасці акружаюць горад з боку сушы даўно. Вашаму камандаванню пра іх, напэўна, вядома, бо такія збудаванні ў сакрэце не захаваеш.

— Майн гот! Майн гот...— уздыхнуў Готліб, незадаволены тым, што Фішар так адкрыта выдае ваенныя тайны. Шпакаў перастаў пісаць і агледзеўся. Стомленыя, з пашарэлымі тварамі, перасохлымі губамі, разведчыкі сядзелі наўкола. Генка прыпёрся спіной да дрэва, Аня і Зіна туліліся адна да адной — так было цяплей. Зварыка ляжаў на баку, выцягнуўшы ногі і падпёршы галаву рукой. За ім — Аўчароў. Мельнікаў і Цэлікаў былі недзе ў сакрэце. Як схуднелі, асунуліся мы за гэтыя некалькі дзён. Быццам і не было таго адпа-

чынку пад Смаленскам. Кончыліся харчы. Трэба было б вечарам наведаць які хутар, каб папоўніць запасы. А тут якраз гэтыя немцы...

— Для вас будзе цікавай яшчэ адна акалічнасць,— перапыніў думкі камандзіра Фішар.— Я знарок пакінуў яе на астачу. Нядаўна некаторыя каманды нашага батальёна будавалі тут тайныя бункеры для спецгруп, ну такіх — накшталт вашай, якія будуць пакінуты ў тыле вашых войск, на выпадак, калі яны зоймуць Усходнюю Прусію. Гэтыя групы, як я разумею, будуць весці разведвальна-дыверсійную работу.

— Так, гэта сапраўды цікава,— згадзіўся Шпакаў.— Вы можаце паказаць на карце, дзе зроблены гэтыя тайнікі для дыверсантаў?

— Не. Нас прывозілі і адвозілі ў закрытых машынах. Але мне здаецца, што гэта на ўсходзе і на паўночным усходзе ад Кенігсберга. Там вялікія лясы.

— Як выглядаюць тайнікі?

— Яны глыбока ў зямлі, зверху накрыты дзёрнам, пасаджаны дрэўцы. Уваходы замаскіраваны. Адшукаць такі бункер даволі цяжка. Памяшканні вышэй росту чалавека. У іх пакінуты запасы харчоў, адзення, боепрыпасаў.

— А многа такіх зямлянак?

— Я працаваў на збудаванні чатырох. Але ж, напэўна, будавалі і іншыя, магчыма — і палонныя.

Аўчароў, які воддаль моўчкі сачыў за нашай размовай з немцамі, раптам устаў, падышоў да Готліба і сарваў пілотку з яго галавы. На лысіне чырванеў вялізны гуз.

— Я ведаю гэтага арыйца,— з націскам, стрымліваючы гнеў, сказаў ён Шпакаву.

— Якога арыйца? Ты пра што?

— Ды гэта ж Готліб — мой забойца! На вось, памацай! — Ён апусціўся на калені і падставіў Шпакаву сваю патыліцу.— Гэтыя рубцы — сляды ад яго ботаў.— Аўчароў дрыжачымі пальцамі расшпіліў гімнасцёрку.— А вось тут, бачыш,— ён выставіў грудзі, на іх відаць была зарубцаваная плямка з капейку.— Тут прайшла куля — наскрозь. Гэта ж ён, кат Готліб, страляў у мяне ў магілёўскім лагеры ваеннапалонных. Тады мы вярталіся з работы, і я вельмі аслаб. Мяне вялі пад рукі таварышы. Ён,— Аўчароў тыцнуў пальцам у Готліба,— канваіраваў нас. Спыніў калону, падышоў да мяне і стукнуў кулаком па твары. Я ўпаў. Ён стаў таптаць мяне ботамі. Я перавярнуўся тварам уніз, ратуючы вочы. Потым ён зняў вінтоўку і стрэліў у спіну.

Іван змоўк.

Далейшы лёс Аўчарова ведалі мы ўсе. Аўчарова падабралі жанчыны і хацелі пахаваць, але на могілках разгледзеліся, што чалавек яшчэ жывы. Яны схавалі яго ў гумне і выхадзілі. Потым Аўчароў зноў трапіў у лагер палонных, працаваў у майстэрні па рамонту нямецкай ваеннай тэхнікі. Адтуль уцёк на варожым танку. Мельнікаў нават часцяком пасмейваўся, як той ад разгубленасці спачатку ўключыў быў поўны задні ход і ўшчэнт разнёс пабудову, а потым ужо спакапіўся і, збіўшы кантрольную будку, памчаўся да лесу.

— Што вы на гэта скажаце, Готліб? — пытаюся ў нацыста, які ўвесь сцяўся пад гнеўнымі позіркамі разведчыкаў.

— Я нічога не ведаю... Я нічога не ведаю...— мармытаў ён сабе пад нос.



— Ведаеш, сука, усё ведаеш! Ты страляў не аднаго мяне. Твае рукі па самыя локці ў крыві,— гарачыўся Іван.— Думаў, што з мёртвымі не сустрэнешся! Але давялося...

— А можа ты памыляешся, Іван?

Аўчароў не даў Ані дагаварыць:

— Не, з такой адмецінай на лысіне другога не знойдзеш. Ад лютасці яго гуз сінеў, як валляк у індыка. Ды і прозвішча я добра памятаю. Такое не забываецца.

— Тое, што Готліб расстрэльваў рускіх палонных, і я магу пацвердзіць,— нечакана для ўсіх сказаў Фішар. Ён зразумеў, аб чым ішла гаворка.— Я сам бачыў, як ён гэта рабіў. Забіць аслабелага прыносіла яму задавальненне. Нацысты называюць гэта «селекцыя» — адбор. Слабы гіне ў першую чаргу.

— Майн гот! Майн гот...— зноў уздыхнуў Готліб.

— Вы будзеце адказваць на нашы пытанні? — спытаў Шпакаў.

— Не! — рашуча адрэзаў Готліб.

Недзе блізка пачуўся стрэл.

— Ратуйце! Тут рускія,— ва ўсё горла зароў Готліб.

Аўчароў хацеў заткнуць яму рот, але Готліб, злаўчыўшыся, так стукнуў нагой у грудзі, што Іван упаў на спіну. Падхапіўшыся, Аўчароў кінуўся да Готліба, гатовы пусціць у яго аўтаматную чаргу, але той ужо ляжаў, распластаўшыся на зямлі. Гэта Зварыка ззаду стукнуў яго па галаве.

— Так яго! — толькі і паспеў сказаць Іван Чорны.

— З нацыстам інакш нельга,— адказаў Юзік,— ён ціхі, калі мёртвы.

— Ціха! Лажыся! — падаў каманду Шпакаў.

Падышоў Мельнікаў.

— Спакойна, хлопцы, гэта я незнарок стрэліў,— вінавата сказаў ён.

Фішар моўчкі сачыў за тым, што адбывалася. Тым часам сонца ўжо было ў зеніце. Перажыта палавіна трывожнага дня. Ёсць цікавыя звесткі для «Цэнтра». Толькі б дачакацца вечара, каб перадаць.

— Трэба і з гэтым канчаць, каб лямантү не нарабіў,— сказаў Аўчароў, беручыся за кінжал.

— Адставіць! — павысіў голас Шпакаў.

— Я вас не выдам... Я вас не выдам! — дрыжачым голасам загаварыў палонны, зразумеўшы, што пра яго ідзе гаворка.— Не трэба мяне забіваць.

— Ціха! — прыкрыкнуў Шпакаў.— Зварыка і Юшкевіч, заступайце на дзяжурства! — а сам сеў складаць тэкст радыёграмы.

Разведчыкі тым часам шапталіся:

— І трэба ж ім натрапіць на нас! А цяпер, як той казаў, шкода стукнуць і нельга кінуць.

— Яны то нас не шкадавалі,— падаў голас Цэлікаў.

— Вечарам можна было б і адпусціць,— сказала Зіна.— Каму ахвота пэміраць? Глядзіце, які ён смірны, усё парасказваў...

— Бо за шкуру сваю дрыжыць, дык і парасказваў,— зноў сказаў Цэлікаў.

— Можа яно і так,— сказала Зіна.— Такія ж з выгляду смірненькія кідалі дзяцей у агонь у Беларусі і на Смаленшчыне. Можа і ён не адно жыццё загубіў. Сам жа кажа, што быў у Смаленску, і ў Мінску, і ў Вільнюсе.

— Вазьмі, Зіна, вечарам перадасі,— падаў зашыфраваную радыёграму Шпакаў.

Калі радыёграма была перададзена «Цэнтру» і радыёстанцыя сабрана, камндзір групы сказаў Фішару:

— Вы заставайцеся тут да раніцы — так будзе лепш і для вас і для нас.

— О, так! Клянуся, я больш не пайду ў сваю часць, бо перададуць гестапа. Я дэзерцірую. У мяне ёсць, дзе схавацца.

— Гэта ваша справа,— адказаў Шпакаў.— Мы даруем вам жыццё, спадзяёмся, што вы будзеце ўдзячны.

— Я разумею, усё разумею! Я вас не выдам!

— Выдасць, сука,— не згаджаўся Мельнікаў.— Толькі трасцу зловяць, бо далёка будзем...

— Так, рызыкі ніякай,— падтрымаў Шпакаў.— Нас, напэўна, запеленгавалі. А цяпер яшчэ пойдзем на хутар па харчы — там жа таксама застануцца сведкі. Не будзем жа мы ўсіх забіваць, хоць, напэўна, яны данясуць на нас.

Група накіравалася праз поле на хутар, які на карце аблюбаваў Шпакаў. Да яго было кіламетры тры. Там разведчыкі спадзяваліся падсілкавацца, папоўніць свае рэчавыя мяшкі харчам і ўзяць кірунак на Гольдап, да вызначанага «Цэнтрам» пункта.

# ПОЧЫРК ЭРЫХА КОХА

Трывожна брахалі на хутарах сабакі. Здавалася, нейкія прывіды снавалі вакол разведчыкаў. Германія не спала. Дакаціліся нарэшце і сюды водгукі вайны.

— Юзік зноў адстае,— перадалі па ланцужку.

Шпакаў спыніўся, глянуў на мяне, быццам збіраючыся нешта загадаць, але передумаў.

— Пайду сам гляну, як ён там,— сказаў камандзір, ні да кога не звяртаючыся.

Мінуўшы групу, Шпакаў убачыў, як, прыпадаючы на нагу, засопшыся, спяшаўся Юзік.

— Стаміўся... Не магу так хутка ісці,— вінавата апусціўшы галаву, сказаў ён, параўняўшыся са Шпакавым.

— Мужайся, браток: да хутара ўжо недалёка. Там...— не паспеў Шпакаў дасказаць, як трэск аўтаматных чэргаў парваў начную цішыню. Ён данёсся спераду, проста па курсу разведчыкаў. Шпакаў паглядзеў на компас.

— Падобна, што страляюць якраз там, куды мы ідзём,— адзначыў сам сабе камандзір.

Карыстаючыся замінкай, Зварыка прысеў.

Недзе крычалі мужчыны, загаласіла жанчына.

— Чуеце, дзіця плача? — насцярожылася Аня.

Немы, страшны рознагалосы крык уперамешку са стрэламі даносіўся з хутара. Там адбывалася нешта жахлівае.

— Што б гэта магло значыць? — занепакоіўся Мельнікаў.

— Паход за харчамі адмяняецца,— прыняў новае рашэнне Шпакаў.

— Ну што, Юзік, няма іншага выйсця. Трэба ісці...

— Пайшлі! — адказаў той з гатоўнасцю, стараючыся перамагчы самога сябе.

Мы падаліся ўправа ад хутара і неахвотна пабрылі адзін за адным. І голад, і трывога апанавалі нас. Там, дзе чутны былі галашэнні і стрэлы, чырвоным снапом шугануў высока ў неба вогненны бляск!

Пажар! Мы ўзабраліся на пагорак. Позірку адкрыўся палаючы хутар, чорнымі ценямі мітусіліся на яркім фоне людзі. Раптам пачулася гудзенне машын. Мы залеглі. Па палявой дарозе ў бок пажару ціха прайшлі тры крытыя грузавікі з зацемненымі фарамі. Тут, далёка ад фронту, мы прывыклі бачыць, што аўтамашыны ноччу ходзяць заўсёды з уключаным святлом.

Неўзабаве ў тым жа напрамку пачулася некалькі дружных залпаў, застукацеў кулямёт. Уверх узвіліся ракеты, і адразу ж аўтамабілі ўключылі святло. «Што б то магло быць?» — мучыла ўсіх нас пытанне.

Надзея на тое, што на хутары мы падсілкуемся, папоўнім запасы харчоў, надавала сілы. І на табе — надзея аказалася марнай! Не ведаю, як іншыя, а я вельмі стаміўся. Цяжка ісці першаму, тым больш — па спелым жыце. Сцяблы яго нібы драцяныя. Ды тут і не толькі фізічная нагрузка, але і нервовае напружанне, насцярожанасць. Каб не збіцца з курсу, трэба адшукваць арыенціры на мясцовасці, якія намечаны на карце. Ды і не будзеш звяраць іх кожны раз з картай, тым больш ноччу, а ў памяці трэба трымаць увесь час.

Балелі вочы, ныла спіна, непаслухмянымі рабіліся ногі. Да месца, куды мы ішлі, было кіламетраў з паўсотні. Наўрад ці дабяромся туды, не падсілкаваўшыся... Я падышоў да канавы і прысеў, апусціўшы ў ваду ногі. За канавай зноў цягнуліся палеткі збажыны — не то жыта, не то пшаніца.

А хутар усё палаў, снапы іскраў узляталі ў цемень ночы. Сціхлі галашэнне і дзіцячыя крыкі, усталявалася злавесная, загадкавая цішыня.

— Ну што ж, пойдзем далей...— чую за спіной нягучны голас Шпакава.— Уставай! — ён паклаў руку на маё плячо.— Цяпер я павяду.

Мы памаглі адзін аднаму пералезці цераз дротавую агароджу, якою тут абнесены ўсе палеткі, і зноў пайшлі праз вялікі загон пшаніцы. Раптам Мельнікаў тузануў мяне ззаду за рукаў:

— Скажы Мікалаю, каб спыніўся.

— Чаго? — пытаюся, не паварочваючы галавы.

— Чарвячка замарыць можна: пшанічка ж во...

Шпакаў, здаецца, абрадаваўся такой прапанове.

— А што? Які-ніякі, але — наедак...

— Не надта разганяйцеся. Трэба ісці,— падала голас Зіна.— Наперадзе вунь якая дарога.

— І то праўда. Нарвем каласоў. Сілкавацца потым будзем,— пагадзіўся Мельнікаў.

Ён стаўірваць каласы і пхаць іх у кішэні, рэчавы мяшок. Усе разумелі: на гэтых харчах трэба будзе дацягнуць да наступнага вечара. Нарваўшы каласоў, мы перайшлі шашу і адразу ж натрапілі на агарод. Мельнікаў і тут першы знайшоў граду морквы. Нам шанцавала.

Пакуль развіднела, выйшлі на лінію чыгункі Інстэрбург—Цільзіт. Заляглі, выбраўшы зручнае месца для назірання. Тут якраз і прыдаліся запасы начной нарыхтоўкі.

Дзень прайшоў спакойна. Па чыгунцы прагрукатала некалькі пасажырскіх паяздоў, тры санітарныя. Ваеннай тэхнікі не відаць

было. Шпакаў некалькі разоў схіляўся над картай: рашаў, на які хутар пайсці, каб разжыцца якім харчам.

— Відаць, сюды пойдзем,— тыцнуў пальцам камандзір на чатырохкутны значок.— Лес побач.

— Трэба ж некуды ісці. Хіба ўгадаеш, куды лепш? — не прыдумаўшы нічога лепшага, адказаў я.

Расцягнуўшыся ланцужком, мы падышлі да хутара. Калі да яго засталося метраў з паўсотні, Шпакаў загадаў Юзіку, Ані і Зіне залегчы і быць напагатове. А мы пайшлі на хутар. Калі падышлі да брамы, у двары забрахаў сабака. Шпакаў прасунуў у шчыліну ствол бязгучкі і націснуў курок. Сабака нібы захліпнуўся сваім брэхам, ціха віскнуў і паваліўся на бок. Здаецца, вялікага шуму не нарабілі...

Іван Іванавіч пералез цераз плот і адчыніў брамку. Мы падышлі да дзвярэй, але не паспелі пастукацца, як у доме ўспыхнула святло, потым з сянец пачуўся старэчы голас:

— Хто там?

— Паліцыя. Адчыніце! — загадаў я па-нямецку, разумеючы, што, акрамя паліцыі, немцы ноччу нікому не адчыняць дзверы.

Бразнула засаўка. Згорблены стары ў белай кашулі ніжэй кален паказаўся на парозе.

— Што вам трэба? — спытаў ён хрыпатым, слабым голасам.

— Зброя ў доме ёсць? — не адказваючы на яго пытанне, спытаў я.

— Няма зброі.

Праз адчыненыя ў хату дзверы відаць была жаночая постаць.

— Мы будзем у вас браць харчы,— сказаў Шпакаў старому, напалавіну па-руску, напалавіну па-нямецку.

Нічога не адказаўшы на гэта, стары павярнуўся і пайшоў у хату. Я ўвайшоў следам за ім і спыніўся ў пярэднім пакоі. Стары знік за дзвярыма, што вялі ў сумежны пакой. Не паспеў я як след разгледзецца, як з-за перагародкі пачулася:

— Выходзьце з хаты! А то страляць буду!..

Расчыніліся дзверы, ствол паляўнічага ружжа быў нацэлены проста мне ў грудзі. Я не чакаў такой увішнасці ад старога.

У мяне на грудзях вісеў аўтамат, у правай руцэ быў пісталет, але ж перавага была на баку старога: варта яму націснуць на курок, і — усё будзе скончана... Я павярнуў галаву і сказаў па-нямецку Шпакаву:

— Паклічце жандара! Вось як нас сустракаюць у Прусіі...

І ўжо да гаспадара:

— Вы разумееце, супраць каго падымаеце зброю? Мы — добраахвотнікі і служым у нямецкай арміі.

Немец завагаўся, на момант апусціў ружжо дулам уніз. Гэтага было дастаткова. Я кінуўся на старога і паспеў адвесці ў бок ствол ружжа. Пачуўся стрэл. Смярдзючы дым заслаў пакой. Закрычала недзе жанчына. Я вырваў з рук старога ружжо.

Паспешна ўзяўшы харч, мы кінуліся з хаты.

Да раніцы паспелі абследаваць вялікі раён на поўнач і на паўночны ўсход ад Інстэрбурга, а на днёўку схаваліся ў невялікім хмызняку.

Нарэшце настаў час, як нам здавалася, калі можна і падсілкавацца і крыху адпачыць.

РАЗВЕДЧЫКІ НАПАЛЕОН РЫДЗЕЎСКІ І ГЕНАДЗЬ ЮШКЕВІЧ. ▶



Мельнікаў дастаў сала, загорнутае ў газету. А тым часам Іван Іванавіч вынімаў ужо з ножнаў кінжал, рыхтуючыся прыступіць да дзяльбы.

Маю ўвагу прыцягнула газета, у якую было загорнута сала. Прачытаў загаловак на ўсю старонку: «Наведванне рускімі парашутыстамі хутара Кляйнберг».

— Дай сюды газету,— кажу Мельнікаву.

Потым я на момант ажно анямеў ад той жудаснай карціны, якая паўстала з газетнай старонкі. На здымках — папялішча спаленага ўшчэнт хутара, знявечаныя трупы жанчын і дзяцей. Буйным шрыфтом было надрукавана: «Суайчыннікі, жыхары Усходняй Прусіі! Вось крывавыя зладзействы бальшавіцкіх бандытаў, якія высадзіліся на парашутах каля вёскі Эльхталь раніцай 27 ліпеня і ўсё яшчэ шнырають па нашай зямлі. Мінулай ноччу яны забілі дзесяць ні ў чым не вінаватых жыхароў хутара Кляйнберг. Вы бачыце на здымку трупы пяці дзяцей і трох жанчын — іх маці, двух старых. Заўтра гэта можа здарыцца з вамі! Бандыты нападуць на вас, як шалёныя ваўкі. Знішчайце іх! Гэтым вы абароніце сябе і сваю айчыну».

— Вось яна — разгадка начнога пажару і страляніны,— задумення сказаў Шпакаў.

На гэтай жа старонцы было надрукавана папярэджанне, што жорсткае пакаранне чакае кожнага, хто не паведаміць пра бандытаў у паліцыю або акажа ім дапамогу. А хто знішчыць бальшавіцкага вылюдка, таго чакае пашана і ўзнагарода.

У адной з інфармацый паведамлялася, што ў начной перастрэлцы з рускімі недалёка ад хутара Кляйнберг, загінула пяць паліцэйскіх.

Цяпер нам стала зразумела, што гэта былі за машыны з патушанымі фарамі, якія мы бачылі пазаўчарашняй ноччу. Значыць, яны самі ж расстралялі паліцэйскіх, тых, што пад выглядам савецкіх парашутыстаў спалілі хутар. Вядома, найбольш надзейна хаваюць сакрэты мёртвыя.

Газета пераходзіла з рук у рукі.

— Якія гады! Дзяцей не пашкадавалі...— узрушана вымавіла Аня.

Мельнікаў моўчкі сядзеў, забыўшыся на сала. Есці ўжо нікому не хацелася. Газету гэтую Мельнікаў узяў на стале. Напэўна, гаспадары хутара паспелі прачытаць яе, бачылі тыя жудасныя фатаграфіі. Таму і сустрэлі нас так.

Як потым стала вядома, правакацыя была задумана гаўляйтарам Усходняй Прусіі Эрыхам Кохам. Тым самым Эрыхам Кохам, прыбліжаным Адольфа Гітлера, які быў гаўляйтарам акупіраванай Украіны. Гэта быў вытанчаны кат. Ён наспецыялізаваўся на забойствах, масавых расстрэлах, рабаўніцтве на савецкай зямлі. А цяпер тыя ж сродкі ўжыў і да сваіх суайчыннікаў.

Яшчэ раніцай 27 ліпеня гаўляйтару Коху паведамілі, што ў Прусію закінута група савецкіх парашутыстаў. Немцы адразу ж выявілі нашы парашуты, якія завіслі на дрэвах. Да таго ж, ім удалося знайсці і астатнія, якія разведчыкі закапалі. Трапіў у іх рукі і парашут з грузам, які мы не змаглі адшукаць пасля прызямлення. Там былі запасныя камплекты батарэй для сілкавання рацыі, боепрыпасы.

Такім чынам, і гаўляйтар Эрых Кох і камандуючы групай армій «Цэнтр» ва Усходняй Прусіі генерал-палкоўнік Рэйнгард ведалі прыкладна аб колькасным складзе нашай групы і яе прызначэнні.



Тэрмінова была распрацавана аперацыя па знішчэнню савецкай разведгрупы.

У дапамогу паліцыі і жандарам былі пасланы курсанты юнкерскага вучылішча. Мабільныя групы прачэсвалі лес, пускалі па следу аўчарак, але ўсё дарэмна. Два першыя дні не далі ніякіх вынікаў. На трэція суткі, калі была перададзена ў Маскву першая радыёграма, немцы нас запеленгавалі. Коху далажылі, што ў начной перастрэлцы забіта трое юнкераў.

Акрамя таго, двух юнкераў знайшлі ў лесе заколатымі кінжаламі. Знойдзен таксама труп невядомага чалавека ў рускай вопратцы, але без дакументаў. Магчыма, лічылі фашысты, што гэта рускі парашутыст, а магчыма, палонны, які спрабаваў уцячы на радзіму (немцам не ўдалося даведацца, што гэта быў наш камандзір Павел Крылатых).

Час ад часу з Берліна ў рэзідэнцыю гаўляйтара Коха званіў сам Гімлер і цікавіўся вынікамі. Кох панікаваў: ён пачынаў дрыжаць за сваю скуру. І было ад чаго. Толькі тыдзень мінула з дня замаху ў «Воўчай бярлозе» на фюрара, а тут, на табе — савецкія парашутысты беспакарана дзейнічаюць каля той самай стаўкі Гітлера.

Кох запэўняў Гімлера, што савецкія парашутысты вось-вось будуць злоўлены. Але праходзілі дні, і ўсё заставалася па-ранейшаму. У сутычках гінулі салдаты і жандары, а парашутысты заставаліся няўлоўнымі.

На трэці дзень пасля высадкі нашай разведгрупы Эрых Кох запрасіў шэфа паліцыі Лемке да сябе ў рэзідэнцыю. Звычайна Кох пагарджаў такой кампаніяй і перад усімі выстаўляў гэту сваю пагарду. Іменна тады яны і дамовіліся аб правядзенні правакацыйнай аперацыі «А», што азначае «Ангст» — страх.

Аперацыя «А» павінна была запалохаць насельніцтва, мабілізаваць яго на барацьбу з рускімі. Няцяжка было здагадацца, што парашутысты вымушаны будуць наведваць хутары, каб папаўняць запасы харчоў. Вось там ім і павінна быць падрыхтавана пастка.

Сустрэча гаўляйтара і шэфа паліцыі адбылася 30 ліпеня, а наступнай ноччу аперацыя «А» была здзейснена. Гаўляйтар пастараўся, каб на месца гэтай правакацыі прыехала як мага больш карэспандэнтаў і фотарэпарцёраў. Вось яны і распісалі «зверствы рускіх парашутыстаў на хутары Кляйнберг».

Мы разумелі, што пасля гэтага нам будзе вельмі небяспечна наведвацца на хутары. З наступленнем ночы прусакі будуць замыкацца і сядзець у сваіх дамах, як у крэпасцях, дрыжучы ад кожнага шолаху, перад страхам смерці гатовыя да адчайнага супраціўлення. Але ж газета, якая трапіла ў нашы рукі, і для нас была папярэджаннем, перасцярогай.

Каб заблытаць сляды, перахітрыць ворага, мы пасля чарговага радыёсеанса не выходзілі на сувязь з Масквой па двое-трое сутак. Стараліся за гэты час адысціся як мага далей, разведаць новыя раёны, прасачыць за рухам войск на аўтатрасах, на чыгунках, не выдаючы сябе.

Сабраўшы каштоўныя разведвальныя звесткі, мы перадавалі іх у «Цэнтр»: мы маглі выходзіць на сувязь у любы час дня і ночы, бо Масква чакала нашых пазыўных, устанавіўшы бесперапыннае дзяжурства ля рацый.

Мы стараліся эканоміць харч: ведалі, што на кожным хутары можам трапіць у пастку.

Так прайшло дзён дзесяць пасля высадкі. Аблавы на нас не перапыняліся ні на хвіліну. Страціўшы надзею на тое, што мы патрапім у расстаўленыя пасткі, Эрых Кох дабіўся згоды Рэйнгарда выдзяляць штодня да двух палкоў пяхоты для прачэсвання лесу. Небяспека хадзіла за намі па пятах, але нам усё яшчэ шанцавала.

Вечарам 6 жніўня «Цэнтр» даў нашай групе загад перайсці ў раён горада Гольдапа. Гэта кіламетраў 80 на паўднёвы ўсход ад таго месца, дзе мы знаходзіліся. Вядома, што наш шлях быў намнога даўжэйшы, чым значылася на карце, бо нельга было ісці па прамой, трэба было пятляць, заблытваць сляды, хавацца ад чужога вока на чужой, варожай зямлі.

## НАВАЛЬНІЦА

Шпакаў уважліва вывучаў маршрут па карце. Трэба было ісці праз невялікія рэчкі, чыгункі, аўтамабільныя дарогі. Пераходзіць іх асабліва небяспечна, але ж суцяшала тое, што вакол былі вялікія лясы.

Мы ўжо некалькі гадзін ішлі начным лесам. Было цёмна і душна. Раптам патыхнула вільгаццю і прахалодай, і нізка, здавалася, на самыя верхавіны дрэў, насунуліся цёмныя хмары. Недзе ззаду мільганулі бліскавіцы, загрымеў гром.

— Будзе навальніца! — сказаў Шпакаў.

Ён сказаў гэта на поўны голас, а не шэптам, як прывык ужо гаварыць тут, у варожым стане. Адразу падумалася, што навальніца на нейкі час аддаліла небяспеку, якая падсцерагала нас. Усе мы з палёгкай уздыхнулі, спала насцярожанасць, напружанне нерваў.

Мы прыпыніліся, каб надзейна схаваць ад дажджу рэчы, якія баяцца вільгаці. Можна было, вядома, і самім укрыцца — у кожнага была плашч-накідка. Але ж у паходзе накідкі вельмі нязручныя. Яны то надзімаюцца ветразямі, то закручваюцца на ногі — стрымліваюць хаду. І ўсё ж не гэта галоўнае. Накінутыя на галовы башлыкі не даюць магчымасці чуць, што робіцца вакол, а вуха трэба трымаць востра. Таму мы рашылі ісці, падставіўшы сябе дажджу і ветру, не хаваючыся ад непагадзі. Бо тут яна, непагадзь, наша саюзніца.

Трывожна зашапацела лісце,ляснуў пярун, і дождж хлынуў, як з вядра. Лесам ісці было немагчыма. Па твары білі галіны, частыя маланкі сляпілі нас. Мы збочылі і, трымаючыся адзін за аднаго, выйшлі ў поле. Тут бліскавіцы далёка асвятлялі нам шлях, мы спяшаліся напрасткі, не баючыся наскочыць на што-небудзь, як у лесе, пакалечыць вочы аб галіны. Засады ў такую навальніцу на адкрытым месцы мы не асцерагаліся — лічылі яе малаверагоднай.

Раптам пачуўся нейкі падземны гул, ён нарастаў, набліжаўся, і мы не паспелі ачомацца, як міма нас лавінай прамчаўся вялізны конскі табун. Ён прагрукацеў, як горны абвал, зусім побач, абдаўшы нас пырскамі гразі. Мы толькі паспелі ўцяміць, якая небяспека мінула нас, як зноў усё паўтарылася. Толькі цяпер табун пранёсся назад з другога боку ад нас, зноў гэтак жа блізка. Бліснула маланка, ляснуў пярун — коні заржалі трывожна і жахліва, рассыпаліся ва ўсе бакі, распусціўшы грывы на ветры.



— Хутчэй за мной! — крыкнуў Шпакаў. І мы кінуліся да купкі дрэў, што стаялі наперадзе, каб уратавацца ад спуджаных навальніцай коней.

— Усё-такі нам шанцуе...— ціха, як сам сабе, сказаў Іван Цэлікаў.— Каб наскочылі на нас — на муку перамалолі б нашы костачкі капытамі.

Ніхто нічога не адказаў на гэта. Адразу ж за дрэвамі пачыналася поле, аддзеленае ад лесу ровам. За ровам — калючы дрот. Роў быў поўны вады, шырокі. Марудзіць было нельга. Вада даходзіла нам амаль да пояса. Зноў нарастаў тупат, і мы імгненна перабраліся цераз канаву. Пералезлі плот. Прайшлі поле. Зноў быў лес.

Дождж не сунімаўся. Мы спыніліся пад шатамі густога, разложыстага дрэва.

— Там вось агеньчык свеціцца,— сказаў Генка, паказаўшы ўбок.

Прыгледзеліся і ўбачылі між вялізных прысад хутар.

— Схадзіце са Зварыкам праверце, што там робіцца,— загадаў Шпакаў.

Неўзабаве, вярнуўшыся, яны расказалі:

— На двары грузавікі стаяць. Вады наліло па калені, але мы падышлі да самага акна. У хаце спіць, паклаўшы галаву на стол, нейкі фрыц у салдацкай форме. Відаць, вартавы схаваўся ад дажджу.

— Трэба ўзяць яго,— сказаў Шпакаў.

— Але ж ён раней прачнецца, чым мы парог пераступім,— разважаў Зварыка.

— А што, калі я пайду туды,— падала голас Аня.— Зайду ў хату і скажу, што на ганку хворая жанчына засталася. Папрашу, каб дапамог у хату ўвесці, пагрэцца. Ну, у бальніцу трэба нам, але пад дождж трапілі. Калі ён выйдзе, тады вы яго і схопіце. А калі што — застрэлю. Яна змоўкла, чакаючы, як будзе ўспрынята яе прапанова.

Шпакаў крыху памаўчаў, раздумваючы.

— Ну, хадзем... Там відаць будзе, што рабіць...

Падышлі, прыслухаліся, прыглядаючыся да чорных крытых грузавікоў. Ціха. Толькі, як у бубен, дробна барабаніць дождж па брызенце. Шпакаў і я па вадзе, стараючыся не плюхаць, паўз сцяну падкраліся да акна. Як і гаварылі Генка са Зварыкам, за сталом спаў салдат. Ля сцяны стаяла вінтоўка.

Дзверы ў сенцы былі адамкнёны. Утраіх мы бясшумна падышлі да другіх дзвярэй, намацалі клямку. Аня расчыніла дзверы. Немец прыўзняў галаву, чакаючы, што скажа жанчына ў прамоклай плямістай куртцы.

— Можна мне зайсці? — спытала яна па-нямецку.

З сянец нам добра былі відаць двухпавярховыя нары. Злева ля сцяны стаяла піраміда вінтовак. Значыць, мы трапілі ў казарму. Салдаты храплі пад шум дажджу на ўсю хату. Пацягнула цяжкім, спёртым паветрам, кіслым пахам скуранай амуніцыі, гуталінам.

«Вось бы фугануць сюды пару гранат — ніводзін бы не ўцалеў!» — міжвольна прамільгнула думка. Але ж такія дыверсіі не ўваходзілі ў планы разведчыкаў. Больш таго, строга забаранялася займацца не сваёй справай.

— Так, так,— адказаў салдат і павольна ўстаў з-за стала. Ён узяў у рукі вінтоўку, зрабіў крок насустрач Ані і нягучна, каб не патрывожыць сон астатніх, спытаў: — Што здарылася?

— На ганку хворая жанчына. Ёй зусім дрэнна, памажыце...

Ледзь салдат пераступіў парог, мы налажылі яму кляп, заламалі рукі і — без усякага шуму вывелі. Аня зачыніла дзверы. Палоннага адвялі ў поле, селі ў канаве і дапыталі. Аказалася, што мы натрапілі на сувязістаў пяхотнага палка, які размяшчаецца ў гэтай зоне, чакаючы адпраўкі на фронт. Нас цікавіла, ці ведаюць салдаты пра савецкіх парашутыстаў.

— О, так, так,—ківаў галавой палонны.— Мы ўсе папярэджаны. Дадзена ўказанне больш пільна несці патрульную службу.

— Чаго ж ты парушыў гэтае ўказанне — спаў на пасту? — спытаў Мельнікаў па-руску.

Але немец не зразумеў яго. Тады Мельнікаў злажыў далонямі рукі і схіліў на іх галаву, заплюшчыўшы вочы.

— Чаму спаў, пытаюся, на пасту? Служыць надаела, ці што? Вось далажым Гітлеру, дык усыпле па тоўстым азадку.—І жэстам паказаў, як гэта будзе.

Немец апусціў галаву, прашаптаў слабым голасам:

— Надаель вайна. Плёх жизнь солдайт.

— Бачыш ты яго, ужо і надаела! Гатовы не ваяваць, толькі б не чапалі яго самога. Нябось, такі азадак наеў на рускім сале? Мо і хату не адну спаліў, у дзяцей страляў?

Надта важных паказанняў ад немца мы не атрымалі. Усё ж нам карысна было дазнацца, што аб нашым знаходжанні тут ведаюць і ваенныя, і жыхары хутароў. Трэба быць вельмі асцярожнымі.

(Далей будзе.)

## У НАСТУПНЫХ НУМАРАХ ЧЫТАЙЦЕ

новую аповесць Міколы ГІЛЯ «ГОД МІНЕЦЦА ХУТКА», вершы Марыі БАРАВІК, Віктара ГАРДЗЕЯ, Міхася КАЗАКОВА, Міколы ФЕДЗЮКОВІЧА, Яўгена ХВАЛЕЯ, Васіля ШЫРКО, апавяданні Ніны МАЕЎСКАЙ.

# ПАЭЗІЯ

●

●●

●●●

●●●●

●●●●● *Калі ў дарозе ты...*



**Алег ЛОЙКА**



●

*Можа, мы — апошнія паэты,*
*Што вось так цікавяцца зямлёй?*
*Максім ТАНК.*

Ніхто са мной так радасці не дзеліць,
Як жаўранак і ціхі васілёк,
І ветрык, што дымкі з дамкоў кудзеліць,
І бор, што кліча пошумам здалёк.

Ніхто са мной і гора так не дзеліць,
Як зоры у бясконцай вышыні,
Палеткі, луг пад снегавой пасцеляй,
Дарогі ў задуменні жытніх ніў.

Спявай, жаўрук!.. Квітней, мая валошка!..
Шумі, мой бор, да болю дарагі!..
Найменшая казюлечка і мошка,
Вітайце, як найбольшыя багі!

Апальвай, сонца, плечы мне і грудзі,
Віхор, у твар адкрыты вечна дзьмі!..
Пакуль дзяліць мы з вамі радасць будзем,
Пакуль дзяліць мы з вамі гора будзем,
Паэтамі мы будзем і людзьмі!

●●

Мне спакой, як маленства, сніцца —
З бясконцым у сонцы гасцінцам:
Варочаюцца ледзь спіцы,
Пясок з абадоў бруіцца,
Быццам з адвечнага рога,—
Як гадзіннік пясчаны, дарога...

Пыл касмічны з-пад крылляў ракеты...
Маленства,
дзе ты?..

●●●

Не знаю, ці гэта мала,
Не знаю, ці гэта шмат
Жыццё мяне паламала
І шах аб'яўляла і мат,

Хоць ніякі не кароль я...
Не азірайся, крач!
Пешка якая, не болей...
Наперад, ні кроку наўзбоч!..

І ўсё ж гаварыць магу смела:
Быў у адным непакорны —
Крочыў толькі па белым,
Ніколі не крочыў па чорным!..

●●●●

О, як многа табой мне дадзена
Меркай шчыраю, нескупой:
Я каханнем не абакрадзены,
Я не здраджаны табой...

Праз якія яшчэ нам далечы
І ў якую ісці пару?..
Я, да губ тваіх прыпадаючы,
Сіл гаючых набяру.

І куды ні пайду, з неадчэпнаю,
З вернай думкай назад імчу:
Той жа сілаю невычэрпнаю
Надзяляць і цябе хачу,

Надзяляць усім тым, што мне дадзена,
Што было, ёсць і заўтра прыйдзе,—
Хто пачуццямі не абакрадзены,
Сам нікога не абкрадзе.

●●●●●

Калі ў дарозе ты далёкай,
Здаецца, што памерла ты:
Жальбой стукоча бусла клёкат,
Чарнее дуб ад нематы.

Гляджу на месяц адзінокі —
Пустыню жоўтага святла,
Нібы душою аднавокі
Дэдал без аднаго крыла.

Гляджу я на шляхі-гасцінцы,
Адзін з іх бачу — дальні, твой.
Непаправімцам, нехацімцам
Стаю, не кратаю рукой.

Дранцвею, нібы на марозе,
Злавеснай поўны пустаты...
Калі ў далёкай ты дарозе,
Здаецца, што памерла ты.

І ўсё ж ты ёсць. Нат час мізэрны,
Натхненне ён і прыгажосць!
Ты вернешся, як вырай верны.
Ты — ёсць, галоўнае — ты ёсць!

Ты ёсць і будзеш!.. Смерць настане,
Не счэзну, на тваю бяду:
Я толькі крышачку ў расстанне
Паеду
і назад прыйду!..



# ПАЭЗІЯ





## Яўгенія ЯНІШЧЫЦ



●

Я ведала прызнання
дзіўны ўзлёт.
Я верыла яму да слепаты.
І я жыла сярод сваіх
турбот,
Сярод турбот, якія ведаў ты.

Сплыла бялюткай песняю
зіма,
Другіх надзей успыхнулі агні.
Я ведаю, што больш цябе
няма.
Ды толькі рукі прагнуць
вышыні.

●●

Ад веку дадзена нам мова
Не за мядзяк, не на
павер.
І адкрывай яе нанова,
Як адкрываў яе Гамер.

Ты — валадар галосных,
зычных,
Што даў табе далёкі род.
Сярод сплячэння слоў
музычных
Жыве музычны наш народ.

О, час далёкі пышных
баляў!
О, гусляры былых вякоў!



Я чую родныя цымбалы,
Іх гукі льюцца з-пад акоў.

Гуслярскі лёс князі рашылі,
Ды вось наказ жахлівых
дзён —
Ніводнай ноткі не сфальшывіць
І зберагчы агонь і звон.

Тых гукаў вецер не развеяў,
І я былое не кляну,
Калі паэт надзейна вельмі
Кране паэзіі струну.

●●●

Я на тваё: «прыйду не скора»
Прыціхну і не адкажу...
Пайду у цемрадзь цераз
горад
Насустрач гулкаму дажджу.

А потым будзе моцны вецер
Шпурляць лістоту дзень пры дні.
Калі ты ёсць на гэтым свеце,
То не звані мне. Не звані.

●●●●

Пазаві мяне, пазаві.
Там заблудзімся ў хмельных
травах.
Пачынаецца ўсё з любві,
Нават самая простая з'ява.

І тады душой не крывіць
Да апошняй крывавай кроплі.
Пачынаецца ўсё з любві —
Першы поспех і першыя крокі.

Прыручаюцца салаўі
І змяняюцца краявіды.
Пачынаецца ўсё з любві,—
Нават крыўда, нянавісць, агіда...

Пазаві мяне, пазаві.
Сто дарог ляжыць за плячыма.
Пачынаецца ўсё з любві,
І інакш жыццё немагчыма.



ПРОЗА

Эдуард ЗУБРЫЦКІ

Мал. П. ДРАЧОВА



# СУЭМА

АПОВЕСЦЬ

● ГРЫНАЎСКІЯ ВЕТРАЗІ. ДОБРЫЯ, ДАЛЁКІЯ КРЫЎДЫ. «ХЛОПЦЫ, ПЛІТКУ СВІСНУЛІ!..» ЗА ВОКНАМІ СНЕГ.

на, гэтая ідэя, прыйшла яшчэ там, на Вішнеўскіх азёрах, дзе такія лагодныя хвалі, і сонца, і вячэрнія ветразі ў цёплым мораку. Яна прыйшла неяк нечакана і таямніча. Мы ў тое лета былі ў дыялекталагічнай экспедыцыі. Мы ні разу не бачылі сапраўднага мора, і таму гэтае возера, што каціла свае хвалі да небасхілу, нам, пяцярым дужым, загарэлым хлопцам, уявілася чамусьці Чорным морам, хоць на берагах нашага Вішнеўскага возера не раслі ні секвоі, ні пальмы. Проста нам уявілася таямнічая Асоль і пунсовыя грынаўскія ветразі. Проста нам уявілася казачная краіна, дзе ўсё ёсць, і калі няма каго, дык толькі, напэўна, нас.

А сягоння на вуліцы зіма, мароз на кожным завулку расставіў сваіх вартавых і дзьме, і дзьме ў ледзяную дуду.

Падняўшы каўнер халоднага паліто, падскокваючы, шыбую вуліцамі горада. Імчуся да свайго інтэрната. Мае хлопцы недзе даўно ўжо спяць, недзе спіць казачны горад Ліс.

І спіць Зося....

Як мне быць з табой, Зося? Мусіць, яшчэ пражыць мне сотню гадоў трэба, каб зразумець сягонняшнюю цябе. І ўся ты нейкая чужая, халодная, а ў вачах — ільдзінкі. А былі ж яны такія цёплыя, вочы твае!..

«К чорту, к чорту і любоў тваю і рамантыку! Не рамантыкай жыве чалавек...»

Але ж, хіба мы — пустыя рамантыкі? Праўда, мы яшчэ нічога не вынайшлі, не адкрылі нічога такога, што паскорыла б і так бурны рост нашай цывілізацыі... Але ж....

Я добра памятаю тыя дні, калі мы былі разам з табою, жылі, марылі, спрачаліся, чыталі Грына. Памятаю тых галубоў, якіх мы выгадавалі, пусцілі ў блакіт неба. Памятаю тыя пустынныя вуліцы, па якіх мы хадзілі, дзе мы цалаваліся. Памятаю... Ды ці мала што памятаю...

... Ціхімі, летнімі раніцамі, калі сонца выплывала з-за небасхілу, мы басанож імчаліся на возера. А ўдзень бавіліся на пляжы, загаралі, чыталі — перачытвалі нашага Грына. Быў з намі і твой брацік Барыска.

«Дзядзя, а ты быў маленькі, як радзіўся?..»

«А колькі на свеце караблёў?..»

На грудзях у Барыскі — драпіна. Ён горда маршыруе па пляжы і кожнаму з гонарам паказвае «рану»: «Гэта я з цюцькам біўся! Дзядзя, а ты таксама з цюцькам біўся?..»

Неба над намі сіняе-сіняе. Я ніколі не думаў, што так хораша ўдваіх.

> Зорка Венера ўзышла над зямлёю.
> Светлыя згадкі з сабой прывяла.
> Помніш, калі я спаткаўся з табою,
> Зорка Венера ўзышла....

Ты слухала, задуменна ўсміхалася. Ты гаварыла, што ўспамінаеш наша першае знаёмства. Твае вочы хітра-хітра мружацца. Ты смяешся звонка-звонка, і твая галава ледзь адкінута назад. Унізе шэпчацца возера.

Твае вочы хмурнеюць, а вусны сцінаюцца, і ты ўся ў чаканні. Быццам я мог адкрыць нешта такое, што ніхто яшчэ не адкрываў ніколі. І я адкрываў... даўно адкрытае.

Лёгкая сцяжынка бяжыць па лузе. На грэбнях хваль пагойдваецца ветразь. Мы ідзём у вячэрняе сонца.

... Не, гэтая ноч, здаецца, цягнецца вечнасць. Не спіцца. За вокнамі скавыча мяцеліца. Высвістваюць на ложках мае сябры, мае адвечныя рамантыкі. Направа ад дзвярэй спіць Сёмка. Злева — Пацэй. Ён у нас — кок. Па прамой ад Сёмкі — ложак Валодзі. А побач — мой зямляк Сярожа. Яму хоць з трохсот гармат над вухам палі, не прачнецца. Шчаслівы чалавек! Не спіцца аднаму мне. І чаго не спіцца?

«Так трэба», — сказаў бы Сёмка.

«Яму відней»,— зазначыў бы Пацэй і павёў бы ўбок сваім буйным носам.

Ад Валодзі нічога не пачуў бы. Ён у нас разумны! Нездарма носіць прозвішча — Навумовіч... Сярожа зморшчыў бы нос і расплыўся ва ўсмешцы.

А мяцеліца свішча, лупіць па шыбах, завывае ў бяздонні вадасцёчных труб. А потым прыходзіць раніца. Марудна і цяжка, як бы аднекуль з дэвонскай эры. Прашамацеў тралейбус, гукнуў паравозік на пуцях. У апошніх сонных канвульсіях біўся Пацэй. Пазяхаў Сём-



ка. Прачнуўшыся, на пусты жывот пачынаў чытаць вершыкі Сярожа. У кожнага сваё. Сярожа пайшоў на кухню гатаваць снеданне. А Сёмка засеў за шпаргалкі: на экзаменах, як устанавіла шматвяковае племя студэнтаў, яны маюць магічную сілу. Студэнт (сапраўдны студэнт) без шпаргалкі, што конь без падкоў. Хто-хто, а мы добра засвоілі гэтую вялікую ісціну, хоць, па-праўдзе, мы больш спадзяёмся на свае мазгі... Пасля навагодніх святаў у нас дзяржаўны па нямецкай, а на нашага Сашу (выкладчык ёсць такі) спадзявайся не вельмі — можа і разануць...

— Хлопцы, плітку свіснулі! — Сярожа стаіць на парозе, і яго вялікія шэрыя вочы выпраменьваюць столькі здзіўлення і адчаю. Сёмка адкрывае рот, відаць, хоча сказаць: «А як жа ты, отрак, камуну накорміш? Не духам свентым...»

— А можа ў сталоўку? Га, хлопцы?..— падае думку Сярожа.

Я рагачу.

— Заткніся! — хрыпіць Валодзя і цэліцца ў мяне падушкай.

У сталоўку я не іду. Я — падкамуннік. Узбіраюся на ложак і закручваю ногі, як турэцкі султан. Думаю. На лекцыях сягоння мне няма чаго рабіць, а лішні раз трапляцца на вочы дэкану такой ужо вялікай, каб сказаць, ахвоты не маю.

Над Сярожкавым ложкам карціна: пад сонечным праменнем пунсавее ветразь, а недзе там, за сіняй смугою гарызонта, казачны Ліс. Унізе — верш:

Горад Ліс і ветразі пунсовыя
У цiхiм шэпце сініх хваль.
Вядзі нас, казачнае сонца,
У нашу казачную даль.

Цікава ўсё-ткі, што з Зосяй?..
За вокнамі ціха-ціха падае густы снег.

## ● АПОШНІ ЗАЛІК. КАМУ ХОЧАЦЦА БЫЦЬ ВАР'ЯТАМ! ПЕРАДНАВАГОДНІ НАСТРОЙ. «ЦЯПЕР ПАЖЫВЕ КАМУНА!..» ГУСЬ У МАХОРЦЫ. «САПРАЎДНЫЯ ЛЮДЗІ».

За вокнамі ціха-ціха падае густы снег. Сягоння здадзены апошні залік. Настрой такі, быццам я, а не які там Ньютан адкрыў закон зямнога прыцягнення. Цяпер я — вольная птушка. Куды захачу — туды і палячу. Сілы ў маіх крылах стае. Радасці — ні канца ні краю. Змераць — меры няма такой. Хочацца смяяцца, рагатаць, скакаць. І засмяяўся б, заскакаў бы. Але, дальбог, палічаць яшчэ вар'ятам. А каму хочацца быць такім?

Мароз. На вуліцах — таўкатня. Адчуваецца переднавагодні настрой. Той нясе ёлку, гэты — сетачку. І я таксама нясу. Нясу сваю радасць. Так і хочацца паказаць яе людзям, паказаць усяму гораду.

Я люблю гэтую людскую заклапочанасць, гэтыя вечныя спешкі, трывогі. І калі бывае завельмі цяжка і сумна, я заўсёды іду на гэтую шумную прывакзальную вуліцу. І тады ўвесь поўнішся нечым такім светлым, што знікаюць адразу і роспач, і боль, і трывогі, і крыўды. Застаецца адна радасць.

Люблю блукаць па вуліцах майго горада часам бязмэтна, падоўгу стаяць ля вітрын, лезці туды, дзе горача ад цеснаты.

...Я купіў у захутанай цёткі прыгожанькую зялёную ёлачку, нясу, як найвялікшы скарб, у свой абжыты студэнцкі пакой. Думаю, як бу-

дзем сустракаць наш трэці студэнцкі Новы год, як будуць біць у столь батарэі шампанскага, як запросім нашых каханых за наш круглы навагодні стол.

Хлопцы дома. Сярожа спіць, накрыўшы галаву падушкай. Пацэй нешта чытае, Валодзя і Сёмка рэжуцца ў казла.

— А-а, ваша вялікасць і прасвяшчэнства!—бубніць Валодзя, не адрываючыся ад даміно. Як нешта незвычайнае, шкляное, асцярожна стаўлю ёлачку на падаконнік, усміхаюся, гледзячы на Сярожу: з-пад падушкі відзён адзін толькі нос. На сцяне пунсавее ветразь, сінее мора, і хвалі ціха бягуць да таемнага берага.

Валодзя і Сёмка нечакана ляскаюць адзін аднаго па плячах, дзіка рагочуць.

— Да Людкі на тваім козліку, га?..

— Цяпер пажыве камуна!..

— На тыдзень мяса!..

— Га-га-га!..

— І-і-хі-хі!..

— Дык да Людкі на козліку?.. Сваё таксі!..

— А трасцу не хочаш?— Валодзя суне Сёмку пад нос агромністы кулак і аж лопаецца ад смеху. На сцяне пунсавее ветразь, і хвалі ціха бягуць да таемнага берага...

А яшчэ праз колькі часу мы вырашаем зрабіць напад на рэстаран, той, што на Прывакзальнай.

Я іду па Зосю. Гучна стукаю два разы ў дзверы. Умоўны стук.

— Зосі няма!— крычыць у прачыненыя дзверы Валька і злосна шчоўкае замком.

— Так,— зазначаю сам сабе.

«Так-так»,— адказваюць прыступкі лесвіцы.

На вуліцы хлопцы падскокваюць пеўнямі: мароз моцна лупіць пугаю. У небе сінеюць азяблыя зоры, дробна-дробна дрыжаць.

Вусаты швейцар усміхаецца нам, як старым знаёмым. Гулка цокае надраены паркет. «Пад фікус»,— паказвае вачамі Валодзя. Сёмка адразу ж хапаецца за меню: ён вялікім знаўцем рэстаранных страў лічыцца. Нават Пацэю ён не дазваляе браць у рукі важкі кардон з цісненымі на вокладцы літарамі.

— Пярцовачкі, будзь ласка...— просіць ласкава Пацэй, і маладзенькая афіцыянтачка слухмяна бяжыць у буфет.

— І гуся ў махорцы,— смяецца Сярожа. І ўжо без ценю ўсмешкі: — Піць я не буду, отракі. Не хочацца нешта...

— Нам больш будзе,— зазначае Пацэй, і яго экзатычны грэчаскі нос паварочваецца да афіцыянтачкі.

— Твой нос, гэта як той магніт,— пачынае сур'ёзна Сярожа,— так і цягне на яго дзяўчат, так і цягне.

— О, нос цудоўны ў яго, што і казаць...

— У музей бы яго, як рэліквію...

— Хай бы паламалі свае разумныя лбы вучоныя...

— Глядзі,— раптам шэпча Пацэй і паказвае вачамі за дальні столік,— яна... Вось табе і рэліквія! Вось табе і вучоныя лбы... Цю-цю твая Зося... Дальбог...

Ціха і неяк жаласна іграе музыка, і лоб у гарманіста ў дробных срэбраных кропельках. Уздрыгваюць нечага кандэлябры, і мароз, здаецца, перабраўся з халоднай вуліцы мне за спіну і там водзіць сваёй невыноснаю лапаю.

— Трымайце яго, хлопцы,— чуецца Сярожаў голас,— а то яшчэ ляснецца, не дай бог...



А ў маіх вачах лётаюць столікі, і афіцыянтка здаецца мне лёгкай і нямой. Каўбаса не хоча ўпарта пралазіць у горла, упіраецца, становіцца ўпоперак. Мая рука ў каторы раз цягнецца па піва, і хітры Пацэй адстаўляе бутэльку ўбок. Я ўстаю і накіроўваюся туды, дзе Зося і трое незнаёмых. Зося, мусіць, заўважыла мяне, бо раптам смех абрываецца, і трое незнаёмцаў няўцямна глядзяць на мяне.

— Хлопчыкі, гэта Віцька. Я гаварыла пра яго...— Зося ўстае насустрач, падае руку. У яе вачах трывога і яшчэ нешта. З-за століка цяжка ўзнімаецца хлопец, і яго вочы насцярожана і неяк насмешліва глядзяць на мяне.

— Арнольд,— раптам падае ён руку.— Гэта — мая світа...

«Світа» ўсміхаецца і ківае галовамі.

— Штрафную яму,— загадвае Арнольд і загадкава ўсміхаецца.

Нехта налівае поўную шклянку, падносіць мне. Рука павісае ў паветры, трымціць, і на столік праліваецца густое віно.

— Ну, чаго там?— Арнольд узнімае чарку. — Гэ, дык ён ужо... таго...— і шчоўкае пальцамі па горле, усміхаецца. Нядобра і нібыта здзіўлена.

— Зося,— ціха кажу я,— дык гэта яны, сапраўдныя, пра каго ты мне гаварыла?

Яны, мусіць, зразумелі.

— А-а, рамантык...— цягне Арнольд.— Цікава! Хлопцы, дык гэта ж перад намі рэдкі экземпляр, адзін з рэдкіх выкапняў,— і пакруціў пальцам ля скроні, засмяяўся голасна, на ўвесь рэстаран.

— Цішэй ты,— азваўся адзін са «світы», што дагэтуль маўчаў.

— Зося, мне трэба сказаць табе,—я гавару, здаецца, спакойным голасам.

— Я на хвіліначку... Толькі на хвіліначку...— Зося памкнулася пайсці, ды сумелася пад Арнольдавым позіркам.

— Я магу з ім пагаварыць.

Я нечакана заўважаю, што за намі пачынаюць назіраць з цікавасцю.

— А ну іх, не чапай усялякую...— Сёмка падае мне знакі.

Я іду ад іх.

Зося праводзіць мяне доўгім, трывожным позіркам.

— Мы яшчэ сустрэнемся,— абяцае Пацэй і падміргвае маладзенькай афіцыянтачцы.

## ● СТРАШНАЯ КАРА. ЗАПЛЕСНЕЛЫЯ МАЗГІ. ТЫ ПАЧАКАЕШ НАС...

«Мы яшчэ сустрэнемся, не можа такога быць...» З самае раніцы ў мяне дрэнны настрой. Ледзьве прыйшоў на заняткі. Ды якія там заняткі! Ганна Пятроўна чытае класічную літаратуру. Я заўсёды чамусьці ўпэўнены, што яе ніхто не слухае, нават больш чым упэўнены. Вунь уткнуўся носам у паперу Сёмка — абмазгоўвае нешта. Ага, піша вершы. Ён іх толькі на лекцыях і піша.

Ганна Пятроўна гаворыць надта пісклява і цягуча, у дадатак не можа вымаўляць «л». Прыкладна, у яе вуснах гэта гучыць так: «Герцэн быв вевиким мысвитевем своего времени». І гэтак далей. Мне думаецца, калі б усе так чыталі свае лекцыі, дык літаратуру (усю наогул) узненавідзелі б, адкінулі б ад сябе, як нешта чужое, непатрэбнае. Не дай бог, канешне.

Пад самы нос мне плюхаецца скручаная паперка. Што ў ёй? Асцярожна разгортваю, чытаю дробна напісаныя словы:

«Змей, отрак наш, вялікамучанік! Ды збудуцца ўсе твае спадзяванні, ды згіне д'яблава семя на гэтай грэшнай зямлі! Мы, твае ангелы-целахраніцелі, далучаем свой голас пратэсту да голасу твайго мужнага сэрца. І таго, хто прарочыў нам месца ў баркезе, чакае страшная кара: будзем выцягваць скора зубы з яго першабытных сківіц. Неба з намі. Дзікі».

Унізе намалёвана спляжаная галава і здзічэлыя ад болю вочы. А побач валяюцца патрушчаныя зубы... Так, страшэнную кару прыдумалі мае хлопцы. Такога, мусіць, не бачыў свет і не пабачыць. Бедны Арнольд!..

Валодзя таямніча ўсміхаецца, а Сяржа заткнуў рот кулаком, каб не разрагатацца на ўсю аўдыторыю. Я нешта шапчу яму. Шапчу, відаць, завельмі моцна, бо ўсе азіраюцца на мяне. Голас Ганны Пятроўны, як з падзямелля: «Товарищи, ведь невьзя векцию читать, скажите, чтоб не мешав...»

Ага, гэта яна мне.

І чаму я так не люблю яе лекцый? Звініць званок, і студэнты шумна вывальваюцца з дзвярэй у калідор.

— Страшную кару прыдумалі вы, отракі, страшную, але... але ў мяне няма чамусьці ахвоты рукі свае пэцкаць.

Пацэй маўчыць і дзіка варочае ў бакі вачамі, аж страшна робіцца.

— О, як міла, як эстэтна!— усклікае Сёмка і ўзнімае ўгору складзеныя далоні.— Толькі ж мне думаецца, што твае грэшныя косьці даўно сталі б кучай ламачча, калі б...

— «И никто не узнает, где могила твоя...»—зацягвае Сяржа і рагоча.

— Будзем біць!— крычыць Пацэй.— Ён яшчэ паплаціцца...

Мне не падабаецца гэтая размова, я не хачу ўспамінаць ні пра Зосю, ні пра гэтага д'ябльскага Арнольда з яго світай. Хаця, і праўда, не шкодзіла б яго трохі паняньчыць. «Не, мы яшчэ сустрэнемся,— цвёрда гавару сабе.— Мы яшчэ сустрэнемся».

З заняткаў ідзём усе разам. Гэта значыць: Сёмка, Сяржа, Валодзя, Пацэй і я. Ідзём праспектам, мінаючы скверык Купалы, над ім асыпаецца з неба іней. Снег не ідзе, на вуліцы хоць і марозна, але прыемна. Насустрач з-за вугла выскачылі дзве прыгожанькія, пунсовыя ад марозу, дзяўчынкі. Выскачылі неспадзявана для нас і для саміх сябе. Адна дык аж уваткнулася ў грудзі Пацэю. І шанціць жа чалавеку! Пацэй ад вялікага задавальнення смяецца і яшчэ мацней туліць напалоханую і здзіўленую дзяўчынку. Адбегліся, засмяяліся, памахалі чырвонымі рукавічкамі.

— Глядзі, як узрадаваўся! — крычыць адна.— Аж аблізваецца...

Сяржа з нейкай задуменнасцю глядзіць ім услед:

— Харошанькія... А мая недзе далёка... Чакае, калі прыеду... Трэба калі-небудзь з'ездзіць...

...Плітку мы здабылі такім жа макарам, як і той таямнічы «нехта». Але бяда адна не ходзіць, яна водзіць за сабой другую: на гэты раз знікла з кухні патэльня. За адну хвіліну! Сяржа ходзіць як паралізаваны: камуну ж трэба як-небудзь карміць...

У маіх руках падручнік нямецкай мовы. Усё, што ў ім напісана, трэба ведаць назубок. Экзамен жа — вось-вось. Не будзеш ведаць — стыпендыя плакаць будзе. А Саша крычыць: «Не дапушчу!»

Да экзамена, значыцца...



«Вашы мазгі,— з'едліва пасміхаецца ён,— даўно зацягнула плесняю. Іх трэба шкрэбсці, драіць, як тую мядзяшку на караблі».

Вось з гэтым і я згодзен: што трэба, то трэба. І я б з ахвотаю ўзяўся за такую карысную справу, каб ведаў, як да яе падступіцца.

Заўтра — Новы год. Бог з ёю, з гэтай нямецкай! Ты пачакаеш нас, цудоўная з цудоўных? Праўда?

## ● НОВЫ ГОД. ШТО ТАКОЕ ЛІС? «ТЫ ДУРАНЬ»,— ГАВОРЫЦЬ ПАЦЭЙ. У МЯНЕ ЎЗНІКАЕ ПАДАЗРЭННЕ.

Ты пачакаеш нас, цудоўная з цудоўных? Праўда? Не крыўдуй на нас, грэшных, бо сягоння ў нас свята. Новы год.

Увесь дзень да самага вечара настылае і, здавалася, радаснае сонца вісела ў небе, і добры, нязлосны мароз вымалёўваў на шыбах казачныя кветкі, нейкія трапічныя папараці, нацягваў між дрэў блакітныя ліяны. І снягі здаваліся нейкімі пяшчотнымі, як з казкі. І сонца ўсё ніжэй і ніжэй кацілася за небакрай, пакідаючы за сабою трывожна-трапяткія цені. Было ціха і ўтульна на вуліцах горада. Каціліся тралейбусы, і снег на асфальце хрумсцеў настылым яблыкам, і ярка гарэлі на заінелых галінах дрэў снегіры. А потым паціху пачаў падаць снег, вялікі і буйны, нібыта само неба хацела як найхутчэй пакрыць зямлю святочным абрусам. Спускаліся прыцемкі, і горад запальваў агні, апошнія агні ў гэтым годзе. А снег усё падаў і падаў, і была цішыня на вуліцах і ў скверах. Як ніколі, ярка палалі рэкламы; як ніколі, святочна і казачна было ў інтэрнаце. Вясёлы народ — студэнты. А сёння яшчэ больш прыбавілася клопату, зіхатлівасці ў вачах і ўзбуджанасці. Водсветы святой радасці будуць гуляць у поўных навагодніх кілішках. Сягоння трэба забыць на ўсе няўдачы і трывогі, каб прыйсці ў новы год чыстым і радасным, і каб заўтра пачалося для цябе Сонцам і новымі трывогамі, трывогамі за шчасце людзей на ўсёй планеце, за самае пяшчотнае і вернае на зямлі каханне.

Мы за святочным сталом. Вера глядзіць на мяне сваімі трывожна-радаснымі вачамі і чагосьці ўсміхаецца. Я ведаю, што яна кахае нашага Пацэя, і гэтае каханне прыносіць ёй радасны і дрыготкі боль. Пацэй для яе — нешта вялікае і гордае, нават міфічнае, як гаворыць Сяржа. Вера яшчэ зусім маладзенькая, і гэтае каханне, пэўна, самае першае ў яе. А першае каханне, кажуць, жыве гадамі, і яго нельга забыць.

За вокнамі зноў стала чыста: снег ужо не ідзе.

Наш стол круглы. На сярэдзіне стала — нібы з казкі — прынесеная мною ёлачка, радасная і святочная. Побач ганарліва высяцца бутэлькі шампанскага. Вера ўмела накрывае на стол. У пакоі здорава пахне вясковай каўбасой — дзякуй нашым бацькам. Пацэй, як той кот, усё круціцца вакол Верачкі і нешта шэпча-мурлыча на вушка.

«А, ведаю я іх,— адмахваецца Вера.— Не псуй хоць сёння настрою Віктару. Бачыш, які ён...» Пацэй змаўкае, толькі яго вочы гараць і на языку, відаць, круцяцца нейкія словы.

Я не хачу нічога слухаць. Як мне надакучыла ўсё гэта!

Ціха гаворыць радыё, і на сцяне пунсавее ветразь.

За вокнамі свеціцца, жыве горад апошнімі хвілінамі старога года. На вуліцы цішыня, толькі зрэдку прашархоча таксі: спяшае паспець запознены пасажыр за навагодні стол.

...Бом!.. Бом!.. Бом!..

І — цішыня...
Бом!.. Бом!.. Бом-м-м!..
«За Сонца, за светлае Сонца!..»
«За шчасце на Зямлі!..»
«За верасень!..»
«За пунсовыя ветразі!..»
За вокнамі цішыня, і далёкія зоры глядзяцца ў нашы вокны. Нас — толькі сямёра за круглым сталом...

Сярожа адкінуўся на спінку стула і задуменна глядзіць у столь. Я ведаю, пра што ён думае. Недзе за далёкімі пушыстымі снягамі яго Галя, яго радасць і надзея...

— Хлопчыкі, а што такое Ліс?

Вера глядзіць на нас, і ў яе цёмных зрэнках трапечацца вялікая цікаўнасць. Яна чакае. Мы пераглядваемся між сабою, усміхаемся...

— Ой, як здорава! Як гэта здорава!..— Вера гучна пляскае ў далоні, па-дзіцячы падскоквае і радасна смяецца, нібы яна вынайшла нешта цікавае-цікавае, чаго яшчэ не бачылі вякі.— Гэта ж падумаць! Сіняе-сіняе мора, і на грэбнях ранішніх хваль пунсовы ветразь... Здорава!.. А мне можна з вамі?..

Верчыны вусны сцiснуліся ў чаканні, а ў вачах — трывога і спадзяванне.

— Падумаем...— сур'ёзна гаворыць Пацэй.— Падумаем. Тут не трэба спешкі...

— «Падумаем...» — пакрыўджана крывіць прыгожыя вусны Вера.— «Падумаем...»

— Прымеш прысягу,— смяецца Сярожа,— мы прымем узносы, і...

— І будзеш вар'ятам, і будзеш, як і мы, несапраўдным чалавекам,— сур'ёзна кажу я.

Сёмка разглядае бурштыннае віно, нечаму свайму ўсміхаецца.

Люда, гордая і спаважная, сядзіць ля Валодзі, не ўмешваецца ў гутарку. Увесь яе выгляд гаворыць: «Са мною Вовік, і мне нічога не трэба, ні Лісаў, ні вашых ветразяў...»

Ці не таму так усміхаецца Сёмка? Скора, вельмі скора Валодзя ажэніцца з ёю, а сягоння, у гэты навагодні вечар, яго вочы свецяцца агнямі неадкрытых планет, далёкімі агнямі маякоў. Ён маўчыць, але нам зразумела, што робіцца ў ягоным сэрцы... Ён жа — з неспакойнага племя рамантыкаў...

...Мы з Пацэем выходзім на пустынную вуліцу. Гарацъ-іскрацца вокны інтэрната, адтуль разлятаюцца песні і дзікі рогат. Новы год. І куды нас чэрці гоняць! Я прашу Пацэя зайсці да Зосі, але ён упіраецца.

— Ты — дурань,— гаворыць ён.— Яна круціцца там з нейкім, а ты, як... падхвоснік які. Дзе ж твая мужчынская гордасць? Ты як сабе хочаш, а я з Верачкай пайду...

## ● «ЛІШНІ БІЛЕЦІК». ДЫК ГЭТА ТЫ—СУЭМА? КАЛЕЙДАСКОП «ГУЛЬНЯ ЛЕСУ».

У гэтую ноч адзін за другім ішлі неспакойныя сны. Нібы тыя птушкі, яны садзіліся на маю скамечаную падушку і шапталі-нашэптвалі нешта сваё, незразумелае і трывожнае. Што гэта былі за сны — я не мог потым даўмецца, не мог прыпомніць.

А ўранку дзіка балела галава, калацiла, нібы ў ліхаманцы. Не хапала яшчэ хваробы на маю галаву! Хлопцы кажуць, што не шкодзіла б пахмяліцца. Можа яно і праўда... Але ж хітры Пацэй учора не пакінуў і кроплі — усё выжлукціў.

На вуліцы ішоў дробны сняжок, і ў паветры стаяла прыемная марознасць. Была цішыня, і дрэвы наструнена слухалі гэтую цішыню. Горад задуменны і сцішаны, аж нязвычна ў вушах. Прызвычаіўся я да вечнага звону трамваяў, да шамацення тралейбусаў, да неспакойных чалавечых галасоў. А сягоння на праспекце — шаром пакаці, як вымецена.

Аднекуль прыцягнула ці то дыму, ці то туману. Аднекуль адтуль, ад старога сасновага парку, дзе ўлетку такая прахалода, як у сапраўдным лесе. Толькі ж сосны ў парку дужа нейкія ўчарнелыя і самотныя. Мне заўсёды шкада іх, калі я прыходжу туды. Я б з ахвотаю пайшоў бы сягоння ў парк, пабыў бы адзін-наадзін з соснамі, толькі ж нешта падказвала, шаптала, што сягоння павінна адбыцца штосьці незвычайнае, цікавае.

Шастаў голлем дрэў вецер, асыпаў снег на валасы, на паліто. Прарэзалася недзе праз хмару сонца і цікаўна пазірала на Зямлю: што там дзеецца? І зноў схавалася, бо наўкруг была чысціня і парадак. Тэлевышка плыла ў хмарах, і над ракою, над скверыкам пагойдваўся попельна-шэры не то дым, не то туман.

На душы крыху лягчэла: мусіць ад таго, што зноў ажывалі вуліцы, шамацелі тралейбусы — было жыццё і клапатлівасць.

Сягоння ў оперным — прэм'ера. Як ні стараліся мы дастаць білеты яшчэ раней, усё ж не дасталі, хоць ішлі на розныя хітрыкі: старых, нафарбаваных касірак нельга было ўзяць ласкавым галасочкам.

У нас заставалася надзея на Верачку. Яна абяцала дастаць білеты: яе шаноўны брацік быў знаёмы з оперным начальствам. Пацэй хітра пасміхаўся — у яго былі шансы. А нам што? Праўда, Пацэй абяцаў правесці нас, прыкрыць, калі што, спіною. Ды не такая ж ужо шырокая Пацаева спіна...

Верачка прынесла білеты...

Я заставаўся адзін — мне не было з кім ісці. Ат, ісці дык ісці! Няўжо ж адставаць мне? Не, нізашто. І білета нікому не прадам, хоць ахвочых аж занадта на адно месца. Не вялікая бяда. Праўда?

Хлопцам да мяне ніякай справы: яны заняты касцюмамі і кашулямі. Сёмка дык аж перастараўся: падсмаліў крышку свой новы гальштук. А Пацэй выліў на сябе ледзь не цэлую пляшку адэкалону: аж дых сцінае.

— Глядзі, а то задыхнецца твая...— жартуе Сярожа.

Пацэй толькі круціць носам і паблажліва ўсміхаецца: «Што вы,— маўляў,— разумееце ў рэактыўных самалётах...»

Я не чакаю хлопцаў, выходжу адзін. Наставіўшы каўнер паліто, іду вуліцаю. Уперадзе — парачка. Хлопец у агромністай шапцы. Яна — гордая, высокая. Ногі на шпільках вось-вось, здаецца, павыкручваюцца. Ажно неяк і шкада, і боязна...

У скверыку — цішыня і насцярожанасць. Снег курыўся з галінак, асыпаўся на сцежку. Тут быў іншы, казачны, заснежаны, свет. Галіны ялін захуталіся ў снег і таму выдавалі падушкамі. Я ішоў заснежаным светам, дзе ўсё — да кожнай ахутанай іголачкі на яліне — кранаюча казачна і светла напоўнена сонцам і цеплынёй. У глыбіні скверыка глуха і таму яшчэ прыгажэй. Тут — як у нейкім другім царстве. Заснежаныя, засыпаныя лавачкі — як мядзведзі, лагодныя, вуркатлівыя.

Я ўздрыгнуў ад нечаканасці: такім неверагодным і незямным здаўся нечы сцішаны галасок у гэтай казачнасці.

— Прабачце,— зноў азваўся незямны галасок,— у вас... няма лішняга білеціка?..

Заснежаныя, казачныя яліны. Ледзяное сонца над імі. Яна стаіць нерухома, і яе доўгія веі ўздрыгваюць, калі іх кранаюцца сняжынкі.

— Чакайце,— сказаў я амаль шэптам,— хто вы?

Пад яе боцікамі парыпваў снег.

— А што?

— Баіцёся сказаць? Тады я скажу, хто вы. Бачыце гэтыя казачныя дрэвы? Гэта — казачная краіна, і ў ёй мы — людзі незямныя, з казкі. І вы — таксама...

— З казкі?..

Яе вецi зноў уздрыгваюць, і ў вялікіх сініх вачах адбіваецца заснежаны свет.

— І завуць вас...

— Суэма,— падказвае дзяўчына з казкі, і яе шчокі пунсавеюць.

Недзе звонка пахрумствае снег пад нагамі, над дрэвамі гуляюць сняжынкі, асядаюць на веі, на пасмачку заінелых валасоў, што выбілася з-пад шапачкі. Я стаю і гляджу на яе, на дзяўчыну з казкі, і мне здаецца, што я недзе ўжо бачыў яе, што яна ўсміхалася і вось гэтак жа пунсавелі яе шчокі. А над намі стаяць яліны, усе ў снезе, такім добрым і пяшчотным, і мне не хочацца нікуды ісці, і што стаяў бы, здаецца, так цэлую вечнасць, глядзеў бы на яе, дыхаў бы ёю, жыў бы ёю.

— Ёсць лішні білецік,— ледзь чутна кажу і не зводжу вачэй з яе, што назвалася Суэмай, што і сапраўды прыйшла да мяне з нейкага іншага свету.

— Я не пайду з вамі, калі вы так будзеце глядзець на мяне. Што з вамі?..

— Нічога,— выдыхнуў я.— Проста вы з казкі, і мне хораша глядзець на вас.

— Вы ўсё гэта прыдумалі,— ціха сказала яна, і голас яе неяк уздрыгнуў.— Вы проста фантазёр... ці... паэт.

Мы стаялі на глухой сцяжынцы сярод аснежаных ялін, і я дзякаваў у думках сваёй адзіноце, што прывяла мяне сюды, у гэты сіні край з аснежанымі ялінамі, з лавачкамі, падобнымі на лагодных вуркатлівых мядзведзяў. І мне было сорамна, што ў мяне такое звычайнае імя, што я сам пудзіла побач з гэтай дзяўчынай, у якой такая незвычайная ўсмешка...

Пад нагамі рыпеў снег, і на сініх дрэвах, дзе не было снегу, ярка-ярка гарэлі снегіры.

— А вы мяне пакрыўдзіце? — наіўна-радасна пытаецца яна і ўсміхаецца.

— Абавязкова,— сур'ёзна гавару я.— Горш таго — з'ем. Вось так: р-раз! — і няма, няма на зямлі дзяўчыны з казкі. І будзе нехта ламаць свае пальцы ў адчаі і ліць-праліваць горкія слёзы...

— Як Яраслаўна,— Суэма смяецца, і на яе вуснах таюць лёгенькія сняжынкі.

О, стаць бы мне сняжынкай, крануцца б вуснаў яе...

— А чаму ў вас лішні білет? — раптам пытаецца яна і глядзіць мне ў вочы.

Што сказаць ёй?..

— А я ведаў, што вы прыйдзеце. Мне мой бог падказаў,— і я паказаў на сваё сэрца, што шалёна білася ў грудзях.



— Не веру вам. Не веру...— амаль шэпча Суэма, і на яе паліто садзяцца сняжынкі, нібы смяюцца з мяне.

... Мы праходзім у партэр, знаходзім свае месца. Суэма ідзе крыху збоку, нібы баючыся мяне, асцерагаючыся. На нас чамусьці ўсе азіраюцца, глядзяць з нейкімі таямнічымі ўсмешкамі. Суэму палохаюць гэтыя цікаўныя позіркі. Я бяру яе цёплую руку ў сваю, і так мы ідзём аж уніз, амаль да самай сцэны. І яна не адбірае рукі, толькі яе цёплыя пальцы ціхенька вось гэтак уздрыгваюць.

Пацэй сядзіць побач, і яго хітрыя вочы здзіўлена мружацца. «Вось дык Віцька!..» — напэўна, думае ён, трымаючыся за руку сваёй Верачкі.

Эх, калі б ты што кумекаў, Пацэй!.. Суэма ў захапленні, яна не можа вымавіць ні слова, толькі яе блакітныя-блакітныя вочы гараць незямнымі агнямі, гараць, пераліваюцца, клічуць.

— У мяне дома адна толькі мамка,— гаворыць яна, калі мы пасля ідзём вячэрнім горадам.

— Вернемся ў нашу казку, Суэма,— прашу я.— Там хораша гэтак...

— Мне дадому трэба,— ціха гаворыць яна.— У мяне мамка хворая. І як толькі мне не сорамна?.. Ох, і біць цябе трэба, Суэмачка,— уздыхае і гэтак глядзіць на мяне, што хоць ты вазьмі пад самы Месяц падскоч ад радасці.

Па рэйках з грукатам і звонам бягуць трамваі, выкрасаючы іскры з дуг, следам за трамваямі бегла-мчалася ноч. Горад паціху засынаў. Зорак на небе ўсё больш: адчувалася ўскраіна.

Вуліцы. Гром абцасікаў. І зялёныя вочы далёкіх зор.

— Я ж зусім-зусім не ведаю вас,— сказала Суэма.— Я не ведаю нават, як вас завуць...

— Вы добрая,— чамусьці сказаў я.— Мне хораша з вамі...

— Зноў прыдумляеце,— засмяялася яна.— Ну, што мне рабіць з вамі, такім?..

Горад спаў моцным сном. Я не думаў, што мне трэба ісці скрозь ноч некуды дамоў.

— Я не чула, каб так гаварылі пра мяне. І я цяпер ведаю, хто вы. Вы — паэт. Праўда ж?

У пад'ездзе было гулка і шорахна. Блізка перад сваім тварам я пабачыў пасмачку яе валасоў, пачуў яе дыханне. Праз адчыненыя дзверы ўрываўся водсвет вулічнага ліхтара, ён быў ціхі і спакойны. Я нахіліўся і пацалаваў яе скронь. Скронь была цёплая і пяшчотная, пахла нечым блізкім, пахла сонцам і мятай, далёкімі летнімі лугамі, настоенымі на туманах.

Суэма адхіснулася і ціха-ціхенька засмяялася.

Потым доўга-доўга цокалі абцасікі па сходках, покуль зусім не сціхлі ў цемры, покуль не стала ціха ў пралётах.

*

У апошнія дні я ні разу не адкрыў граматыкі, не прачытаў ніводнага правіла. Мае хлопцы зубраць і скардзяцца, што вар'яцеюць. Я думаю: за цэлы семестр ні разу не адкрыўшы кнігі — многа не ўхопіш! Пацэй перавязаў сваю буйную «галаваньку» мокрым ручніком і ўпарта бубніць сабе пад нос, мераючы ўздоўж і ўпоперак даўно ўжо вымераны не адным пакаленнем студэнцкі пакой. Сёмка выдумаў нейкі калейдаскоп «Гульня лёсу». І кожны з нас на асобным аркушы паперы паставіў адзін другому адзнаку. Каб ніхто не

ведаў. А заўтра будзе вядома... Ужо даўно спіць інтэрнат, і толькі ў нашым пакоі, мусіць, гарыць святло. «Отракі» не спяць, «отракі» ўпарта штурмуюць непрыступную крэпасць. Стомлены, я засынаю пад мернае мурлыканне Пацэевага голасу.

... Нібы агромністы раз'ятраны вулей гудзела аўдыторыя. Потым стала ціха: з'явілася камісія на чале з Сашам. Шасцёра засталіся ў аўдыторыі, астатнія выкаціліся ў калідор мучыцца і грызці ні ў чым не вінаватыя алоўкі і нафарбаваныя пазногці. У Пацэя чырвоныя, нібы ў чараўніка, вочы. Сінія кругі, нібы выратавальныя абручы, пад вачамі. Хвалюецца Пацэй, зноў мерае сажнямі калідор. Марудна цягнуцца хвіліны.

— Ой, дзевачкі,— крычыць Марыйка, звяртаючыся да нас,— ледзь-ледзь не ўтапіў, ідал няшчасны! Так адказвала, так адказвала, а ён — на табе! — тройку ўляпіў, каб яму па галаве ўляпілі!..

— Маліся богу, Марыечка, што хоць «вудачку» паставіў. А я дык нічогачкі не ведаю: усё вылецела.

Гэта трасецца асінавым лісцікам Лідка Суханава. Яна вечна так гаворыць, што «нічогачкі» не ведае, а сама на пяцёркі здае. Такой ужо натуры чалавек.

— Отракі, у ногі мне, у ногі! — зароў Сярожа, ледзь паспеўшы зачыніць за сабою дзверы.— Чацвёрка!..

Пацэй ушчаміў нос у кніжку — імкнецца яшчэ ўсё нешта вылавіць...

А ўвечары глядзелі калейдаскоп. Дзіўна: усе чамусьці паставілі мне двойку. А я... а я адхапіў таксама «чацвёрку». І сапраўды — дзіўна. У грудзях варухнулася крыўда. Першая крыўда на сваіх сяброў.

## ● ДЗЕ ПАДЗЕЛІСЯ КАНСПЕКТЫ? ЛІРЫЧНЫЯ АДСТУПЛЕННІ. «ТРЭБА ДОМА БЫВАЦЬ ЧАСЦЕЙ...»

«О, ветразь, ветразь, пакуты далёкіх гор, папяросны дым у адчаі маіх начэй...» — Сярожа ў адных трусах і майцы сядзіць на ложку, трымае ў руках часопіс і сумнавата-радасна чытае, паціху гартаючы старонкі.

— А што, няблага,— раптам паднімае ён галаву.— Зусім няблага. Га, хлопцы? «Папяросны дым у адчаі маіх начэй»!!

— Блюзнерства,— гаворыць Сёмка.— Блюзнерства і яшчэ нешта. Гульня ў пачуцці, у словы...

Я не слухаю іх. Дзе падзеўся мой канспект? Быццам праглынуў хто. Перакапаны кнігі ў тумбачках, у шафах. А заўтра практычныя. Што рабіць?

— Пацэй,— крычу я,— ты канспект мой не браў?

Пацэй здзіўлена паднімае ад падушкі галаву, наводзіць, як пісталет, на мяне свой буйны нос.

— Былі яны ў цябе,— хрыпіць Пацэй,— як у сабакі хата...

— Быдла ты,— ціха, разважна кажа Сярожа.— Што ты разумееш у паэзіі? Табе барану падай, калёсы — дык у іх ты яшчэ разбярэшся, пэўна.

— Як сабе хочаш, а вершыкі слабыя. Можна сказаць, што іх няма. Цэцярук ты, абэлтух... Перыйкі ўсё гэта, бязважкасць, а вершаў няма. Для паэта ганебна пісаць пасрэдныя вершы. Тым больш — калі яны прысвячаюцца каханай...



— Правільна. У цябе, калі не здраджвае памяць, ёсць верш пра барану. Ён жа ў цябе прысвечаны тваёй каханай, ці не так?

Гэта ўсё пра мяне. Гэта мае апошнія вершы пляжыць Сёмка. Ён сам піша і друкуецца ўжо ў тоўстых часопісах. Ох, і не любіць жа, калі хто крытыкуе яго!

— Апамятайся, мілы,— ціха гаворыць ён,— паспі лепш, а потым будзеш даводзіць...

Праз нейкі час канспект знайшоўся. І трэба ж такое: зрабіў нехта з майго канспекта падставачку пад патэльню! Ці не Пацэй толькі зрабіў гэта, бо ляжыць і вейкамі плюскае, нібыта спіць? Столькі часу дарма спляжана!

— Не скуголь,— ветліва кажа да мяне Валодзя, махаючы перад сабой кулаччом.— Давай во баксанём. Не хочаш? Ну, то я з Сёмкам тады...

Сёмка здзіўлена паднімае акуляры на лоб і катэгарычна махае галавой.

— Няма дурных,— кажа ён.— Тваімі кулакамі толькі шалёных быкоў біць. Я чуў, на мясакамбінаце рабочыя патрэбны, дык ты туды, га?

— Ладна, ладна,— агрызаецца Валодзя,— вучыся, мо калі і будзе чалавек з цябе, а зараз — так, трын-трава, не болей.

Усміхаецца, адыходзіць да акна, адкідвае фіранкі. За акном гойдаюцца марозныя галіны аснежаных ліп, і скрозь іх прасвечваецца халоднае сонца, падаюць у шыбы рэдкія промні, адбіваюцца на сцяне. Абапёршыся на падаконнік, Валодзя глядзіць на перадвячэрнюю вулічную мітусню, на нізкае чырвонае сонца, што вісіць недзе над стадыёнам, і нешта ўпарта думае, закусіўшы вусны. У пакоі цішыня, тая цішыня, якая дужа рэдка бывае ў студэнцкіх інтэрнатах... Сёмка піша курсавую. А я — чытаю толькі што атрыманае пісьмо з дому. Бацька піша, што я «зусім-зусім забыў на бацькоўскі дом» і на старых, што «дажываюць веку». У гэты міг я зноў ішоў па Шклянскіх аселіцах і валатоўках, па прыпыленых бальшаках, сядзеў за цёплым сталом поруч з маці і братам Лёнькам, трымаў у руках поўны граненый келіх, што бацька некалі яшчэ прывёз з Германіі. А недзе глуха і трывожна шумеў бор — якраз як у дзяцінстве...

Даўно я не быў дома, даўно. Не, усё-такі «трэба дома бываць часцей». А мы ж вельмі часта забываем і пра дом, і пра маці, што дала жыццё нам, выправіла ў дарогу, забываем, не хочам помніць пра тое, як яна доўга стаяла на калючым асеннім бальшаку, адзінокая і згорбленая, і як сустракала потым ля веснічак з усмешкаю і слязьмі радасці на запалых вачах. Позна мы ўспамінаем пра гэта. Мамы, яны ўсё нам даруюць: і крыўды, і горыч. Толькі ж мы не даруем гэтага сабе потым.

Не, трэба ўсё-такі мець нейкае сумленне, хоць і невялічкае.

— Хлопцы,— задуменна гаворыць Валодзя,— а я так даўно дома не быў.. Так даўно... І бульбы сваёй даўно не еў. Бачу, як мама высыпае на чысценькі настольнік гарачую, развараную бульбу, стаўляе на стол міску кіслага малака... Сапраўдны рай! А мы, мы, як нейкія адшчапенцы, выракліся дому, матчынага гнязда, ластаўчынага гнязда...

Дзіўна, і ён, Валодзя, думаў якраз пра тое, што і я, быў у думках там, дзе і я.

Так, «трэба дома бываць часцей». Адзін Сёмка маўчыць, чытае, паблісквае акулярамі.

Яму няма куды ехаць...

## ● НЕ МАГУ ДАЎМЕЦЦА. ЗНОЎ ЗОСЯ. ЯК НЯДОБРА ЎСЁ АТРЫМАЛАСЯ!

Вера Айвараўна ляжала ў пасцелі на гары падушак. Ёй ужо стала крыху лягчэй, і вочы зноў заіскрыліся пад цяжкай навіссю вей, шчокі запунсавеліся, уваскрэсла ўсмешка. Суэма была вельмі падобная да маці. Такія ж вочы, і такая ўсмешка, і голас амаль той жа. Толькі ў Веры Айвараўны горкія складкі збягаюцца раўчукамі да куточкаў вуснаў, ды скроні зусім-зусім сівыя, ды вочы глыбока запалі за надброўі, закаціліся, як за небасхіл.

Суэма нешта гатавала на пліце, уся такая дамашняя і цёплая, у кароценькім халаціку, і я, залюбаваўшыся ёю, зусім забыўся, што ўжо вечар і мне час дадому. І ўсё ж трэба было ісці.

— Куды ты,— занепакоілася Суэма,— так рана? Ну, хоць трошкі яшчэ пабудзь у нас... Мамка, ну, скажыце яму, гэтаму ўпартаму...

Суэма глядзела на маці.

— А і праўда, сынок, пабудзь яшчэ ў нас,— Вера Айвараўна паднялася на падушках, і яе вочы свяціліся дабрынёй і ласкаю. Мне захацелася падысці да яе, пацалаваць гэтыя добрыя сівыя скроні, гэтыя стомленыя вочы. Мне вельмі хацелася астацца тут, быць з імі, такімі добрымі і адзінокімі, быць з Суэмай, глядзець на яе, любавацца ёю, задыхацца ад невымоўнага шчасця, тануць у азёрах яе блакітных-блакітных вачэй. Яна была для мяне далёкаю і таямнічаю планетай, да якой, здавалася, я ніколі не магу даляцець. І тады мне рабілася страшна.

— Што з табой, Віця? — цёплыя пальцы яе кранулісь маёй шчакі, і я ўздрыгнуў.

— Так... Я баюся страціць цябе,— прашаптаў я.— Але мне... трэба ісці...

...Цяпер я не магу даўмецца, не магу і сам зразумець, што тады нахлынула, найшло на мяне, прымусіла пайсці праз ноч ад яе, ад добрай Веры Айвараўны. Праз увесь аснежаны, прамерзлы наскрозь горад. Па настылых трамвайных рэйках.

І праўда, чаго я пайшоў? Мне чуецца глухі стук дзвярэй, чуецца гром настылых прыступак...

Я ляжу на ложку з перавязанай галавой, і ў вачах — кругі, кругі, кругі. Ные цела, і чамусьці холадна, хоць я старанна ўхутаны коўдрамі. У пакоі нікога няма — хлопцы недзе на лекцыях. На вуліцы мароз, сонца пальцамі-промнямі абмацвае сцены пакоя, спыняецца на пунсовым ветразі.

Потым прыходзяць хлопцы, і Сёмка смяецца, імкнецца жартаваць.

«Добра, што не ведае Суэма»,— думаю я, успамінаючы ўчарашні вечар. І мне робіцца жудасна, калі я прыгадваю той страшны ўдар па галаве. І як я толькі богу душу не аддаў!

Як усё гэта атрымалася? Мне цяжка цяпер думаць, бо вельмі баліць галава. Памятаю адно, як я ішоў следам за імі цесным завулачкам. Быў мароз, і ў небе зелянелі ад холаду зоры. Была цішыня, і ў ёй гулка аддаваліся крокі, нібы ў доўгім калідоры. Мне было цікава, аб чым жа могуць гаварыць яны, такія, здавалася, розныя і чужыя адно аднаму. Яна трымала яго пад руку і ўсё нешта гаварыла-шчабятала. Не, напэўна, мне было ўсё роўна, з кім яна і дзе ходзіць. Мне толькі, мусіць, было шкада яе, даверлівую і дурную, нібы ёй было гадоў шаснаццаць. Потым быў скверык, пустынны і вусцішны. У ім было пуста і неяк страшна. Ліхтары не гарэлі, і таму тут было, як на могільніку. Мне даўно трэба было б пайсці дамоў, але ж гэтая дурная дасціпнасць... Ішоў ціха, і ўсё ж настылы снег скрыпеў і вішчаў пад нагамі.

Потым у вочы рэзка ўдарыла святло, і я ледзь не наскочыў на іх за паваротам.

— А-а, дык гэта ты?

— Арнольд! — Зося ўхапілася за яго руку...

Далей я нічога не помню. Мяне кінула на зямлю...

— І варта: будзеш ведаць, як цягацца хвастом. Дзякуй Валодзю, а то здубянеў бы, як корч на марозе,— а ну, чорт з табой, не здохнеш. Толькі, што сказала б Суэма? А дабрата, яна вылезла бокам табе. Ён пляваў на тваю чалавечнасць, ідыёт. Ну, нічога, яшчэ ўправім яму мазгі.

— Валодзя, міленькі, ну, перастань... І без цябе горача... Ты ж бачыш, што чалавек чуць галовачку не злажыў.

— Курсавую тваю залічылі, радуйся хоць гэтаму...

Хлопцы некуды выходзяць, і я застаюся адзін са сваімі думкамі, з мокрым ручніком на галаве. Неўпрыкмет сон зморвае мяне. І мне сніцца Суэма, добрая Вера Айвараўна. Яны дакорліва ківаюць галовамі і нешта гавораць, толькі я не магу разабраць нічога, і мне робіцца страшна і горача. Разбіраю толькі словы: «Я чакала цябе, не прыйшоў. Бывай...» Потым нешта чорнае насоўваецца на мяне, і я крычу, дзіка і нема...

Добра, што скора канчаюцца дрэнныя сны. Ляжу ўвесь потны і доўга не магу супакоіцца, дайсці да розуму... А сягоння ж я павінен быў прыйсці да іх. Што скажа Суэма, калі даведаецца? Што сказаць ёй? Будзе, вядома, чакаць і падумае што-небудзь нядобрае. А што скажа Вера Айвараўна? Ах, як усё нядобра атрымалася!

## ● ЛІТАСЦЬ ГАННЫ ПЯТРОЎНЫ. ЛЮДЗІ, ЯК ХОРАША ЖЫЦЬ НА ЗЯМЛІ!..

Сягоння я павінен сустрэцца з ёй. Колькі я ўжо не быў там? Дзён шэсць. А што я скажу ёй, Суэме, калі прыйду ўвечары?

Пачыналіся зімовыя канікулы — харошая студэнцкая пара. Усе вясёлыя, узбуджаныя, скора будуць збіраць у дарогу чамаданы. Я толькі што выйшаў з аўдыторыі, дзе прыйшлося папацець над білетам. Ганна Пятроўна ўсё-такі запомніла мяне і дала добрага дыхту. Трапіліся такія пытанні — ледзь вырабіўся! Толькі ж таго было мала Ганне Пятроўне, яна яшчэ сыпанула на мяне цэлы град пытанняў. Я пацеў, але адказваў, і адказваў, можна сказаць, нядрэнна, бо ў канцы Ганна Пятроўна ўсё ж «літасціва» пакінула мяне ў спакоі, паставіўшы ў залікоўку «добра». Я гатоў быў расцалаваць яе тонкія, у нітачку вусны, расцалаваць яе сухі, маршчыністы твар, але толькі спакойна і горда выйшаў у калідор, дзе чакала мяне шматгалосае раз'ятранае племя студэнтаў.

— Уф! — выдыхнуў я і ўпаў на рукі сваіх сяброў.

— Пайшлі, отракі,— скамандаваў Пацэй, і мы шумна выкаціліся на вуліцу. Пад лёгкі смех. Пад усмешкі прахожых. У скверыку Купалы спыніліся, падышлі да хлопчыка з лебедзем, што наважыўся рвануць у высокае неба, за хмары. Да яркага сонца.

Горад Ліс і ветразі пунсовыя
У ціхім шэпце сініх хваль.

Вядзі нас, казачнае сонца,
У нашу казачную даль.

Сярожа развінуў шырока рукі, нібы хацеў абняць увесь неабдымны свет, і голасна, на ўвесь сквэрык, выгукнуў:

— Людзі, як хораша жыць на зямлі! Сонца з намі! Сонца, жыві! Сонца, усміхайся прахожаму кожнаму, бі́ся ў кожнай пунсовай кроплі крыві!..



Усе ідзём, шчаслівыя і радасныя, забыўшы трывогі, забыўшы ўсё дрэннае, і на нас глядзіць бронзавы паэт і ўсміхаецца, цёпла, пабацькоўску.

— Хлопцы, а мяне Суэма чакае. Каб вы толькі ведалі, хто яна для мяне!.. Эх, хлопцы!..

— А я, каб быў Суэмай, і на парог цябе не пусціў бы. Такога абэлтуха пакахаць!..

Валодзя круціць галавою і падміргвае Сярожу.

— «Яна яго за мукі палюбіла..»—дэкламуе Сярожа, і мы, рагочучы, ідзём праспектам. Нам весела. Мы здалі сягоння апошні экзамен. Заўтра мы атрымаем стыпендыю. І, самае галоўнае, я пайду да Суэмы. Як доўга не бачыў яе! Цэлую вечнасць.

Студэнцкі пакой, як і заўсёды, сустрэў нас цішынёй і ціканнем старога насценнага гадзінніка, які мы купілі, каб ушанаваць мудрую старыну. Гадзіннік ціха адлічваў хвіліны. Свінцовая гірка даставала амаль падлогі, і Сярожа любоўна падцягнуў ланцужок угору, перавёў крыху ўперад вялікую стрэлку: наш паважаны старына любіў крыху адставаць. Не тое, што мы.

## ● СІНІЯ СНЯГІ. ЛАСІ. КРОЎ ЦІ ЖУРАВІНЫ? ЧАЛАВЕК У КАРОЦЕНЬКІМ КАЖУШКУ. ВЫРАТАВАННЕ ЛАСЁЎ. ЗАПАВЕТНАЯ КРЫНІЧКА.

Стрыганскія лясы сінелі ў звоне зімовага дня. Снягі тут былі мяккія, пульхныя. У іх начамі спалі-адпачывалі пудлівыя цецерукі. А ў лагчынах стылі хмызнякі, стыў счарнелы малiннік, чакаючы вясны, чакаючы тае пары, калі паблізу з-пад снегу пакажа сваё блакітнае вочка нясмелая пралеска. У Стрыганскіх лясах ёсць самае высокае месца — гара, куды паўзбіраліся таўшчэзныя дубы і клёны, нібы вартавыя гэтых зялёных абсягаў. Там, казалі, стаяла некалі леснічоўка і жыў у ёй адзінокі стары ляснік. Але ў вайну леснічоўку спалілі, а стары ляснік задыхнуўся ў нямецкай пятлі, бо хаваў у леснічоўцы партызан. Цяпер там чарнее малiннік, а ў грудзе каменняў жывуць пліскі, выводзяць улетку птушанят. Дубы старыя, разгатыя, і суччa ў іх аж да зямлі. Воддаль, у хмызах, стаілася рэчка, засыпаная, ухутаная снягамі, прыгожая ўлетку ад буйнай лотаці і лілей. А за рэчкай — партызанскія акопы. Старыя, зарослыя мохам і бруснічнікам, засыпаныя гліцай і шышкамі, яны зусім-зусім бясформныя. Неяк летась адшукалі ў іх пад травою дзеці зялёныя патронныя гільзы.



крыўдныя. Неяк летась адшукалі ў іх пад травою дзеці зялёныя патронныя гільзы.

Пад дубамі снег скапычаны і папорканы: гэта дзікі, мусіць, шукалі сабе жалудоў. Дзікоў у Стрыганскім лесе некалі было мноства, але цяпер іх рэдка ўбачыш. Можа падаліся куды далей ад пільнага вока паляўнічага?

Увосень клёны прыгожыя. Яны розных колераў і адценняў: жоўтыя, чырвоныя, аранжавыя.

У маладым сосонніку рагочуць сарокі. Вунь пранёсся лагчынай бяляк. Вытыркнула нос з-за куста ліса, прынюхалася і, распушыўшы хвост, падалася па зайцавых слядах. Застукаў па сухастоіне дзяцел. Узвіхрыўся снег — сіганyў з-пад снегу цецярук, залопаў крыллем, пашастаў над зямлёй у хмызы.

Была раніца, і снег іскрыўся, сінеў. Калі глядзець з лагчыны на дубы — шапка зваліцца. Лыжы не слухаюцца, слізгаюць назад. Я — уперадзе. Сярожа ззаду, па лыжні. Горача, аж пара валіць, як у лазні.

— Глядзі, лось... вунь пад дубамі!..

Лось стаяў горды і велічны, закінуўшы рогі на спіну. Буры, з падпалінамі, ён цяжкавата дыхаў, і яго ноздры, відаць было, шырока раздзімаліся. Потым аднекуль з-за дубоў выйшлі малое з ласіхай. Малое тулілася да маці, а тая насцярожана азіралася па баках. Сяргей свіснуў. Снежнае полымя ўзвіхрылася там, дзе толькі што спыніліся ласі. Ужо трашчала ўнізе, у гушчары над рэчкай.

Мы стаялі на тым месцы, дзе стаялі лясныя прыгажуны. Журавіны. Цікава, адкуль узяліся тут, на гэтай гары, журавіны? Сяргей нахіліўся, пачаў разглядаць на снезе чырвоныя ягады.

— Кроў... Гэта ж кроў,— сказаў Сярожа.— Значыць, лось паранены. А можа, паабразаў капыты на шараку?..— Кроплі крыві беглі па ласіных слядах уніз, расплываліся на снезе.

Аднекуль знізу, з Падарэўшчыны, дзе беразнякі і вечны асіннік, даляцеў сабачы брэх. Ён набліжаўся сюды, пад дубы, мацнеў. То заціхаў, і тады было чуваць, як шумяць яліны, размахваючы ўгары шапкамі. Мы стаіліся за тоўстымі бакамі дубоў, чакалі. А яшчэ праз колькі часу задыханы чорны ганчак узляцеў на гару, пакруціўся, пагойсаў, прынюхваючыся да слядоў, і знік, як растаў, унізе, пад рэчкай.

— Чакай, што далей будзе...— сказаў Сяргей.— Хутка будзе і ён. А лось паранены. Нехта, відаць, захацеў свежыны. Гады, ну, ладна... Пакажам яму свежыну...

Шумеў Стрыганскі лес, шумеў, гойдаючы на сваіх галінах сонца яркага лютаўскага дня. Недзе стракаталі сарокі, хрыпла каркалі вароны, і цінькалі ў голлі сініцы. «Кар-р, кар-р...» — закаркала на дубе варона.

— Чуеш? — таўхануў Сяргей.— Чуеш?..

Недзе на тым баку, за дубамі, шоргалі лыжы. Нехта ўпарта лез сюды, па ласіных слядах.

— Тут ён адпачываць будзе,— сказаў я.— Трэба адабраць у яго стрэльбу, пашчапаць...

Сяргей маўчаў.

Успоўз нарэшце пад дубы і той, каго мы чакалі.

— Фу...— шумна выдыхнуў чалавек у кароценькім кажушку,— запарыў, гад. Ну, нічога, не ўцячэш...

Чалавек паставіў двухстволку, пачаў закурваць. Потым адышоўся пад дубы, прыставіў стрэльбу да дрэва. Прыслухаўся. Сабакі не

было чуваць. Праз колькі часу ўжо з другога боку пачуўся брэх: ласі ішлі сюды, пад дубы. Гэтага толькі і чакаў чалавек у кароценькім кажушку. Чалавек замітусіўся, падаўся за дрэвы, каб схавацца, узяў стрэльбу.

Ласі нечакана выскачылі на прагаліну. І перш, чым узняць ружжо, чалавек у кароценькім кажушку выплюнуў недакурак, выцер вусы. Пачаў узнімаць стрэльбу. І тады...

Чалавек у кароценькім кажушку ляцеў потырч у снег. Гухнуў стрэл. Угору.

— Ах, так! Ах, так... Я вам...

— Што? — грозна сказаў Сяргей.— Ах ты, гад, свежыны захацеў!.. Ды мы ж цябе заместа лася, паскуда...

Чалавек прыціх і ўжо спалохана глядзеў на нас, плюскаючы маленькімі і злоснымі вачамі.

— Хлопцы, аддайце ружжо,— папрасіў ён.— Чуеце?

І раптам:

— Жук, кусі!...

На нас ляцеў чорны сабака. І перш, чым сабака скочыў, вухнуў злосна і ярасна стрэл. Перакуліўшыся праз галаву, чорная ваўкарэзіна ткнулася носам у снег, закруцілася.

— Сабак біць! Сабак біць?..— заенчыў чалавек у кароценькім кажушку, размазваючы па твары слёзы адчаю і злосці...

Неяк лёгка і сцішана шумеў Стрыганскі лес. Унізе, над рэчкай у хмызняку, няўцерпна-радасна заходзіліся ад захаплення сарокі, з галін церусіў дробненькі пыл-сняжок. Тонка звінеў снег пад лыжамі.

Уніз было з'язджаць страшнавата. Неўпрыкмет можна было наляцець на схаваны пад снегам корч, а далей быў абрывісты бераг рэчкі, увесь парослы кустарнікам.

— Эх-х! — выгукнуў Сярожа, узмахнуў кійкамі і знік адразу ж з вачэй.

— Сяргей! — зароў я.— Куды-ы?..

Было позна. Сяргей ужо мчаў далёка ў лагчыне, бы яго падхапілі чэрці, і на яго няўмольна і хутка ляцела сасна. «Яшчэ, яшчэ хвіліна, і — канец...» — пранеслася ў галаве. У апошняе імгненне Сяргей ірвануў лыжы ўбок, нахіліўся і — сасна шалёна прамчалася побач. А Сяргей ужо мчаўся па старой лыжні паўз рэчку, перамахнуў цераз горку і схаваўся недзе за ельнікам.

«Вось шалёны...» — думаў я, не асмельваючыся мчацца следам за ім. Даў волю лыжам, калі было роўна і не было на шляху сосен: я намнога слабей за Сяргея ў лыжах.

А Сяргей стаяў у рэдкім бярэзнічку, апусціўшыся на калені. Там з-пад зямлі біла крынічка, струмень яе не замярзаў нават самай страшнай зімою.

— Абэлтух,— сказаў я,— так і забіцца можна.

— Можна,— згадзіўся Сярожа.— Глядзі, якую крынічку я знайшоў! Любата!..

Гэту крынічку яшчэ некалі ў маленстве «адкрыў» я, калі з бацькам хадзіў сюды, у Стрыганскі лес, па маліну. «Тата, глядзі, што я знайшоў!» — гукаў я на ўвесь лес. Тата смяяўся і набіраў у конаўку з крынічкі халоднае вады, піў, і ад яе аж у вушах калола, такая яна была халодная. Гэта было самае запаветнае і любімае маё месца. Я не забываў пра гэтую крынічку і калі вырас, паступіў вучыцца. Кожнае лета я наведваў Стрыганскі лес, прыходзіў да гэтага сцюдзёнага ключа і падоўгу любаваўся ім, давяраючы яму ўсе свае тайны, усе свае трывогі. «Эх, калі б пабачыла Суэма гэтае дзіва!..»



Вечарэла, доўгія цені лажыліся ад дрэў на снег. І снег быў ужо не сіні, а нейкі таямніча-трывожны, пахкі. Ён пах яловымі шышкамі і няблізкай вясной, што першаю прыходзіць пад гэтыя дубы, зганяе снег. Лыжы неслі нас між кашлатых ялін і сосен проста ў сонечны зімовы вечар. І ўжо ў канцы Стрыганскага лесу мы яшчэ раз пабачылі ласёў. Стары лось, кульгаючы на заднюю нагу, павольна кіраваў некуды ўздоўж Старых Прасек, на Падарэўшчыну. Ззаду бегла малое ласянё, ціснучыся да маці. Ласіха трывожна аглядалася па баках, нібы яе падпільноўвала нешта грымучае і страшнае.

У Сяргея за плячамі вісеў трафей — адабраная стрэльба.

— Мы дакажам,— гаварыў Сяргей,— дакажам!.. А гэтага дзядзьку я добра ведаю...

Было ўжо цёмна, калі мы прыйшлі дадому. Узнімаўся вецер, гнаў па полі белую, калючую завею. Потым пайшоў снег, замятаючы сляды і дарогі. Цэлую ноч вярнуў снег. А ўранку зноў зіхацела сонца і ціха стаяў лес, адпачываючы ад завейнай ночы.

Так пачыналіся студэнцкія канікулы...

## ● КАЛІ КРУЦІЦЬ ЗАВЕЯ. «НЯЎЖО ЗЯМЛЯ НЕ СТАІЦЬ НА МЕСЦЫ?..» У СІНІМ КРАІ СТАЕ ЎСЯГО.

Ужо трэція суткі круціла і выла мяцеліца,— з хаты хоць не вылазь, столькі нагнала снегу. На лыжах не пойдзеш і патонеш у пульхных снягах. Вецер выў і стагнаў, быццам злаваў на некага, глуха стагналі дрэвы, прасілі літасці ў ветру. Пад вечар вецер літасціва сціхаў, затое валіў і валіў густы снег. Дарогі пазамятала — ні прайсці, ні праехаць.

Ад адзіноты і смутку хоць вый. Чытаць возьмешся — кнігі з рук падаюць, пісаць — ручка валіцца з пальцаў. І тады находзілі-набягалі ўспаміны. І ад іх рабілася яшчэ трывожней. Дома заўважалі гэта, аднак не надакучалі пытаннямі, маўчалі. Толькі аднойчы неяк сказаў бацька не то нарокам, не то з нейкім ухваленнем:

— І нада ж было вам звязвацца з ім! Падумаеш, лось...

Вечарамі брат Лёнька рыхтаваў урокі, маці, нацягнуўшы акуляры на нос, чытала газеты. Ёй усё не верылася, што Зямля — шар і на месцы не стаіць. «Як гэта не стаіць на месцы? Каб яна не стаяла на месцы, дык мы аж у Маскве апынуліся б...»

Мы з Лёнькам рагаталі, аж у баку калола, а маці ўсё так і не магла звыкнуцца з тым, што «мы не стаім на месцы», а «ляцім, як шалёныя, недзе ў небе».

А я ўсё часцей і часцей успамінаў Суэму, мне было адзінока і пуста без яе. Мне хацелася ў горад. Я баяўся, што Суэма забудзе мяне, і тады... тады д'ябал яго ведае, што рабіць. Я ўспамінаў, як Суэма праводзіла мяне на аўтобус і потым доўга яшчэ стаяла, гледзячы ўслед аўтобусу.

Напэўна, я даўно ўжо з'ехаў бы адсюль, але ж не хадзілі машыны, а пешшу не вельмі радавала цягнуцца за свет на аўтастанцыю.

Учора прыязджаў да мяне Сярожа і скардзіўся, што такой адзіноты і тугі свет, мусіць, ніколі не бачыў. Бо Галка яму здрадзіла і круціць з нейкім не то манцёрам, не то чорт ведае з кім. А як там Суэма? У яе маці хворая, дома ляжыць... Суэма не хацела, каб я ехаў дадому, але ж я не мог не паехаць, бо мяне чакалі бацькі. Я ведаў, што нічога новага я не адкрыю, што там, у лясах, усё

тыя ж снягі будуць, але ж гэта быў уладны кліч, і я паехаў, бо я не мог не паехаць. А дома не ведалі, як глядзець мяне. Адвечная матчына дабрыня і ласка рук. І бацькава гордасць за сына. Мужчынская грубасць, за якой — і любаванне, і страх, і яшчэ нешта, вядомае толькі ім адным, нашым бацькам.

— Прывязі яе, пакажы нам, старым,— здагадвалася маці пра мае думкі.

У матчынай хаце добра і цёпла. За вокнамі зіма, а тут, у пакоі, між мноства кніг, утульнасць. І толькі вось гэты сум...

Адзін дзень... Трэці... пяты...

Трэба не думаць. Ну, хоць гадзіну, хоць адзін дзень. Адпачыць ад звону трамваяў, ад разважлівых і цяжкіх тралейбусаў.

У гэтым сінім краі ставала і неба, і цёплых зор, і снегу, і добрых людскіх усмешак. Ставала сонца, радасці, але ставала і тугі. Па тым блізкім і родным, што ў дальнім краі, па тым, што вабіла, што ўлілося ў жылы твае, у свядомасць...

Марудна ў завеях, у цяжкіх снягах ішлі дні. І аднойчы бацька запрог ў сані жарабка...

## ● ДЗЁННІК... ХТО ЁН, ГЭТЫ ХЛОПЕЦ?..

... Мамка кажа, што мой тата быў самы-самы добры, самы прыгожы. Я не помню свайго таты. Я тады была зусім маленькая, калі яго расстралялі. У нас толькі захавалася старая, пажоўклая ад часу фотакартка. Які ён, мой тата? Калі мамка гаворыць пра яго, то заўсёды плача, і мне яе вельмі шкада. Яна і цяпер не можа забыць яго, хоць прайшло ўжо столькі гадоў. Мамка гаворыць, што ён, мой тата, вельмі хацеў, каб я, калі вырасту, вучылася на ўрача. Любы мой тата! Ты, напэўна, быў мужны і смелы. Я хацела б быць падобнай да цябе. Я не бачыла цябе, але ты самы лепшы, самы добры. Я з мамкай насіла б кветкі на тваю магілу, але мы не знаем, дзе яна... Даруй нам, татка...

*

Нам вельмі цяжка. Ужо другі год, як захварэла мама. Мне цяжка, але я ніколі і нікому не прызнаюся. Нават табе, мама.

*

Учора маме стала зусім-зусім дрэнна. Выклікала ўрача.

*

...Сягоння пад трамвай ледзь не трапіў хлопчык з суседняга пад'езда. На вуліцы нікога не было. Як я «выхапіла» яго — не памятаю. Толькі потым стала страшна і жудасна. Яшчэ б імгненне — і...

І куды толькі глядзела маці?..

... Вельмі хочацца паступіць у медыцынскі. Але туды агромністы наплыў.

*

... Нейкі дзіўны хлопец. Сказаў, што я «проста з казкі». Стала неяк... горача і незвычайна. Слухала з ім оперу. Цудоўная рэч. Непаўторнасць характараў, вобразаў...



Успамінаю тую алейку, на якой пазнаёміліся. «Мне хораша з вамі»,— сказаў ён. Я тады сказала пра ўсё маме. Яна нічога не адказала, толькі ўсміхнулася і чамусьці ўздыхнула.

Хто ён, гэты незвычайны хлопец?

*

... Зінка, мая аднакласніца, сказала неяк, што мужчынам нельга верыць ні на капейку. Чаму не верыць людзям, калі яны робяць толькі добрае?

*

... Прыходзіў да нас. Я напалохалася і ўзрадавалася. Ад разгубленасці разбіла талерку. Мамка смяялася, а потым сказала, што гэта на шчасце... Віктар кажа, што я абавязкова паступлю ў медыцынскі. Як мне хочацца паступіць!..

*

Я не мінчанка. Мы з мамкай сюды прыехалі, калі мне было гадоў дзесяць-адзінаццаць. Я вельмі палюбіла гэты горад, але, калі я скончу школу, абавязкова паеду на сваю радзіму. Там некалі жыў мой тата, там ён ваяваў, там загінуў. Там недзе яго неадшуканая магіла...

*

... Што такое мужнасць?

Мужнасць — гэта быць Чалавекам, сціплым, добрасумленным, чыстым. У сваіх справах, у думках. Мужнасць — гэта рабіць людзям дабро, не шкадаваць сябе...

Ці выйдзе з мяне гэткі чалавек?

Быць Чалавекам з вялікай літары — нялёгка.

*

... Маме ўсё горш і горш. Зноў прыходзіў урач. А мамка ісці ў бальніцу вельмі не хоча... Што рабіць?

Татка, падкажы мне, памажы! Чуеш?..

*

Быць гордым — гэта не значыць быць задаволеным сабой. Гордасць за чалавека, за яго вялікія справы — вось гэта сапраўдная гордасць. Але я не прымаю гордасці Алека («Цыганы». А. Пушкін). Алека пакутуе, і мне яго шкада. Памятаеце, стары цыган гаворыць такія словы: «Оставь нас, гордый человек. Мы дики: **нет у нас законов**». Вядома, Алека горды па-свойму. Але ж, калі б ён быў пасапраўднаму горды, ён бы змог зразумець іх.

Кажуць, няма ніякай гордасці ў дзяўчыны, калі яна... ну, дазваляе... пацалаваць сябе. Ёсць у мяне гордасць ці не? Мне сорамна гаварыць пра гэта ў сваім дзённіку, хоць ведаю, ён не выдасць мяне. Сорамна... А калі чалавек кахае? Што тады?

Я нікога не кахала... Гэта — першае. Баюся няпраўды, яе яшчэ так многа вакол нас...

Віктар такі задумлівы і часамі сумны. Аб чым ён думае? Кажа, што нічога не хавае ад мяне. Але ж прайшло яшчэ гэтак мала часу! Каханне з першага погляду? Стаю на раздарожжы, як віцязь перад каменем, на якім вешчыя словы: «Направа пойдзеш...»

Часам не разумею сама сябе. Перачытана столькі разумных кніг і — нічога не ведаю. Не памятаю, хто сказаў: «Я добра ведаю, што нічога не ведаю...» Правільна, разумна сказана.

За што мяне можна кахаць?

Гэта, бадай, адно з балючых і важных пытанняў, што хвалююць і хвалявалі ўсіх жанчын розных эпох. Ах, як банальна!..

### ● КОЖНАЕ АКНО — НЕАДКРЫТЫ СУСВЕТ. ВЕРЫ АЙВАРАЎНЕ КЕПСКА. БАРАДАТЫ ДОКТАР. ГОРА ЗБЛІЖАЕ ЛЮДЗЕЙ...

Я ўсё стаю на вуліцы і гляджу ў знаёмае акно, і мне здаецца, што там мяне ўжо ніхто не чакае, не думае пра мяне. Уздрыгваю ад такой недарэчнай думкі і ўзбягаю па гулкай лесвіцы наверх, таропка стукаю ў дзверы... Маўклівая цішыня, толькі шалёна б'ецца сэрца, і стук яго, мусіць, чуе ўвесь дом. Ніхто не абзываецца, не чутно за дзвярамі знаёмых таропкіх крокаў. Можа, спяць? Стукаю яшчэ раз і націскаю на дзверы. Яны лёгка адчыняюцца, і я ўваходжу ў пакой. І тут ніхто не сустрэў, ажно неяк страшна зрабілася. Што такое? З хваляваннем адчыніў дзверы ў суседні пакойчык і застыў у зняменні... Суэма сядзела на ложку, нізка схіліўшы галаў, і неяк паволі, бы нехаця, азірнулася на рып маснічын.

— Тс-с-с...— прыставіла палец да вуснаў.— Мамка толькі што заснула. Хадзем на кухню. Ой, што сягоння было, што было, Віця!.. Зусім злягла мамка. Не есць нічога, не п'е. А яшчэ — ты прапаў недзе.— Суэма заплакала, уткнуўшыся тварам у каўнер майго халоднага паліто. Я мкнуўся яе суцешыць, але нешта калюча-церпкае засела ў горле, і я маўчаў, толькі механічна мая далонь гладзіла яе валасы. Мне было няёмка перад Суэмаю, што я так доўга не вяртаўся сюды, што нават не мог напісаць хоць бы невялічкі ліст. Ёй так патрэбна верная рука, так патрэбна падтрымка... А я, ідыёт, цэлымі днямі прападаў у сваіх заснежаных лясах, цягаўся без аніякай справы па вёсцы з канца ў канец, біў лынды. А тут... тут ляжала хворая Вера Айвараўна... І адна-адзінокая Суэма... Ах, які я ўсё-ткі ідыёт!..

— Мне так страшна, так страшна, Віця... За мамку... баюся... Што мне тады рабіць?..— Суэма адхіснулася ад мяне, сціснула далонямі скроні.

Далёка-далёка за поўнач прасядзелі мы на кухні, маўклівыя, насцярожаныя. Суэма часта падыходзіла да ложка і ўслухоўвалася ў няроўнае матчына дыханне. Здавалася, усё будзе добра, здавалася, хутка надыдзе раніца, і ўсё мінецца... Ды недзе каля чатырох ночы я памчаўся выклікаць «хуткую». Суэма плакала. Вера Айвараўна з дакорам глядзела на дачку і ціха гаварыла, амаль шаптала:



— Што ты... Ну, што ты, дурненькая... Мне ўжо лепей... Не плач, дачушка. Віктар, ты ж мужчына, супакой яе...

Барадаты доктар загадаў неадкладна адправіць хворую ў бальніцу. Мы паехалі разам, хоць доктар нешта ўсё бурчаў і лаяў нас. «Хуткая» мчала начным горадам доўга, пакуль не адчыніліся перад ёю вароты. На ганку чакалі...

Я не люблю, калі чалавека суцяшаюць, шкадуюць. Мне здаецца, гэта прыніжае чалавека, прыніжае яго годнасць. Лепш маўчаць і нічога не гаварыць. Сёстры таропка бегалі па калідоры і ўсё чамусьці шапталіся, з некім шкадаваннем паглядаючы на нас. А затым прыйшоў барадаты доктар, паклікаў мяне да сябе.

— Вось што, сынок,— ціха пачаў ён,— вашай маме вельмі кепска. Ты, я думаю, мужчына. Хворай трэба неадкладная аперацыя, і ёй прыйдзецца паляжаць у нас. Толькі вось... сястра твая... супакойвай яе... А цяпер — дадому марш!..

І доктар накіраваўся ў аперацыйную. Я колькі хвілін глядзеў на дзверы, за якімі схаваўся хірург.

— Хадзем, Суэма,— я ўзяў яе за руку. Але Суэма нават не варухнулася, няўцямна глядзела перад сабой.

Калі выйшлі на вуліцу, Суэма расплакалася зноў. Я не суцяшаў яе, хоць на душы было горка і цяжка. Я ведаў тое, што не ведала яна, Суэма. Я не мог ёй сказаць таго, што сказаў мне доктар. Ад гэтага рабілася яшчэ горай і цяжэй. Я маўчаў. Не, я не павінен маўчаць. Трэба нешта гаварыць, можа нават суцяшаць трэба. Зноў пачынаў кружыць снег і мацнеў вецер.

На пустынных вуліцах гулка і холадна. Ні ў адным акне не пабачыш святла. Горад спаў, горад адпачываў. А нам было не да сну, бо недзе там, у бальніцы, у аперацыйнай, схіліўся хірург са скальпелем у руках над Верай Айвараўнай... Што чакае заўтра Суэму? Што прынясе нам новая раніца?

У пакоі была нямая цішыня. Не прыходзіў сон. Толькі пад самую раніцу Суэма крыху заснула. У гэтую ноч памерла яе маці.

### ● — Я ТАК ДАЎНО НЕ БАЧЫЛА НЕБА!.. НАДЗЕІ... БЫВАЙ, НАШ РОДНЫ ЧАЛАВЕК!..

Не дай бог такога нікому!

Цяжка і пакутліва насіў я ў сваім сэрцы чужое гора, іншы раз рабілася зусім нясцерпна балюча і горка. Я не мог глядзець на Суэміны пакуты, я хаваў, адводзіў убок свае вочы, каб не сустрэцца з яе вачамі, быццам я быў вінаваты ва ўсім, што здарылася...

Той раніцаю ў калідоры нас сустрэла хірургічная сястра. Стомлена, ціха хадзіў па кабінеце доктар, скрыжаваўшы на грудзях рукі. Колькі жыццяў яны вярнулі людзям! Колькі радасці вярнулі ў чалавечы дом!.. Доктар узняў на нас вочы, поўныя тугі і вялікай чалавечай дабраты. І я ўсё зразумеў, і нібы вялізны камень узвярнулі на мяне. Суэма зразумела таксама, усё пабачыла ў вачах.. Глуха ўскрыкнула...

... Стаяла нямая цішыня. Сосны, заінелыя і маўклівыя, яшчэ ніжэй апусцілі свае галіны. Суэма білася на матчыных грудзях. Сурова маўчалі людзі, і ў некалькіх кроках маўчала чорная халодная яма...

— Не дам!.. Не дам!.. Не хачу!..— Суэма рыдала. Глуха ўдарылі ў дамавіну мерзлыя камякі зямлі. Зашоргалі лапаты, навечна засы-

паючы таго, хто яшчэ нядаўна ўсміхаўся, прагнуў жыцця і сонца... Вырас яшчэ адзін курганок...

— Вядзі дамоў,— нехта крануў мяне за локаць.— Вядзі, а то і да бяды нядоўга...

Глуха стагналі сосны, і з шэрых хмар сыпаўся і сыпаўся снег, засыпаючы сляды, засыпаючы свежы жоўты пясок. Бывай, Вера Айвараўна! Бывай, родны наш чалавек!..

Суэма, Суэма... Нялёгкія сцежкі звялі нас з табой. Суровыя, горкія сцежкі...



## ● ЗНОЎ ЗОСЯ.— НЕ ДАДЗІМ!.. ДАРОГІ ЯДНАЮЦЦА.

Мароз ціснуў к вечару. Неба на заходзе было крывава-сцюдзёнае. Яшчэ ўранні прайшоў дождж са снегам, а мароз зрабіў дарогі коўзкімі, ільдзістымі. Я ўжо шмякнуўся разок, пакланіўся дарозе. Хлопцы аж качаліся, гледзячы на мае паклоны. Пацэй так смяяўся, што аж упаў у снег.

Мне ж было не да смеху. Ды і як я мог смяяцца, калі ўвесь час перад вачамі стаяла заплаканая Суэма, несуцешная ў сваім вялікім горы... Калі ў вачах стаяла засыпаная снегам магіла...

Хлопцы не ведалі гэтага...

Мы ішлі вуліцаю. Проста так. Перад намі, над скверыкам, вісела чырвонае сонца...

— Віктар! — пачулася збоку, і я ўбачыў Вальку ў ярка-чырвонай шапачцы.— Зося перадавала, каб ты прыйшоў увечары. Яна чакае цябе...

Валька шчабятала нешта і чагосьці звонка смяялася, весела, мусіць, было чалавеку...

— Цымус — не ножкі!..— цмокнуў языком Пацэй, калі Валька адбеглася на некалькі крокаў, і шчоўкнуў пальцамі.

— Не тое, што твой нос,— гыкнуў на ўсю вуліцу Сёмка,— хаця за ім таксама дзеўкі гужам...

— І міма,— войкнуў Сяргей.

Ад смеху, здавалася, трэслася халоднае сонца...

— Ладна, хлопцы, вось што: вы атрымлівалі за мяне Зосіны пісьмы?

— Каемся, о, даруй нам грахі нашы...— зацягнулі хлопцы, з д'ябальскай усмешкай пазіраючы на мяне.

Пацэй усклікнуў:

— Ды не дадзім д'яблу заўладаць душой отрака нашага, не дадзім...

— Не дадзім!..— падхапілі хлопцы.

— Хлопцы, а я ўсё-ткі пайшоў бы да Зосі,— сказаў Сяргей.— Чалавек, відаць, прызнаў свае памылкі.

— Памылкі... памылкі...— іранічна зацягнуў Пацэй.— А што раней яна думала? Га?

— Хопіць,— не вытрымаў я.— Хопіць барабаніць! Не ваша справа...

— Ну і чорт з табой,— грымнуў Пацэй. Ён прагнуў сустрэчы з Арнольдам. На «вузкай сцяжынцы», адпомсціць за наш зганьбаваны студэнцкі гонар. Пацэй, відаць, ніяк не мог забыць прыкрага здарэння ў рэстаране. Яго душа гарэла помстаю.

Я ж маўчаў. Мне не хацелася думаць ні пра Арнольда, ні пра Зосю... Няўжо Зося ўсё-ткі нешта зразумела? Калі так, я вельмі рады за яе. Арнольд, відаць, памог Зосі разабрацца ў сабе. Ну, хаця б сваёй філасофіяй. Мы мелі «радасць» пазнаёміцца з ім бліжэй. Асабліва я. Там, у зімовым скверыку... І на імгненне ў маіх вачах узнік занесены касцет... Хлопцы маюць, як кажуць, рацыю. З такімі арнольдамі трэба змагацца... Толькі вось з чым, з чым яна, Зося, вырвалася з драпежных рук? Гэта трэба было ведаць. Бо Зося, як там ні кажы, помніла пра мяне...

Сонца падала за скверык. Нібыта абарвалася. Неба ў тую ж хвіліну налілося сцюдзёнай чырванню. Ноччу, відаць, будзе мяцеліца.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Назаўтра хлопцы праводзілі мяне да Суэмы...

ПАЭЗІЯ





## Алесь МАСАРЭНКА



●

Страшна,
калі знячэўку зрываешся ў вір,
а плаваць не ўмееш...
Крыўдна,
калі зброя асечку дае
і вораг палоніць...
Страшна і крыўдна,
калі цябе не чакае ніхто,—
быць аднаму.

●●

Усё-такі паэты — ёсць паэты:
Жанчынам усміхаюцца часцей,
Шчыруюць зноў апошнія манеты
І пішуць найсучасныя санеты
Верлібрамі... А крытыка — пацей.

У акіяне думак хуткацечных
Вяслуюць, не зважаючы на шторм...
І словам рушаць, нібыта карцеччу,
Жахлівы страх у душах чалавечых,
І подласці выносяць прыгавор!

●●●

Чужое ісціны не трэба,—
Яе, як слова, не лаўлю...
Навошта мне у барвах неба?
Я неба сіняе люблю!
Чужое ісціны ніколі
Не прамяняю на сваю...
Навошта пазбаўляцца волі,
Калі я толькі ёй жыву?!



●●●●

Студэнтачкі Асадава чытаюць,
Яго партрэты з кніжак выразаюць...
Студэнтачкі шукаюць апраўдання
Пачуццям, што не выраслі ў каханне...
Дзяўчаткі, не спяшайцеся, не плачце
І не мяняйце часта міні-плацці,
Не стойце на праспекце ў задуменні—
Ва ўсіх у вас прыгожыя калені!
Дзяўчаткі... Вы ж яшчэ толькі дзяўчаткі,
А хочаце, каб кідалі пальчаткі,—
За вас страляліся каб на дуэлі..,
О, вы заўсёды многага хацелі!

●●●●●

Імкнуся я да цішыні —
І не знаходжу анідзе...
Недасягальнай вышыні
Няма, як глыбіні ў вадзе...
А што мне тая вышыня?
А што мне тая глыбіня?
Мне неабходна цішыня
І сонца на працягу дня...
Я — землянін!

ПАЭЗІЯ





## Валянціна КОЎТУН



●

Свяшчэнны боль...
І ўсё наўкол крычала...
Ды цешылі матулю тыя сны,
Дзе я такой прыгожай вырастала
З зялёнымі вачыма ад вясны.

А я жыла ў табе дыханнем сінім,
Каб, выліўшы, як кроў,
своё цяпло,
Ты ўбачыла, што я ў цябе —
расліна,
Што лісцейкі ў мяне,
Што ёсць сцябло...

Што я крычу, калі баліць карэнне,
Згінаюся, упаўшы у прыпол...
I засынаю ў маці на каленях,
Што пахнуць так,
Як пахнуць крыллі пчол.

●●

А дождж на шыбіне напіша,
Як колісь, любае імя...
Казалі мне, што рос ты ў цішы
I быў малы, як бусляня.

Што плакаў ты, як плачуць цені,
Смяяўся, калі падаў снег...
Ты быў не сын для маці —
геній,
I стаў каханым для мяне.

●●●

Прыходзіць сталасць —
подых навальніц.
Маё ж дзяцінства згубы не чакала
I з сінімі нагамі ад чарніц
Яно па лесе ў час трывог блукала.

Ударыў гром...
А дзе яно, сяло!
Дзяцінства бегла,
падала,
крычала...
I паплылі чарніцы пад галлё
Тае сасны,
Якой сама я стала.



# ПРОЗА



Алесь ПАЛЬЧЭЎСКІ

Мал. В. ШРАМЯКОВА

# КАРОТКІЯ АПАВЯДАННІ

## ДАВЕРЛІВАСЦЬ

Веснавой раніцай я ішоў палявой дарогай між руні. Удалечы паўзлі па полі трактары. Мерны гул чуўся адтуль. Сеялі ярыну.

У празрыстым блакіце свірчэлі жаваранкі. Цёплае сонейка прыгравала зямлю, а лёгкі ветрык ласкава халадзіў твар.

Унізе вывівалася бліскучая на сонцы рэчка, на тым беразе зелянелі абшары заліўных лугоў. А за імі далёка-далёка, як магло дастаць вока, сінеў велізарны Сейлавіцкі лес. Той самы лес, у якім даўно-даўно нейкі рабаўнік хацеў забіць майго бацьку. Вышаснуў з хмызу знянацку і схапіў бацьку загрудкі. Бацька тузануў лейчыну, і конь, быццам адчуўшы нешта жахлівае, так ірвануў з месца, што рабаўнік старчма паляцеў на зямлю.

Пасля таго здарэння бацька ніколі не запозніваўся ў дарозе, стараючыся праехаць лес завідна. Якім мілым і прыгожым быў лес удзень, і якім страшным стаў праз чалавека ўночы.

Я спыніўся, каб парадавацца з веснавога характва, сонца і цеплыні. Гэтым часам у небе з'явіўся каршун. Ён кружыўся амаль на адным месцы, вывіжоўваючы сваю ахвяру.

Я павольна падаўся берагам. Не прайшоў



і некалькі крокаў, як над маёй галавой са страшэннай хуткасцю прашумеў каршун і тут жа зноў шугануў угару.

«Што з ім за ліха, ледзь капялюш не збіў?» — падумаў я. Падумаў так і адчуў, што быдта пацяжэў мой капялюш. Я зняў яго і ўбачыў маленькую шэранькую птушачку ў жалабку. Стуліўшыся, яна спалохана пазірала на мяне.

«Што з ёю?» — мільганула думка, і я падняў руку ўзяць птушачку.

Гэта быў жаваранак. Ён пырхнуў і паляцеў у блакіт. Праз колькі часу яго звонкі спеў зноў разлягаўся ў прасторы і весяліў сэрца.

Цяпер толькі дайшло да мяне, якая трагедыя разыгралася над маёй галавой: жаваранак, ратуючыся ад вернай смерці, упаў на мой капялюш.

Бедная птушачка, відаць, адчула, што не паважыцца драпежнік нападаць на чалавека, а ў яго яна можа знайсці ратунак.

І знайшла.

## НЕОНАВАЯ ЛЯМПА

Ноч. Антаніна сядзіць каля пасцелі маленькага Славіка і дрэмле. Хлопчык прачынаецца і плача:

— Мама, хачу дзень...

— Хутка будзе, сынок, хутка,— кладзе маці на дзіцячую галоўку руку, і Славік суцішваецца. Засынае, але ненадоўга.

Каля тыдня ўжо, як сталася такое з чатырохгадовым хлопчыкам. Пайшоў прыцемкам браць нейкую цацку ў другім пакоі, а кот скокнуў з ложка яму пад ногі. Хлопчык залемантаваў і ад страху ўпаў на падлогу. Маці прыбегла на крык і ўключыла святло.

Славік падняўся і, усхліпваючы, расказаў, як нешта вялікае хацела схапіць яго за ногі. Маці здагадалася, хто напалохаў, злавіла ката і набіла па лапках, каб не пужаў малых дзяцей.

— Мама, не Васька. Нешта вялікае. Во такое...— паказаў рукою высока ад падлогі.

— Гэта, сынок, табе здалося, Васька быў. Бачыш, во на пасцелі ямка, дзе ён ляжаў... Плюнь тры разы і ўсё пройдзе.

Аднак пярэпалах не прайшоў. Уночы Славік закрычаў скрозь сон, прачнуўся і расплакаўся. Маці падышла да яго пасцелі і спытала:



— Чаго ты, сынок?

— Хачу дзень, мама...

Маці ўзяла Славіка да сябе на пасцель, але ад гэтага хлопчыку не палегчала. Усё тыя ж ускрыкі, тыя ж усхліпы ў сне.

І так ужо каторую ноч.

«Ну, што мне з табою рабіць, любы мой?» — шэпча маці.

А Славік зноў прачнуўся і ўсё тое ж:

— Мама, хачу дзень...

«Дактары кажуць, пройдзе гэта,— прыгадваецца Антаніне. І з болем у сэрцы яна пытае ў начной цішыні: — А калі ж яно пройдзе? Колькі чакаць?»

І вось аднаго дня Аляксей, Славікаў тата, прынёс з магазіна неонавую лямпу.

— Навошта яна табе? Я не люблю гэтага прывіднага святла ў хаце,— папракнула Антаніна мужа.

— Гэта не для нас з табою, Тоня. Будзем Славіка лячыць. Чалавек адзін параіў.

Ноччу прачнуўся хлопчык і ўсклікнуў сваё прывычнае: «Хачу дзень!» Усклікнуў і тут жа з радасцю перапытаў у мацеры:

— Мама, ужо дзень?

— Дзень, сынок, спі.

— І ты паспі каля мяне.

Раніцай лямпу прыбралі са сцяны, каб Славік не бачыў яе, а вечарам, як заснуў, зноў павесілі.



Цяпер, замест ускліку: «Хачу дзень», Славік як толькі абудзіцца, пытае:

— Мама, зноў дзень?

— Дзень, сынок, дзень. Спі!

Мінула некалькі дзён, і хлопчык упершыню праспаў ноч спакойна на радасць бацькам.

А праз тыдзень які не спатрэбілася больш неонавая лямпа. Антаніна загарнула яе ў газету, завязала і вынесла ў кладоўку, дзе ляжаць непатрэбныя рэчы.

• *Шчодрасць*

•• *Сяння*



## Яўген КРУПЕНЬКА



•

Я з другам і сухар апошні падзялю.
Не называйце (толькі!) мяне шчодрым,
Не называйце (просьба) толькі добрым,
Бо ёсць шчадрэйшыя і за мяне.
Напрыклад,
Сонца.

Як справядліва яно промні дорыць
Травінцы кожнай і зярнятку ў глебе.
Расінцы на лістку і чалавеку,
Сасне ў бары і жаваранку ў небе.
За сваю шчодрасць платы не бярэ.

Вы назіралі, як яно заходзіць,
Стаміўшыся, працуючы штодзень?
Гарачае (за дзень нат не прысела
За стол, як людзі, ў полудзень гарачы).
Яно хутчэй спяшае асвяжыцца
Вадой сцюдзёнай, каб уночы спаць
І скінуць стому — раніца разбудзіць.
А ці сказаў хто сонцу: «Добрай ночы!
Ты слаўна працавала. Лепш, чым я».
Відаць, не ўсе мы дабрадзеі сонцу,
Калі аб слове простым забываем:
«Спакойнай ночы, сонейка, табе!»

Чаму ад нас дакоры сонца чуе:
— Увосень свеціць, а цяпло не тое,
Зімою свеціць, а зусім не грэе.
Падумайце —
Ці так яно на справе?

Увосень свеціць сонца так агніста,
Гарыць яно чырвонцамі на дрэвах,
Так выпеклася лісце, нібы хлеб
У печы рускай на гарачым подзе.

А хіба нас зімой яно не грэе?
Яно жыве у сценах кожнай хаты,
Яно у кожным бервяне жыве.



І як бы мы сасну ні пілавалі,
Яно у стружцы нават і шалёўцы,
Яно і ў печы не згарыць ніяк.
Калі б не сонца, быў бы вечны снег
І холад. Цемень вечная была б.
А сонца жыве ў сэрцы чалавека,
Жыве яно ў малюсенькай расінцы,
У жаваранка песні, у зярнятку,
Што прарастае коласам тугім,
Жыве яно у кожным пацалунку.
Калі сухар дзялю апошні з другам,
Не шчодры я.
Шчадрэйшае яно:
Без сонца
Я не меў бы той сухар.



••

*Аляксею* ПЫСІНУ

Дзе б мы ні былі з табою, дружа,
А дняпроўскіх плёсаў не забыць.
Словы магілёўскія — як ружы —
Можам, нібы пашпарт, прад'явіць.
Часам мы не заўважаем самі
Ззяння іх і песеннай красы.
— Ты даўно прыехаў?
— Толькі сяння.
Не паспеў на травах збіць расы.
Мы яго сустрэнем у вандроўках
За край свету ад Дняпра-ракі,
Як сцягі, што магілёўскім шоўкам
Вышываюць рускія жанкі.
У ткачых жа — прымаўка другая,
Усіх дняпранак-маладзіц
(Кожная з іх — нібы зорказзяе)
Гэта слова сяння маладзіць.
— Сяння Ганнуля
Макаў цвет,
Не знае матуля —
Цалаваў сусед.
— Ай, ды гэты Янка
Толькі абяцанкі:
Сяння з ёю,
Заўтра — з другою.
— Не, няпраўда: мой сусед
Пойдзе з Ганнай у сельсавет
— А калі?
— Сяння.
Убачыце самі.
І калі агорне сум часамі
У вандроўцы дальняй без сяброў,
Пачынаю дні лічыць: вось — сяння,
Заўтра... І — дамоў!

Раніцай прыеду — я упэўнен.
А пакуль гляджу на ручнікі,
І на іх спяваюць сяння пеўні,
І мае гавораць землякі.

П'ер **БЕРТАН**

**(Канада)**

# МАЯ ВАЙНА З XX СТАГОДДЗЕМ

Мал. А. КАШКУРЭВІЧА

## ПЕРШЫ ЧАЛАВЕК НА МЕСЯЦЫ

Вясною 1969 года Злучаныя Штаты былі, нарэшце, гатовы паслаць чалавека на Месяц. Праект пад кодавай назвай «Аперацыя МЕСЯЧНЫ БЛЯСК» — па сц'плых звычаях тых дзён — распрацоўваўся амаль дзесяць год. Ён быў фантастычна дарагі: мільярд долараў на стварэнне ракеты, якая павінна мякка сесці на Месяц, і яшчэ сто мільёнаў на тое, каб знайсці чалавека, які мог бы ёю кіраваць.

Патрабаванні да кандыдатаў былі надзвычай высокія. Падарожнік на Месяц павінен быў быць абсалютна бездакорны ва ўсіх адносінах: ён мусіў добра «прыцерціся» да іншых удзельнікаў праекта, быць бездакорным у інтымным жыцці і, што больш важна, ад яго патрабавалася ўмець пісаць мемуары для часопісаў і газет, праводзіць прэс-канферэнцыі, не гаворачы глупстваў пры адказах на пытанні і не заікаючыся ў пошуках слова, натуральна трымацца ў прысутнасці каралеўскіх асоб, выступаць па радыё і тэлебачанню, а калі давядзецца — гаварыць экспромтам прыгожыя прамовы наконт пераваг нашага спосабу жыцця.

За першы год ад удзелу ў аперацыі было адхілена за пяцьдзесят тысяч чалавек. Са спісу адразу ж выкрэслілі 2 735 кандыдатур, таму што іх звалі Кларэнсамі *. Яшчэ 5 548 асобам з пер-шакласнымі імёнамі — Рык, Эд ці Хэл — было адмоўлена па сямейных прычынах (разбэшчаныя дзеці, жонкі са стомленымі позіркамі, нячыстыя на руку швагры і г. д.).

Некалькі тысяч кандыдатаў былі адхілены па іншых сур'ёзных прычынах, напрыклад, за няздольнасць прыгадаць якія-небудзь смешныя выпадкі са свайго дзяцінства, дэфекты жавальнага апарату, пляшывасць, няведанне імёнаў амерыканскіх чэмпіёнаў па бейсболу, прыналежнасць да камуністычнай партыі і г. д.

У студзені 1969 года, калі гіганцкая ракета праходзіла апошнія выпрабаванні, застаўся толькі адзін кандыдат. У Брэда Карузерса было ўсё: англа-саксонскае імя, суровы профіль, пепсіноідная ўсмешка, бойскауцкае мінулае, добранадзейная рэлігія, местачковае выхаванне, бедныя, але сумленныя бацькі.

Калі генерал Дж. Дж. «Мартыра» Гровер, двухжыльны кіраўнік «Аперацыі МЕСЯЧНЫ БЛЯСК», разам з вышэйшым чынам прэс-бюро падпалкоўнікам С. Б. «Рыдлёўка» Бумчакерам праглядаў дакументы Карузерса, ён аж пац'раў рукі ад задавальнення.

— Як наконт жонкі? — прабурчаў генерал.

— Па нашай лініі — бездакорная,— адказаў Бумчакер.— Дачка папа. Заваявала тытул Міс Тыдзень Снедання Гарачай Аўсянай Кашай 1962 года. Адмовілася ад спакуслівай кар'еры натуршчыцы ў карысць пасады школьнай бібліятэкаркі.

* «Кларэнс» — від старасвецкай закрытай калымагі.







— Праверыць! Дзеці?

— Трое. Старэйшы, Брэд, разносчык газет. Другі, Рокі, чэмпіён па скачках цераз скрыні з-пад мыла. Трэцяе — грудное дзіця, завуць Сіндзі-Лі.

— Праверыць! Паходжанне?

— Бацька Карузерса — правінцыяльны гандляр жалезнымі таварамі і хаўтурных спраў майстар, што сімвалізуе трывалы індывідуалізм нашага свабоднага прадпрымальніцкага ладу. Быў нечым накшталт вясковага філосафа. Карузерс памятае безліч бацькавых афарызмаў. Напрыклад: «Няможна злавіць сома на заечую пастку». У сваім апошнім выступленні ў «Ільвіным клубе» на тэму «Наша нацыянальная спадчына — не прадавайце яе з малатка», ён удала выкарыстаў гэты афарызм. Маці Карузерса яшчэ жыве ў сваім старэнькім доміку ў Сялянскім Куце, штат Місуры. Сівыя валасы, прыемная ўсмешка.

— Праверыць! Адукацыя?

— Зусім нармальная, генерал. Ён ні ў якім разе не інтэлігент ці яшчэ што-небудзь падобнае. У каледжы спецыялізаваўся па Прыёмах і Метадах Кіравання і манкіраваў Спосабамі Вылучэння Асобы. Хобі — калекцыяніраванне картачных дывідэндаў.

— Праверыць! Палітыка?

— Непахісна незалежны! Выступае супраць празмерных выдаткаў на кіруючы апарат. Ёсць пратакольны запіс, дзе ён гаворыць, што план паляпшэння ахо-вы здароўя народа прывядзе да аслаблення і заняпаду Амерыкі.

— «Рыдлёўка»! Вы, здаецца, трапілі ў самую кропку! — усклікнуў генерал Гровер.— Гэты чалавек — найвяліткшая знаходка з часоў Юрыя Гагарына!

— Адна толькі дробязь, сэр,— сказаў Бумчакер.— Такая нязначная, што я нават не ведаю, ці варта гаварыць. Але можа аказацца нейкім фактарам...

— Давайце выкладвайце...

— Карузерс не вельмі ўмее ўпраўляцца з ракетамі, генерал. Калі справа даходзіць да таго, што трэба націснуць на якую-небудзь кнопку кіравання, рукі ў яго становяцца — як кувалды. Уражанне такое, што, калі пакінуць яго аднаго, ён разаб'е ракету ўшчэнт у палёце ці на Месяцы — калі ён туды пацэліць.

— Але, Бумчакер, ён занадта каштоўны для нас чалавек, каб рызыкаваць яго жыццём. Магчыма, у вас ёсць яшчэ хто, каго можна было б паслаць?..

— Думаю, майму механіку Эду Фінку пасадзіць ракету на Месяц — што плюнуць, сэр. Вядома, у якасці афіцыяльнага падарожніка ён не зусім падыходзіць. Часта бывае ў паліцэйскім судзе: чэша кулакі аб жончыну скіўцу. Відаць, недзе ў яго ёсць даволі пульхная бландынка. Шчыра кажучы, Фінк яшчэ і добры гультай. Ён з тых, у каго цень а сёмай гадзіне раніцы такі ж, як і а пятай па паўдні — дрыхне пад плотам. На шчасце, з ахвотаю возьме хабар.

— Мне лепш не ведаць усіх дэталей, палкоўнік Бумчакер,— сказаў генерал Гровер паспешліва.— Уладзьце гэтае пытанне, як самі знойдзеце патрэбным. Зрабіце толькі так, каб афіцыяльна на Месяц паляцеў капітан Карузерс.

— Дзеля дабра свабоднага свету, сэр! — прамовіў начальнік прэс-бюро, зухавата аддаючы чэсць.

Астатняе ўжо, вядома, гісторыя. Няма больш красамоўнага летапісу, чым летапіс навуковага подзвігу, які здзейсніў

Брэд Карузерс, амерыканец. Цытатнік Бартлета выдання 1972 года прыводзіць больш выказванняў Карузерса, чым Артура Годфрэя. Найбольш вядомае з іх — гэта безумоўна, яго славутая фраза адносна выцягнутай у космас рукі, што дакранаецца да чала гаспада-бога.

Адзін толькі інцыдэнт крыху сапсаваў трыумф першага паспяховага палёту чалавека на Месяц. У час экранізацыі шырокафарматнага эпасу «Гісторыя Брэда Карузерса» нейкі чалавек па імені Фінк уварваўся на кінастудыю «XX стагоддзе» і імкнуўся даказаць, што ўся гэтая справа — фальшыўка. І што быццам гэта ён пасадзіў ракету на Месяц. Паказаў нават рукапіс, у якім запісваў свае ўражанні. Аднак арфаграфія была такая жахлівая, мова такая непісьменная, а апісанне Месяца такое банальнае, што рукапіс адразу ж прызналі падробкай, паклёпам і пэцканінай.

## МАРСІЯНІН НА ЗЯМЛІ

Лятаючы сподак апусціўся на лужку за домам Фрэда Фостэра а трэцяй гадзіне дня ў суботу. Дзверы адчыніла Фрэдава старэйшая дачка Мона. На парозе стаяў маленькі зялёны чалавечак. У яго была лысая галава, вырачаныя вочы, вялізныя вушы. З ілба тырчалі дзве антэны. На галаве было нешта накшталт акварыума для залатых рыбак. Дзяўчына адразу пазнала ў ім марсіяніна.

— Адвядзіце мяне да вашага лідэра,— далікатна папрасіў марсіянін.

— Гэй, тата! — гукнула Мона.— Тут ля чорнага ходу марсіянін, хоча з табой пагаварыць.

Фрэд Фостэр сядзеў у споднім кашулі перад тэлевізарам, сочачы па другому каналу за футбольным матчам.

— Скажы яму, што нам нічога не трэба! — крыкнуў ён дачцы.— Што б ён там ні прынёс, у нас усяго шмат!

— Ён нічога не прадае, тата,— сказала Мона.— Гэта марсіянін.

Фрэд Фостэр стомлена падняўся з крэсла.

— Яны на ўсё пойдуць, каб толькі забрацца ў хату,— прамармытаў ён.— На тым тыдні схлусілі, што прынеслі бясплатную курсоўку.

Ён люта зірнуў на марсіяніна, які паранейшаму далікатна стаяў у дзвярах.

— О'кэй,— сказаў Фрэд Фостэр,— выкладвайце. Што прадаеце? І не спрабуйце лгаць, што вы каморнік, у нас тут ужо адзін такі быў.

— Адвядзіце мяне да вашага лідэра,— далікатна сказаў марсіянін, як яго вучылі ў ракетнай школе.

— Здаецца, ён мае нейкае дачыненне да атамных прыстасаванняў,— сказала місіс Фостэр, падыходзячы да дзвярэй і выціраючы аб фартух рукі.— У іх заўсёды ёсць якая-небудзь такая штука ў запасе.

Тым часам Фрэд Фостэр мацаў марсіяніна, тузаў яго за вушы і тыцкаў рукой у антэны.

— Чорт вазьмі! — усклікнуў Фрэд Фостэр.— Гэта — не інакш, як марсіянін!

— Вядома,— сказала Мона.— Я іх усюды пазнаю.

— Дзеля бога, запрасіце яго ў хату,— занепакоілася місіс Фостэр.— Я зараз прыгатую трохі чаю з мёдам.

Марсіяніна запрасілі ў гасціную. Усе паселі і пачалі разглядаць яго, а тым часам місіс Фостэр прыгатавала чай з мёдам.

Марсіянін далікатна адмовіўся ад чаю, а таксама ад шакаладнага пячэння. Аднак калі персідскі кот Фостэра ўскочыў яму на калені, ён з'еў яго разам з поўсцю і ўсімі патрахамі. Фостэры крыху



сумеліся, але прамаўчалі, бо марсіянін быў іх госць.

— Адвядзіце мяне да вашага лідэра,— зноў папрасіў марсіянін і азірнуўся, шукаючы яшчэ аднаго ката.

— Чорт пабяры, ён мае рацыю,— сказаў Фрэд Фостэр.— Гэта адна з тых дыпламатычных штук.

— А хто ў нас лідэр? — з цікаўнасцю запытала Мона.

Гэта было пытаннне! Місіс Фостэр настойвала, што мэр, але Фрэд стаяў за губернатара.

— Тады бяры вышэй, Фрэд,— сказала місіс Фостэр,— і паднімайся аж на самы верх, адразу да дзяржаўнага сакратара ці, можа, нават да прэзідэнта.

— Глядзіш — у самы корань, маці! — усклікнуў Фрэд Фостэр.— Прэзідэнт, вядома ж! Гэты марсіянін з'явіўся з другой краіны, ці ж не так? Значыць, павінен сустрэцца з кіраўніком не чаго-небудзь там, а краіны ж. Пайду пазваню прэзідэнту.

Ён заказаў міжгароднюю размову з Вашынгтонам і папрасіў, каб яму далі пагаварыць асабіста з прэзідэнтам. Але, замест прэзідэнта, з ім гаварыў нейкі малады чалавек, імя якога гучала нешта накшталт Глрб. Той запэўніў Фрэда Фостэра, што гаворыць ад імя прэзідэнта.

Паведамленне зусім не здзівіла маладога чалавека. Ён сказаў містэру Фостэру, што той неўзабаве атрымае пісьмо на гэты конт. І сапраўды на трэці дзень прыйшло пісьмо:

**«Прэзідэнт прасіў перадаць, што яго вельмі зацікавіла тое, што адбылося ў вас у мінулую суботу, і што ён высока цэніць клопат, які вы ўзялі на сябе, каб звязацца з ім асабіста па тэлефоне.**

**Ён выказаў надзею, што, калі вам выпадзе быць у Вашынгтоне, вы зойдзеце на галерэю для гасцей Палаты Прадстаўнікоў і паназіраеце за дэмакратычнымі працэсамі нашай вялікай нацыі ў дзеянні.**

**Шчыра Ваш,**
**Рэджынальд ГЛРБ,**
**Памочнік Прэзідэнта».**

Такі адказ не вельмі задаволіў адрасата.

— Можа трэба звярнуцца ў газету? — прапанавала місіс Фостэр.

Марсіянін пачаў ім трохі надакучаць. Ён жыў у сваім лятаючым сподку, аднак час ад часу паяўляўся на парозе і жаласна прасіў:

— Адвядзіце мяне да вашага лідэра...

Тады Фрэд Фостэр пазваніў у буйную сталічную штодзённую газету. (Яе назвы мы тут не скажам, каб ніхто не папракнуў нас, што мы прадузята да яе ставімся.) Работнік рэдакцыі, які ўзяў трубку, вельмі зацікавіўся гісторыяй з лятаючым сподкам. Фрэд чуў, як ён нешта таропка запісвае.

— Прыязджайце і паглядзіце самі,— прапанаваў Фрэд Фостэр, але рэпарцёр сказаў, што гэта неабавязкова: яны могуць атрымаць усе падрабязнасці па тэлефоне, каб паспець да выпуску ўнутранага выдання.

Пасля поўдня на другой паласе з'явіўся вясёлы артыкул пра фостэраўскага марсіяніна, ілюстраваны серыяй смешных малюнкаў. Артыкул адразу ж перадрукавалі дзве іншыя сталічныя газеты, і назаўтра адна з іх не пашкадавала грошай і камандзіравала да Фостэраў рэпарцёра.

Фостэры запрасілі яго ў гасціную, дзе ён усіх сфатаграфаваў і запісаў некаторыя выказванні для газеты.

— Марсіянін за домам у сваім сподку,— сказаў Фрэд Фостэр.— Хадземце, я пакажу вам яго.

Аднак рэпарцёр зірнуў на свой гадзіннік і сказаў, што ў яго засталося ў абрэз часу, каб паспець на трохгадзінны поезд і пабіць астатнія газеты сваёй здабычай. Ён запэўніў, што атрымаў усё патрэбнае. Магчыма, надрукуюць не больш, як два развароты здымкаў, а можа абмяжуюцца толькі подпісам пад фотаздымкам шырынёй на тры калонкі на трэцяй паласе. Так і атрымалася:

**«ТУТ СПАЎ «МАРСІЯНІН», паведамілі нам Фрэд Дж. Фостэр (у цэнтры), Сесіль-стрыт 224В, місіс Фостэр (злева) і дачка іх Мона (справа), паказаўшы месца на канапе, дзе, па іх словах, наведвальнік з Марса сядзеў і піў каву з ільдом».**

Наступнай ноччу маленькі марсіянін адбыў на сваім лятаючым сподку, бо пачынаў ужо трывожыцца за сваю будучыню. Прызямліўся ён у Погкіпсі, штат Нью-Йорк, пастукаў у нейкія дзверы і зноў пачаў усё спачатку.

— Адвядзіце мяне да вашага лідэра,— папрасіў ён з надзеяй.

Так працягвалася шэсць з палавінай год. Вельмі ўжо быў упарты марсіянін. Але ўсё было марна...

## ПАКОЙ ДЛЯ ЧАКАННЯ

**«Уэсбрук Фрэйм, 32-гадовы ас па матагонках, загінуў, калі яго ярка-пунсовую машыну «Рык-Віхор-47» занесла і яна ўзарвалася на трэцім павароце ў час Уіфлінгскіх гонак. Калі маладой жонцы Фрэйма, Клер, паведамілі пра няшчасны выпадак, ёй прыйшлося зрабіць супакойваючы ўкол. Яна спазнілася на гонкі, таму не бачыла пагібельную для яе мужа аварыю. «Я ведаю, ён недзе там, наверсе, чакае мяне»,— сказала яна, плачучы, і сябры адвялі яе дадому».**
**З ГАЗЕТ.**

— Ваша жонка павінна прыбыць з наступнай партыяй,— абвясціў херувім, праводзячы Уэсбрука Фрэйма ў пакой для чакання.— Прабачце, што тут цеснавата. У старыя часы, калі працавала Пекла, а яшчэ раней, калі ў нас функцыяніраваў Чысцец, мы не стаялі перад такой праблемай.

— Вы хочаце сказаць, што закрылі Пекла?




— Ды не, не мы,— сказаў херувім.— Гэта вы яго закрылі. Вы адмовіліся прызнаць яго існаванне, таму яно проста збанкруцілася. Вось ваша месца. Сядайце і чакайце.

«Я заўсёды чакаю сваю жонку»,— падумаў Уэсбрук Фрэйм, даючы херувіму на чай. Потым агледзеўся. «Якраз як чакальны пакой на зямлі,— падумаў ён,— толькі з цвёрдага золата ды яшчэ музыка — *пераважна для арфы*». Гучала: «Сабяромся ля ракі Ча-ча-ча».

— Нешта гэтыя залатыя лаўкі занадта цвёрдыя,— нездаволена прамовіў самавіты пажылы джэнтльмен, прысаджваючыся побач з Фрэймам.

— Вы ж самі такія прасілі, памятаеце? — напомніў херувім, працягваючы руку па чаявыя.— Хацелі, каб усё было з цвёрдай валюты — золата і жэмчугу. Вось і маеце... Наша задача — задавальняць просьбы, самі ведаеце. Дзякую, бацюшка. Вельмі ўдзячны.

— Бацюшка? — перапытаў Уэсбрук Фрэйм.

— Прападобны Пітэр Фрэншоу,— *прадставіўся паважны джэнтльмен*.— Цэнтральная Манетарная Царква, Цынцынаці. Пакаваў манеты начамі. Я, ведаеце, прадказваў будучыню. Баюся, што тут не разгорнешся. Розуму недабяру, чаму ў іх тут няма цэркваў?

— Хоць бы жонка паспяшалася,— сказаў Уэсбрук Фрэйм.

— Аднак тут можна заняцца місіянерскай дзейнасцю,— працягваў прападобны містэр Фрэншоу.— Бачыце, колькі індусаў, га?

— Ніколі ў час не прыйдзе,— прабурчаў Фрэйм, прапусціўшы міма вушэй *словы субяседніка*.

— Некаторым жанчынам не хапае дысцыпліны,— сказаў прападобны.— Мая жонка, калі я з ёю ажаніўся, была сапсаваным дзіцем, але я паставіў яе на шлях праведны. Загадваў я. Так ёй лепш падабалася.

— А вы не шкадуеце, што не абыходзіліся з ёю лагодней? — спытаўся Фрэйм.— Чакаеце ж вы, не яна...

— Развялі тут страшэнную бюракратыю! — адказаў Фрэншоу.

— Тут, наверсе, час цягнецца, як пахавальная працэсія,— *заўважыў Фрэйм*, трацячы цярпенне.— Гэй, херувім! Калі прыбывае наступная партыя? Не можам *жа мы вечна чакаць*.

— Чаму — не? — спытаў херувім, саджаючы побач з імі нейкага старога.— Вы атрымалі вечную!





— Не гаварыце дзёрзкасцей старэйшым,— *адрэзаў Фрэншоу*.

— Старэйшым! — усклікнуў херувім.— Вось гэта мне падабаецца. Ды я ўзняўся сюды, *калі продкі* вашы былі яшчэ арангутангамі. Я тут з самага пачатку свету.

— Тады вы, можа, бачылі саміх Адама з Евай? — стаіўшы дыханне, спытаў Фрэншоу.

— Нешта нікога з такім імем не прыпамінаю,— адказаў херувім.— Але адразу, як мы адкрыліся, у нас тут кішэла валасатымі. Паводзілі сябе нават лепш, чым тыя, якія паступаюць да нас зараз, калі вам праўду сказаць. Вы, навенькія, вельмі ўжо нейкія нецярплівыя. Вазьміце вунь *прыклад з гэтага* старога, вашага суседа: спакойна спіць сабе!

І сапраўды, стары джэнтльмен гучна хроп.

— Клер заўсёды позніцца,— прамармытаў Фрэйм.

— Клер? — перапытаў прападобны Пітэр Фрэншоу.— Дзіўна! Маю жонку таксама так завуць. Клер Фрэйм-Фрэншоу.

— Фрэйм?! — выгукнуў Уэсбрук Фрэйм.

— Ага. Імя яе першага мужа. Ліхач. Разбіўся ў аўтамабільнай катастрофе. Страшэнна разбэсціў яе, але я хутка ўсё паставіў на месца. *Яна паважала* цвёрдасць. Што з вамі, даражэнькі? Вам кепска?

— Я муж яе,— сказаў Уэсбрук Фрэйм прыдушаным голасам.

— Святая зямля! — дзівіўся Фрэншоу.— Якая непрыемнасць!

— Непрыемнасць? Вы ўкралі чужую жонку!

— Супакойцеся. Яна гэтага не памятае, самі ведаеце.

— Лухта! Мы ж былі пяць год жанатыя!

— Эх,— сказаў прападобны містэр Фрэншоу,— а мы дваццаць з хвосцікам!

Уэсбрук Фрэйм паклаў сваю арфу на *лаўку*.

— Гэта немагчыма,— сказаў ён.— Вы не маглі так доўга жыць у шлюбе. Здаецца, я пакінуў яе некалькі дзён таму назад.

— Дваццаць год назад! — паправіў Фрэншоу.— Зірніце на мяне — я вам *бацька*.

Уэсбрук Фрэйм ашалела павярнуўся да херувіма. Той неяк дзіўна на яго зірнуў.

— Вы ж толькі што самі сказалі, што час тут цягнецца марудна,— прамовіў ён.— Мы робім усё магчымае, каб ён ляцеў, як імгненне. Ці ж не гэтага вы жадалі? Па-нябеснаму...

Яго словы патанулі ў гуках фанфар. Вялізныя дзверы пакоя расчыніліся. Абодва чалавекі з надзеяй ссунуліся на край лаўкі.

— У мяне *перавага маладосці*,— сказаў Уэсбрук Фрэйм.— Яна аддасць перавагу мне. Я абыходзіўся з ёю, як з прынцэсай.

— Жанчыны любяць сталасць. Нявопытнасць ім не да спадобы,— сказаў Фрэншоу.— Яна аддасць перавагу мне. Я абыходзіўся з ёю, як бацька.

Абодва кінуліся наперад, але, калі, нарэшце, убачылі яе, спалохана адскочылі назад. Бо яна была старая, як час, ссохлая, зморшчаная і счарнелая. Яна іх нават не заўважыла. Кінулася проста ў абдымкі старога джэнтльмена, *які да* гэтага салодка хроп, седзячы побач з імі на лаўцы.

— Гром зямны! — усклікнуў Фрэншоу.— Мне нават і ў галаву не прыходзіла, што яна выйдзе замуж трэці раз!

— Як хутка ты прыйшла,— сказаў стары джэнтльмен, пад ручку з ёю пакідаючы пакой.

— Але чаму — ён? — спытаўся Уэсбрук Фрэйм здзіўлена, аднак з палёгкай.

— Магчыма, ён абыходзіўся з ёю, як з роўнай,— адказаў усюдыісны херувім, праціснуўшыся паміж субяседнікамі.

— Ведаеце,— сказаў яму задумліва Фрэйм,— я так і не дазнаўся, як называецца тутэйшая мясцовасць. *Ва ўсякім* разе, як яна, па-вашаму?

— Сам не ведаю, ці ёсць у яе ўжо цяпер імя,— *адказаў* херувім.— Раней звычайна мы называлі яе Небам, але з таго часу, як вы яго адмянілі, самі не разбяромся. Імкнемся задавальваць кліентаў, аднак, калі ідзеш на кампраміс, перад табой паўстаюць праблемы...

## ПАКАРАННЕ СМЕРЦЮ РОДЖЭРА МАГАФІ

Спачатку смяротная кара была прызначана на раніцу, потым яе перанеслі на восем трыццаць вечара: патрон дамагаўся, каб перадача пайшла ў самы гарачы для тэлебачання час. Некаторыя хлопцы са студыі гаварылі, што праграму *можна зняць на відэаплёнку, але ад*казныя за рэпартаж не згадзіліся: для тых, хто будзе глядзець пакаранне смерцю па тэлебачанню, цікавасць заключаецца іменна ў тым, што яно, чорт пабяры, падаецца «гарачанькім».

Дык вось, гэта адбылося ў восем трыццаць у суботу вечарам, адразу ж пасля царквы і яшчэ не так позна, каб дзеці прапусцілі цырымонію, якая была надзвычай выхаваўчай, бо прысвячалася раскрыццю тэзіса, што Злачынства Не Акупляецца. Рэжысёр-пастаноўшчык запланаваў шчодрую кампенсацыю арганізатарам шоў-рэвю Эда Салівана за ўступку іхняга тэлевізійнага часу, а таксама кіраўнікам гульні «Славутыя Людзі», якія таксама адмовіліся ад сваёй перадачы.

Нікому нават і ў галаву не прыходзіла падзякаваць Роджэру Магафі за тое, што апошнія імгненні свайго жыцця ён аддаваў на карысць арганізатарам перадачы: у той час да Роджэра Магафі нікому не было ніякай справы. На працягу ўсяго рэпартажу, што заняў цэлую гадзіну, ён быў адзіным чалавекам, якому не трэба было гаварыць па памяці ніводнага радка. Ён забіў сваю жонку ў прыпадку гневу, і перадача мела на мэце ўтрымаць іншых мужоў ад забойства сваіх жонак у новых, якія маглі адбыцца, прыпадках гневу.

Ідэя паказаць па тэлебачанню пакаранне смерцю на электрычным крэсле была з энтузіязмам сустрэта прэсай, грамадскасцю і кіраўнікамі ўрада, калі пра яе ўпершыню абвясціла рэкламнае агенцтва Грына, Гарстана, Фулмера, Брайта і Ліча. Вы, магчыма, памятаеце — некалькі год таму назад некаторыя слабахарактарныя мямлі, зацікаўленыя ў тым, каб злачынцаў толькі злёгку апарыць кіпенем, заклікалі да адмены смяротнай кары. Іх энергічна і правільна асудзілі цывільныя лідэры, указаўшы, па-першае, што злачынца павінен расплачвацца за свае злачынствы і, па-другое, што пакаранне смерцю — моцны сродак супраць новых злачынстваў. Без прыкладу «крэсла», гаварылі яны, вуліцы стануць небяспечнымі для сумленных людзей.

Якраз на гэта і націскаў Бартан Дж. Ліч, наймагутнейшы рэкламны бос ва ўсёй Амерыцы. Вышэйшая мера, гаварыў ён, такая ж стрымліваючая сіла, як і атамная бомба.

Перад самым пачаткам праграмы асуджанага пачаставалі багатым абедам. Шчыра кажучы, ён ужо абедаў у пяць трыццаць і ежа ў горла не лезла, але тэлевізійная кампанія вырашыла, што будзе нядрэнна паказаць, як ён аплятае смажанае кураня ў самы хвалюючы момант перадачы. Запісалі пахвальнае слова Шрафту, які забяспечыў праграму прадуктамі, а таксама кампаніі «Пан-Амерыкен Эаруэйз», на чыім самалёце прыляцеў кат.

Набліжаўся час пакарання, у студыі станавілася ўсё болей шумна і мітусліва. Некаторыя госці апекуна, якія ніколі не бачылі закуліснага боку тэлевізійнай праграмы, былі моцна ўражаны шматграннай дзейнасцю яе ўдзельнікаў.

Апаратары правялі тры папярэдніх і адну генеральную рэпетыцыю ў самой камеры. У кожнага ўдзельніка, акрамя асуджанага, на руках былі карткі з рэплікамі. Кат прайшоўся па сваёй ролі сем разоў — рэжысёра не задавальняла яго прывычка забягаць наперад: на тэлебачанні, настойліва паўтараў рэжысёр, пачуццё часу — вырашае ўсё, асабліва ў такой перадачы, дзе блытаніна і паспешлівасць смерці падобны.

Адзін вынаходлівы работнік студыі прыдумаў цудоўны ход. Схаваны за сцэнай дыктар намякаў на магчымасць нечаканай, у апошнюю хвіліну, адмены прыгавору: юрысты выявілі новыя абставіны і якраз, калі пачалася перадача, губернатар узяўся за перагляд справы. Вядома, гэта быў падман. Можаце быць упэўнены, што пры такіх сур'ёзных пакараннях ніякіх судовых памылак не бывае. Аднак арыгінальная выдумка падліла масла ў агонь, а гэта ж так важна пры любых ведовішчах.

Дык вось, не буду апісваць самую перадачу. Усе вы, як і я, бачылі яе і ведаеце, які яна мела шумны поспех. Усе крытыкі былі ў захапленні, і, безумоўна, ацэнка пераўзышла самыя смелыя спадзяванні тэлекампаніі. Праўда, асуджаны мог бы весці сваю ролю лепш, асабліва недзе ў сярэдзіне рэпартажу, але ж гэта, як заўважыў Бартан Дж. Ліч, быў усяго толькі першы вопыт. У наступных перадачах,— а вы можаце ісці ў заклад, што іх будзе шмат,— такія дэталі возьмуць пад належную ўвагу.

**Пераклаў з англійскай мовы Сямён ДОРСКІ.**





# ПУБЛІЦЫСТЫКА


● Уладзімір ГРЫГОР'ЕЎ
● Валянцін ЖДАНОВІЧ
● Уладзімір МЯЖЭВІЧ
● Уладзімір ЕЛІСЕЕЎ
● Нгуен МІНЬ ДЫОНГ
● Мікалай БРАТУШЭНКА
● Якаў РЭЗНІКАЎ
● Міхаіл КЛЯЎЧЭНЯ
● Янка БРЫЛЬ
● Мечыслаў ШАХОВІЧ
● Уладзімір ЮРЭВІЧ
● Ядзвіга РАМАНОЎСКАЯ
● Барыс РОЗЕН
● Людміла МІХАЙЛОЎСКАЯ
● Аляксандр СПІВАЧУК



# ДАЛЁКАЕ—БЛІЗКАЕ

**Сакратар Магілёўскага абкома ЛКСМБ Уладзімір ГРЫГОР'ЕЎ расказвае:**

**першыя камсамольскія арганізацыі на Магілёўшчыне;**

**камсамольцы-магіляўчане ў агні грамадзянскай вайны, у барацьбе за маладую рэспубліку Саветаў;**

**змагары за новае жыццё ў горадзе і вёсцы;**

**на рыштаваннях першых пяцігодак;**

**неўміручы подзвіг юнацтва;**

**калі Партыя сказала: «ТРЭБА», камсамол адказвае: «ЁСЦЬ!»;**

**50-годдзю рэспублікі і 50-годдзю кампартыі Беларусі, юбілею ВЛКСМ — дастойную сустрэчу.**

## НАРОДЖАНЫ КАСТРЫЧНІКАМ, ЛЕГЕНДАМІ АВЕЯНЫ

На Магілёўшчыне, у краі, дзе дэмакратычныя, рэвалюцыйныя і баявыя традыцыі сваімі карэннямі пранікаюць у глыбіню гісторыі, моладзь заўсёды была з тымі, хто нёс народу светлыя ідэі свабоды і вызвалення. Тут, у сценах Магілёўскай гімназіі, сваім аднадумцам і сябрам чытаў кнігі Маркса Панцеляймон Лепяшынскі, які потым з Леніным прайшоў сібірскую ссылку і жэнеўскую эміграцыю. З Магілёва, з падпольнай бібліятэкі, створанай групай праўдзістаў на чале з Абрамам Чарніцкім, разыходзіліся ў 1912 годзе першыя экземпляры бальшавіцкай «Праўды». У Магілёве нарадзіўся і правёў дзяцінства Ота Юльевіч Шмідт, які ўвайшоў у гісторыю нашай краіны як бясстрашны даследчык Арктыкі.

Шырокай хваляй народнага гневу адгукнулася на Магілёўшчыне студзеньскае паўстанне 1905 года ў Петраградзе. На вуліцы Магілёва разам з рабочымі пад чырвонымі штандарамі выйшлі навучэнцы гімназіі, рэальнага вучылішча, фельчарскай школы. У Горках адбылася вялікая студэнцкая дэманстрацыя пратэсту. У сутычцы з паліцыяй загінуў студэнт Фама Ерафееў, а Пятро Бруцэр быў цяжка паранены. Увосень пракаціліся масавыя сялянскія выступленні ў Чэрыкаўскім, Клімавіцкім і Горацкім паветах, а сярод адважных сялянскіх паўстанцаў была і моладзь. Першыя свае гурткі і арганізацыі, што ўзніклі напярэдадні Вялікага Кастрычніка, моладзь справядліва назвала сацыялістычнымі.

Чэрвень 1917 года. У Петраградзе і ва ўсіх буйных прамысловых цэнтрах краіны ўзнікаюць саюзы рабочай моладзі. З дапамогай камуністаў такі саюз быў створаны і ў Магілёве, вакол яго згуртоўваліся лепшыя сілы моладзі.

Грымнуў залп «Аўроры», абвясціўшы пачатак новай эры — эры сацыялістычнай рэвалюцыі. У Магілёве засела контррэвалюцыйнае гняздо — царская Стаўка, якая не хацела прызнаць Савецкую ўладу. Па прапанове У. І. Леніна ў Магілёў накіроўваецца з чырвонагвардзейцамі бальшавік Мікалай Васільевіч Крыленка. 20 лістапада 1917 года царская Стаўка здалася без бою. 2-гі з'езд Саветаў, які праходзіў у снежні пад старшынством бальшавіка М. Максімава, прыняў рашэнне аб пераходзе ўлады ў Магілёве і губерні да Саветаў. Усе працоўныя радасна і шчыра віталі сваю народную ўладу. «Усе дружна за работу, — пісаў Мсціслаўскі павятовы камітэт 22 лютага 1918 года ў цыркуляры да ўсіх Саўдэпаў. — Не смей ніхто ні на крок адставаць у стройным баявым паходзе рабоча-сялянскіх працоўных мас да царства камунізма».

6 снежня 1918 года ў Доме працы адбыўся сход маладых рабочых, які ўхваліў рашэнні І-га з'езда РКСМ, выбраў камітэт Саюза рабочай моладзі. Камуністычным ён пачаў называцца крыху пазней — 9 студзеня 1919 года.

Нягледзячы на цяжкасці, з якімі давялося сустрэцца першым маладым энтузіястам, камсамольская арганізацыя Магілёва расла, набываючы ўсё большы ўплыў на моладзь.

Па ўсёй краіне палыхала грамадзянская вайна. Барацьба з контррэвалюцыяй і інтэрвентамі стала галоўнай задачай рэвалюцыйнай моладзі і яе арганізацый. Жменька магілёўскіх камсамольцаў — усяго трыццаць чалавек — стварыла свой клуб. Кожны дзень ішлі мітынгі і сходы. Камсамольцы чыталі рабочым газеты і адозвы, праводзілі растлумачальную работу сярод маладых байцоў Чырвонай Арміі. Вясною з членаў РКСМ арганізоўваецца баявая дружына імя К. Лібкнехта для адпору белапольскім інтэрвентам.

Магілёўская камсамольская арганізацыя к гэтаму часу стала адной з буйных у краіне. У ліпені ў ёй ужо налічвалася 150 юнакоў і дзяўчат. Газета «Праўда» адзначала, што магілёўскія камсамольцы праводзяць вялікую работу ў масах рабочай і сялянскай моладзі.

Камсамольскія ячэйкі ствараюцца і ў вёсцы. У канцы таго ж 1918 года першыя камсамольскія арганізацыі ўжо дзейнічаюць у Новай Ельні, на Краснапольшчыне, у вёсцы Гарадзец Быхаўскага раёна, у мястэчку Круглае, у гарадах Чавусы, Шклоў, Клімавічы.

Сярод першых — баявая камсамольская арганізацыя Бабруйска, якая нарадзілася ў падполлі, у часе нямецкай акупацыі. Камсамольцы распаўсюджвалі бальшавіцкія газеты і лістоўкі, ахоўвалі партыйныя сходы, удзельнічалі ў дыверсіях. Для падаўлення белагвардзейскага паўстання ў Гомелі бабруйскія камсамольцы стварылі чырвонагвардзейскі атрад асобага прызначэння. У яго ўвайшлі 50 камсамольцаў. З Гомеля маладыя чырвонагвардзейцы рушылі на Чарнігаў — на барацьбу з пятлюраўцамі. У барацьбе з белапалякамі вызначыўся Чавускі чырвонагвардзейскі атрад, укамплектаваны з маладых добраахвотнікаў.

У тыя незабыўныя дні вірыла жыццё ў ячэйках. Усюды збіраліся мітынгі, сходы, праводзіліся «дні чырвонай моладзі». У Магілёве «дзень чырвонай моладзі» адбыўся 31 мая 1919 года. Раніцай выйшаў лісток, прысвечаны саюзу моладзі. Днём маладыя крочылі па вуліцах з песнямі і лозунгамі. Увечары — канцэрт-мітынг у тэатры. У другі раз «дзень чырвонай моладзі» святкаваўся 29 верасня. У маніфестацыі ўдзельнічала да 3000 чалавек. Усюды стракацелі заклікі: **«Дапамажыце старэйшым братам у іх цяжкай барацьбе!», «Вучыцеся будаваць сваё сацыялістычнае грамадства!», «Ідзіце ў саюз моладзі!»** Тады за адзін дзень армія камсамола папоўнілася 59 новымі членамі.

Рэвалюцыйны энтузіязм маладых рабочых магутным рэхам адгукваўся ў сэрцах вясковай моладзі. Камсамольская ячэйка ў Гарадцы налічвала пяць членаў РКСМ. Адважныя і смелыя, яны,



Адпраўка чавускіх камсамольцаў на Заходні фронт у 1919 годзе.

...як разведчыкі, пракладвалі першы след у новы свет. Са сваім важаком Косцем Лукашовым, узброіўшыся лозунгамі і брашурамі, яны ішлі да сялян, растлумачвалі задачы Савецкай улады, наладжвалі вечары ў хаце-чытальні, а калі бандыты набліжаліся да вёскі, бралі ў рукі вінтоўкі. Любілі Косцю Лукашова маладыя, паважалі яго і старыя, бо ён гарэў прагай рэвалюцыйнага дзеяння і заахвочваў сваім задорам сяброў. Камсамол даў яму, як і многім вясковым хлопцам і дзяўчатам, пуцёўку ў жыццё, адкрыў дарогу да выяўлення здольнасцей і таленту. Канстанцін Ігнатавіч Лукашоў сёння вядомы вучоны, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР.

У агні рэвалюцыі нарадзілася маладая рэспубліка Саветаў, у жорсткай крывавай схватцы з буржуазіяй і капіталістамі гартаваліся яе першыя змагары. Вогненныя гады — так справядліва называем мы той час. У 1919—1920 гадах праводзіліся тры масавыя мабілізацыі ў краіне, і ў кожнай камсамольцы Магілёўшчыны бралі самы чынны ўдзел.

**«Мы народжаны рэвалюцыяй, —** яшчэ ў лютым 1919 года пісалі камсамольцы Магілёўшчыны ў адказ на заклік аб'яднанага пленума ЦК камсамола Беларусі і Літвы. — **Разам з ёй мы расцём і развіваемся. З ёю мы непарыўна звязаны і складаем яе непарыўную частку. Пагібель рэвалюцыі, паражэнне рабочага класа былі б нашай пагібеллю...»**

Добраахвотнікамі ў Чырвоную Армію запісаліся ўсе, хто мог трымаць у руках зброю. Камсамольцы, як адзін, ірваліся на фронт, гарэлі адным жаданнем — удзельнічаць у абароне сацыялістычнай Айчыны. Адразу ж з сямі членаў Магілёўскага камітэта пяцёра пайшлі на фронт. Пятая частка ўсёй гарадской арганізацыі была мабілізавана. Пачалося ўсеагульнае ваеннае абучэнне моладзі. Рашэнне гарадскога камсамольскага сходу было строгае: той, хто ў момант найвялікшай небяспекі для Радзімы недастаткова сур'ёзна адносіцца да вайсковай вучобы, выключаецца з членаў РКСМ.

Камсамольцы Шклова прынялі сваё рашэнне: перайсці на казарменнае становішча. Камсамольскі патруль стаў на варту, каб банды не ўварваліся ў горад. З усіх гарадоў і вёсак несліся галасы: «На фронт!», «На абарону Айчыны!»

**«На фронт, да старэйшых таварышаў, мы пашлём кадры юнага пралетарыяту,** — пісалі ў сваёй рэзалюцыі камсамольцы Горацкага раёна. — **Мы верым, што наша перамога забяспечана».**

А вось рэзалюцыя камсамольцаў Клімаўшчыны: **«Рабочая моладзь не дапусціць ганьбы, дэзерцірства ў нашых радах. Гультаям і раўнадушным няма сярод нас месца».** Рашэнне канферэнцыі кароткае і яснае — прызваць усю моладзь нараджэння 1901 года ў Чырвоную Армію.

Нельга зноў не прыгадаць ініцыятыву шклоўскіх камсамольцаў. Калі была аб'яўлена чарговая мабілізацыя, яны выказалі жаданне: усім адправіцца на фронт.

Поўны суровай рамантыкі заклік бабруйчан: **«Усе на фронт! Усе рабочыя, і старыя і маладыя, — на абарону рэвалюцыі! Вазьміце вінтоўкі ў рукі і смела наперад!»** І тут словы не разыходзіліся са справай. 72-гі інтэрнацыянальны маладзёжны полк, у якім было шмат бабруйскіх і магілёўскіх камсамольцаў, бясстрашна граміў ворага, прайшоў гераічны шлях ад Бабруйска да Варшавы.

Смела і бясстрашна дзейнічалі бабруйчане-падпольшчыкі. Неспадзявана для акупантаў на коміне аднаго завода ўзвілося чырвонае палотнішча з надпісам: **«Прэч акупантаў з нашай Радзімы!»** Назаўсёды ў сэрцах многіх пакаленняў застаўся вобраз камсамольца-патрыёта Васіля Падбярознага, які загінуў 7 мая 1920 года ад рук акупантаў. Гераічнай старонкай у гісторыю бабруйскага камсамола ўвайшла баявая дзейнасць партызанскага атрада, якім камандаваў малады камуніст Сямён Вілюга.

З франтоў грамадзянскай вайны ішлі добрыя весткі. Адзін з пасланцоў Магілёва, звяртаючыся да сваіх землякоў, пісаў з Самары: **«Мы ўсе, магіляўчане, спадзяёмся, што сваю справу абароны сацыялістычнай Айчыны выканаем».** Чырвонаармеец палка імя Леніна камсамолец Сяргей Працэнка ў



Сяргей Сарокін — адзін з арганізатараў Савецкай улады на Быхаўшчыне. 1918 год.

баях пад Акцюбінскам праявіў сябе як адважны і бясстрашны герой — ён загінуў у няроўным баі. У адным з баёў з белапольскімі інтэрвентамі смерцю храбрых загінуў камандзір маладзёжнага атрада Максім Ус.

Героі грамадзянскай вайны — камсамольцы і моладзь — назаўсёды ў памяці пакаленняў. Авеяныя легендарнай славай, яны жывуць у справе, якую твораць нашы сучаснікі, іх імёны — на мармуры помнікаў і дошак, што пастаўлены ўдзячнымі нашчадкамі, у назвах школ, сквераў і паркаў.

...13 лістапада 1918 года. У вызвалены ад акупантаў Быхаў уваходзілі партызанскія атрады: адзін з боку вёскі Сцюдзёнка, другі з Абідавіч. У цэнтры, дзе сустрэліся сцяганосцы, нехта прапанаваў пасадзіць дрэвы. У памяць перамогі і вызвалення. Гэта быў

першы рэвалюцыйны помнік героям-землякам.

У Быхаве прыжылася гэтая добрая традыцыя — увекавечваць перамогі зялёнымі помнікамі. У гонар першай пяцігодкі — алея МЮДа, у гонар герояў Вялікай Айчыннай вайны — парк Перамогі. Тут ёсць сквер Дружбы, алея Касманаўтаў, сквер-помнік Хвядосу Смалячкову, Марату Казлову. У кожнай вёсцы шумяць алеі і паркі — помнікі землякам, што загінулі за росквіт роднай зямлі.

## У НОВЫ ДЗЕНЬ БЛІСКУЧЫ СЛЕД

Закончылася грамадзянская вайна. Пачаўся новы, не менш гераічны этап барацьбы з голадам і разрухай, за адраджэнне разбураных ворагам гарадоў і вёсак, за ўсталяванне новага, сацыялістычнага ладу жыцця.

На Магілёўшчыну хутка далящела вестка з Масквы пра ленінскія суботнікі і адгукнулася магутнай хваляй камсамольскага энтузіязму. 30 ліпеня 1919 года ў Магілёве адбыўся агульны камсамольскі сход, які аднадушна заявіў: **«Даеш суботнікі! Няхай жыве Камуна!»**

Дружна, з песнямі, з лозунгамі і сцягамі юнакі і дзяўчаты выйшлі на чыгунку, на нарыхтоўку паліва, на ачыстку горада. Неўзабаве першыя масавыя суботнікі адбыліся ў Быхаве, Горках, Мсціслаўлі, Клімавічах, Крычаве. Камсамольцы рамантавалі паравозы, вагоны, грузілі дровы і хлеб, падвозілі лесаматэрыял. У камуністычных суботніках і нядзельніках актыўны ўдзел прымала несаюзная моладзь, што садзейнічала ўмацаванню яе сувязей з камсамольскімі арганізацыямі.

24 верасня 1920 года. У Мінску адбыўся І-ы з'езд камсамола Беларусі. З Магілёўшчыны прысутнічала 14 дэлегатаў, якія прадстаўлялі трохтысячны атрад дваццаці гарадскіх і павятовых арганізацый.

З юнацкім запалам камсамольцы стройнымі калонамі рушылі на новабудоўлі, узялі ў рукі рыдлёўкі, сякеры і пілы, каб «свет новы збудаваць». Уладзімір Ільіч Ленін з трыбуны ІІІ-га з'езда РКСМ абвясціў: **«Задача заключаецца ў тым, каб вучыцца».** «Прамова Уладзіміра Ільіча абудзіла ў нас імкненне да вучобы, — успамінае дэлегат ІІІ-га з'езда РКСМ ад Клімавіцкай арганізацыі М. С. Асмалоўскі. — У той час гэта было справай нялёгкай: не хапала кніг, паперы, рэдка прыходзілі на вёску і газеты. Аднак, як ні было цяжка, мы вучыліся. Пачыналі з азоў. Пры газоўцы збіраліся вечарамі, авалодвалі граматай. Потым стварылі культурна-асветны гурток. Прыцягнулі да яго работы настаўнікаў. З іх дапамогай камсамольцы вывучалі геаграфію, літаратуру, астраномію. Кожны тыдзень у школе праходзілі чыткі газет, кніг. Гарачыя спрэчкі зацягваліся за поўнач».

Вакол былі яшчэ галеча і разруха, а па ініцыятыве камсамоліі пачалі працаваць гурткі пад назвай «Прапагандысты электрыфікацыі». У Магілёве адкрываецца выстаўка пад дэвізам: **«Камунізм ёсць савецкая ўлада плюс электрыфікацыя ўсёй краіны».** Каб адкрыць яе, камсамольцы зрабілі некалькі гарадскіх нядзельнікаў. На выстаўцы ў той час экспанаваліся навінкі — тэлеграф, тэлефон, рэнтгенаўскі апарат, мадэль электраплуга і г. д. Сваімі рукамі энтузіясты зрабілі шмат дыяграм, здымкаў, карту, на якой гарэлі агні будучых электрастанцый. Кіраўнік магілёўскага гуртка «Прапагандысты электрыфікацыі» т. Венюкоў, адзін з першых магілёўскіх камсамольцаў, быў на прыёме ў 1924 годзе ў Г. М. Кржыжаноўскага і прывёз ад яго кнігу — «План электрыфікацыі Расіі» з дарункавым надпісам.

Абуджаныя Кастрычнікам, вызваленыя ад спрадвечнага гнёту і цемры, маладыя сяляне, як да сонца, цягнуліся да новага савецкага жыцця. Застрэльшчыкамі і змагарамі за ўсё новае былі вясковыя камсамольцы. Ім было нялёгка, бо бацькі часта не падзялялі іх энтузіязму. Але гэта былі змагары, гарачыя сэрцам, моцныя духам, і яны перамаглі. Некаторыя, як Фёдар Ракушаў — першы селькор з Кругляншчыны, Пятро Баранкевіч — першы сакратар камсамольскай ячэйкі вёскі Трасцявец Быхаўскага раёна, у змаганні за савецкую камуну заплацілі жыццём.

За хлопцамі ў камсамол пацягнуліся і першыя актывісткі-дзяўчаты. Хрысціну Раманенка, камсамолку з вёскі Бароўка Касцюковіцкага раёна, называлі «антыхрыстам у спадніцы», на яе кідаліся з абрэзам бандыты, але яна не адступілася ад свайго, заўсёды была з тымі, хто запальваў святло новай культуры, хто ствараў калгас у роднай вёсцы. Такія дзяўчаты, як Хрысціна, былі ўжо тады амаль у кожнай вёсцы. Яны сваім прыкладам і бясстрашшам паказвалі, на што здольная вясковая моладзь, натхнёная ідэямі камуністычнай партыі.

1923 — 1924 гады — час бурнага росту вясковых камсамольскіх арганізацый. Магілёўская налічвала ўжо звыш 500 членаў РКСМ, Клімавіцкая павятовая — 339.

Пасля смерці У. І. Леніна на VI з'ездзе РКСМ у ліпені 1924 года камсамол, як вядома, аднадушна прыняў рашэнне — называцца Ленінскім Камуністычным Саюзам Моладзі. Па ўсёй краіне разгарнуўся Ленінскі прызыў у партыю і ў камсамол. Як і камуністы, маладыя патрыёты кляліся: выканаем вялікія ленінскія запаветы. За некалькі дзён у Магілёве ў рады камсамола ўлілося 86 юнакоў і дзяўчат. Сярод камсамольцаў значна вырасла рабочая праслойка. Прыём новых членаў праходзіў ва ўрачыстай абстаноўцы, на сходах выступалі старыя бальшавікі, горача віталі сваю маладую баявую змену. 5 000 — гэта лічба называлася ў снежні 1925 года, калі гаварылі пра тое, як вырас атрад камсамоліі Магілёўшчыны.

Па ўсёй краіне разгортваліся новабудоўлі, і лепшыя з лепшых накіроўваліся туды, на пярэдні край сацыялізма. Добра вядомы імёны першых пасланцоў-магіляўчан, што паехалі будаваць горад юнацтва Камсамольск-на-Амуры. Гэта — Аляксандр Аўчыннікаў, Клаўдзія Дуброўская, Хана Фердэр. За імі смела рушылі ў далёкую дарогу сотні і тысячы энтузіястаў.

Першыя пяцігодкі. Залатыя старонкі камсамольскага юнацтва. У Беларусі па плану першай пяцігодкі намячалася пабудаваць 200 новых прадпрыемстваў і сярод іх гігант індустрыі ў Магілёве — фабрыку штучнага валакна, будаўніцтва якой пачалося 2 мая 1929 года. Фабрыку шоўку будавалі камсамольцы ўсёй рэспублікі. Гэта была першая камсамольская ўдарная будоўля. Пяцёра смельчакоў, што прыйшлі на высокі бераг Дняпра і пасяліліся ў палатцы, паклалі першыя цагліны ў падмурак гіганта. Па закліку ЦК ЛКСМБ на будаўнічую пляцоўку штодзённа прыбывалі пасланцы Гомеля, Полацка, Віцебска і многіх іншых гарадоў і вёсак.

Будаўнікі жылі ў палатках, у цесных бараках. Не надта сыта харчаваліся. Тэхніка тады была вядомая — рыдлёўка, ломік, тачка. Але ніхто не скардзіўся, што было цяжка. Усе жылі адным жаданнем — пусціць фабрыку датэрмінова. І сваё слова стрымалі. Урачыстае адкрыццё фабрыкі адбылося ў святочныя дні Вялікага Кастрычніка 1930 года. Зноў жа ганаровае права зрабіць першую нітку атрымалі камсамольцы. Многія з іх засталіся тут, назаўсёды звязалі свой лёс з вытворчасцю. Праз год-два на фабрыцы стала 700 камсамольцаў, якія аб'ядналіся ў вытворчыя брыгады. Далёка разносілася слава пра тагачасных наватараў камсамольцаў Аляксея Паважанава і Майсея Сярэбранага, зачынальнікаў новых метадаў працы.

Завод пад'ёмна-транспартнага абсталявання і трубаліцейны завод у Магілёве, цэментны завод у Крычаве, дрэваапрацоўчы камбінат у Бабруйску — гэта адрасы камсамольскіх будоўляў таго часу. Камсамольцы задавалі тон і ішлі ў першых радах калектываў. Камсамолец Міхаіл Пазнякоў з Бабруйска паставіў на фрэзерным станку небывалы рэкорд у краіне — выканаў за змену сваё заданне на 496,3 працэнта. А неўзабаве камсорг змены т. Герасімовіч на



**Першыя камсамольцы Магілёўскай фабрыкі шоўку.**
З фондаў абласнога краязнаўчага музея.

такім жа станку даў 650 працэнтаў плана.

Так нараджаўся працоўны подзвіг. На ім выхоўваліся пакаленні.

Вясна 1929 года. Па ўсёй краіне пачаўся масавы паход за калектывізацыю ў вёсцы, за высокі ўраджай на калгасных палетках. У аб'яўленым ЦК ЛКСМБ калгасна-вытворчым паходзе камсамол Магілёўшчыны заняў дастойнае месца.

**«Камсамолія Магілёўшчыны,** — пісала тады акруговая газета, — **павінна стаць ударнай брыгадай калектывізацыі».** На гэтай жа старонцы паведамлялася, што, паводле пастановы Магілёўскага акругкома ЛКСМБ, з горада ў вёску накіроўваюцца першыя дваццаць камсамольцаў. Камсамол дае наказ сваёй «лёгкай кавалерыі» не быць цяжкай на пад'ём.

Хроніка тых дзён. Магілёўшчына — акруга суцэльнай калектывізацыі. Клімаўшчына — першы раён суцэльнай калектывізацыі. Арганізаван калгас-волат «Бальшавік Беларусі». Першыя калгаснікі — камсамольцы. Камсамолка Наталля Мазурава згадзілася працаваць конюхам калгаса «Пралетарый». На Клімаўшчыне — першы трактар. Камсамольцы стварылі брыгаду па рамонту інвентару, па ачыстцы насення. Моладзь пайшла ў агратэхнічныя гурткі.

Новая вясна — новы экзамен для вёскі, для вясковых камуністаў і камсамольцаў. Дарогу маладым калгасам перагарадзілі кулакі і бандыты. Пачаўся так званы адліў з калгасаў. У вёсцы Загалле, на Глушчыне, у калгасе засталіся толькі адны камсамольцы. Не хапала рабочых рук — новаму калектыву пагражала небяспека. Але маладыя не разгубіліся, дружна, пад чырвоным сцягам выехалі ў поле: кожны член ЛКСМБ узяў шэфства над сваім суседам — селянінам, і хутка многія вярнуліся ў калгас. Веснавая сяўба была завершана ў лепшыя тэрміны. Да наступлення ўборкі ўраджаю калгас меў 65 гаспадарак. Зноў былі і стрэлы з-за вугла, і падпалы, і забойствы, ды камуністы і камсамольцы не такія, каб адступаць. Лінія партыі — загад уласнага сэрца.

Час паказаў, што шлях, намечаны партыяй для сельскіх працаўнікоў, адзіна правільны шлях, якім вёска выкіравалася на светлую дарогу росквіту. Калгасы вытрымалі суровы экзамен.



Некалі ў вёсцы Мышкавічы Кіраўскага раёна, як і ўсюды, была галеча і беднасць. Уходжваліся людзі на сваіх палосках-шнурах, але хлеба свайго хапала толькі да каляд. Апраналіся людзі ў зрэб'е, сядзелі па вечарах пры лучыне. Сёння ў Мышкавічах — славуты калгас «Рассвет». У сваіх абавязацельствах рассветаўцы запісалі: у 1970 годзе мець грашовы прыбытак 3 мільёны 400 тысяч рублёў, а на фермах — 2 230 кароў, 3 500 свіней. Давесці ўраджай збожжа з гектара да 28 цэнтнераў, бульбы — 295 цэнтнераў.

Сапраўды, крокі сажнёвыя!

Сыны і ўнукі тых першых маладых змагароў, што запальвалі ў Мышкавічах зару новага жыцця, сённяшнія камсамольцы — упэўнена крочаць наперад, трымаючыся бацькоўскага курсу. Як запавет маладым працаўнікам зямлі, гучаць словы, напісаныя легендарным героем вайны і працы К. П. Арлоўскім: **«Бярыцеся за справу сваімі рукамі, вучыцеся браць урокі ў жыцця, праяўляць ініцыятыву, усведамляць сябе паўнапраўнымі, паўнаўладнымі гаспадарамі».**

## ЗЯМЛЯ БАЦЬКОЎ — ЗЯМЛЯ ГЕРОЯЎ

Не згасне ў вяках подзвіг савецкіх людзей у суровыя гады Вялікай Айчыннай вайны. Па закліку Радзімы камсамольцы і моладзь Магілёўшчыны, як і ўсёй краіны, гераічна змагаліся на франтах, у партызанскіх атрадах і ў савецкім тыле, куючы перамогу над нямецкімі захопнікамі.

Ужо ў канцы чэрвеня 1941 года танкі Гудэрыяна пачалі прасоўвацца да Дняпра, на Магілёўскім напрамку. Фашысцкія генералы загадзя далажылі Гітлеру, што Магілёў узяты 11 ліпеня. Але савецкія воіны, усе магіляўчане грудзьмі сталі на абарону свайго роднага горада. Магілёўская абарона, якая цягнулася 23 дні, увайшла яркай старонкай у гісторыю Вялікай Айчыннай вайны.

На подступах да горада і ў горадзе, на дняпроўскіх кручах, на смерць стаялі камсамольцы. 25 тысяч магіляўчан тады ўліліся ў рады Чырвонай Арміі. Сотні юнакоў і дзяўчат сталі байцамі народнага апалчэння. За сем сутак іх рукамі вакол горада была створана абарона. Сярод магіляўчан, якія абаранялі да канца свой горад, былі камсамольскія важакі — сакратар Магілёўскага абкома ЛКСМБ П. Валожын, сакратар гаркома камсамола Я. Сагал (ён загінуў у баях за Магілёў).

Пад Магілёвам фашысты страцілі больш 30 тысяч забітымі, 600 танкаў, 34 самалёты, 1500 аўтамашын, шмат іншай тэхнікі. Адборныя гітлераўскія войскі, што рваліся да Масквы, былі скаваны. Разлікі фашыстаў на «бліц-крыг» правальваліся. Яны натрапілі на самую моцную крэпасць, якая калі-небудзь ім сустракалася, на доблесць і мужнасць савецкага чалавека, якога выхавалі партыя і камсамол.

Пад Чавусамі разам з воінамі камуністычнага батальёна храбра хадзілі ў атаку студэнты Магілёўскага педінстытута. Іх было трыццаць. 28 засталіся на полі бою, абараняючы зямлю бацькоў, свой родны край. Яны перад гэтым здалі свой апошні дзяржаўны экзамен і з дыпломамі настаўнікаў здалі яшчэ адзін экзамен — на вернасць Айчыне. Вядомы імёны некаторых з іх: выпускнік педфака Высоцкі, выпускнік матфака Гіндзін, сакратар камсамольскай арганізацыі філфака Кацман, філфакаўцы Кузьмін, Гірнік...

Артылерыст Мікалай Сірацінін добраахвотна застаўся ў засадзе на шашы, каб прыкрыць адыход сваёй часці. Адзін супраць калоны танкаў і бранявікоў. Дзве гадзіны цягнуўся гэты няроўны, але ярасны паядынак. Камсамолец Мікалай Сірацінін, якому тады было дваццаць гадоў, аказаўся мацнейшы за танкі фашыстаў. Калі яны даведаліся, што з імі біўся адзін, усяго адзін савецкі салдат, то аж жахнуліся. Гэта было 17 ліпеня 1941 года.

У Ленінградзе на Пулкаўскіх вышынях трапна знішчаў фашыстаў снайпер Хвядос Смалячкоў з вёскі Падгор'е Быхаўскага раёна. 125 гітлераўцаў — такі рахунак камсамольца. Звяртаючыся да

воінаў Ленінградскага фронту, Хвядос Смалячкоў пісаў: «Я люблю сваю Радзіму гэтак жа горача, як люблю сваю маці, якая дала мне жыццё». Герой загінуў 15 студзеня 1942 года. На яго месца сталі сотні снайпераў, яны павялічылі баявы рахунак помсты.

Яшчэ ў баях з белафінамі праславіўся наш зямляк лётчык-знішчальнік Змітро Аскаленка. Яго грудзі ўпрыгожваў ордэн Леніна. У баях за Ленінград Змітро не ведаў страху. Ён загінуў у паядынку з дзесяццю фашысцкімі сцярвятнікамі. Сціплая дзяўчына з Крычава Фаня Камкова з першых дзён вайны стала медыцынскай сястрой. У час гістарычнай бітвы на Волзе Фаня вынесла з поля бою 50 раненых.

Такія былі франтавікі-магіляўчане. Доблесці і мужнасці ім не пазычаць. Школу загартоўкі яны прайшлі ў шэрагах камсамола.

Магілёў, захоплены фашыстамі, працягваў змагацца. Магілёўскае партыйна-камсамольскае падполле, якое дзейнічала ў акупіраваным горадзе — яшчэ адна нядаўна выяўленая старонка гераічнага летапісу. Дыверсіі, лістоўкі, перавод ваеннапалонных да партызан — усё гэта баявыя справы падпольшчыкаў.

Сярод падпольных груп найбольш актыўнымі былі: група Сяргея Сабалеўскага, што дзейнічала на шаўковай фабрыцы; Івана Лысіковіча — на яе рахунку падараваны склад з гаручым, гараж, буйная дыверсія на хлебазаводзе; група Васіля Батуры — на аўтарамонтным заводзе. У гэтай групе бясстрашна дзейнічаў камсамолец Лёня Лорчанка, якому пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Многія падпольшчыкі не дажылі да светлых дзён перамогі. Сваёй смерцю яны заваявалі сабе бяссмерце. Імем Тані Карпінскай, што разам са сваёй маці Вольгай Мікалаеўнай выконвала заданні Камітэта садзеяння Чырвонай Арміі, названа адна з вуліц горада. Па-зверску была замучана ў засценках гестапа камсамолка Ліза Еўдакіменка — партызанская сувязная са шпіталю. Камсамолка Марыя Талкачова ўзначаліла падпольную групу патрыётаў у Крычаве. Якая гэта была дзяўчына, відаць з яе заявы, калі яна ўступала ў члены ВЛКСМ. Яна пісала: **«У радах бальшавіцкай партыі і камсамола не была, але прашу лічыць мяне камуністкай. Я ўсёй душой люблю сваю Радзіму і, калі патрэбна, аддам жыццё за яе вызваленне»**. Яна сустрэла смерць з горда ўзнятай галавой.

1943 год. У вобласці 152 падпольныя камсамольскія арганізацыі, 13 райкомаў камсамола. 19 снежня 1942 года камсамольцы Клічаўшчыны правялі канферэнцыю. Сакратар райкома А. Дайнека расказаў пра тое, як у тыле ворага змагаюцца маладыя патрыёты. У прыклад ставілася мужнасць партызанак-разведчыц Надзеі Сай і Ульяны Бандарчук, школьніцы Зіны Жыгульскай.

Клічаўшчына была радзімай партызанскага руху на Магілёўшчыне. Гэта клічаўскія партызаны зрабілі 15 ліпеня 1941 года першую засаду на гітлераўцаў. Аперацыя стала добрым сігналам да дзеяння. Хутка невялікія групы абрасталі людзьмі, і неўзабаве заявілі пра сябе камсамольска-маладзёжныя атрады Міхаіла Беразоўскага, Рыгора Паўлава, Уладзіміра Ціхамірава. У студзені 1943 года ў партызанскіх атрадах налічвалася 766 членаў ВЛКСМ.

На тэрыторыі Асіповіцкага раёна ўлетку 1943 года дзейнічала сем партызанскіх атрадаў. У іх шэрагах змагаліся 334 камсамольцы, а ўвосень іх ужо было 800. Не злічыць баявых спраў, што на рахунку клічаўскіх і асіповіцкіх партызан.

Толькі адзін прыклад. Неяк у жніўні 1942 года атрад Рыгора Паўлава акружылі карнікі. Што рабіць?

— Прарваць варожае кальцо! — была аднадушная думка.

Камсамолец Якаў Каўшырка — намеснік камандзіра — з групай смельчакоў-добраахвотнікаў застаўся біцца з ворагам, а асноўныя сілы тым часам прарваліся праз агнявую заслону. Няроўны бой з фашыстамі, якіх было каля васьмісот, цягнуўся амаль суткі. Адзін за другім выбывалі са строю маладыя патрыёты. Ім абяцалі жыццё, але яны стаялі да канца і парашылі лепш памерці. «Партызаны не здаюцца!» — было апошняе, што паспеў сказаць самы юны са змагароў шаснаццацігадовы школьнік Валодзя Валенда, кідаючы гранату ў фашыстаў. Усе чатырнаццаць загінулі на лясной паляне каля вёскі Сялец, каб жыў і змагаўся іх родны атрад.

Заклік ЦК ЛКСМБ: **«Кожны камсамолец павінен авалодаць падрыўной справай»** прыйшоўся блізка да сэрца маладым патрыётам. Грымелі выбухі на рэйках. Пад гулкае рэха змагання нараджаліся ўсё новыя і новыя героі. Камсамолец Барыс Дзмітрыеў пусціў пад адхон 11 эшалонаў, а потым яшчэ 8. Загінуў Барыс 23 лютага 1944 года, зрабіўшы свой апошні баявы салют. Уладзімір Парахневіч на сваім рахунку мае 21 эшалон. Гэта, бадай, першыя на Магілёўшчыне падрыўнікі. Ім прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Рыма Кунько, Павел Кажушка, Максім Усцінаў, Яўген Зубаў, Міхаіл Агаценка, Мікалай Скакун — гэты пералік герояў «рэйкавай вайны» можна доўжыць і доўжыць. Іх подзвігі — бліскучы прыклад доблесці і мужнасці для пакаленняў.

За час вайны на Магілёўшчыне ў рады Ленінскага камсамола ўступіла 3845 юнакоў і дзяўчат. 1015 патрыётаў па рэкамендацыі камсамольскіх арганізацый сталі камуністамі. Мы ганарымся, што большасць нашых землякоў, удастоеных звання Героя Савецкага Саюза за подзвігі і гераізм у мінулай вайне, з'яўляюцца выхаванцамі ВЛКСМ. Сярод іх двойчы Героі Савецкага Саюза Іван Якубоўскі і Іосіф Гусакоўскі, Героі Савецкага Саюза Хвядос Смалячкоў, Міхаіл Антонаў, Змітро Аскаленка, Іван Карасёў, Сяргей Каваленка, Міхаіл Раманькоў, Мікалай Пінчук, Ісак Ваксман і многія іншыя.

Зямля бацькоў — зямля герояў. Яшчэ ў часе падрыхтоўкі да 50-годдзя Вялікага Кастрычніка ў вобласці праявілася каштоўная камсамольская ініцыятыва — паходы па месцах рэвалюцыйнай і баявой славы бацькоў. Масавыя ваенізаваныя гульні, маршруты па мясцінах гераічных баёў, злёты, звязаныя з памятнымі падзеямі ў жыцці Радзімы, стварэнне музеяў і куткоў баявой славы, шэфства над магіламі загінуўшых герояў, паходы чырвоных следапытаў — гэтая работа ў нашых камсамольскіх арганізацыях набывае ўсё большы размах.

### ЯК ЗАЎСЁДЫ, НА ПЯРЭДНІ КРАЙ

Яшчэ грымелі артылерыйскія залпы на захадзе, яшчэ ішлі жорсткія баі з фашысцкімі арміямі, а на сценах уцалелых дамоў Магілёва з'явіліся надпісы-заклікі да моладзі: **«Усе, як адзін, на аднаўленне роднага горада!»**

Камсамольцы стварылі атрады па ачыстцы вуліц, нарыхтоўцы паліва, рамонце чыгунак. У вёсках пачаўся рух за хутчэйшае перасяленне сем'яў з зямлянак у новыя дамы. У 1947 годзе за актыўнасць і лепшыя вынікі ў гэтай рабоце магіляўчане атрымалі Пераходны Чырвоны сцяг ЦК ЛКСМБ.

Адбудоўвалася, залечвала цяжкія раны вайны Магілёўшчына. Адзін за другім уступаюць у строй дзеючых заводы Магілёва, Крычава, Бабруйска. Разам з тым, камсамольскія арганізацыі вылучаюць сваіх лепшых пасланцоў у Мінск, дзе пачалося збудаванне аўтамабільнага і трактарнага заводаў. Патрыятычнае імкненне камсамольцаў-магіляўчан тады добра выказаў Піліп Саладухін у сваім лісце ў Магілёўскі райком камсамола: «Я непасрэдна жадаю ўдзельнічаць у збудаванні гігантаў беларускай індустрыі, укласці сваю долю працы ў выкананне чацвёртай пяцігодкі. Прашу адкамандзіраваць мяне на будаўніцтва аўтазавода. Са мной жадае паехаць і мой брат Іван. Будзем працаваць так, як гэта патрабуецца ад камсамольцаў». Ехалі на новабудоўлі з такім жа запалам, як некалі іх папярэднікі, што будавалі Кузнецк і Магнітку, Днепрагэс і Асінбуд. З песнямі, з гармонікамі, ахопленыя гарачым жаданнем дзеяння. Калі Партыя сказала: «Трэба»,



Бабруйск. У цэху гідролізнага завода.

камсамол заўсёды адказваў: «Ёсць!».

Шмат давялося папрацаваць сельскім камсамольцам, пакуль калгасы пераадолелі разруху. На Магілёўшчыне тады струменіла камсамольская ініцыятыва. Камсамолка Ніна Аўтушэнка, якая скончыла сельскагаспадарчы тэхнікум і працавала ў райсельгасаддзеле, звярнулася з заклікам да аграномаў і заатэхнікаў, каб яны пайшлі з кантор на працу ў калгасы і там поплеч з працаўнікамі вёскі змагаліся за ўздым сельскай гаспадаркі.

Па яе прыкладу многа спецыялістаў вярнулася ў вёску, сталі на пярэдні край барацьбы за высокі ўраджай і развіццё жывёлагадоўлі.

Па пачыне камсамольскай арганізацыі завода «Строммашына» разгарнулася шэфская дапамога прадпрыемстваў вёсцы. Строммашаўцы сваімі сіламі абсталявалі і перадалі трактарнай брыгадзе станкі і інструмент, з усіх буйных фабрык і заводаў шэфы ехалі ў калгасы і саўгасы.

Неўзабаве — новая ініцыятыва. У 1954 годзе быў першы рэспубліканскі рэйд праверкі гатоўнасці жывёлагадоўчых ферм да зімы, і ў калгасах вобласці камсамольцы шмат зрабілі, каб падрыхтаваць фермы да работы ў зімовых умовах, арганізавалі навучанне маладых жывёлаводаў. Многія члены ВЛКСМ выказалі жаданне працаваць на фермах. Гэта стала добрай традыцыяй, і сёння дзесяткі тысяч юнакоў і дзяўчат заняты ў жывёлагадоўлі. У сучаснай вёсцы спецыяльнасць даяркі, свінаркі, цялятніцы — пачэсная, як на заводзе спецыяльнасць токара, слесара. Аляксандра Сакун з калгаса «Перамога» Бабруйскага раёна, Ганна Багданава і Зося Бяляўская з калгаса «Рассвет» Кіраўскага раёна, Валянціна Голікава і Раіса Сцелькіна з калгаса «Камінтэрн» Магілёўскага раёна некалі па закліку камсамола пайшлі на працу ў жывёлагадоўлю. Цяпер яны — паважаныя людзі ў вёсцы, маюць званне «Лепшая даярка рэспублікі» і ўрадавыя ўзнагароды. Аляксандра Сакун — Герой Сацыялістычнай Працы.

Яшчэ адна залатая старонка камсамольскага летапісу — цалінная эпапея. **«На пярэдні край, на лінію агню!»** — у камсамольскіх сэрцах быў гэты карчагінскі дэвіз. З усіх фабрык і заводаў, з розных вёсак і пасёлкаў на кліч партыі адгукнуліся маладыя патрыёты. Заявы пісалі па адным і калектывамі: **«Мы выказваем гарачае жаданне паехаць на цаліну. Нас не палохаюць цяжкасці. Мы абяцаем пакамсамольску працаваць і высока несці сцяг Ленінскага камсамола».**

7 сакавіка 1954 года магіляўчане праводзілі першых пасланцоў — 100 юнакоў і дзяўчат, што ад'язджалі ў раёны асваення цаліны. Хутка выпраўляліся яшчэ 310 чалавек. Потым новыя і новыя атрады — сто, шэсцьсот... Тады на цалінныя землі выехала 3950 юнакоў і дзяўчат. Іх, першапраходцаў, можна назваць героямі, бо цаліна — гэта масавы гераізм, подзвіг, на які здольны мужныя, моцныя духам людзі.

З Магілёўшчыны кожны год накіроўваліся атрады на дапамогу цаліннікам. Выязджалі тысячы маладых рабочых, механізатараў, студэнты Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках, Магілёўскага педінстытута, вучні будаўнічых вучылішчаў і вучылішчаў механізацыі. Адзін год такі атрад у 730 чалавек узначальваў сакратар абкома камсамола Фрыдрых Ярмак. Магіляўчане працавалі ў калгасе імя Мікалая Астроўскага — памаглі ўбраць пшаніцу на плошчы 22 тысячы гектараў. 99 камсамольцаў тады атрымалі значок ЦК ВЛКСМ «За асваенне новых земляў». Фрыдрых Ярмак, студэнты Уладзімір Крот і Генадзь Цюнін удзельнічалі ва Усесаюзным злёце цаліннікаў у Маскве. У абласным краязнаўчым музеі, дзе захоўваюцца шмат якія камсамольскія рэліквіі, на відным месцы Чырвоны сцяг ЦК ЛКСМ Казахстана. Яго прывезлі магіляўчане, што выязджалі ў 1959 годзе на



Студэнты Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках: Міхась Дулевіч, Васіль Рудчанка, Раіса Драздова.

Ніна Гушча — передавая работніца завода штучнага валакна.



Добрая слава ідзе ў Магілёве пра ансамбль танца завода штучнага валакна.



ўборку ўраджаю ў Акцюбінскую вобласць. Дружба з цаліннікамі не паслабла і ў гэтыя гады, калі цаліна стала абжытым краем. Звычайна ўлетку ў раёны Казахстана, Урала і Сібіры выязджаюць студэнты на свой працоўны семестр, каб памагчы навасёлам будаваць жылыя дамы, жывёлагадоўчыя памяшканні.

З кожным годам павялічваўся размах будаўніцтва на Магілёўшчыне. У 1959 годзе датэрмінова здадзена трэцяя чарга завода штучнага валакна. У прывітальнай тэлеграме ЦК ВЛКСМ гаварылася: **«Ваш поспех радуе юнакоў і дзяўчат нашай краіны. Вы сярод першых маладзёжных калектываў будаўніцтва вялікай хіміі завяршылі работу па ўводу магутнасцей, па вытворчасці штучнага валакна»**. 31 снежня 1959 года — атрымана першае штапельнае палатно.

Новая вялікая перамога камсамоліі — пуск трэцяй і чацвёртай чаргі Крычаўскага цэментна-шыфернага камбіната. Гэта была таксама ўдарная камсамольская будоўля — надзейная школа працоўнага выхавання моладзі.

Рух за камуністычную працу, падрыхтоўка да святкавання 50-годдзя Вялікага Кастрычніка нарадзілі высокую хвалю спаборніцтва, камсамольскай актыўнасці. Калі ў 1963 годзе ў вобласці званне ўдарнікаў камуністычнай працы было прысвоена 700 маладым рабочым, то цяпер гэтае званне маюць дзве тысячы камсамольцаў і маладых рабочых.

У вобласці ўзніклі і пашыраюцца грамадскія канструктарскія бюро, саветы наватараў, бюро эканамічнага аналізу і г. д. Толькі за адзін год ад укаранення рацыяналізатарскіх прапаноў эканамічны эфект склаў 1 мільён 800 тысяч рублёў.

Новая гордасць камсамоліі Магілёўшчыны «Лаўсанбуд» набірае тэмпы. Гэта ўсесаюзная ўдарная камсамольская будоўля. І тут праходзяць школу загартоўкі камсамольцы з усёй краіны. Яна ў нас пад пільным камсамольскім кантролем.

Ужо мінула трэцяя вясна, як побач са старажытным Магілёвам, на вялікай чыстай паляне, ля вёскі Грабянёва, закладзены падмурак гіганта вялікай хіміі. Гэта будзе буйнейшае ў Еўропе прадпрыемства па выпрацоўцы сінтэтычнага валакна. Яго будаўніцтва намечана завяршыць ў 1970 годзе. І ўдзень, і ўночы не моўкне гул будоўлі. Уздымаюцца ў неба карпусы цэхаў. У першых радах будаўнікоў — камсамольска-маладзёжныя брыгады Аляксея Малахава, Генадзя Цюніна, Якава Кавалькова, Аляксандра Кірэя і многіх іншых.

Для ўсіх, хто любіць працу і моцны духам, тут сапраўдная школа жыцця. Ствараюцца ўсе ўмовы для вучобы і адпачынку. У брыгадах і на ўчастках круглы год працуюць школы перадавога вопыту. Пабудаваны сучасныя, з усімі зручнасцямі інтэрнаты. Заканчваецца будаўніцтва вучэбнага комплексу, дзе адкрыюцца інстытут, тэхнікум і вучылішча — кузня будучых спецыялістаў хімічнай прамысловасці.

Аб'ём работ на будаўнічых пляцоўках намнога павялічваецца. Патрэбны муляры і тынкоўшчыкі, цесляры і арматуршчыкі, маляры і механізатары. Тыя, хто без спецыяльнасці, тут здолеюць хутка набыць яе. А хто пажадае застацца потым у цэхах камбіната, зможа загадзя на падрыхтоўчых курсах набыць сабе спецыяльнасць па жаданню.

Прыязджайце, таварышы, на «Лаўсанбуд»!

У нас размешчана яшчэ адна важнейшая рэспубліканская ўдарная будоўля — Бабруйскі шынны завод. І там з кожным днём расце размах работ. Камсамольцы — ініцыятары слаўных працоўных спраў, паказваюць прыклад камуністычных адносін да выканання свайго абавязку.

Прыязджайце і на Бабруйскі шынны завод! Усім хопіць работы, цікавай і захапляльнай.

## ПЕРАДЮБІЛЕЙНАЕ

Наш родны Ленінскі камсамол напярэдадні свайго слаўнага 50-годдзя. Не адно пакаленне прайшло камсамольскую школу ідэйнай загартоўкі, школу жыцця. Верныя ідэям Леніна, ідэям сваёй роднай маці — Камуністычнай партыі, камсамольцы 60-х гадоў упэўнена і смела крочаць у будучыню, шануюць і памнажаюць славу бацькоў, пераймаюць усё лепшае і каштоўнае, што пакінулі ім папярэднікі. І пракладваюць новыя дарогі, каб пасля значыўся добры след.

Іх, пачынальнікаў вялікай радаслоўнай камсамоліі, на Магілёўшчыне спачатку была жменька — усяго трыццаць. Потым трыста. Потым — пяцьсот... Цяпер атрад камсамола вобласці звыш 110 тысяч юнакоў і дзяўчат. Яны такія ж няўрымслівыя і прагныя да дзеяння, да змагання за ідэі камунізма, якімі былі і першыя камсамольскія пакаленні. У нашых жылах — рэвалюцыйная кроў рамантыкаў і адкрывальнікаў новых дарог, новых вяршынь навукі і прагрэсу.

Ветразі камсамольскага жыцця надзімае вецер перадсвяточнага натхнення і юнацкага энтузіязму. Ажыўляе дзейнасць камсамольскіх арганізацый пошук новых кірункаў і форм камсамольскай работы. Рыхтуючыся да свайго юбілею, да 50-годдзя БССР і 50-годдзя кампартыі Беларусі, мы імкнёмся засяродзіць увагу на вырашэнні задач, пастаўленых партыяй перад народам. Камсамольскія арганізацыі вобласці галоўны ўпор робяць на актывізацыю сіл моладзі ў вытворчай працы, на барацьбу за якасць прадукцыі.

Усюды прайшлі камсамольскія сходы. Камсамольцы прынялі асабістыя сацыялістычныя абавязацельствы. Аб'яўлена перадсвяточная ўдарная вахта, у якой актыўна ўдзельнічае ўся моладзь горада і вёскі. Разгортваецца масавае спаборніцтва пад дэвізам: **«Твой уклад у пяцігодку»**. Папярэднія вынікі будуць падводзіцца да 50-годдзя ВЛКСМ.

Пра тое, як ідзе змаганне на працоўным фронце, сістэматычна расказваецца ў спецыяльным камсамольскім выпуску газеты «Магілёўская праўда», у радыёперадачах «Камсамольскі агеньчык».

Рашэнне камсамольцаў завода «Строммашына»: гадавы вытворчы план — да 29 кастрычніка! У абавязацельствах моладзі завода «Электрарухавік» запісана: сэ-



На «Лаўсанбудзе».



У калгасе «Рэвалюцыя» на Быхаўшчыне славіцца старанна працай малады трактарыст Анатоль Кронда.





**Любяць і паважаюць вучні першай магілёўскай сярэдняй школы выкладчыцу хіміі Галіну Міхайлаўну Скавароднік, заслужаную настаўніцу БССР.**

каноміць 45 тон каляровага і 150 тон чорнага металу за год. Камсамольцы Бабруйскага машынабудаўнічага завода імя Леніна змагаюцца за званне «Лепшы рабочы па прафесіі». Перадавікам уручаюцца значкі «Малады перадавік», пераходны вымпел і прэмія — ленінская бібліятэчка.

У бабруйчан свая ініцыятыва, свой пошук. Токар фанера-дрэваапрацоўчага камбіната камсамолка Валянціна Гарбачова заявіла: **«Мой дэвіз — пяцігодку за 4 гады!»** Як правіла, яна вытворчае заданне выконвае на 125 працэнтаў, а нядаўна папрасіла, каб ёй павялічылі норму выпрацоўкі на 10 працэнтаў. У Валянціны ўжо шмат паслядоўнікаў.

Старт абласной працоўнай эстафеты, прысвечанай юбілеям, пачаўся з усесаюзнай ударнай камсамольскай. Эстафета пройдзе па гарадах і раёнах. Заключны яе этап — у Магілёве. На свята ў горад на Дняпры з'едуцца прадстаўнікі з усіх раёнаў. Будуць рапарты, конкурсы, вечары дружбы з рабочай моладдзю, выстаўка тэхнічнай творчасці і вытворчых дасягненняў. Упершыню на Магілёўшчыне сёлета рыхтуецца абласны фестываль моладзі і студэнтаў.

У плане нашай работы — тэарэтычныя канферэнцыі, юбілейныя камсамольскія чытанні, фестывалі самадзейнасці. Па дарогах славы і партызанскіх сцежках пойдуць атрады турыстаў, у калгасы накіроўваюцца студэнцкія будаўнічыя брыгады, ствараюцца школьныя брыгады па добраўпарадкаванню і азеляненню вёсак і пасёлкаў.

У гэтыя дні ў дарозе знаходзіцца перасоўны маладзёжны клуб абкома ЛКСМБ «Гэтых дзён не змоўкне слава». Перад моладдзю райцэнтраў і вёсак выступяць лектары, самадзейныя артысты.

Конкурс «Юнацтва маё, камсамол», аб'яўлены абкомам ЛКСМБ сумесна з рэдакцыяй «Магілёўскай праўды» і абласным упраўленнем культуры, дапаможа выявіць яшчэ не адну слаўную старонку далёкага і блізкага ў біяграфіі камсамоліі Магілёўшчыны.

Камсамольцы і моладзь сёння, як заўсёды, на пярэднім краі, на самых адказных і цяжкіх участках. Абласная камсамольская арганізацыя ідзе насустрач юбілею ВЛКСМ, 50-годдзю рэспублікі і 50-годдзю кампартыі Беларусі згуртаваная і перапоўненая пачуццямі любві да роднай Камуністычнай партыі.

**Гутарку вёў Сцяпан КУХАРАЎ.**

Фота **А. Борчыка.**






# *ПЕСНЯ СПЯШАЕЦЦА НА ФЕСТЫВАЛЬ*

**Свята без песні — не свята. Дзевяты Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў, які неўзабаве мае адбыцца ў Сафіі, пачуе галасы і з Беларусі. Пакуль што ў Маскве прайшлі адборачныя «спаборніцтвы» вакалістаў, музыкаў, танцораў. Знаўцы мастацтва праслухалі цымбалістаў з Дзяржаўнага народнага аркестра БССР, нашых оперных спевакоў, студэнцкую эстраду Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна, брэсцкі ансамбль песні і танца «Радасць». Не ўсім пашанцавала атрымаць пуцёўку на фестываль. Але ж радуе ўжо тое, што беларускія выканаўцы ўсё часцей і смялей удзельнічаюць у савецкіх і міжнародных конкурсах.**

**Саліст Беларускага опернага тэатра Аскольд Сухін прайшоў добрую школу ў прафесара Сяргея Дзмітравіча Асколкава. За два гады работы ў тэатры ён выканаў ужо шмат вялікіх партый: Канчака ў оперы «Князь Ігар», Грэміна ў «Яўгенію Анегіне», Мантэроне ў «Рыгалеце», Сабакіна ў «Царскай нявесце», Мельніка ў «Русалцы», Феранта ў «Трубадуры». Апошняя работа Аскольда — партыя Мечыка ў оперы беларускага кампазітара Юрыя Се-**



**Аскольд Сухін.**

**Вакальны квартэт Дзяржаўнага народнага хору БССР: Валянціна Прыдачына, Алена Хазанава, Валянціна Марозава і Надзея Сушкевіч.**





Міхась Зданевіч на ўроку ў кансерваторыі.

●



У эстрадным ансамблі ўніверсітэта спявае Надзея Герасіменка.

мянякі «Калі ападае лісце». Прыгожы бас маладога спевака прагучаў і на апошнім конкурсе «Пражская вясна». Там Сухін заняў трэцяе месца.

Псіхалагічная складанасць басовых партый патрабуе ад артыста вялікага жыццёвага і сцэнічнага вопыту. Мусіць, таму, поспех да спевака рэдка прыходзіць у маладым узросце. Аскольду дваццаць пяць гадоў. Столькі ж Міхасю Зданевічу, студэнту другога курса Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя Луначарскага, які таксама займаецца ў Асколкава. Абодва вучні Сяргея Дзмітравіча ўдзельнічалі ў конкурсе на права паехаць у Сафію. Сухін трапіў у «зборную краіны». Міхасю ж не пашанцавала. Але журы засталося вельмі задаволенае голасам Зданевіча. «Самы прыгожы бас з усіх праслуханых»,— такі быў аднагалосны прысуд.

Вакальны квартэт з Беларускага дзяржаўнага народнага хору таксама малады калектыў, хаця Валянціна Марозава і Валянціна Прыдачына даўно працуюць у хоры і маюць пачэсныя званні заслужаных артыстак рэспублікі. У вакальным квартэце яны спяваюць усяго адзін год, з тае пары, як да іх далучыліся яшчэ дзве дзяўчыны: Алена Хазанава і Надзея Сушкевіч. Надзея з Ленай — паляшучкі, іх старэйшыя сяброўкі — мінчанкі. Зразумела, геаграфія тут ні пры чым, але надзвычайная пяшчота, чулае пранікненне ў лад народнай песні, падпарадкаванне ўласнаму тэмпераменту танальнасці народнай мелодыі — даюць магчымасць данесці да слухача песенную прыгажосць у самых розных жанрах. І гарэзлівы «Чабарок», і задумёную «Купалінку», і жартоўных «Куранят». Слухачы заўжды бываюць узрушаны высокім майстэрствам квартэта, а ў Манрэалі, на ЭКСПО-67, яго канцэрты праходзілі з аншлагам.

Умовы папярэдніх конкурсаў вымусілі асобныя калектывы цалкам перабудаваць сваю праграму. Так здарылася з эстрадным аркестрам універсітэта. Замест семнаццаці чалавек, у Маскву паехалі толькі шэсць: гітарысты Алесь Сцепаненка і Генадзь Цалянчук, піяніст Валеры Ковенскі, ударнік Алесь Кошачкін, кантрабасіст Анатоль Несцераў, кларнетыст Авенір Вайнштэйн. Прыйшлося адмовіцца ад трамбонаў, скрыпак, саксафонаў, труб. Па сутнасці, гэта ўжо новы ансамбль. У праграме фізікаў і лірыкаў больш за ўсё песень. Іх выконваюць хімік Надзея Герасіменка і біёлаг Таня Кавалёва. Надзя — прыхільніца эпічных і гераічных песень. А Таня — весялуха. Яе амплуа — трапяткая лірыка, віхурыстая жыццерадаснасць.

Наперадзе ў спевакоў самы адказны конкурс — фестываль. Няхай жа ўсміхаецца ім сафійскае сонца.

Валянцін ЖДАНОВІЧ.
Фота аўтара і Г. Віткоўскага.





У ДАРЭВАЛЮЦЫЙНАЙ БЕЛАРУСІ было столькі медыцынскіх работнікаў, колькі іх цяпер працуе на Мінскім ордэна Леніна аўтамабільным заводзе. У нас упершыню ў свеце ўведзена бясплатнае медыцынскае абслугоўванне. Зніклі такія страшныя хваробы, як чума, халера, воспа. Мы стаім на парозе раскрыцця таямніц рака.

Бадай цяжка знайсці пасёлак і вёску, дзе б не было бальніцы, а ўрачэбныя пункты ёсць на кожным прадпрыемстве, у паляводчай брыгадзе, у сярэдняй школе.

Створана шырокая сетка станцый хуткай і неадкладнай дапамогі. Для лячэння хворых выкарыстоўваюцца навейшыя дасягненні навукі і тэхнікі.

Перыядычныя медыцынскія агляды, прафілактычныя прывіўкі, лячэбная фізкультура, спартыўная медыцына — усё гэта садзейнічае папярэджанню захворванняў. Працоўныя адпачываюць і лечацца ў санаторыях, дамах адпачынку, заводскіх і калгасных прафілакторыях. З кожным годам павялічваецца сетка бальніц і паліклінік. Толькі ў гэтым годзе будуць здадзены ў эксплуатацыю новыя бальніцы ў Шклове, Воранаве, Мар'інай Горцы, радзільны дом у Оршы, паліклінікі ў Віцебску, Гомелі, Мінску. Пачнецца будаўніцтва бальніц у Брэсце, Любані і Лельчыцах.

У любую пару сутак, ва ўсякае надвор'е на дапамогу нам прыходзяць людзі ў белых халатах: урачы, фельчары, медсёстры. Сярод беларускіх урачоў многа такіх, што вядомы не толькі ў нашай рэспубліцы, але далёка за яе межамі. Ім і прысвячаецца наш фотарэпартаж.



Міністра аховы здароўя БССР, доктара медыцынскіх навук, прафесара Мікалая Яўсеевіча Саўчанку мы засталі ў 4-й клінічнай бальніцы Мінска, дзе ён узначальвае аддзяленне ўралогіі. Быў перадаперацыйны дзень, праходзіла звычайная пяцімінутка, абмяркоўваліся вынікі абследавання хворых, правяралася гатоўнасць да аперацый.

# ЗОРКІ Ў БЕЛЫХ ХАЛАТАХ

Каля 10 000 аперацый зрабіла выдатны ўрач-акуліст Таццяна Васільеўна Бірыч. Як расказаць пра радасць і шчасце людзей, якім вернута сонца!

Гэтай восенню спаўняецца сорак гадоў з таго дня, калі пасля заканчэння медыцынскага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна Таццяна Бірыч пачала працаваць у 3-й клінічнай бальніцы Мінска. Цяпер заслужаны дзеяч навукі БССР, доктар медыцынскіх навук, прафесар Таццяна Васільеўна Бірыч узначальвае вочнае аддзяленне гэтай жа клінікі.





Пасля заканчэння аспірантуры ў 1933 годзе ў глухую беларускую вёску Дзіражычы, што на Лоеўшчыне, прыязджае па закліку камсамола Іван Мацвеевіч Старавойтаў. Прапрацаваў ён там з жонкай чатыры гады, але і сёння ўспамінаюць іх у тых месцах. Усё жыццё Івана Мацвеевіча звязана з нараджэннем чалавека: заслужаны дзеяч навукі БССР, доктар медыцынскіх навук, прафесар Старавойтаў кіруе кафедрай акушэрства і гінекалогіі Мінскага медыцынскага інстытута, з'яўляецца старшынёй Беларускага таварыства акушэрства і гінекалогіі.

На нашым здымку — Іван Мацвеевіч з унукамі Сяргеем і Марынай.

●

У дні, калі гэты нумар часопіса выйдзе з друку, загадчык кафедры факультэцкай тэрапіі Мінскага медыцынскага інстытута, дацэнт Георгі Іванавіч Сідарэнка будзе абараняць доктарскую дысертацыю. Асноўны напрамак, у якім працуе Георгі Іванавіч — біякіруемае аўтаматычнае лячэнне. Пры дапамозе кібернетыкі, выкарыстоўваючы тэорыю аўтаматычнага рэгулявання, ствараючы прыборы, якія вызначаюць неабходную дозу лякарства, удаецца эфектыўна змагацца з рознымі хваробамі сардэчна-сасудзістай сістэмы.

1940 год. Ва Усесаюзным інстытуце эксперыментальнай медыцыны ідзе абарона кандыдацкай дысертацыі. Рашэнне камісіі было некалькі нечаканае: прысвоіць Аляксандру Юліянавічу Бранавіцкаму вучоную ступень доктара медыцынскіх навук. Так дваццацішасцігадовы Аляксандр Юліянавіч стаў самым маладым у Саюзе доктарам медыцынскіх навук.

Цяпер прафесар Бранавіцкі — член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР — узначальвае кафедру паталагічнай фізіялогіі Мінскага медыцынскага інстытута.

Восенню 1967 года пры кафедры заснавана праблемная лабараторыя па генетыцы рака. Маладыя супрацоўнікі пад кіраўніцтвам Аляксандра Юліянавіча паспяхова эксперыментуюць.

Сфатаграфаваць Аляксандра Юліянавіча я змог толькі дома: ён захварэў і выступаў на гэты раз у некалькі незвычайнай ролі пацыента.



●

Сабака — ахвяра навукі. У горадзе Колтушы пад Ленінградам яму нават пастаўлен помнік. Але сабака Дон не паддоследная жывёліна, а проста сябар сям'і акадэміка Маркава.

Заслужаны дзеяч навукі БССР, доктар медыцынскіх навук, акадэмік Даніла Аляксандравіч Маркаў узначальвае кафедру нервовых хвароб Беларускага інстытута ўдасканалення ўрачоў.

Даніла Аляксандравіч падрыхтаваў каля 50 кандыдатаў і дактароў навук, напісаў мноства навуковых прац, некалькі кніг. У апошні час ён распрацоўвае новыя метады лячэння захворванняў нервовай сістэмы.





**Гэты здымак зроблены на Мінскай гарадской станцыі хуткай дапамогі. Адчуваю, што чытач-скептык падколе: «Вось, маўляў, яны там камбінацыі разыгрываюць, а людзі па тры гадзіны хуткую дапамогу чакаюць». Што ж, тры не тры, а часам даводзіцца чакаць... Але не з-за шахмат: проста яшчэ не хапае машын.**

**А шахматную партыю разыгрываюць па чарзе дваццаць чалавек. Гуляюць, змяняючы адзін аднаго: урач хуткай дапамогі за дзяжурства робіць у сярэднім 15 візітаў. Гэта значыць, што яму ўдаецца заскочыць на станцыю ўсяго толькі на некалькі мінут. А часцей за ўсё, закончыўшы адзін візіт, прымае па рацыі наступны. Урач хуткай дапамогі павінен памагчы ў любым выпадку: няхай гэта пералом, атручванне або сардэчны прыступ.**

**Фотарэпартаж Уладзіміра МЯЖЭВІЧА.**



**У. і М. Басалыгі. Дэкаратыўнае пано «Белавежская пушча». (Дрэва.)**

# НЕЗАБЫЎНАЕ ЗНАЁМСТВА

### ПЕРШАЯ РЭСПУБЛІКАНСКАЯ ВЫСТАЎКА ДЭКАРАТЫЎНА-ПРЫКЛАДНОГА МАСТАЦТВА

Гэта першая такая выстаўка, арганізаваная ў Беларусі. «Першая». Розны сэнс надаюць людзі гэтаму слову, і часам па-рознаму яно гучыць. То як дыханне палёгкі. То як голас турботаў: пачатак пакладзены, гэта добра, а што будзе далей?

І ўсё ж у дні, калі сотні экспанатаў рэспубліканскай выстаўкі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва былі сабраны разам у залах Дзяржаўнага мастацкага музея БССР, наведвальнікам здавалася, што яна — не першая. Таму што людзі тут не адчувалі сябе выпадковымі гасцямі. Павольна, у роздуме пераходзілі яны ад стэнда да стэнда, з адной залы ў другую. Пасля вярталіся назад, каб паўтарыць падарожжа ў цудоўны свет рэчаў, створаных рукамі беларускіх майстроў — мадэльераў, разьбяроў, шкловыдзімальшчыкаў. Так, людзі многае ўбачылі, наведаўшы выстаўку, хоць, вядома, не ўсё, прадстаўленае ў яе залах вызначалася аднолькава высокім майстэрствам выканання. А што-колечы і ўстрывожыла. Безгустоўна, напрыклад, былі аформлены некаторыя ўзоры ўпакоўкі для кандытарскіх вырабаў, зусім не да месца былі архаічныя пузатыя шкатулкі, інкруставаныя саломай, якія мала адрозніваліся ад тых, што безнадзейна стаяць на паліцах магазінаў. Але пра гэта пасля.

Зараз пра іншае. Няспынна павышаецца культура быту нашых людзей, яны вучацца прыгажэй апранацца, прыгажэй абсталёўваць свае кватэры, памяшканні, дзе працуюць. Якое гэта мае дачыненне да выстаўкі? Самае непасрэднае. Яе экспанаты — не толькі для агляду ў выставачных залах. Гэта — узоры тых рэчаў, якія не сёння дык заўтра паявяцца ў продажы. Добрымі спадарожнікамі яны ўвойдуць у быт. Людзі прызвычаяцца да іх, таму што чалавеку ўласціва прывыкаць да навакольных рэчаў. Рэчы могуць узбагаціць чалавека жывым пачуццём прыгажага і, наадварот, зрабіць яго безабаронным перад пошласцю і тандэтам. У думках кожны яшчэ не раз звернецца да выстаўкі. І першае, што будзе ўспамінацца часцей за ўсё — беларускае шкло.

Ёсць на Навагрудчыне такое месца — Бярозаўка. Кожны, хто пабываў там, яшчэ доўга будзе расказваць пра чысціню блакіту і зялёныя сады, абмытыя ранішнім сонцам. Жывуць там з пакалення ў пакаленне майстры-шкловыдзімальшчыкі. Цэлыя рабочыя дынастыі прыйшлі адтуль на завод «Нёман», слава пра які плыве па ўсёй краіне. Вырабы завода не раз атрымлівалі высокія адзнакі на міжнародных выстаўках. Яго прадукцыя экспартуецца ў замежныя краіны, выстаўлена ў Эрмітажы.

Прадукцыя? Не, гэта не тое слова. Кажуць, у самой прыроды перанялі бярозаўцы чароўныя сакрэты майстэрства.

Інакш, чаму так цешыць крыштальна-вясёлкавы бляск шкла? Чаму цяжка адвесці ад яго позірк? Праходзяць першыя, самыя хвалюючыя, імгненні на выстаўцы, і наведвальнікі пачынаюць разумець, што ўсё гэта называецца высокім іменем — мастацтва...

Вось работы адной з маладых мастачак завода С. Раўдвеэ. Такім яе творам, як дэкаратыўныя вазы «Арлекіны», «Яхты», уласціва, як сапраўднай паэзіі, вельмі дакладнае пачуццё дэталі. Самы драбнейшы, няўлоўна-пяшчотны штрых тут спрыяе раскрыццю агульнай задумы. Рэльефная выпукласць граней не губляецца ў пералівах таноў, а функцыянальнасць формы не пераважае над эмацыянальным вобразным яе выяўленнем.

Чым праверыць гэтую крыху груваcткую «формулу гарманічнасці», выведзеную мастачкай? Чаму з такой свабодай карыстаецца майстар ёю, працуючы над вазай вялізных габарытаў або ствараючы прыбор для віна? Мастачка ўдала разгадала сучасную тэндэнцыю, якая ўсё настойлівей заяўляе пра сябе: імкненне да лаканізму дэталі, лёгкасць і плаўнасць формы.

Чымсьці падобны да стылю С. Раудвеэ творчы почырк В. Леантовіча. Яго святочны сервіз для кавы не кідаецца ў вочы. Тут усё проста: няма слядоў той крыклівай вычварнасці, што часта заяўляе пра сябе пірамідамі груваcткіх набораў, якія потым спісваюць з балансу магазінаў. Уважліва прыгледзеўшыся да тонкай, без усялякіх дзівацтваў сувязі малюнка, памастацку ўпісанага ў пяшчотны карычневы фон, пачынаеш разумець, што гэтая прастата — самае галоўнае і каштоўнае, што знойдзена ў часе доўгага і цяжкага творчага пошуку. Такая эканомія ў дэталі ўласціва і іншым работам таленавітага мастака, сярод якіх — серыя дэкаратыўных пласцін, што захапляюць арыгінальнай свежасцю малюначнага арнаменту.

Калі меркаваць па экспанатах, прадстаўленых на выстаўцы, дык своеасаблівы рэнесанс перажываюць фальклорныя матывы. І гэта не дзіўна. Сучасны інтэр'ер адкрывае шырокія магчымасці для сапернiцтва самых розных жанраў. Важна, каб яны адпавядалі добраму мастацкаму густу.

Беражлівыя, чулыя адносіны да малюнка рэчы ўласцівы разьбяру М. Рыжыкаву ў яго рабоце «Слаўся, Няміга!». А. Міхеенка ў рабоце «Несцерка» (таксама разьба па дрэве) здолеў знайсці такое кампазіцыйнае вырашэнне тэмы, якое дазволіла найбольш выразна ўзнавіць вобраз аднаго з любімых камедыйных персанажаў.

Можна назваць яшчэ шмат цікавых твораў на выстаўцы, у якіх апрацаванае рукамі мастака дрэва «ажывала», набываючы дзівосную цеплыню і пластычнасць — якасці, без якіх немагчымы ні рэалізм «Дзіка», выкананага мастаком Б. Малкіным, ні журботная сімволіка «Вечара» (мастак В. Мягкоў).

Няўдачы? Што ж, былі і яны. Напрыклад, цікава была задумана кампазіцыя «Лён» мастакоў С. Нартавай і А. Філімонава, і засталося толькі пашкадаваць, што ідэя натхнёнай працы ў гэтай вялікай рабоце не атрымала належнага выражэння. Супярэчлівы і па-лубачнаму прымітыўны сюжэт работы В. Гаўрылава, прысвечанай грамадзянскай вайне. Работа залішне перагружана дэталямі. (Ці патрэбна было саджаць фігуру байца на каня з-пад Ільі Мурамца, загадзя прыбраўшы яго ў былінныя латы?)

У вялікай справе не бывае без агрэхаў, і не яны складаюць галоўнае. Галоўнае, што наведвальнікі адкрылі для сябе: ёсць у рэспубліцы мастакі малой формы, ёсць і ўмовы для вялікай працы, першыя вынікі якой бачны ўжо сёння.

А цяпер зноў пра кандытарскую этыкетку, і не толькі пра яе. Мы не выпадкова аднеслі гэтае пытанне на пасля. Таму, што ў ім, нібы ў кроплі вады, адлюстроўваюцца і зняважлівыя адносіны да творчай вучобы, да карыснага абмену вопытам паміж мастакамі, якія працуюць для прамысловасці. Такія ўзаемна выгадныя творчыя і сяброўскія кантакты вельмі памаглі б справе, асабліва ў пошуках нетрафарэтнай формы. Асабліва, калі размова ідзе пра эстэтыку, якая адпавядала б высокаму крытэрыю сучаснасці. Ёсць шмат пабочных праблем, у тым ліку і праблема матэрыялу і фарбаў.

Аднак трэба ісці наперад і заўсёды забягаць далей у сваіх пошуках і фантазіях.

Такім чынам, выстаўка ўдалася як з'ява, удалася як арыенцір на будучае. Можна не сумнявацца, што за ёю наладзяць неўзабаве другую, потым трэцюю. Галоўнае, каб лепшае, што наведвальнікі бачылі тут, хутчэй знайшло дарогу ў быт, узбагачаючы ўсіх цудоўным і патрэбным пачуццём прыгожага.

**Уладзімір ЕЛІСЕЕЎ.**

# МОЛАДЗЬ САВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ З ТАБОЙ, В'ЕТНАМ!



Юны паплечнік партызан — васемнаццацігадовы Ві Ван Унг, перадавік вытворчасці.



А. ВОЛКАУ. Дом Ўрада. Дождж. Акварэль.



**ПЕРШАЯ РЭСПУБЛІКАНСКАЯ ВЫСТАУКА ДЭКАРАТЫУНА-ПРЫКЛАДНОГА МАСТАЦТВА.**

**Фота У. Крука.**



Т. АГАФОНЕНКА.
Па грыбы. (Саломка.)



У. і М. БАСАЛЫГІ. Прыгажуні. (Дрэва.)



Л. МЯГКОВА.
Дэкаратыўны набор. (Шкло.)



В. ЛЕАНТОВІЧ.
Чайны набор «Павуцінка». (Фарфор.)



К. АРЦЁМЕНКА. Пастушок. (Саломка.)

М. ПУШКАР. Паляўнічы. (Кераміка.)



М. ПУШКАР. Браткі-беларусы.

Палескія напевы.







Нгуен Мінь Дыонг.

# МЯНЕ КЛІЧА РАДЗІМА-МАЦІ

Мы з В'етнама. Зусім яшчэ маладыя студэнты, што нядаўна былі школьнікамі і нядаўна трапілі ў вашу краіну. Але сярод нас ёсць і аспіранты, якія ўжо пражылі на савецкай зямлі шэсць-сем гадоў. Ёсць студэнты з ДРВ, ёсць і з Паўднёвага В'етнама. Такі склад нашага зямляцтва.

Аднак мы маем агульныя рысы. Мы—дзеці рабочых і сялян, дзеці рэвалюцыянераў. Некаторыя з нас ужо ваявалі. Вядома, вам цяжка ўявіць, калі вы гутарыце з маладой сарамлівай дзяўчынай, што яна смела дзейнічала ў баях, пад бомбамі амерыканскіх самалётаў выратоўвала раненых байцоў. Сярод нас ёсць таксама студэнты, якія працавалі на заводах, што не аднойчы перажывалі налёты амерыканскіх піратаў. Калі ж заводы эвакуіраваліся, рабочыя бралі вінтоўкі і ішлі ў атрады барацьбітоў.

Для нас гэта вельмі проста. Ужо дваццаць трэці год, як ідзе народная вайна, у ёй удзельнічае ўвесь наш народ, і мы здольны нанесці амерыканскім імперыялістам паражэнне.

Мы нарадзіліся і выраслі ў агні вайны. Нашы дзяды, бабулі, бацькі ваявалі і ваююць, каб адстаяць нашу свабоду, наша шчасце. З дзяцінства наша жыццё, наш лёс звязаны з рэвалюцыяй, таму ісці па шляху бацькоў, братоў і сясцёр — адзіны жыццёвы выхад для нас, а інакш — нельга! Тым больш мы лічым, што ваяваць за свабоду сваёй радзімы — гэта самая галоўная задача, гэта найвышэйшае шчасце для моладзі. Нягледзячы на цяжкасці, многія нашы хлопцы скончылі сярэднюю школу на адны пяцёркі і былі пасланы ў вышэйшыя навучальныя ўстановы без конкурсу. Але яны пайшлі на фронт дабравольцамі. Малалетнія хлапчукі прыбаўлялі сабе гады, каб толькі іх узялі ў армію. Бессмяротны вобраз любімага Паўла Карчагіна — у душы моладзі В'етнама.

Нашы сябры і цяпер прымаюць удзел у барацьбе за незалежнасць радзімы. Мы, вядома, зайздросцім ім, бо жыць убаку ад барацьбы ў самыя небяспечныя для Радзімы хвіліны — гэта вельмі цяжка.

Але мы ведаем, што наша задача — вучыцца ў імя будучыні, і яна не менш важная. Мы — будаўнікі сацыялізма, будаўнікі камунізма ў нашай краіне. Ці ж не праўда — гэта вельмі слаўна! І мы стараемся апраўдаць гэта высокае званне поспехамі ў вучобе.

На нашым шляху нямала цяжкасцей. А цяжкасці ў кожнага свае. Для тых, якія зусім нядаўна прыехалі на савецкую зямлю, усё зусім новае: і клімат, і звычкі, а самае галоўнае—мова. Уявіце сабе, што трапілі мы ў чужую краіну і не ведалі ніводнай літары. Але мы лічым, што ваша краіна для нас не чужая, гэта ж радзіма Вялікага Кастрычніка, гэта наша другая Радзіма, і вялікі гонар для нас —







З бою ў бой, ад перамогі да перамогі...



На лініі агню антыамерыканскага Супраціўлення.



Ансамбль артыстаў на пагранічнай заставе антыамерыканскага Супраціўлення ў Куці.



Член брыгады маладых добраахвотнікаў В'етнама.

(З часопіса «В'етнам».)

аваладваць мовай Леніна. На працягу васьмі месяцаў нашы студэнты, якія займаюцца на падрыхтоўчым курсе, навучыліся размаўляць па-руску і нават выступалі нядаўна на канферэнцыі, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння вялікага рэвалюцыйнага пісьменніка Максіма Горкага.

У студэнтаў старэйшых курсаў свае цяжкасці. Асабліва ў тых, якія вярнуліся ў інстытут пасля гадоў перапыненай вайной вучобы. Але настойлівасць— ключ да поспехаў. У нас ёсць студэнты, якія займаюцца толькі на выдатна, некаторыя скончылі інстытут з адзнакай, і нямала аспірантаў, якія датэрмінова абаранілі свае дысертацыі.

Трэба сказаць, што ў нашых поспехах важную ролю адыгрываюць пастаянныя клопаты рэктара інстытута, прафесароў і выкладчыкаў. Мы ніколі не забудзем тых, хто пра нас клапоціцца, памагае нам рабіць першыя крокі ў навуку. Член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР, прафесар Ф. А. Апейка, хворы, лежачы ў ложку, чытаў маю дысертацыю, выкладчыкі С. М. Сцёпін, А. М. Літвіненка, Н. М. Уладыкіна не шкадавалі часу для кансультацый нашых студэнтаў, дацэнт Л. А. Краўцоў старанна растлумачваў усе пытанні, да позняй ночы праседжваў з намі. Выкладчыца рускай мовы Т. М. Танковіч, як родная маці, заўсёды клапоціцца пра нашу вучобу, цікавіцца, як мы жывём.

Цеплыню і ўвагу мы сустрэлі не толькі ў інстытуце, але і ўсюды на беларускай зямлі, дзе мы пабывалі — у Брэсце, Гомелі, Магілёве. Усюды акружаюць нас клопатамі і любоўю.

Мы вельмі расчулены тым, што беларускія маці са слязамі на вачах распытваюць у нас пра ваенныя справы ў В'етнаме. Мы добра ведаем—на свеце ўсе маці аднолькавыя, добрыя, пяшчотныя і шчодрыя душой. Аднак беларускія і в'етнамскія маці яшчэ маюць агульныя рысы — яны ж нарадзілі гераічных дзяцей і смела праводзяць іх на фронт для змагання за свабоду сваёй Радзімы. Яны ўмеюць ахвяроўваць сваім шчасцем для шчасця чалавецтва. Яны могуць гаварыць шчырыя словы на развітанне.

Ідзі, сынок. Дарога — ўся жарства.
На ёй лясы, раз'юшаныя ветры,
І кулі там з-за кожнага куста...
Ды ў перамогу вер ты!..
Успамінай аб родным краі,
Пра маці, хто цябе чакае.
Ты ведаеш, я мужная сама,
Не страшны мне ні бомбы, ні турма...
. . . . . . . . . . . . . . . . .
Ідзі, сынок, цябе Радзіма-маці кліча!

Нас вельмі кранае тое, што савецкая моладзь выказвае жаданне паехаць добраахвотнікамі ў В'етнам, каб памагчы нашаму народу здабыць свабоду. У свеце няма нічога прыгажэйшага, чым дружба. Але самая прыгожая, самая моцная дружба— тая, што гартуецца ў баях. Бясспрэчна, што толькі паміж тымі, хто выхаваны ў духу інтэрнацыяналізму, можа быць такая непарушная дружба.

Мы часта сустракаемся тут, у Беларусі, са школьнікамі. Вядома, яны не ўяўляюць сабе, што такое вайна, але ўжо могуць адрозніць, якая вайна справядлівая і якая — агрэсіўная.

«Дзядзя! Які колер падабаецца в'етнамскім школьнікам?» — спытала аднойчы ў мяне Таня, якую я сустрэў у ЦУМе. «Самы любімы колер нашых дзяцей — чырвоны, рэвалюцыйны. І блакітны — колер міру»,—адказаў я.

Мы пражывем самыя цудоўныя гады свайго жыцця — гады студэнцтва, гады маладосці — на савецкай зямлі. Ад'язджаючы дадому, мы пакінем у вас часцінку свайго жыцця і захаваем вечную памяць аб дружбе, памяць аб шчырых савецкіх людзях і аб цудоўнай прыродзе краіны Саветаў.

Нам, дзецям сонечнай краіны, будзе часта прыгадвацца, як у вас мы рабілі першыя крокі на каньках. Мы, напэўна, часта будзем успамінаць і пра першы снег. І асабліва будзем успамінаць добрыя словы савецкіх маці і мілыя ўсмешкі беларускіх дзяўчат і юнакоў.

Хутка і я развітаюся з інстытутам і паеду на Радзіму, якая змагаецца за сваю свабоду. Нашы хлопцы зайздросцяць мне, і я таксама адчуваю сябе шчаслівым. Развітвацца, з вамі, з вернымі сябрамі, не так лёгка расстацца. Аднак мяне кліча Радзіма-маці, яе рэвалюцыйныя дарогі...

Мы сустрэнемся, ці не праўда? Дружба наша — непарушная. Маладосць чалавецтва — вечная!

НГУЕН МІНЬ ДЫОНГ,
аспірант кафедры тарфяных машын Беларускага політэхнічнага інстытута.



# НАШ КАМІСАР

Восень 1941 года. Атрад асобага прызначэння праходзіў прыфрантавую паласу. Кожны баец нёс за спіной тол, міны, узрывальнікі, патроны, гранаты, прадукты харчавання. Калі хто-небудзь правальваўся ў балота, ледзяная вада абпальвала цела.

Камісар Алег Бычок ішоў то на чале калоны, то ў сярэдзіне яе, а то прыстройваўся ззаду, ці спяшаўся на выручку, калі баец адставаў.

Пад вечар, калі згусцеў змрок і шэрая смуга заслала неба і зямлю, атрад выйшаў на вялікую палянку, дзе суткі таму назад грымеў бой. Навокал валяліся стрэляныя гільзы, скрынкі ад снарадаў. Укапаны ў зямлю, увесь абгарэлы, танк у цемры нагадваў нейкае страшыдла: вечка люка адкінута, замест ствала гарматы тырчыць абрубак. Павыварочваны бярвенні бліндажоў, перакулены ўверх коламі гаўбіцы. Велізарная варонка, на яе краі — адзінокі «максім»...

Жахлівы малюнак! А яны ж думалі, што такое можна ўбачыць толькі на карціне або ў кіно...

У нямой цішыні нечакана гучным, дрыготкім голасам Алег сказаў: «Таварышы! Вы бачыце, як змагаліся тут нашы салдаты. Мы перажываем горкія дні, але савецкі чалавек не здаецца! Паклянёмся, што не пашкадуем свайго жыцця ў імя вызвалення любімай Радзімы».

— Кля-нём-ся! — урачыста і грозна адгукнулася рэхам палянка.

Расцягнуўшыся ланцужком, партызаны пайшлі далей. Цяжкае дыханне, адрывістыя каманды патаналі ў шуме ветру.

— Не магу больш, таварыш камісар... — сказаў хтосьці наперадзе.



Алег Бычок.

Алег спыніўся, стомлена правёў па твары рукой, скамандаваў:

— Прывал! — і, знясілены, апусціўся пад дрэва сам. Але тут жа падхапіўся і, з усмешкай глянуўшы на людзей, дадаў: — Прывал зробім толькі ў бяспечнай зоне...

Калона рушыла далей...

А раніцай, выйшаўшы з лесу, партызаны ўбачылі вёску. Нішто тут не нагадвала пра вайну: нязлосна брахалі сабакі, з комінаў віўся сіняваты дымок. Хацелася ўвайсці ў дом, сагрэцца.

Разведчыкі, высланыя наперад, далажылі, што немцы і паліцаі тут бываюць рэдка.

Што ж, калі так, камісар рашыў весці партызан праз вёску. І толькі атрад падняўся на ўзгорак, што падзяляў паселішча на дзве часткі, як прагучаў стрэл.

— Кладзіся! Да бою! — крыкнуў Алег і залёг.

Страляніна ўзмацнілася. Паветра змяшалася з едкім гарам.

— Гранаты! — закрычаў Алег.

Такой была першая сутычка з фашыстамі.

...Ужо ўсталяваўшыся на сталай базе ў лесе, Алег з групай партызан выйшаў на заданне. Доўга ляжалі на халоднай, мёрзлай зямлі.

— Горш няма, як ляжаць у засадзе ў такі холад... — ціха сказаў Алег камандзіру ўзвода і страпянуўся: з дарогі далятаў гул машын.

— Падрыхтавацца!.. — ціха загадаў ён.

З-за павароту шасейкі Вялікія Лукі — Невель паказаліся дзве машыны і тры матацыклісты. Стрэл. Машыны рэзка затармазілі. Матацыклісты, падкошаныя прыцэльным агнём, распласталіся на дарозе. Алег кінуўся наперад і рэзка рвануў дзверцы машыны. Нямецкі палкоўнік, які сядзеў у машыне, стрэліў. Куля апякла плячо. Стрэліць другі раз гітлеравец не паспеў: Алег апярэдзіў яго.

Абедзве машыны, падарваныя гранатамі, гарэлі. Усё скончылася вельмі хутка.

Партызаны ўзялі партфель з дакументамі палкоўніка (а дакументы былі вельмі важныя) і зніклі ў лесе...

У канцы 1942 года Алег Сяргеевіч Бычок быў узнагароджаны ордэнам Леніна. А колькі да гэтага было баёў, выбухаў на чыгунцы, засад, спаленых мастоў і складаў з гаручым і боепрыпасамі! І ў кожным баі сваёй адвагай і мужнасцю вылучаўся наш камісар.

Неяк на пачатку сорак другога Алег з групай партызан падышоў да вёскі Паруб'е на Расоншчыне. Здалёк хаты выглядалі мёртвымі, закінутымі, а крайняя нагадвала хлеў. І толькі комін над страхой паказваў, што тут жывуць людзі.

Алег пастукаў, увайшоў. Сустрэлі яго насцярожана: усіх здзівіла нечаканае з'яўленне незнаёмца. Да печы туліліся дзеці. Тут жа стаялі маці і высокі стары, гаспадар дома.

Алег распарадзіўся сабраць людзей, выставіць вартавых.

— Таварышы! Мы — партызаны, — сказаў ён вяскоўцам. — Я хачу расказаць вам пра становішча на франтах...

— А кажуць, што Маскву ўзялі... — няўпэўнена прамовіў стары.

— Не, таварышы, Маскву не ўзялі. Ідуць жорсткія баі. Пад Масквой Чырвоная Армія нанесла ворагу першы сакрушальны ўдар. Нямецка-фашысцкія войскі адагнаны ад нашай сталіцы.

Твары людзей засвяціліся раднымі ўсмешкамі.

— Вось вам, — працягваў Алег, — свежы нумар «Праўды», паглядзіце, пачытайце.

Вяскоўцы праводзілі партызан, узрушаныя навінамі, узрадаваныя сустрэчай з імі.

Пад раніцу атрад вярнуўся ў лагер.

Алег загадаў паклікаць Рыгора Безбародава, і яны разам выйшлі на невялікую лясную паляну. Крочылі моўчкі, камісар наўмысна не хацеў пачынаць гаворку. Няхай яшчэ раз падумае Рыгор пра свой учынак. А той глядзеў на вострыя пікі ялін і, здавалася, нічога не бачыў перад сабой. Адчуўшы на сабе позірк камісара, павярнуўся да яго, але не сказаў ні слова. Маўчанне зацягнулася.

— Што ж, схібіў, Безбародаў? — нарэшце спытаў камісар.

— Больш такога ніколі не будзе... — ціха і ўпэўнена прамовіў Рыгор, узрадаваны тым, што першым парушыў маўчанне камісар.

Алег жа спыніўся, паглядзеў на партызана ўважліва і строга, але спытаў лагодна і ціха:

— Дык як жа было, раскажы?

— Ішлі на заданне. Было вельмі ціха. Так ціха, што рабілася страшна. І раптам застракатаў кулямёт... Я кінуўся бегчы... Паверце, таварыш камісар, я не баязлівец...

— Дапусцім, я веру, што ты не баязлівец. А ці паверацы таварышы? Яны ж на цябе спадзяваліся...

Рыгор апусціў галаву.

— Пойдзем, спытаем у таварышаў, што будзем рабіць. Раскажаш ім, чаму ты кінуўся наўцёкі.

— Навошта, таварыш камісар? Я вам усё расказаў... — у голасе партызана прагучала шчырая просьба.

— Не, ты ім скажы!

— А ці паверацы? — з надзеяй спытаў Рыгор, глянуўшы на камісара.

Алег адчуваў узрушанасць партызана, бачыў як глыбока перажывае ён сваю віну. І — верыў Рыгору... Але сказаў цвёрда:

— Ці паверацы? Гэта вырашаць яны самі. Ты павінен не на словах, а на справе даказаць, што любіш Радзіму і ненавідзіш яе ворагаў. Ты думаеш, што мне не бывае страшна? А калі ўсе пабягуць так, як ты?..

— Прабачце, калі можаце... — ціха прамовіў Рыгор.

Камісар асцярожна ўзяў яго за плячо і падбадзёрыў:

— Смялей!

А потым не аднойчы хадзіў Рыгор Безбародаў на небяспечныя аперацыі, у засады і кожны раз успамінаў тую размову з камісарам.

...Вясна. Вецер, разганяючы хмары, кідаў у твар халодныя кроплі дажджу. Пад нагамі хадуном хадзіла багна. Каб не правваліцца, ішлі на невялікай адлегласці адзін ад аднаго, абапіраючыся на доўгія палкі. Іншы раз вада даходзіла да пояса: ішлі, як па возеры.

— Ніколі не думаў, што на зямлі можна адчуваць сябе так няўпэўнена, — азваўся нехта з байцоў.

Але камісар тут строга перапыніў яго:

— Не размаўляць!

На ўзлеску спыніліся, прыслухоўваючыся. Уперадзе была чыгунка. Пачуўшы далёкі шум цягніка, папаўзлі да палатна. Перад невысокім насыпам спыніліся. Цягнік з доўгім хвастом вагонаў набліжаўся.

— Уперад! — загадаў камісар і першы падпоўз да палатна, заклаў узрыўчатку і скаціўся з насыпу.

Васіль Фралоў ірвануў шнур. Састаў быццам разламала папалам. Вагоны палезлі адзін на другі, узнімаліся на дыбкі і падалі пад адхон.

Гэта здарылася паблізу станцыі Дрэтунь. Варожы састаў, што накіроўваўся з Полацка на фронт, не дайшоў туды.

— Усе цэлыя?! Адыходзіць! — крыкнуў Алег Бычок, за ім пабеглі астатнія.

Ні на адзін дзень не спыняў атрад сваіх баявых аперацый. Партызаны наносілі адзін за адным нечаканыя ўдары па ворагу.

...Пад канец ліпеня 1943 года немцы задумалі правесці чарговую карную аперацыю супраць народных мсціўцаў.

Падпалкоўнік Ойлер прывітаў капітана СС Екеля традыцыйным «Хайль!»

— «Рэферат 3-С-2», — пачаў ён, — ад упаўнаважанага атрымаў звесткі аб вялікай групе камуністаў, якая размешчана ў раёне вёскі Паруб'е. Камандуе ёю лейтэнант Святлоў, камісар — Алег Быстры. Ваша мэта знішчыць гэты атрад! Колькі трэба часу, каб падрыхтавацца да выступлення?

— Пяць дзён.

— Пазнаёмцеся, вось загад.

Екель прачытаў: «Аперацыя «Хайнрынг». Камандаванне ўскласці на капітана СС Екеля. У падначаленне яму дадаткова выдзеліць паліцэйскія гарнізоны і аператыўныя групы...»

Екель аж змяніўся з твару: яму аказаны такі гонар!

— Фрыц, — зноў загаварыў Ойлер, пераходзячы на сяброўскі тон, — камандаванне спадзяецца на вас! Па сакрэту магу сказаць: шэф будзе задаволены, калі выканаеце заданне паспяхова.

— У атрадзе ёсць нашы людзі?

— У атрадзе няма, але непадалёку ад атрада, у вёсцы, ёсць. Спробы заслаць агентаў праваліліся. Шэф не дазволіць нам доўга валаводзіцца з партызанамі. Іх там, прыкладна, трыста чалавек. Ёсць аўтаматы, кулямёты, вінтоўкі...

— Гэтых звестак для мяне дастаткова!

Вярнуўшыся ад Ойлера, Екель адразу заняўся падрыхтоўкай аперацыі. У апорныя пункты трэба было падкінуць боепрыпасы, кожнай аператыўнай групе паставіць пэўную задачу, дамовіцца аб сувязі з імі, аб адначасовым акружэнні партызан, вырашыць іншыя пытанні.

...Галоўная калона выступіла ў вызначаны час.

Екель нецярпліва круціўся на мяккім сядзенні машыны: хутчэй, хутчэй! Эсэсаўцы з трывогай пaглядалі на лес.

— Не тыя цяпер нашы салдаты... — думаў Екель. — Іаган прастрэліў сабе руку. Кажа, выпадкова... Ніхто не хоча паміраць...

Позна вечарам наступнага дня Екель лютаваў. Ён бегаў сюды-туды па хаце і лаяў падпалкоўніка Ойлера.

— Гэта ён уцягнуў мяне ў такую справу... «Партызаны стаяць ля Паруб'я». А гэтыя бандыты даведаліся пра нашу аперацыю і зніклі. Дзе іх цяпер шукаць? Што сказаць шэфу?

Фрыц Екель выпіў яшчэ адну шклянку шнапсу і завыў нешта падобнае на песню. Пачуўшы за акном стрэлы, падумаў: «Зноў салдаты сваволяць...» і... наліў шнапсу.

У расчыненых дзвярах з'явіўся разгублены вартавы:

— Партызан!

Выхапіўшы пісталет, Екель выбег на вуліцу. А стрэлы гучалі ўжо за ваколіцай. Даносіліся нямецкія каманды.

Каля машыны Екель, крыху працверазеўшы, спытаў:

— Адкуль партызаны? Учора ж нікога паблізу не было...

— Што загадаеце?

— Адступаць!

Бязладна страляючы, карная экспедыцыя Фрыца Екеля рушыла назад, у гарнізон...

— Вось дык ірванулі! — пачулася ў цішыні нечы насмешлівы голас. — Даганяй — не дагоніш!

— Таварышы, праверце ў хатах: можа, які фрыц не паспеў збегчы! — распарадзіўся Бычок.

...Наступіў май 1944 года.

Алег рыхтаваўся да чарговага задання: прагледзеў маршрут паходу групы, удакладніў яго з паведамленнямі сувязных, запісаў час адпраўлення воінскага саставу са станцыі Маладзечна. Партызаны правяралі зброю, зручней прыладжвалі гранаты. Радыст прынёс у штабную зямлянку радыёграму. Камісар прачытаў: «...Узмацніць аперацыі на чыгунцы Маладзечна — Полацк...»

— Перадайце ў Маскву, — звяртаючыся да радыста, сказаў Алег, — што заданне выканаем... І яшчэ абавязкова пра тое, што мінскае і смаленскае СД збіраюцца «зматаць вуды» і актыўна да гэтага рыхтуюцца.

7-га мая 1944 года група партызан на чале з Алегам Сяргеевічам Бычком выйшла мініраваць участак чыгункі Маладзечна — Полацк.

...Грукат цягніка данёсся, здаецца, нечакана. Алег выхапіў з рэчавага мяшка міну і кінуўся ўперад: толькі б паспець! За ім кінуліся астатнія. Чыгунка ўжо зусім блізка...

І раптам вогненная ўспышка асляпіла вочы.. Моцны ўдар збіў Алега з ног... Слупы агню і дыму разарвалі начную цемру...

Засада!

Адстрэльваючыся, адступалі да лесу. Чатыры партызаны неслі камісара.

Алег стагнаў, скрыгатаў зубамі, а калі апрытомнеў, спытаўся:

— Дзе я?

— У сваіх, таварыш камісар...

— Я нічога не бачу... усё чорнае... Боль страшэнны... Пер-радайце... м-м-м-а-а-ме...

І ён сціх. Сціх назаўсёды...

Пахавалі Алега Сяргеевіча ў вёсцы Ліпава. Яму было дваццаць тры гады. Маладому камуністу пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Яго подзвіг — дзесяткі баявых аперацый. Яго подзвіг — уменне думаць пра людзей і верыць ім.. .

**Мікалай БРАТУШЭНКА,**
**былы камандзір атрада.**



# МЕМАРЫЯЛЬНЫ ЛЕТАПІС

Шаноўна зберагаецца ў Магілёве ўсё, што звязана з яго гісторыяй. Кожны магілявчанін пакажа вам месца, дзе быў Магілёўскі замак, ці славуты кафедральны сабор, той дом, дзе спыняўся праездам палітычны ссыльны Аляксандр Сяргеевіч Пушкін.

Паміж сучасных архітэктурных ансамбляў, сярод вуліц, плошчаў, дзе пануе шкло і бетон, раптам праглядвае невялікі дом дарэвалюцыйнага ўзору. Падыдзіце да яго бліжэй, прачытайце на мармуровай дошцы лаканічны надпіс...

Сумны лёс напаткаў тых, хто выйшаў снежаньскай раніцай 1825 года на Сенацкую плошчу Санкт-Пецярбурга. Царызм з усёй жорсткасцю расправіўся з дзекабрыстамі. І Магілёў аказаўся сведкай гэтай трагічнай падзеі. Мемарыяльная дошка на будынку цяперашняй абутковай фабрыкі сцвярджае: «У гэтым доме ў студзені 1826 года праходзіў допыт дзекабрыстаў П. І. Пестэля, М. П. Бястужава-Руміна, С. М. Мураўёва-Апостала».

На Ленінскай вуліцы — стары двухпавярховы будынак, дзе цяпер сярэдняя школа № 3. Уласна, школу вы ўбачыце толькі на двары, там прыбудова — новы трохпавярховы корпус. А стары дом калісьці быў мужчынскай гімназіяй. Гісторыя яе вельмі цікавая. Тут панаваў мяцежны дух. Адсюль выйшлі відныя рэвалюцыйныя народнікі Судзілоўскі, Кавалік. У 1886 годзе яе скончыў Панцеляймон Мікалаевіч Лепяшынскі. Многія гады ён быў побач з Уладзімірам Ільічом Леніным: у Сібірскай ссылцы, у рэдакцыі «Искры», у рэвалюцыйных бітвах, верны ленінец, выдатны дзеяч камуністычнай партыі.

У гімназіі таксама вучыўся сусветна вядомы даследчык Арктыкі Герой Савецкага Саюза акадэмік Ота Юльевіч Шмідт. Гэтым двум славутым сынам зямлі магілёўскай прысвечана мемарыяльная дошка на фасадзе школы.

Кожнаму доменшчыку, сталявару знаёма імя Міхаіла Канстанцінавіча Куракі — выдатнага рускага інжынера, рэвалюцыянера. Міхаіл Канстанцінавіч — ураджэнец Краснапольскага раёна. Магілёўшчына ганарыцца сваім земляком. На мемарыяльнай дошцы, устаноўленай у яго гонар на магілёўскім металургічным заводзе, чытаем: «Курака Міхаіл Канстанцінавіч (1872—1920 гг.)... Член КПСС з 1904 года, актыўны ўдзельнік рэвалюцыі 1905 — 1907 гадоў. Першы рускі металург, канструктар доменных печаў».

У 1912 годзе Магілёў стаў адным з апорных пунктаў ленінскай «Праўды». Рабочую бальшавіцкую газету чыталі магілёўскія гарбары, чыгуначнікі, грузчыкі, падмайстры. Яе распаўсюджвала група праўдзістаў — бальшавікі А. Чарніцкі, З. Беленькі, І. Чарнаглаз, якімі кіраваў з Пецярбурга вядомы бальшавіцкі дэпутат Дзяржаўнай думы А. Бадаеў. Магілёўскія праўдзісты даносілі да рабочых ленінскае слова, арганізоўвалі стачкі і мітынгі пратэсту супраць царскага самаўладства. Надпіс на старым будынку, што на Ленінскай вуліцы, гаворыць: «Тут у падвале дома № 22 у 1912—1914 гадах знаходзілася падпольная бібліятэка магілёўскай групы праўдзістаў, якой кіраваў бальшавік А. І. Чарніцкі».

У Магілёве ў 1917 годзе знаходзілася стаўка Вярхоўнага галоўнакамандуючага рускай арміі. Цар Мікалай Раманаў, а затым Карнілаў, Духонін, царскія і «часовыя» міністры і генералы давілі «рэвалюцыйную крамолу». У Кастрычніцкія дні па ўсёй Расіі трыумфальным шэсцем крочыла сацыялістычная рэвалюцыя. І толькі ў Магілёве Духонін не падпарадкоўваўся рэспубліцы Саветаў. Контррэвалюцыя суцяшала сябе надзеяй зрабіць Магілёў «рускай Вандэяй». Па ўказанню Леніна сюды рушылі эшалоны рэвалюцыйных матросаў, чырвонагвардзейцаў. І хутка стаўка Духоніна перастала існаваць. Горад стаў савецкім. Тут, у Магілёве, уступіў на пасаду першы савецкі Вярхоўны галоўнакамандуючы Мікалай Васільевіч Крыленка. Вуліцу, якая ў Магілёве названа яго імем, упрыгожвае мемарыяльная дошка з над-










пісам: «Крыленка Мікалай Васільевіч (1885—1938 гг.). Першы Вярхоўны галоўнакамандуючы Савецкай рэспублікі, Народны камісар юстыцыі. Пад яго камандаваннем рэвалюцыйныя войскі ліквідавалі контррэвалюцыйную стаўку ў гор. Магілёве 20 лістапада (3 снежня) 1917 года».

У гады грамадзянскай вайны Магілёў быў франтавым горадам. Адсюль ішлі палкі на Заходні фронт. Мемарыяльныя дошкі расказваюць аб знаходжанні ў горадзе пасланцоў Леніна, выдатных дзеячоў камуністычнай партыі Міхаіла Іванавіча Калініна і Сярго Арджанікідзе...

Вуліца Міронава. Мемарыяльная дошка расказвае, што яна названа ў гонар Дзмітрыя Кірылавіча Міронава — чырвонагвардзейца, актыўнага змагара за ўстанаўленне Савецкай улады на Магілёўшчыне, дэлегата VIII з'езда РКП(б), члена акруговага камітэта партыі.

У цяжкае лета 1941 года дваццаць тры дні акружаны Магілёў змагаўся супраць гітлераўцаў. Воіны 172-й стралковай дывізіі і народныя апалчэнцы, атрады міліцыі стойка адбівалі націск ворага. «Мадрыдам на Дняпры» быў названы тады Магілёў. Аб гэтай яркай старонцы ў гісторыі Вялікай Айчыннай вайны расказваюць мемарыяльныя дошкі. На фасадзе сярэдняй школы № 11 высечаны словы: «У гэтым будынку ў пачатку Вялікай Айчыннай вайны з 2 па 27 ліпеня 1941 года знаходзіўся штаб 172-й стралковай дывізіі, якая абараняла Магілёў». Сёння вуліцы горада носяць імёны абаронцаў — Міхаіла Цімафеевіча Раманава, генерал-маёра, камандзіра гераічнай 172-й дывізіі; Канстанціна Рыгоравіча Уладзімірава, камандзіра батальёна міліцыі, які загінуў у баях на магілёўскай зямлі 19 ліпеня сорак першага.

У час фашысцкай акупацыі тут таксама быў фронт. Фронт без акопаў. У паветра ляцелі фашысцкія казармы, на сценах паяўляліся зводкі Савецкага Інфармбюро, лістоўкі, якія клікалі да барацьбы. Горад не здаваўся. Мы помнім незабыўную Таню Карпінскую, нашу «магілёўскую Зою», бясстрашную падпольшчыцу. Яе імем названа вуліца, па якой яна хадзіла ў дзесяты клас. Тут чытаем мы словы: «Камсамолка Таня Карпінская, вучаніца школы № 1, актыўная ўдзельніца антыфашысцкага падполля. У ліпені 1943 года разам з маці па-зверску закатавана нямецка-фашысцкімі захопнікамі».





Загінуўшым барацьбітам, кіраўнікам партыйнага падполля П. І. Бялько, А. В. Гарошка, П. В. Дракаву і В. М. Жывапісцавай прысвечана мемарыяльная дошка на будынку новага вакзала.

На заводах і фабрыках мемарыяльныя дошкі расказваюць пра магіляўчан, што не вярнуліся з вайны. «Канавалаў Мікалай Аляксандравіч (1910—1943 гг.). Інжынер завода штучнага валакна. Загінуў смерцю храбрых у баях за Радзіму... Занесены навечна ў спісы калектыву прадпрыемства...» «Бубноў Іван Васільевіч (1906—1944). Старшы лабарант завода штучнага валакна... Занесены навечна ў спісы калектыву прадпрыемства». Імёны сваіх загінуўшых таварышаў таксама ўвекавечылі калектывы аўтазавода імя Кірава, абутковай фабрыкі.

...Старажытная арка ў цэнтры горада. Тут на мемарыяльнай дошцы — назвы дывізій, брыгад, палкоў, якія 28 чэрвеня 1944 года штурмам аваладалі Магілёвам. Мемарыяльныя дошкі ўстаноўлены на вуліцах, якія носяць імёны камандуючых 50-й і 49-й арміямі генералаў І. В. Болдзіна, І. Ц. Грышына, камандзіра корпуса генерала Д. І. Смірнова, а таксама Герояў Савецкага Саюза І. С. Лазарэнкі, М. В. Рамашкі, для якіх бой за Магілёў быў апошнім... Мемарыяльная дошка на дняпроўскім мосце прысвечана старшаму лейтэнанту Мікалаю Іванавічу Яшыну, які цаной свайго жыцця першы фарсіраваў Днепр.

Магіляўчане-сучаснікі, дбаючы пра будучыню, свята шануюць мінулае свайго роднага горада.

**Якаў РЭЗНІКАЎ.**




## 1968

### ЖНІВЕНЬ

**3—6**

50 гадоў назад (1918) праходзіла Віцебская губернская канферэнцыя РКП(б).

**3**

70 гадоў з дня нараджэння (1898) М. К. Юскаўца, вучонага-эпізаатолага, акадэміка Акадэміі навук БССР.



М. К. Юскавец.

**8—11**

50 гадоў назад (1918) у Смаленску працавала краявая канферэнцыя камуністычных арганізацый акупіраваных раёнаў Беларусі і Літвы.



Т. Я. Разіна.



М. А. Ельяшэвіч.



М. М. Пянкрат.

**16**

60 гадоў з дня нараджэння (1908) Т. Я. Разінай, тэатральнага мастака.

**21**

60 гадоў з дня нараджэння (1908) М. А. Ельяшэвіча, вучонага-фізіка, акадэміка Акадэміі навук БССР.

**27**

50 гадоў з дня адкрыцця (1918) Магілёўскай губернскай канферэнцыі РКП(б) у Мсціслаўлі.

**28**

50 гадоў з дня нараджэння (1918) М. М. Пянкрата, беларускага пісьменніка.

---

Падрыхтавана аддзелам навуковага выкарыстання дакументальных матэрыялаў і інфармацыі Архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў БССР на падставе матэрыялаў, прадстаўленых цэнтральнымі і абласнымі дзяржаўнымі архівамі рэспублікі.



# ЦІ СТРАШНЫЯ ЭКЗАМЕНЫ?

Экзамены — адзін з метадаў праверкі ведаў, выяўленне здольнасцей, узважванне вопыту і майстэрства. І, безумоўна, усе, хто праходзіць гэтую праверку, не могуць не хвалявацца. А экзамены ўступныя, якія даюць права вучыцца ў вышэйшай школе,— тым больш выклікаюць такое хваляванне: малады чалавек пераступае парог у новае, нязведанае.

Уступныя экзамены па сваёй сутнасці мала чым адрозніваюцца ад школьных экзаменаў на атэстат сталасці. І між тым, для абітурыентаў, якія паступаюць у вышэйшыя навучальныя ўстановы, яны зусім інакшыя. У школе юнакі і дзяўчаты даюць справаздачу аб сваіх ведах перад настаўнікамі, якія доўгі час вучылі іх, а значыць, ведалі не толькі магчымасці кожнага, але і асаблівасці характару. Вынікі экзаменаў на атэстат сталасці з'яўляюцца нібы лагічным завяршэннем дзесяцігадовага «агульнажыцця», суіснавання вучняў і настаўнікаў.

Інакш выглядаюць уступныя экзамены. Іх прымаюць незнаёмыя выкладчыкі. Яны заклікаsucc выбіраць з усіх паступаючых найбольш падрыхтаваных, найбольш здольных і прыгодных да профілю інстытута. Выбраць такіх не так проста. Магчымы і памылкі. Але яны, на жаль, пераважна залежаць ад саміх абітурыентаў. Вось тут мы і падыходзім да непасрэднага адказу на пытанне — ці страшныя экзамены?

Перш за ўсё, хачу падкрэсліць, што экзамены прымаюць звычайна вопытныя выкладчыкі інстытутаў, якім не цяжка разабрацца ў тым, як падрыхтаваны абітурыент. Спакойна, чула і аб'ектыўна адносячыся да кожнага маладога чалавека, яны правільна выяўляюць іх веды і ў некаторай меры здольнасці. Ці не гэтым тлумачыцца тое, што на экзаменах амаль не здараюцца канфліктныя сітуацыі, выкліканыя недакладнасцю ацэнкі ведаў. Не, экзаменатар не «рэжа» складанымі пытаннямі вучняў, як гэта лічаць некаторыя бацькі абітурыентаў. Наадварот, мы радуемся за кожнага вучня, які паказвае самастойнасць думкі і настойлівае жаданне авалодаць іменна гэтай, абранай ім, прафесіяй, радуемся за школу і настаўнікаў, якія выхавалі адукаваных маладых людзей.

Трэба ведаць, што экзамены — гэта не толькі праверка ведаў і выяўленне здольнасцей, але і выпрабаванне волі і характару, эмацыянальнай устойлівасці і маральнай сталасці. Таму для кожнага абітурыента надзвычай важная псіхалагічная падрыхтаванасць да экзаменаў. У абсалютнай большасці выпадкаў яна і вызначае поспех.

Ад чаго залежыць псіхалагічная падрыхтаванасць абітурыента? Асноўнае значэнне маюць, безумоўна, веды. Аднак веды бываюць розныя, фармальныя і глыбокія, самастойна вынашаныя. Якасць ведаў непасрэдна выражаецца ў адказах. Абітурыент, які валодае цвёрдымі і глыбокімі ведамі, адказвае сцісла і абгрунтавана. Ён выказвае думкі сваімі словамі, разважае ўпэўнена і пераканаўча. Усё гэта і сведчыць пра здольнасці маладога чалавека думаць, пра наяўную схільнасць яго да напружанай інтэлектуальнай працы, якой з'яўляецца вучоба ў вышэйшай школе.

Вучань, добра падрыхтаваны, таксама хвалюецца, але ён умее валодаць сабой. Ён можа спакойна думаць, упэўнена разважаць, знаходзіць нават арыгінальныя прыёмы рашэння задач ці раскрыцця тэмы сачынення. Вусныя адказы яго змястоўныя і паказваюць самастойнасць думкі, перакананасць у сваіх ведах. Такі абітурыент у часе адказу адчувае, правільна ён раскрывае пытанне ці не зусім дакладна, і адразу ж рэагуе на дадатковыя пытанні экзаменатараў.

Прыгадваецца такі прыклад: на вусным экзамене членаў камісіі здзівіў юнак і глыбінёй разумення матэрыялу, і дасціпнасцю адказаў, і шчырасцю прызнання ў тым, што не можа прывесці неабходнай дэталі, якая ўдакладняе фактычны матэрыял. Юнак, такім чынам, стаў субяседнікам экзаменатараў. Сёння ён —адзін з лепшых нашых студэнтаў і ў вучобе, і ў мастацкай самадзейнасці, і ў грамадскай рабоце. Для яго экзамены таксама, відаць, з'яўляліся страшнаватымі, але ён перадолеў хваляванне, бо быў упэўнены ў сваіх ведах.

Інакш здаюць экзамены вучні, псіхалагічна не падрыхтаваныя. Нават тыя, хто валодае матэрыялам, пры адказах вельмі спяшаюцца. Часта здараецца, што абітурыент дае адказ не на пытанне, а стараецца выкласці ўсё, што ведае. Пры гэтым у яго ўзнікае няўпэўненасць, думкі распаўзаюцца, у выніку адказ атрымліваецца непаслядоўны і неглыбокі. Экзаменатары стараюцца выявіць сапраўдную падрыхтаванасць абітурыента і ставяць яму дадатковыя пытанні. Але тады юнак ці дзяўчына пачынаюць губляцца і збіваюцца з панталыку. «Спытайце яшчэ штонебудзь. Я ведаю... Я вучыў...» —просяць яны, але новыя пытанні выклікаюць яшчэ большую разгубленасць. Пачынае дзейнічаць нервовая ўзрушанасць, і чалавеку вельмі цяжка ўжо сабрацца з думкамі, а бывае, і амаль немагчыма авалодаць сабой.

Экзаменатары па магчымасці ўлічваюць асаблівасці характару абітурыента і памагаюць вярнуцца ў спакойны стан. Толькі нямногія спраўляюцца з сабою ў такіх абставінах. Хто вінават? «Самі. Хто ж яшчэ... Непрыемна толькі, што пытанні былі няцяжкія і матэрыял вядомы, а вось хваляванне... падвяло»,—у адзін голас заяўляюць многія абітурыенты. А некаторыя яшчэ дадаюць: «А і сапраўды экзамены не страшныя...»

Работа думкі патрабуе вялікай сканцэнтраванасці ўсёй увагі і эмацыянальнай свабоды. Скаванасць страхам паралізуе мысленне, і ўспомніць неабходнае ў такім стане цяжка. Праўда, калі пытанні білета больш-менш знаёмыя, адразу здымаецца хваляванне. Але не ва ўсіх. І вось тут неабходна стрыманасць, уменне авалодаць сабою, падпарадкаваць пачуцці розуму. Эмацыянальную ўстойлівасць трэба выхоўваць у сабе штодзённа. Назіранні паказваюць, што многія абітурыенты, фактычна, не могуць спакойна рыхтавацца да экзаменаў нават дома. Замест таго, каб удумліва паўтарыць ужо вядомае і разабрацца ў тым, што яшчэ недастаткова зразумета, яны, літаральна, жывуць страхамі. То перад імі ўзнікае карціна «правалу»; то апаноўваюць перажыванні ад пякучага сораму перад бацькамі і знаёмымі ад таго, што не прайшоў па конкурсу; то пачынаюцца ліхаманкавыя пошукі: куды б паехаць?.. Урэшце ў некаторых юнакоў і дзяўчат ствараецца нават стан агульнай прыгнечанасці.

Вельмі прыкра, што ў гэтым вінаваты бываюць і некаторыя бацькі. Імкнучыся абавязкова ўладкаваць сваю дачку ці сына ў інстытут, яны пачынаюць «дзейнічаць»: разведваць, дзе меншы конкурс, шукаюць розных сродкаў надзейнай, як ім здаецца, дапамогі, наймаюць рэпетытараў ці самі становяцца імі. Усё гэта спараджае ў абітурыентаў нездаровыя настроі.

Разгубленасці і напружанасці ў часе ўступных экзаменаў не будзе, калі кожны з вас навучыцца самакрытычна ставіцца да сябе. Што гэта азначае? Проста трэба правільна ацэньваць свае веды і здольнасці ці магчымасці. Каб бачыць слабыя і моцныя бакі сваіх ведаў і развіццё тых і іншых здольнасцей—трэба больш мэтанакіравана працаваць над сабой, мець яскрава акрэсленую перспектыву, веру ў сваю будучыню. У кожнага савецкага юнака і дзяўчыны ёсць вялікія рэзервы разумовага і маральнага росту. Выяўленне сваіх сіл і слабасцей якраз часцей за ўсё і адбываецца ў пераломны перыяд жыцця. І калі юнак, уступаючы ў самастойнае жыццё, зразумее гэта, тады ён і становіцца псіхалагічна падрыхтаваным да ўступных экзаменаў і нават магчымага «правалу» на іх. Ён знойдзе мужнасць паступаць у другі раз, каб дамагчыся пастаўленай мэты, ці знойдзе адпаведную для сябе працу, каб не марнаваць часу. Знайсці тую працу, якая будзе прыносіць яму радасць і запатрабуе ад яго здаваць не аднойчы самыя сур'ёзныя экзамены—выпрабаванне жыццём.

Не, экзамены не страшныя!

Міхаіл КЛЯЎЧЭНЯ,
кандыдат педагагічных навук.



«Душа — не падарожніца» — так назваў свой нарыс пра Індыю Янка Брыль. Так, душа — не падарожніца, яна заўсёды застаецца на радзіме. Кожнага чалавека цягне на радзіму, але і кожнага прываблівае падарожжа. І таму ў пісьменніка, які нядаўна вярнуўся з Індыі, а да гэтага пабываў у шмат якіх краінах, натуральна, пытаюся: што такія падарожжы, на Ваш погляд, даюць пісьменніку? Як Вам думалася, калі ведалі кавалачак сваёй зямлі, і як думаецца цяпер, калі ведаеце амаль усю Зямлю?

**— У нарысе пра Індыю я гавару пра гэта. Дык ці варта паўтараць?..—** пытаецца Іван Антонавіч.

— Давайце як кладзецца размова, так і будзем гаварыць,— прапаноўваю я.

**— Хто яго ведае... Я ўспамінаю часта, як мы з Максімам Танкам падарожнічалі амаль увесь тысяча дзевяцьсот пяцьдзесят шосты год. Пасля**

# ДОБРА, ШТО ПІШАЦЦА



**Югаславіі паехалі вакол Еўропы. І вось стаім у Неапалі, глядзім на затоку, успамінаем: «Ты бачыў Неапалітанскую затоку — ты можаш цяпер памерці». «Не, я не хачу памерці,— кажа Максім.— Па-першае, я бачыў Югаславію, якая, магчыма, яшчэ прыгажэйшая... А па-другое, некалі, едучы з бацькам з Пількаўшчыны ў Мядзель на кірмаш, я хваляваўся больш, чым цяпер, гледзячы на гэтае хараство».**

**Вось вы кажаце: «ведаеце амаль усю Зямлю». Ведаць амаль усю Зямлю — гэта занадта ўзнёсла гучыць. Тут успамінаецца: «Я ведаю толькі тое, што я нічога не ведаю». Быў я ў Канадзе, у Штатах, на Далёкім Усходзе, у Сярэдняй Азіі, у некалькіх краінах Еўропы. Праўда, патроху, але ўсё роўна лепш, скажам, пабыць адзін дзень у Швецыі, чым наогул не быць у ёй. І я, нягледзячы на тое, што пачаўся шосты дзесятак, адчуваю жаданне ездзіць і ездзіць. Хочацца і далёка куды-небудзь кінуцца, хочацца і пехатой пахадзіць па Беларусі, як мы з Валодзем Калеснікам у шэсцьдзесят першым па Палессі хадзілі. Я не ўяўляю пісьменніка, якому не хацелася б падарожнічаць. Падарожжа памагае бачыць і самога сябе і нашу беларус-**

кую літаратуру, як яна ўпісваецца ў вялікую літаратуру ўсяго прагрэсіўнага свету, бачыць месца, якое займае наша рэспубліка, наш народ у свеце. Усё гэта дае зарад для работы, памагае пісаць па-сучаснаму. Возьмем, напрыклад, Мележа, Быкава, Адамовіча, ды любога іншага харошага пісьменніка. Ён ужо не можа не адчуваць, што тое, што ён цяпер піша, праз нейкі час будзе чытацца не толькі беларускім, рускім і ўсесаюзным чытачом, а можа і англійскім, і французскім, і чэшскім. Такім чынам, мы ўсе цяпер на відавоку і,— не пабаюся гучнага слова,— гаворым з усім светам. І каб гаварыць па-сапраўднаму, трэба сёе-тое бачыць. Часам бывае смешна, калі хто-небудзь з пісьменнікаў, нават і маладых, кажа: «Няма калі ездзіць, пісаць трэба». Хочацца спытаць: ну а што ты будзеш пісаць, калі не будзеш ездзіць, многа бачыць, думаць? Вось мяне таму і здзіўляе ў нашых маладых хлопцаў нейкая паважнасць не па ўзросту, нейкая вельмі ж пажылая, як гаварылі шляхцюкі, статэчнасць.

— Іван Антонавіч, ёсць пісьменнікі, якія выраслі толькі на падарожжах, скажам, Рокуэл Кент. Але ёсць пісьменнікі, якія і не падарожнічалі.

**— Ну, Жуль Верн, напрыклад. Ды і Кузьма Чорны. Я думаю, што Чорны настолькі ведаў тую зямлю, пра якую пісаў, што мог кожную грудку яе пазнаць навобмацак, кожнага жаваранка ці вераб'я назваць па імені ды па бацьку. Але ж давайце ўлічваць час. Куды мог паехаць тады Кузьма Чорны? Калі гаварыць пра замежныя падарожжы. Хіба можна параўноўваць тыя магчымасці з цяперашнімі? Я думаю, што Чорны паехаў бы і ў тую ж Сілезію, адкуль быў яго Леапольд Гушка, паглядзеў бы, адкуль прыйшлі ткачы на Случчыну. І я ўяўляю сабе, што ён, любімым пісьменнікам якога быў Бальзак, пабываў бы з прыемнасцю ў Францыі. І ў Амерыцы, і ў Кітаі. Таму што гэта быў мастак вялікай дапытлівасці, вялікай цікаўнасці да жыцця. Трэба любіць па-сапраўднаму і хацець па-сапраўднаму бачыць людзей, жыццё, тады будзе відаць, каму хопіць сваіх Цімкавіч, а каму і не хопіць. Думаю, што Чорнаму не хапіла б. І не варта разумець яго словы ў прамым сэнсе.**

— Ці карыстаецеся вы запісной кніжкай?

**— Увесь час. Адкуль інакш узялася б «Жменя сонечных промняў»? Карыстаўся я запісной кніжкай нават і тады, калі не быў прафесіянальным пісьменнікам.**

— Неяк я прачытаў у Паустоўскага, што ён не карыстаецца запісной кніжкай. І, прызнацца, мне таму захацелася пра гэта спытаць у Вас.

**— Кожны па-свойму робіць. Я магу запісаць нешта ў кніжку і згубіць яе, а памятаць тое запісанае буду лепш.**

— Што Вам дае першы імпульс да работы — дэталь, вобраз, мелодыя?

**— Відаць, у кожным асобным выпадку выходзіць па-свойму.**

— Давайце прыпомнім, якое з Вашых апавяданняў чым было падказана. Ну, напрыклад, «Маці»?

**— Я пайшоў тут ад факта. Увосень сорак першага года я бачыў, як у Стоўбцах вялі расстрэльваць некалькі чырвонаармейцаў і старую жанчыну, якая ішла босая, склаўшы рукі на малітву. Немцы гналі іх на могілкі, і праз нейкі час адтуль пачуліся аўтаматныя чэргі. Потым вярталіся, пасвістваючы, адны немцы. Доўгі час гэты выпадак не даваў мне спакою, і ў пяцьдзесят сёмым годзе я напісаў апавяданне. Да такой тэмы падыходзіць не лёгка і не проста. Патрэбен адпаведны настрой. Калі яго не адчуваеш, то проста не хапае сумлення брацца за работу.**

**Другі выпадак. Здаецца я ўжо некаму гаварыў, з чаго пачалося апавяданне «Галя»...**

— Некалі я пытаўся, але адказ Ваш тады быў, што называецца, у двух словах.

**— У пяцьдзесят другім годзе ў канцы лета я быў на Навагрудчыне, у цешчы. Яна жыла на хутарку паблізу ад вёскі. Усю ноч за вёскай араў трактарыст, і гэты гул не даваў мне спакою. Свяціў месяц. Прыгожая была ноч. Я вельмі люблю тую пару, калі на полі стаяць мэндлі.**

— У нас, на Брэстчыне, кажуць — «бабкі».

**— Па-літаратурнаму больш прынята так гаварыць, а ў нас гавораць — мэндлі. У гэтую пару радуе спалучэнне яшчэ ўсё летняй красы і асенняга дастатку. Слухаючы гул трактара, я міжволі думаў: а як гэта выглядала б, каб, скажам, гэты гул слухала маладзіца ці ўдава, якая кахала некалі гэтага чалавека і не выйшла за яго... Злоўлены быў, як Бунін кажа, гук. І гэта ўжо нейкай своеасаблівай музыкай, своеасаблівымі малюнкамі, пачуццямі пайшло за мною. А зімою, у студзені, я паехаў у Каралішчавічы *. За тры раніцы напісаў апавяданне. Увесь час быў у стане нейкай закаханасці... Відаць, меў рацыю Флабер, гаворачы, што мадам Бавары — гэта ён. Мне трэба было ў некаторай ступені адчуваць сябе Галяй, каб перажыць тыя пачуцці, якія перажывала яна.**

— А як з'явілася апавяданне «Надпіс на зрубе»?

**— Тры гады падрад я па некалькі месяцаў жыў на Нарачы. Там пазнаёміўся з рыбаком Ролічам, славутым каралём вугроў. Ён тады святкаваў 75-годдзе сваёй працоўнай дзейнасці. Вельмі цікавы чалавек. І вось уявіце сабе такое спалучэнне: зачараванасць прыродай нарачанскай... Сасватаў мяне туды Максім Танк. Спачатку Нарач я ведаў толькі па яго паэзіі... Зачараванасць і пачуццё павагі, харошай, яшчэ нявыказанай табою любові да гэтых людзей. Адным словам, матэрыял у мяне быў, і я, як гаварыў Крапоткін, чакаў «момента озарения». У той вёсцы, дзе я жыў, быў селянін,— Чапэчка яго прозвішча,— а ў яго поўная хата дзяцей. Адных хлопчыкаў. Аднойчы, зайшоўшы на Чапэчкаў двор, я ўбачыў напісанае на бервяне, над лавачкай: «Мой тата». Прыкінуўшы, хто гэта мог напісаць, я паклікаў найменшага Чапэчку і пытаюся: «Гэта ты пісаў?» «Я!» І вось ад гэтага «мой тата»,—а ў апавяданні ў мяне, памятаеце, «мой дзед»,— і пачало накручвацца, як на нейкую шпульку, дзеянне.**

— Што цяжэйшае, на Ваш погляд: першая ці апошняя старонка, ці сярэдзіна работы?

**— Для мяне асабіста цяжэй за ўсё той час, калі не пішацца. Як сябе не пацяшаеш пушкінскім «Когда не требует поэта»... усё ж вельмі цяжка, калі яшчэ ніяк не намацаеш у душы новую задуму, не бачыш нейкіх подступаў, хаця б далёкіх, да новай рэчы. Я не маю такога эпічнага вопыту, як Мележ**

* Дом творчасці пісьменнікаў над Мінскам.

**ці Шамякін, аўтары некалькіх раманаў. Апавяданні больш за ўсё пішуцца, не скажу, што экспромтам, але ж і нядоўга. І ўлавіць, дзе цяжэй, у пачатку, у канцы ці ў сярэдзіне — часамі проста і не паспееш. Тут важна, хоць я не люблю гэтага слова, гарэнне. Калі ты загарэўся, то і разбірацца не хочацца, дзе цяжэй, дзе лягчэй. Добра, што пішацца.**

— Ці складаеце папярэдні план твора і ці мяняецца ён?

**— Тут, відаць, кожны адказаў бы аднолькава: план складаеш, але ён звычайна мяняецца ў працэсе работы. Планы апавяданняў не памятаю, каб складаў. Для рамана «Птушкі і гнёзды» складаў. Помню, у сорак сёмым — сорак восьмым гадах, калі працаваў над «Граніцай», таксама складаў. Пры нявопытнасці дык і многа гэтых планаў выходзіць.**

— У літаратуразнаўстве існуе тэорыя канцэнтрацыі. Яе прыхільнікі сцвярджаюць, быццам апавяданне падае ў сціслым выглядзе той самы змест, што і раман. Нешта падобнае пісаў яшчэ Бялінскі. Як Вы адносіцеся да гэтай тэорыі? Хоць Вы, як кажаце, і не тэарэтык.

**— Усё тут залежыць ад напоўненасці твора зместам. У апавяданні «Іоныч» Чэхаў сказаў, напрыклад, больш, чым аўтары многіх аб'ёмістых раманаў. А з другога боку, ніхто, відаць, не змог бы напісаць «Вайну і мір» карацей за Талстога. Вышэйшае майстэрства якраз і заключаецца ва ўменні гаварыць коратка, хвалююча і змястоўна.**

— Ці заўсёды прататыпамі дзеючых асоб з'яўляюцца для Вас жывыя людзі?

**— Амаль заўсёды. Нават калі выдумваеш чалавека, дык усё-такі бярэш яго з нейкіх, калі можна так сказаць, састаўных частачак, складаеш з некалькіх чалавек. Наогул, трэба быць богам, каб узяць ды проста выдумаць чалавека. Без натуршчыка, без мадэлі. Нашаму брату, каб напісаць чалавека, патрэбна натура.**

**Прататыпы ў мяне ёсць, нават былі непрыемнасці ад некаторых. Добра, калі чалавека станоўчым паказваеш. А калі адмоўным? Потым ён і злуе.**

— Цікава было б паслухаць пра такіх прататыпаў. Ці можа гэта не для друку?

**— Чаму ж?.. Магу сказаць, напрыклад, што ў мяне быў дзядзька, мамін брат, вельмі цікавы, па-народнаму мудры стары. Калека, кравец. Я яго поўнасцю ўзяў для апавядання «Праведнікі і зладзеі». Там сітуацыя прыдумана, дзеці ў яго не такія і не хадзілі ў чужы лес па дровы. А вось калі яны пачалі хадзіць у школу і чытаць, то ўбачылі, што герой апавядання падобны на іх бацьку. Ён нават на мяне злаваў. Таксама «Мой зямляк». Гэта сусед у нашай вёсцы, цераз некалькі хат. Рыбак, паляўнічы, ляснік. Яму сказалі: «Цябе Іван Брылёў апісаў», дык ён хадзіў да знаёмага ў другую вёску, каб той пачытаў. Паслухаў і кажа: «От зараза, усё як было». А я толькі пабойваўся, што зазлуе. Прататып Галі з аднайменнага апавядання таксама ў мяне быў — узяты знешнія рысы адной дзяўчыны з нашай вёскі. У аповесці «На Быстранцы» — бацька Люды і Максіма. Там, калі можна так сказаць я на ўвесь рост узяў бацьку майго друга Валодзі Калесніка — Андрэя Паўлавіча, плытагона і партызана. Аповесць я і прысвяціў Валодзю не толькі па дружбе, але і таму, што бацька яго, і прырода, і млын — усё ўзята адтуль, з Крынак на нашай радзіме.**

**Ну, а калі гаварыць, што дзе выдумана, то ў той жа «Быстранцы» я выдумаў, напрыклад, Люду. Зразумела, карыстацца словам «выдумаў» можна вельмі ўмоўна, таму што браў я яе таксама з нейкіх, недзе знаёмых у той ці іншай ступені дзяўчат.**

— Што, на Ваш погляд, фарміруе пісьменніка?

**— Тут прыйдзецца адказаць банальна — жыццё. Можна гаварыць, што і як, у якой ступені ўплывае, якія сітуацыі былі б больш карыснымі ў дачыненні да таго ці іншага таленту.**

— Традыцыйнае пытанне: Вашы любімыя пісьменнікі?

**— Калі гаварыць пра беларускіх — Купала, Багдановіч. Пазней пазнаёміўся з Чорным. Нават і асабіста. Увосень сорак чацвёртага года ён узяў усе мае рукапісы, каб пазнаёміцца з імі. Паабяцаў, што, магчыма, будзе рэдактарам маёй першай кніжкі. Але неўзабаве памёр... Бясспрэчна, люблю я і Коласа. Перш за ўсё — аўтара...**

— Аўтара «На ростанях»?

**— Найбольш мне падабаецца «У палескай глушы». Помню яго навелы, вершы. Цяжка выказаць тое харошае, звязанае з першымі ўражаннямі маленства, успрыманне яго лірыкі. Помню з тых дзён такія рэчы, як «Маці», «Ліпы старыя»... яшчэ «Ярка на камінку»... Пасля, вядома, «Новая зямля». Бясспрэчна, Коласа я люблю таксама, аднак жа, перш за ўсё гавару пра Купалу і Багдановіча. Было б няправільна гаварыць, хто з іх большы, хто меншы. Справа не ў гэтым...**

**Калі гаварыць пра сусветную, пра рускую літаратуру — перш за ўсё Талстой. Каго ты здзівіш, прызнаўшыся, што любіш Чэхава, Гогаля, Пушкіна, Лермантава, Дастаеўскага... Дазволю сабе нясціпласць, сказаўшы, што польскую літаратуру ведаю таксама нядрэнна. Люблю Міцкевіча, Пруса. Апошняга — як аўтара навел, «Фарпоста» і «Фараона». У кожнай літаратуры можна назваць любімыя імёны. Але калі б мне прыйшлося назваць толькі тры, я сказаў бы пра Талстога, Чэхава, а на трэцім — задумаўся б...**

— Апошні час Вы працавалі над зборам твораў. Цікава, як Вы глядзіце на творы, напісаныя раней?

**— Я думаю, што тут у поўнай ступені адкажа за мяне сам чатырохтомнік. У ім будзе відаць, што ўключана, што не ўключана, што дапрацавана, што не дапрацоўвалася. Пытанне вельмі ёмкае і цяжкае — як чалавек сам на сябе глядзіць? Калі ён пачынае на сябе глядзець ды любавацца — гэта ўжо дрэнна. У Талстога ёсць: «Нельзя пахать, глядя не вперёд, а назад». Зрэшты, мне яшчэ ранавата глядзець на тое, што зрабіў. Маюць рацыю, хто кажа, што самы лепшы твор той, які яшчэ не напісаны. Калі такое адчуванне ёсць — гэта самае важнае. Вядома, нешта з напісанага табой можа больш табе падабацца, нешта менш. Не будзем утойваць, што, мусіць, кожны з нас з задавальненнем у цішыні разгортвае сваю кнігу. Як юнец, што любіць на сябе ў люстэрка паглядзець — любуецца. Што ж, вельмі прыемна бывае, калі нешта ўдалося. Ды гэта ўсё-такі не галоўнае. Галоўнае — пісаць новае. І па-сапраўднаму добра.**

Гутарку вёў Аляксей **ГАРДЗІЦКІ.**


Мар'ян ДУКСА. Спатканне.
Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1967.

# ПОДЫХ НАРАЧАНСКАГА КРАЮ

Прыгадваецца мне адно з пасяджэнняў літаратурнага аб'яднання пры вілейскай раённай газеце. Выступалі пачаткоўцы-паэты. Іх першыя вершы ішлі не ад жыцця, а хутчэй ад кніг. Нарэшце, падняўся сціплы юнак, які прачытаў свой верш «Нарач». Здавалася, рэдакцыйны пакой на нейкі момант ператварыўся ў невялікі куточак Нарачанскага краю. Я пачуў мілую і блізкую сэрцу гаворку стромкіх азёрных хваль, трывожны крык чаек, адчуў пах празрыстай вады.

Гэта быў Мар'ян Дукса.

Прайшлі гады. І вось новая сустрэча з маладым паэтам. У сталічнай кнігарні сярод твораў беларускіх пісьменнікаў я ўбачыў і яго першы зборнік вершаў «Спатканне». І мяне гэта вельмі ўзрадавала. Мар'ян Дукса ідзе ў літаратуру ад родных палёў, палітых потам дзядоў і бацькоў. Першы верш кнігі так і называецца — «Мядзельшчына».

Калі неба старанна палошча
Дываны залатыя зары,
Я цябе пазнаю па вогнішчах,
Партызанскай зямлянцы ў бары...
Я клянуся, о, край мой дзіўны
З белай чайкай над сінню вады,
Самай лепшай часткай Радзімы
Будзеш ты для мяне заўжды!

Гэта не фатаграфія Нарачанскага краю. Негатыў назірання паэт праявіў у сваім сэрцы, і атрымаўся жывы малюнак.

А вось — пра вясну на Нарачы:

І на момант аж аглухне рыба,
Вынырне спалоханая з ям.
Загрукоча па-над пушчай выбух —
Гэта лопне Нарач напалам.

Так пісаць можа толькі сын Мядзельшчыны, для якога Нарач была калыханкай і песняй. Мар'ян Дукса піша аб тым, што блізка і дорага яго сэрцу («Начлежнікі», «Аўтобус мясцовых маршрутаў», «Лазовыя шкаплеры», «Вугры», «Раённыя цэнтры» і іншыя). Найбольш значным па сваёй думцы, на мой погляд, з'яўляецца верш «Бязвусае юнацтва на світанні...» Паэт хвалюецца за лёс зямлі, ад якой уцякае *моладзь*:

Бацькам на памяць застаецца
роздум.
Як часта,
Закурыўшы на раллі,
Успомняць:
— Астываюць нашы гнёзды,
Бо дзеці уцякаюць ад зямлі...

Але валодаючы добрай назіральнасцю, умеючы падмеціць у жыцці з'яву грамадска важную, паэт не заўсёды можа асэнсаваць яе да канца. Вось як гучыць канцоўка ў тым жа вершы «Бязвусае *юнацтва на світанні...*»:

Сыны у вырай летам паляцелі...
А мо яны, па нівах ідучы,
Падцягваюць зямныя паралелі —
Расслабленыя векам абручы.

У пачатку верша паэт са смуткам піша, што «дзеці ўцякаюць ад зямлі...», што «сыны у вырай летам паляцелі...», а тут раптам бачыць іх на нівах. Канцоўка зусім не вяжацца з асноўным пафасам верша, здымае вастрыню яго думкі.

Дукса — лірык. Ён імкнецца ў кожнай з'яве жыцця ўбачыць нешта сваё, адметнае. Гэта адчуваецца ў вершах «Сосны», «Лекі», «Пахне жывіцай», «Раніца», «Зацішак».

На золаку, як шчупальцамі, вішні
Пялёсткамі варушаць цішыню,—

гаворыць ён пра квітненне саду, і мы ўсё роўна як бачым гэтае вясновае кіпенне жыцця, гэтую буйную сілу працаўніцы-прыроды.

Аднак жа часта бывае так, што назіранні ў паэта так і застаюцца назіраннямі, не вырастаючы ў вобраз, у думку:

Вецер
душнаю спёкаю вее,
Ціха-ціха варушыць
блакітнасць вод
Там,
дзе спяць, бы ў калысцы,
на сонцы лілеі,
Быццам гусі,
далёка заплыўшы
ў чарот.

Белыя лілеі ў чароце сапраўды нагадваюць гусей — тут паэт дакладны ў сваім назіранні. Тыя ж ціхія азёрныя хвалі, на якіх гайдаюцца белыя санлівыя лілеі, таксама могуць нагадаць калыску. Назіранне зноў жа не прыдуманае, а рэальнае. Але справа ў тым, што яны, гэтыя назіранні, разнародныя, і з іх ніяк не «злепліваецца» вобраз, бо кожнае з іх цягне наша ўяўленне ў другі бок. «Там, дзе спяць, бы ў калысцы ...лілеі, быццам гусі...» — піша паэт. Гусей у калысцы ўявіць сабе цяжка, як тут ні намагайся.

Гэты недахоп, характэрны для вершаў Дуксы, тыповы для многіх маладых паэтаў. Часам дзівішся, чытаючы іх вершы: адна яркая дэталь, другая, і здаецца, вось-вось выснуецца з іх цікавы вобраз, але раптам трэцяя дэталь разбурае ўшчэнт усе папярэднія, цягне думку зусім у новым кірунку.

Дзе-нідзе ў кнізе Мар'яну Дуксу бракуе добрага густу. У цікавым па задуме вершы «Дзяды» чытаем:

Садзяцца паважна,
горда і вольна —
Спіне не хочацца
быць дугой,
Хаця
за жыццё **ліхалецці і войны**
**Не раз**
**ігрышча спраўлялі на ёй.**

Або яшчэ. Юнак выклікае дзяўчыну на спатканне:

Брахаў сабака на мяне руды.
Трывожыў дзеда: а калі **ўкрасці**
**Унучку хочуць з-пад яго вачэй?..**

Агульным атрымаўся верш «Рука Ільіча». Трэба было знайсці канкрэтныя дэталі, каб стварыць вобраз вялікага правадыра. А гэта аўтару аказалася не па сіле.

Думаецца, аднак, што большасць вершаў з кнігі «Спатканне» прыйдзецца да густу чытачам. Хай малады паэт яшчэ не дасягнуў высокага паэтычнага майстэрства, але хочацца верыць, што яго малады голас узмужнее і ўвальецца ў шырокае і бурлівае рэчышча беларускай літаратуры.

Мечыслаў **ШАХОВІЧ**.


**Алесь ЯСКЕВІЧ. Карані маладога дрэва.**
**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1967**

# АЎТАРЫТЭТ КРЫТЫКА

Прачытаўшы кніжку Алеся Яскевіча, мне чамусьці прыгадаліся горкаўскія словы пра незадаволенне крытыкай, якая «недапушчальна аднабаковая. Займаючыся амаль выключна выкладаннем сацыяльна-рэвалюцыйнай педагогікі, яна не вучыць маладых літаратараў майстэрству». Прыгадаліся таму, што Яскевіч са сваімі працамі не належыць да той крытыкі, якой быў незадаволены Горкі трыццаць пяць гадоў назад і якая, на вялікі жаль, прадстае перад чытачом яшчэ часам і сёння. А. Яскевіч умее чытаць творы мастацтва «знутры», раскрываць ідэю праз яе эмацыянальнае ўвасабленне пісьменнікам і ўжо гэтым даваць чытачу цікавыя і карысныя ўрокі аб майстэрстве мастацкага пазнання рэчаіснасці.

Вучыць майстэрству — гэта адна з галоўных задач крытыкі ў нашы дні, за выкананне якой бярэцца ўсё большае кола прафесіянальных літаратуразнаўцаў.

А сярод іх і Алесь Яскевіч. Крытык шчыра прызнаецца, што «паміж словам і вобразам ляжыць складанейшая навука майстэрства, многія законы якой мы яшчэ не пазналі». Усе свае творчыя намаганні А. Яскевіч як бы падначальвае гэтай асноватворнай для літаратуры праблеме — праблеме ўзаемасувязі слова і мастацкага вобраза.

Баюся, што пры такім прадстаўленні аўтара можа стварыцца адваротнае аб ім уражанне, як аб адарваным ад жыцця эстэцтвуючым крытыку, для якога слова і вобраз існуюць як аўтаномныя, адасобленыя факты літаратуры. Не, і тысячу разоў не! Алесь Яскевіч—крытык, які вельмі тонка адчувае подых часу і не робіць ніводнага вываду, не грунтуючыся на канкрэтным матэрыяле гісторыі нашай літаратуры, не суадносячы гэты матэрыял з сённяшнімі меркаваннямі пра надзённыя задачы пісьменніка, як сына пэўнай эпохі.

Прывяду толькі адзін вывад аўтара, які ён робіць наконт літаратуры нашых дзён. «Калі ў маладога пісьменніка будзе вострае роздум аб сваім часе, тады можна разлічваць на яго сур'ёзную працу ў літаратуры і тады будуць зняты самі сабой многія хваробы росту: боязь вялікіх самастойных абагульненняў, перавага эмацыяльна-пачуццёвага над выяўленнем сацыяльна-псіхалагічнай сутнасці чалавека, аўтапартрэт замест партрэта сучасніка, схільнасць падкрэсліваць агульначалавечыя моманты, невыразна даючы пры гэтым адзнакі часу». І гэта вывад не рытарычны, ён — вынік дэталёвага і пераканаўчага аналізу найбольш значных твораў беларускай літаратуры, што з'явіліся на працягу апошніх пяці-сямі гадоў, калі А. Яскевіч выступаў па гарачых слядах у друку са сваімі артыкуламі. Сабраныя цяпер пад адной вокладкай, яны даюць магчымасць меркаваць пра індывідуальнае аблічча крытыка.

«Традыцыйнае і наватарскае», «Яшчэ раз аб наватарстве» — так называюцца, выяўляючы ўжо ў загалоўку сваю асноўную сутнасць, два артыкулы, пераапрацаваныя занава, каб стаць раздзеламі кнігі, у якой праблема культуры творчасці, адпаведнай сённяшняму ўзроўню духоўнага развіцця нашага грамадства, выконвае ролю падваліны, над якой узвышаецца ўвесь даволі ладна збудаваны зруб з лаканічным надпісам: **«Карані маладога дрэва».**

Маладое дрэва — маладая, параўнальна з іншымі, літаратура беларускага народа. Карані гэтага дрэва недзе ў глыбінях мінулых трох-чатырох стагоддзяў, на працягу якіх ішла «бітва за стварэнне літаратуры на асмяянай і пагарджанай «мужыцкай», а для нас такой роднай, матчынай мове». Аўтар кнігі, не адступаючыся ад асноўных вех гэтай бітвы, прасочвае шляхі развіцця нашай літаратуры з аднаго пункту гледжання — гістарычнага руху народа да свае нацыянальнай незалежнасці і сацыялістычнай дзяржаўнасці. І прасочвае не толькі ў ідэйна-тэматычным разрэзе, але і ў плане пошукаў літаратурай «сваіх шляхоў, сваіх сродкаў выразнасці». Гэтым, уласна кажучы, і вызначаецца адметнасць творчай асобы крытыка, непаўторнасць яго таленту.

Аналіз мастацкай тканіны найбольш значных твораў дарэвалюцыйнай мастацкай прозы дае аўтару магчымасць адкрыць вельмі складаную, абумоўленую спецыфічнымі сацыяльнымі ўмовамі развіцця беларускай нацыі, дыялектыку творчага працэсу як у паасобных пісьменнікаў, так і ва ўсёй літаратуры. Вывад А. Яскевіча пра неаднароднасць агульнага малюнка развіцця прозы — арыгінальны і пераканаўчы.

Акцэнтуючы ўвесь час увагу на ўнутраным змесце літаратуры, як спецыфічнай формы мастацкага мыслення, А. Яскевіч галоўны творчы запал траціць на тое, каб прасачыць праз гады станаўленне розных стыляў у беларускай літаратуры. З асаблівым замілаваннем, з глыбокай павагай да самабытнасці таленту піша крытык пра Максіма Багдановіча, як мастака, які сваёй працай над «афармленнем бясформенных матэрыялаў спадчыны мастацкай культуры, як нацыянальнай», зрабіў сапраўдны грамадзянскі подзвіг перад народам. Клопат пра высокую мастацкасць сённяшняй літаратуры вымагаў ад крытыка так шырока спыніцца на ролі «Узвышша» як творчай школы нацыянальнага мастацтва слова, адзначыўшы і станоўчае ў рабоце ўзвышаўцаў і «пэўныя іх тэарэтычныя крайнасці і спрашчэнні».

Экскурсы, якія робіць аўтар у гісторыю духоўнага жыцця беларускага народа — не самамэта. Яны грунт для надзённага клопату пра сучасную літаратуру, як літаратуру высокіх ідэй і вялікага філасофскага зместу. Іменна дзеля стварэння такой літаратуры, заўважае А. Яскевіч, «нам трэба не проста мастацкасць, а мастацкасць, здабытая ў працэсе найдакладнейшага выказвання сучаснага зместу, танчэйшага даследавання складанага, шматгалосага і вялікага веку». (Дарэчы, тэрмінам «выказванне» не зусім удала карыстаецца ў кнізе аўтар, бо ў шырокім сэнсе больш падыходзіць «выяўленне» ці «выражэнне».— **У. Ю.)**

Праўда, калі гаворка заходзіць пра канкрэтныя здабыткі нашай літаратуры (а яна — асноўны змест кнігі), крытык лічыцца чамусьці толькі са сваімі сімпатыямі да лірычнай прозы, сілячыся часам вылучыць яе штучна з агульнай плыні літаратурнай творчасці. Ніхто не будзе супярэчыць вываду А. Яскевіча пра тое, што лірычная проза «пасталела, знайшла свае формы, пайшла ў глыбіню, у свет настрою, стала мадэллю складанага, арганічнага, інтэлектуальнага ўнутранага жыцця чалавека». Але навошта генералізаваць толькі лірычны кірунак прозы і з нейкай пагардай катэгарычна заяўляць пра тое, што «сучаснай высокаінтэлектуальнай эпічнай прозы ў чыстым выглядзе сёння ўжо амаль няма». Як жа тады быць з палескімі раманамі І. Мележа ці з раманам У. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім» ці з апавяданнямі У. Дамашэвіча? Ды, мусіць, не без падставы, апіраючыся на практыку рускай прозы, заўляе вядомы літаратуразнаўца Я. Эльсберг (Масква) аб тым, што «ўдзельная вага лірычнага стылю (якому працяглы час надавалася зусім выключнае значэнне) пакуль змяншаецца» («Вопросы литературы» № 5, 1967). Ды і як катэгарычнае меркаванне А. Яскевіча пра тое, што толькі лірычная плынь прозы стварае ўсе магчымасці для «даследавання багатага інтэлектуальнага і душэўнага свету сучаснага чалавека», увязаць з яго ж турботамі аб праблеме стылёвай разнастайнасці, да якой «літаратура будзе звяртацца зноў і зноў на кожным новым этапе свайго развіцця».

Нават улічваючы некаторую супярэчлівасць паасобных вывадаў, нельга не прызнаць, што пафас кнігі «Карані маладога дрэва» скіраваны на даследаванне таго, як з кожным новым этапам сваёй гісторыі беларуская літаратура развівалася ў пошуках новых стылёвых сродкаў, адпаведных новым задачам, якія ставіла грамадства. І ў гэтай частцы аўтар выявіў сапраўды навуковы, прынцыповы, дзелавы падыход, скарыстаўшы багаты канкрэтны матэрыял ад фальклору да лепшых узораў прозы і паэзіі нашых дзён (Я. Брыль, П. Панчанка, У. Караткевіч, І. Пташнікаў, М. Стральцоў, В. Адамчык, І. Навуменка, В. Быкаў і іншыя), каб давесці, што беларуская літаратура развіваецца сёння як шматгалосая і рознастылёвая і тым самым «уносіць свае адметныя фарбы ў агульнасаюзную літаратуру».

Там, дзе аўтар кнігі вядзе гаворку канкрэтна, выяўляючы адметнасць фарбаў кожнай літаратурнай з'явы, ён сваім аўтарытэтам разумнага, удумлівага, эстэтычна чуйнага крытыка ўзвышае і аўтарытэт усёй сённяшняй беларускай крытыкі. Там жа, дзе ў А. Яскевіча вытыркаюцца на першы план рытарычныя выгукі пра **сучасны** стыль, пра **сучаснасць** мыслення, пра **сучаснае** майстэрства, пра **сучасную** фразу, **сучасныя** якасці паэзіі, **сучаснае** бачанне і г. д., гэта выглядае жангліраваннем не заўсёды ўдала прыдуманымі тэрмінамі і, безумоўна, не падвышае аўтарытэту ні аўтара, ні крытыкі ўвогуле.

Раздзел «У дзяржаве паэзіі» сведчыць пра ўменне А. Яскевіча намаляваць творчае аблічча паэта ва ўсёй складанасці і шматбаковасці яго індывідуальных рыс. Аўтар прадстаўляе Пімена Панчанку як паэта, для якога «сучаснасць стала ў літаратурным сэнсе споведдзю сэрца». А прадставіўшы, канкрэтызуе сваю характарыстыку вельмі трапнымі назіраннямі: «У пейзажы Панчанкі пеняцца грамадскія штормы», «паэзія Панчанкі заўсёды закранае нейкі вельмі важны, балючы нерв грамадскага жыцця», «паэзія Панчанкі — сур'ёзная, бяздонная, глыбокая». І ўсё гэта для таго, каб з поўнай падставай сфармуляваць свой вывад аб тым, што ў лепшых творах паэта «вялікая палітыка не застаецца голай рыторыкай іменна таму, што аўтар умее сагрэць яе глыбокім чалавечым пачуццём, глянуць на ўсё вачамі чалавека працы, які глыбока ўсведамляе сваю адказнасць за лёс свету». Свежае прачытанне крытыкам П. Панчанкі лішні раз пацвярджае слушнасць тых патрабаванняў, якія ставіць час перад літаратурай: «Нам трэба не проста мастацкасць, а мастацкасць, здабытая ў працэсе найдакладнейшага выказвання сучаснага зместу, танчэйшага даследавання складанага, шматгалосага і вялікага веку».

Часам А. Яскевіч робіць вельмі смелыя абагульненні, накшталт таго, што пакуль яшчэ «наша вобразная думка адчувае сябе свабодна і натуральна толькі пад нізенькім і ўтульным купалам нашых ранейшых уяўленняў пра свет». Але гэтая смеласць падмацавана канкрэтнымі і вельмі пераканаўчымі назіраннямі, якія вядуць да новага вываду аб стылёвых задачах сучаснай прозы: «Багацце зместу вымагае пісьма ў некалькі планаў, не толькі асноўных, але і дадатковых, не толькі суцэльных і асноўных колераў, але і паўтонаў, ставіць на парадак дня авалоданне майстэрствам падтэксту, калі за словам, за фразай адчуваецца невымерная глыбіня сэнсу».

Адным словам, А. Яскевіч паказаў сябе крытыкам, не абыякавым да лёсу літаратуры, а цярплівым да розных творчых пошукаў, калі яны толькі «сур'ёзна служаць праўдзе, памагаюць раскрываць глыбіню чалавечых пачуццяў, усю паўнату нашага паўнакроўнага жыцця». І яшчэ —чалавекам, дасведчаным у розных галінах духоўнага жыцця беларускага народа. Выходзячы ў сумежныя з літаратурай сферы — выяўленчае мастацтва, архітэктуру, дызайнерства (артыкул «Канёнкавы, Іакубонісы, Німейеры... Ці будуць яны ў нас?»), аўтар вядзе ўсхваляваную зацікаўленую, да драбніц аргументаваную гаворку пра нацыянальны грунт сённяшняга мастацтва. І хоць не з усімі ацэнкамі і вывадамі А. Яскевіча можна пагадзіцца, але яго заява пра тое, што «беларускаму мастацтву не хапае філасофскага дыхання», вартая самай пільнай увагі.

Сваёй кнігай А. Яскевіч зрабіў адчувальны ўклад у арсенал беларускага літаратуразнаўства і яшчэ раз пацвердзіў вядомыя пушкінскія словы пра тое, што «стан крытыкі сам па сабе паказвае ступень адукаванасці ўсёй літаратуры».

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.**



Янка Купала.
Кадр з кінахронікі.

# КУПАЛАВЫ СЦЕЖКІ

**Не так даўно фонды Літаратурнага музея Янкі Купалы папоўніліся шэрагам новых фотадакументаў і ўспамінаў, звязаных з жыццём і творчай дзейнасцю народнага паэта Беларусі.**

**За кожным з гэтых дакументаў—паездкі, сустрэчы, нараджэнне натхнёных і яркіх паэтычных радкоў. Усе яны шырэй раскрываюць жыццёвы шлях паэта, дамалёўваюць незабыўны вобраз Янкі Купалы.**

## ГАСПРА

Гэтую назву чытачы шмат разоў сустракалі ў кнігах Янкі Купалы пад вершамі, поўнымі яркага сонца і цеплыні.

Дзе яна, гэтая Гаспра? Нават на геаграфічных картах і ў даведніках не заўсёды можна адшукаць гэты ціхі прытулак на цудоўным беразе Крыма.

Прыбярэжнае ўзгор'е. У цяню стогадовых раскідзістых ліп і спрадвечных дубоў стаіць прыгожы палац, які некалі належаў графіні Панінай. Белыя мармуровыя прыступкі вядуць да самага мора. Праз алею кіпарысаў яны выводзяць на тэрасу: адсюль на поўдзень адкрываецца бязмежная сінь мора, на поўнач за зялёнай заслонай — стромкія скалы Ай-Петры.

Цішыня. Тут прырода як бы аддае ўсю сябе чалавеку дзеля самага галоўнага— яго здароўя. У Гаспры пасля цяжкай хваробы некалі адпачываў Леў Мікалаевіч Талстой, там яго наведаў Антон Паўлавіч Чэхаў. Цяністыя алеі Гаспры не раз





слухалі сардэчныя гутаркі Талстога і Горкага. Аб гэтым яшчэ і яшчэ раз сведчаць мемарыяльныя дошкі ў памяць аб сустрэчах геніяльных рускіх пісьменнікаў. У гонар Л. М. Талстога санаторый носіць назву «Ясная Паляна».

Тут жа, у Гаспры, у 1923 годзе лячыўся Янка Купала. Як успамінала жонка паэта Уладзіслава Францаўна, пасля цяжкай хваробы ўрачы настойліва раілі Івану Дамінікавічу адпачыць і палячыцца на поўдні. І ён выканаў іх волю.

Час не захаваў лісты Янкі Купалы з Крыма, але ў памяці сястры паэта Леакадзіі Дамінікаўны засталіся і да гэтага часу купалаўскія вестачкі з Гаспры. Яна прыгадвае, як паэт захапляўся прыродай гэтага незвычайнага куточка, як у адным з лістоў з радасцю паведамляў, што здароўе яго значна палепшылася і ён пачаў пісаць крымскі цыкл вершаў.

Па крупінках збіраючы матэрыял пра паэта, я мела шчасце нядаўна наведаць Гаспру і санаторый «Ясная Паляна», дзе некалі адпачываў Янка Купала. Два светлыя новыя будынкі са шкла і бетону як бы напоўнілі «Ясную Паляну» духам нашага часу. Але ў ёй захавалася і ўсё тое, што было раней: дом у гатычным стылі, дзе быў пакой Купалы, белыя мармуровыя прыступкі і пастарэлыя на некалькі дзесяткаў год дубы, ліпы, кіпарысы. Напэўна, яны многа расказалі б пра паэта, каб умелі гаварыць. Але яны маўчаць...

Пра Янку Купалу ў Гаспры многае расказала Любоў Віктараўна Кубышкіна. У тыя гады яна працавала ў «Яснай Паляне», а цяпер знаходзіцца на заслужаным адпачынку.

— Помню, ранічкаю ён заўсёды ішоў цяністай алеяй туды, дзе і цяпер стаяць дзве старыя ліпы. Там садзіўся на лаўку і сядзеў у задуменні або нешта пісаў. Мы ў такія хвіліны стараліся не парушаць яго спакою. Вечарамі вакол Янкі Купалы збіраліся людзі. Ішла ажыўленая размова. Паэт расказваў пра Беларусь, і ўсе ўважліва слухалі яго. Мы ганарыліся тым, што ён піша вершы пра нашу Гаспру.

З Любоўю Віктараўнай ідзём цяністай алеяй. Спыняемся пад старымі ліпамі, якія раскінулі галіны, як магутныя крылы.



Санаторый «Ясная Паляна» ў Гаспры.

Між дрэвамі старая лаўка. Тут Купала чытаў, пісаў. І, магчыма, тут, пад гэтымі ліпамі, нарадзіліся радкі:

Глядзіць Ай-Петры ў дол з вышын—
На белы хаты, на палацы,
На стужкі каменных пуцін —
Плады нявольніцкае працы.

А я — з далёкіх ніў пясняр —
Па Гаспры з кута ў кут снуюся.
Гняце мне думкі Крыма чар,
Маркотна мне без Беларусі.

У фондах музея Купалы захоўваюцца белавы і два чарнавыя аўтографы верша «Крым». Пад адным з іх подпіс: «Крым. Гаспра. 16. XI. 23 г.»

Размова з Любоўю Віктараўнай дапаўняецца гутаркай з галоўным урачом санаторыя Валянцінай Мікалаеўнай Кудрашовай. Ёй не даводзілася сустракацца з паэтам, але праз многія гады і да яе дайшлі ўспаміны аб прабыванні Янкі Купалы ў «Яснай Паляне». Яны яркай старонкай уключаны ў гісторыю санаторыя, якая цяпер ствараецца.

Прайшло сорак пяць год, але і цяпер жыве імя Янкі Купалы ў чароўнай Гаспры, дзе нарадзіліся крымскія вершы паэта.

## ПЕЧЫШЧА

Ля Казані, дзе магутная руская рака разлілася, нібы мора, наш катэр, ціха пагойдваючыся, усё бліжэй і бліжэй падыходзіў да правага берага Волгі. Вось і прычал.

Печышча. Тое самае Печышча, якое не толькі знаёма, але і дарага кожнаму беларусу. Гэты невялікі пасёлак у цяжкі час Вялікай Айчыннай вайны прытуліў народнага паэта Беларусі Янку Купалу, чые вершы і песні ведала ўся краіна.

Слаўная татарская зямля, якую цяпер з вялікай гордасцю называюць зямлёю бессмяротнага Мусы Джаліля, не раз пабратэрску прымала выдатных дзеячоў літаратуры: Максіма Горкага і Уладзіміра Маякоўскага, Аляксея Талстога і Самеда Вургуна, Аляксандра Фадзеева і многіх



**Печышча. Тут знайшоў сабе часовы прытулак Янка Купала ў першыя месяцы вайны. На гэтай лавачцы любіў сядзець паэт і любавацца матухнай-Волгай.**

іншых. А ў сорак першым годзе прытуліла і Янку Купалу.

Прайшлі гады. Але ў прыволжскім пасёлку Печышча яшчэ многае нагадвае аб народным паэце Беларусі. Як і раней, толькі аснашчаны новай тэхнікай, працуе мукамольны завод, з рабочымі якога не аднойчы гутарыў паэт, чытаў ім свае вершы, поўныя любві да Савецкай Радзімы і нянавісці да яе ворагаў. Захавалася лаўка на высокім беразе Волгі. Адсюль была добра відаць пераправа, па якой ішлі на захад савецкія палкі. Паэт гадзінамі стаяў, праводзячы іх сваім добрым, бацькоўскім позіркам, як бы благаслаўляючы на ратныя подзвігі ў імя перамогі над ворагам.

А вось і дом, дзе адну з кватэр займаў Янка Купала разам з жонкай — Уладзіславай Францаўнай Луцэвіч. Як пацвярджэнне гэтага — белая мармуровая пліта, прымацаваная на сцяне дома. На ёй высечаны словы: **«В этом доме жил с 13/XI-1941 г. по 13/VI-1942 г. народный поэт Белоруссии Янка Купала (Иван Доминикович Луцевич)».**

Дом і лаўка, прыволжскія бярозкі, мемарыяльная дошка, клуб і школа, як і многае іншае, што захавалася да гэтага часу,— маўклівыя сведкі мінулага. Але самая дарагая памяць аб Янку Купалу — успаміны людзей, якія ведалі паэта, часта з ім сустракаліся, разам дзялілі гора і радасць у грозныя дні вайны.

У Печышча Янка Купала прыехаў у лістападзе 1941 года. Вось як расказвае пра гэта былая работніца мукамольнага камбіната, якая працавала ў той час сакратаром заводакіраўніцтва, Надзея Апалонаўна Карчэўская:

«Мне давялося разам з былым дырэктарам мукамольнага завода № 1 Іванам Якаўлевічам Наякшыным сустракаць Янку Купалу і яго жонку Уладзіславу Францаўну, а потым часта бываць у іх і гутарыць з імі.

Помню, быў халодны дзень. Ля прыстані, дзе невялікі параход «Валгар» дзень і ноч перавозіў на ўсход машыны з эвакуіраваным абсталяваннем, сабралася шмат людзей. Ад аднаго з камандзіраў Іван Якаўлевіч даведаўся, што ў адной з машын знаходзіцца хворы Янка Купала. Іван Якаўлевіч запрасіў яго да сябе. Пасля знаёмства адразу завязалася ажыўленая размова. Наякшын прапанаваў Івану Дамінікавічу не ехаць у Казань, а застацца тут, у Печышчы.

— Да Казані — рукой падаць, і вы заўсёды зможаце бываць у Казані,— сказаў Іван Якаўлевіч.

Янка Купала падышоў да акна, пастаяў, падумаў і працягнуў Івану Якаўлевічу руку.

— Застаюся,— сказаў ён.— Толькі пры адной умове: каб вы ўсе, як вызвалім ад гітлераўскай нечысці Мінск, прыехалі да нас у госці.

Так і застаўся Купала ў Печышчы. Іван Якаўлевіч Наякшын клапаціўся пра Янку Купалу, стварыў яму найлепшыя ўмовы для жыцця і працы: выдзеліў асобную двухпакаёвую кватэру, даставаў кнігі, часопісы, газеты, устанавіў у пакоі рэпрадуктар, каб Іван Дамінікавіч мог слухаць радыё.

Паэт хутка зблізіўся не толькі з сям'ёй Наякшына, але і з усім калектывам мукамолаў. Ён стаў для іх сваім, блізкім чалавекам.

Наведваючы ў Казані Акадэмію навук БССР па сваіх творчых пытаннях, Янка Купала знаходзіў час, каб зайсці ў трэст і вырашыць набалелыя пытанні завода.



**Рабочыя завода маюць што расказаць пра сустрэчы з народным паэтам Беларусі.**

— Мне часта даводзілася бываць у сям'і Янкі Купалы, гутарыць з ім і з Уладзіславай Францаўнай,— успамінае далей Надзея Апалонаўна.— Гэта былі вельмі простыя і добрыя людзі, заўсёды гатовыя памагчы чалавеку ў бядзе. Калі ў сям'і Наякшыных раптоўна і цяжка захварэў семнаццацігадовы сын Юра, Іван Дамінікавіч памагаў чым мог, прывозіў прафесара з Казані, але выратаваць Юру не ўдалося. Купала вельмі перажываў трагедыю ў сям'і Наякшыных.

Будучы добра знаёмай з Купалам, я, член рэдкалегіі насценнай газеты «Голос мукомола», усё ніяк не адважвалася звярнуцца да Янкі Купалы, каб ён напісаў нам у заводскую газету. «Ды ці такі вялікі паэт, акадэмік, стане гэта рабіць?»— думала я. І ўсё ж аднойчы асмелілася. На другі дзень Купала прынёс свае новыя вершы. Потым ён часта друкаваўся ў нашай газеце. Яго вершы рабочыя вучылі на памяць. Яго палымяныя словы гучалі і ў нашым Доме культуры».

Шмат цікавага пра сустрэчы з Янкам Купалам расказвае і былы старшыня бытавой камісіі завода цясляр Аляксандр Аляксеевіч Вархамееў. Купала таксама працаваў у гэтай камісіі, часта прыходзіў у цэх, расказваў пра навіны з фронту, цікавіўся, як вучацца дзеці рабочых.

Цёпла ўспамінаюць пра сустрэчы з народным паэтам настаўнікі Печышчанскай школы і найперш Мермухамед Карымавіч Карымаў, які не аднойчы сустракаўся з Янкам Купалам у Казані і праводзіў яго на вакзал у апошнюю паездку. Цудоўныя словы пра паэта можна пачуць у сям'і Вазнясенскіх, Чаржынскіх, з якімі сустракаўся Купала, калі прыязджаў у Казань. Жонка прафесара Вазнясенскага і сям'я Чаржынскіх перадалі музею шмат кніг і фатаграфій, сярод якіх кнігі з аўтографамі Янкі Купалы і Уладзіславы Францаўны.

Печышчанскі перыяд жыцця — яркая старонка літаратурнай і грамадскай дзейнасці Янкі Купалы. Гэта там, на беразе Волгі, нарадзіліся гарачыя радкі вершаў паэта, поўныя лютай нянавісці да фашызму і веры ў перамогу над ворагам: «Грабежнік», «Дзевяць асінавыхколляў», «Зноў будзем шчасце мець і волю», прамова Я. Купалы на радыёмітынгу прадстаўнікоў беларускага народа 18 студзеня 1942 года ў Казані. Гэта там Купала напісаў свой вядомы даклад: «Айчынная вайна і беларуская інтэлігенцыя», зроблены на сакавіцкай сесіі Акадэміі навук БССР у 1942 годзе.

Прайшлі дзесяцігоддзі. Татарскі народ і сёння шануе памяць пра Янку Купалу. Нядаўна ў Казані выйшла кніга ў серыі «Букет дружбы». У зборнік пад назвай «Беларускія паэты» ўвайшлі вершы беларускіх паэтаў— П. Бахрыма, Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, А. Цёткі, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, А. Гурло, П. Труса, П. Броўкі, П. Глебкі, М. Танка, А. Куляшова, П. Панчанкі, А. Бялевіча, М. Машары, М. Лужаніна, Э. Агняцвет, К. Кірэнкі, В. Віткі, А. Вялюгіна, А. Русака.

Склаў зборнік і зрабіў пераклад усіх вершаў Закі Нуры, — паэт, якому блізкая і дарагая Беларусь. Яшчэ ў маладыя гады ён пазнаёміўся з творамі беларускіх пісьменнікаў. У часе Вялікай Айчыннай вайны ён са зброяй у руках абараняў беларускую зямлю ад нямецкіх захопнікаў.

## ПАБРАЦІМЫ

У паслякастрычніцкі перыяд, у гады сацыялістычнага будаўніцтва і росквіту ленінскай дружбы народаў, творчасць Янкі Купалы стала вельмі папулярнай у Савецкім Саюзе. Яго вершы перакладаліся лепшымі паэтамі саюзных рэспублік. Адна за другой выходзілі яго кнігі на розных мовах. Імя Янкі Купалы і яго творчасць сталі шырока вядомы мільёнам чытачоў на Украіне.

У 1928 годзе вялікая група пісьменнікаў Украіны наведала Беларусь. Янка Купала ўсе дні быў разам з шаноўнымі гасцямі. Ён прымаў іх на сваёй кватэры. Так было заўсёды, калі прыязджалі да яго госці, асабліва з Украіны.

Пятро Панч успамінае: «У 1928 годзе ў шаўчэнкаўскія дні група беларускіх пісьменнікаў з візітам дружбы і культурных сувязей з Украінай наведала Харкаў. Гасцілі яны ў нас тады каля тыдня. За гэты час азнаёміліся з літаратурнымі і культурнымі помнікамі Украіны, зрабілі некалькі літаратурных выступленняў. Асабліва хораша прайшоў у тэатры вечар, прысвечаны Т. Р. Шаўчэнку».

Літаратурныя арганізацыі Украіны радасна віталі дарагіх гасцей з Беларусі. У Доме літаратараў была наладжана цёплая сустрэча, дзе госці азнаёмілі ўкраінскую грамадскасць з дасягненнямі беларускай савецкай літаратуры. У адной з залаў Дома літаратараў яны сфатаграфаваліся. На адным са здымкаў, які мы тут публікуем, у першым радзе (злева направа) сядзяць — Я. Купала, В. Паляшчук, Ц. Гартны, С. Піліпенка, Я. Колас, П. Тычына. Стаяць у другім радзе — П. Панч, Яравы, М. Чарот, М. Лебедзь, Ю. Яноўскі, М. Зарэцкі, І. Сенчанка, М. Быкавец. (Гл. стар. 140.)

Беларускія пісьменнікі запрасілі ўкраінскіх сяброў наведаць Беларусь. Сустрэча на беларускай зямлі адбылася ў жніў-



ні 1928 года. З Украіны прыехалі С. Піліпенка, І. Кулік, П. Тычына, У. Сасюра. П. Панч, В. Палішчук, А. Паніў, П. Усэнка. «Наш прыезд,— расказвае Пятро Панч,— прыцягнуў увагу шырокіх колаў працоўных. Прыём быў надзвычай цёплы. Для азнаямлення беларусаў з дасягненнямі ўкраінскай літаратуры нашы пісьменнікі наладзілі некалькі літаратурных вечароў у Мінску і Оршы.

Актыўны ўдзел у гэтай сардэчнай сустрэчы прымалі народныя паэты Беларусі Якуб Колас і Янка Купала. У той час Янка Купала працаваў над паэмай «Над ракою Арэсай». Мы разам з ім наведалі Асінбуд. Былі мы і на граніцы Беларусі з панскай Польшчай. Пасля прынялі ўдзел у вялікім мітынгу, на якім працоўныя беларускай сталіцы пратэставалі супраць ганебнага польскага суда над Беларускай Грамадой.

Вельмі цёпла і шчыра прымалі нас на сваёй сціплай кватэры Іван Дамінікавіч і Уладзіслава Францаўна. У садзіку каля дома па Кастрычніцкай вуліцы і ў альтанцы мы сфатаграфаваліся. Цяпер я гляджу на гэтую фатаграфію і дзіўлюся, якія мы ўсе тады былі яшчэ маладыя, поўныя творчых сіл і здароўя. Пазней адбыўся агульны вечар украінскай і беларускай літаратуры. Тут мы былі сведкамі, з якой любоўю беларусы сустракалі свайго народнага паэта Янку Купалу, а ён, сціплы і ціхі, адказаў ім цёплым словам, наскрозь прасякнутым хваляваннем за долю свайго народа.

На развітанне мы ўсе жадалі сінявокай сястры-Беларусі шчасця ад шчырага сэрца.

Аб маіх сувязях з Беларуссю і аб цудоўных сустрэчах з Я. Купалам я пішу ўспаміны».

Для музея Пятро Панч падараваў сваю фатаграфію з надпісам: «Літаратурнаму музею Я. Купалы ў Мінску. Люблю Янку і як паэта і як чалавека. Слава выдатнаму сыну беларускага народа!

Пятро Панч, Кіеў, 1967 г.»

Вялікая паездка Янкі Купалы разам з іншымі беларускімі пісьменнікамі па зямлі братоў адбылася ў 1932 годзе. Купала быў на адкрыцці Днепрагэса, наведаў Краматорск, ХТЗ. На ўрачыстым пасяджэнні Саюза пісьменнікаў Украіны ў Харкаве выступіў з чытаннем сваіх вершаў пра Украіну...

З Украіны Купала прывозіў шмат кніг сваіх сяброў, вялікую колькасць грамзапісаў О. Петрусэнка, І. Патаржынскага, Б. Гмыры, М. Данца і многіх іншых, чыім талентам ён захапляўся. Гэтыя пласцінкі ў яго захоўваліся як рэліквіі.

**Ядвіга РАМАНОЎСКАЯ.**



## ПАВАЖАНЫ СЦЯПАН К!

Вы даслалі нам каля дзесяці сваіх вершаў. На жаль, ніводнага з іх рэдакцыя не змагла надрукаваць, бо яны недапрацаваныя, напісаны неахайна.

Зусім адвольна Вы пераходзіце ў паасобных радках і строфах на бязладны, расхлябаны рытм, дапускаеце няпэўныя рыфмы: «голлі — промні, моц — хлопцаў, трывожыў — узводзе, заўжды — служыў, лістапад — памяці, дамамі — караваны, апаліла — пыл, варту — рагацінай».

Я звяртаю ўвагу на неахайнасць у Вашых вершах, пачынаючы з самых азоў вершаскладання таму, што гэтая неахайнасць яшчэ ў большай меры адчуваецца, калі Вы спрабуеце вобразна выказваць думку. А што вы думаеце сапраўды па-свойму, лёгка пераканацца, прачытаўшы такія радкі:

*Больш двух дзесяткаў лістападаў*
*зляцела птушкамі на дол*
*пасля гадоў, вайной апаленых,*
*прабітых кулямі гадоў.*

———

*І зямлю стаў дзяўбці,*
*як куры зярняты,*
*дождж асенні, дождж ціхі...*

———

*На будоўлі веліканы-краны,*
*Быццам веліканы-рыбакі*
*З вудамі даўгімі ў акіяне,*
*У небе зоркі ловяць на крукі.*

Шкада, што такія радкі сустракаюцца ў Вас рэдка, а калі Вы і знаходзіце іх, то пачынаеце паўтараць на розныя лады з верша ў верш. Тыя ж радкі пра веліканы-краны Вы зноў паўтараеце трохі ў другой варыяцыі зусім у іншым вершы. А хіба ж у нейкай меры не пераклікаецца з прыведзенымі вышэй радкамі пра дождж страфа:

*Цемра коршунам склявала*
*барвовую зару на небасхіле*
*і чорнай посцілкай заслала*
*зямлю,*
*ўзмахнуўшы буйным крыллем.*

Гэтая страфа няўдалая. У ёй адно пярэчыць другому: калі каршун, дык чаму ў яго «буйнае крылле»? І прычым тут гэтая «чорная посцілка»?..

У вершы «Стома», дзе таксама ёсць па-свойму цікавыя радкі, Вы пішаце:

*Прытамілася шчодрае сонца,*
*На пух воблакаў хіліць голаў.*

А ў вершы «Вечар» паўтараеце амаль тое ж самае:

*Ад стомы*
*сонца галаву*
*схіліла на падушку воблакаў.*

Гэта ўжо гаворыць і пра беднасць Вашага паэтычнага слоўніка, і пра Вашу абмежаванасць у пошуку вобразных сродкаў.

Дзіўна, у Вашых вершах, усё роўна як знарок, сабраны разам некаторыя недахопы, якія звычайна паасобку назіраюцца ў тых ці іншых пачаткоўцаў.

То Вы занадта шматслоўныя. Гэта асабліва адчуваецца ў вершах «Там, дзе служыў» і «Больш двух дзесяткаў лістападаў», якія маглі б быць напалову карацейшыя.

То Вам здраджвае густ, і Вы ў адных выпадках захапляецеся квяцістасцю: «плывуць вянкі мелодый па чырвані зары», «ледзь пральецца малаком малінавае ранне», «удыхну, напоўню грудзі гэтым дзіўным хараством», а ў другіх — збіваецеся на сухія інфармацыйныя празаізмы: «мы працавалі сцяўшы зубы і залячылі раны гарадоў», «пасля розных спраў завірухі авалодала целам стома», «дзень працоўны, прамокшы ўвесь потам, на пятым паверху працягу чакае».

У паэзіі трэба быць патрабавальным да слова. Моўная неахайнасць псуе ўсякую паэтычнасць.

З таварыскім прывітаннем
*Мікола АЎРАМЧЫК.*

# ІНТЫМНЫЯ РАЗМОВЫ

## КАХАННЕ — ГЭТА НЕ ТОЛЬКІ ЗАКАХАНАСЦЬ

Маладыя людзі не заўсёды адчуваюць важную розніцу паміж закаханасцю і каханнем. І часта любоўныя адносіны канчаюцца, як толькі праходзіць пачуццё закаханасці. Той, хто гэтай розніцы не заўважае, можа лёгка стаць скептыкам і заяўляць, што болей у каханне не верыць.

Што тыпова для закаханасці? Спачатку — сімпатыя. У большасці выпадкаў нам імпануе нешта ў выглядзе або манерах партнёра: профіль, адценне валасоў, вочы, гаворка, жэсты і г.д. Нас вабіць да яго, хаця часта мы нават не ўсведамляем, чаму. Проста мы адчуваем, што ён нас цікавіць, нам добра ў яго прысутнасці. Паступова ўзнікае пачуццё прыхільнасці, асабліва калі некаторыя з рыс адпавядаюць нашым уяўленням пра ідэал.

Аднак гэтыя рысы мы, як правіла, занадта перабольшваем, а недахопаў і памылак не бачым або даруем іх. І пачынаем памылкова лічыць, што не толькі некаторыя рысы, але і ўся асоба партнёра адпавядае нашаму ідэалу. Такім чынам, наша сімпатыя належыць не рэальнай асобе, якую трэба разглядаць у комплексе ўсіх яе рыс, але нашай уласнай фантазіі.

Паводзіны закаханага чалавека характэрныя. Ён адразу рэзка мяняецца, ходзіць, «як у сне», дапускае розныя промахі ў сваім штодзённым жыцці, страчвае цікавасць да ўсяго, што не звязана з прадметам яго сімпатый. Цікава, што закаханасць не ўзвышае чалавека, не дае выявіцца яго лепшым уласцівасцям. Закаханы робіцца эгаістам, самалюбцам, не паважае поглядаў партнёра, абмяжоўвае яго свабоду, раўнуе — жыве нібы ў зачараваным коле, не здольны да цвярозых разважанняў, бо не хоча парушыць свет сваіх уяўленняў. Прытым ён знаходзіцца ў стане павышанай эратычнай узбуджанасці, што абвастрае ўражлівасць і яшчэ болей зніжае здольнасць да разумных паводзін. Такі чалавек марыць пра вечнае каханне, але часам дастаткова з'явіцца каму-небудзь іншаму, больш прывабнаму, і ўвага імгненна пераносіцца на яго. Такі чалавек па-свойму нешчаслівы, ён незадаволены самім сабой і марнатраўствам сваіх пачуццяў.

## КАХАННЕ — ГЭТА ТАКСАМА І ДРУЖБА...

Часта мы сустракаемся са словамі: «Паміж намі ўсё скончылася, застанемся сябрамі». Сяброўства тут прапануецца дзеля суцяшэння, як мізэрная замена згаслага кахання. Як гэта зніжае значэнне і вартасць дружбы! Калі б іменна дружба спадарожнічала каханню, яно не скончылася б.

Ларошфуко гаварыў: «Большасць жанчын дружба не цікавіць, бо таго, хто перажыў каханне, дружба нудзіць». Андрэ Маруа, які глыбока задумваецца над пытаннямі дружбы паміж мужчынам і жанчынай, дапускае такую форму адносін, аднак лічыць, што нельга аспрэчваць у ёй наяўнасці эратычнага кампаненту. Некалькі спрашчаючы, можна назваць два рашэнні гэтай складанай праблемы. «Першае — гэта сумесь кахання і дружбы, адносіны як духоўныя, так і інтымныя. Другое — дружба паміж мужчынам і жанчынай, кожны з якіх вядзе сваё эратычнае жыццё з іншым партнёрам. Тады жанчына ўжо не спрабуе параўноўваць дружбу з недасканалай формай кахання». У той жа час у іншым месцы Маруа не забывае ўказаць, што «чалавек, якога (жанчыны) кахалі фізічна, будзе ў іх жыцці заўсёды на першым месцы і, калі прыйдзецца, яны дзеля яго ахвяруюць прыяцелем, з якім маюць нават самыя дасканалыя духоўныя адносіны».

Трэба адрозніваць такія выпадкі дружбы паміж мужчынам і жанчынай, калі гутарка ідзе пра «каханне маладушных людзей, якія не адважваюцца пераступіць пэўныя рамкі пачуцця», «баязлівых мужчын, якіх жанчыны, кіруючыся інстынктам, імгненна разгадваюць і лёгка трымаюць на адлегласці» або «старых, якія выйшаўшы з узросту кахання, шукаюць прыстанішча ў дружбе». Адной з форм дружбы з'яўляецца і дружба былых каханкаў, якія змаглі без разладу перайсці ад кахання да сяброўства. Страсці ўціхаміраліся, са зніккненнем пачуцця згасла і рэўнасць і какецтва, але «ўспамін аб колішняй блізкасці не дае гэтым двум істотам адчуваць сябе чужымі».

Праўда, для жывой дружбы гэтага занадта мала. Маруа гаворыць, што ў жыццё двух партнёраў элемент раўнавагі ўносіць агульная праца. «Паміж мужчынам і жанчынай супрацоўніцтва і ўзаемнае захапленне — з'ява больш натуральная, чым саперніцтва». Таму «вялікая колькасць шчаслівых шлюбаў пераходзіць праз некалькі год у сапраўдную дружбу, з усімі доказамі павагі і духоўнай блізкасці».

Сапраўдная дружба — не азначае сустрэцца з кім-небудзь за півам і пачасаць языкі. Сапраўдная дружба — намнога вышэй. Жалман пералічвае галоўныя яе прынцыпы: узаемная павага і сімпатыя, агульнасць інтарэсаў, поўная шчырасць і давер, узаемаразуменне і радасць ад сумеснага перажывання ўсіх жаданняў, якія вынікаюць з пачуцця, голасу інстынкту і іншых патрэб партнёра, бескарыслівая дапамога ў цяжкую часіну, уважлівасць (важныя юбілеі і г. д.), вернасць і адданасць у любых абставінах, падтрымка добрых уласцівасцей характару партнёра і тактоўная крытыка адмоўных.

Без усіх гэтых прынцыпаў не абыдзецца і сапраўднае каханне.

Раздзел з аднайменнай кнігі калектыву аўтараў, якая выйшла ў Празе ў 1967 годзе.





## ДЫК ШТО Ж ТАКОЕ САПРАЎДНАЕ КАХАННЕ?

Каханне — гэта складаная сістэма адносін у іх дынамічным развіцці, гэта — сумесь закаханасці, дружбы і палавога пачуцця, прычым у сапраўдным каханні прысутнічаюць усе гэтыя кампаненты.

Сексуальная прывабнасць, фізіялагічнае пачуццё адыгрываюць вялікую ролю. Не будзем забываць, аднак, што каханне «выбірае старанна», а палавое пачуццё, асабліва калі не абапіраецца на больш глыбокія матывы, не вельмі клапоціцца пра выбар.

Узаемная павага, супадзенне поглядаў, жаданне не толькі браць, але і даваць — важнейшыя рысы сапраўднага кахання. Яго вартасць узрастае ад вартасці «ўкладу» абодвух партнёраў і залежыць ад іх уласцівасцей характару, адносін да людзей, да працы і да жыцця наогул. Чым болей лепшых рыс сваіх характараў — неэгаістычнасць, раўнавагу, шчырасць — укладваюць партнёры ў сваё каханне, тым яно больш вартае, трывалае і моцнае.

## КАХАННЕ ШЧАСЛІВАЕ І НЕШЧАСЛІВАЕ

Кожны чалавек хоча дасягнуць поспеху ў асабістым жыцці, хоча быць шчаслівым. Адным з фактараў, якія ствараюць надзейны «грунт» у жыцці чалавека, з'яўляецца сапраўднае, шчаслівае каханне. Што гэта такое? Гэта адносіны двух людзей, заснаваныя на гармоніі пачуццяў, на ўраўнаважаным задавальненні эмацыянальных патрэб — з перспектывай трывалага, моцнага саюзу. У ім павінна быць і доля здаровага рамантызму, які ў нашым жыцці проста неабходны, але, вядома, ён не павінен прыводзіць да слепаты і няправільных ацэнак. Шчаслівае каханне не павінна прыніжацца пачуццём страху перад стратай любімай істоты. Такое пачуццё парушае ідэальныя адносіны, якія патрабуюць і пэўнай свабоды.

Шчаслівае каханне ў значнай ступені дапаўняецца ўзаемаразуменнем і здольнасцю прыстасавацца адзін да аднаго. Тут няма месца для прытворства і палавінчатасці. Хто кіруецца разлікам, хто баіцца даваць другому, пакідаючы для сябе «запаснае выйсце», хто не здольны на шчырыя, адкрытыя адносіны, той не мае ў сабе асновы для стварэння ўсяго таго, што мы называем шчаслівым каханнем.

Мы павінны ўказаць яшчэ на адну важную ўмову шчаслівага кахання. Гэта асабістая актыўнасць. Спаткаць вялікае каханне — гэта жаданне большасці маладых людзей. Многія, аднак, захоўваюць толькі пасіўную, невыразную пазіцыю, чакаюць. На жаль, мы занадта прывыклі чакаць — прапановы, выпадку,— чакаць, калі яны зваляцца на нас з неба. А нам застанецца ўзяць гатовенькае.

Гэта вялікая памылка. Можа здарыцца, што напаткаеш вялікае каханне, а яно ціхутка пройдзе міма. Міне цябе. Ці здолееш ты пазнаць яго, калі будзеш толькі пасіўна чакаць? Вядома, не. Ты сам, вы абодва — павінны сваё каханне стварыць і ўтрымаць.

Каханне, аднак, не для кожнага шчасце. Многа любоўных адносін, на жаль, канчаецца. І часам — трагічна.

Прычынай часта бывае недастатковае веданне самога сябе, некрытычная ацэнка ўласных магчымасцей, а ў выніку — няправільныя адносіны з людзьмі.

Да нешчаслівага кахання можа прывесці і пачуццё няпоўнацэннасці ў людзей, якія пад уплывам залішняй самакрытычнасці перабольшваюць вартасці другіх, а сябе недаацэньваюць. Многія з іх, аднак, вызначаюцца вельмі каштоўнай уласцівасцю характару — вернасцю. Не могуць быць шчаслівымі ў каханні і тыя, хто, літаральна, запаланяе партнёра сваімі пачуццямі, поўнасцю засяроджваецца на ім, і, зразумела, патрабуе таго ж і ад яго. Такія людзі часта перажываюць расчараванне, адчуваюць сябе незразуметымі і нешчаслівымі з той прычыны, што іх каханне не ацэнена так, як таго заслугоўвае.

Калі пачуццё няпоўнацэннасці праяўляецца ў жанчыны, яе партнёр можа выкарыстаць гэтую «слабасць» і стаць бязлітасным дэспатам. Мужчына з паніжанай самаацэнкай можа быць для жанчыны кім хочаце, толькі не мужам з сапраўды мужчынскімі вартасцямі. Адзінае, што жанчына здольна прадаставіць такому мужчыну, гэта спачувальныя матчыны адносіны, што ўрэшце вынікае з самой сутнасці жаноцкасці.

Нешчаслівае каханне часта спасцігае і такіх людзей, мужчын і жанчын, якія шукаюць нечага такога, чаго не існуе. Яны жывуць у палоне сваіх ідэалаў, уяўленняў, ад якіх не могуць адысці. А калі пазней абставіны прымусяць іх усё-такі адысці ад сваіх фантазій, то гэтым людзям здаецца, што беззваротна страчаны ўсе ідэалы. А больш рэальных крытэрыяў яны стварыць не здольны і часта становяцца непапраўнымі песімістамі.

Наступнымі кандыдатамі на нешчаслівае каханне з'яўляюцца эгаісты, людзі занадта самаўпэўненыя, бесцырымонныя, распешчаныя, самалюбныя, якія хочуць быць заўсёды ў цэнтры ўвагі і чакаюць, што кожны павінен ім падпарадкоўвацца,— карацей кажучы, ахвочыя браць, але не даваць. Калі ім часта спадарожнічае поспех, яны хутка перасычаюцца. Мера такіх «поспехаў», нарэшце, вычэрпваецца, бо чалавек з падобным характарам, у дакладным сэнсе слова, не здольны кахаць. Пасля няўдач ён становіцца цынікам і не знаходзіць нікога, «хто паважаў бы яго права быць самім сабой».

Ёсць яшчэ іншыя прычыны нешчаслівага кахання. Адной з іх з'яўляецца неадпаведны выбар партнёра — неабавязкова толькі з-за розніцы ўзросту, празмернай пераацэнкі фізічнай прывабнасці або розных грамадскіх фактараў. Проста здараецца, што сваю схільнасць мы аддаём таму, хто з тых ці іншых прычын не можа або не хоча адказаць узаемнасцю. Так узнікае аднабаковае каханне, часта вельмі нешчаслівае, без усялякіх магчымасцей праявіць сябе.

Завяршаючы гэты раздзел, мы, аднак, хочам выказаць упэўненасць, што той, хто знайшоў у ім нейкае падабенства са сваім лёсам, не складзе зброі, але, навучаны вопытам, знойдзе шлях, у канцы якога чакае ўзнагарода — шчаслівае, бязмежнае каханне.

## ПЛАТАНІЧНАЕ КАХАННЕ

Асаблівай формай кахання з'яўляецца каханне платанічнае. Яго вызначаюць як «чыстыя эратычныя адносіны паміж маладымі закаханымі, без палавога збліжэння». Адна семнаццацігадовая дзяўчына напісала нам: «Я — з тых дзяўчат, якія не адчуваюць у каханні якога б там ні было шчасця і якім таму не трэба інтымных сувязей. Шлюб мяне наогул не вабіць, і, калі я падумаю, што павінна буду весці сексуальнае жыццё, мне робіцца страшна. Я, відаць, адна з тых, каму дастаткова трымацца за ручку і ўздыхаць пры месячыку». У перыяд выспявання такая форма кахання бывае нармальным этапам развіцця. Надоўга яна застаецца толькі ў людзей псіхасексуальна недаспелых. Звычайна яна перарастае ў жаданне поўнага зліцця — душэўнага і цялеснага. Як гаворыць Маруа, «гэта бессэнсоўна і не па-людску, калі мужчына ці жанчына хочуць жыць адным духам, так, нібыта іх целы не існуюць». Вядома, на ўсё — свой час.





## КАХАННЕ З ПЕРШАГА ПОГЛЯДУ

А як жа каханне з першага погляду? Гэта яшчэ не сапраўднае каханне. Гэта толькі ўспышка, якая матывуецца сімпатыяй і захапленнем. Яна можа перарасці ў глыбокае пачуццё, можа, аднак, і згаснуць, як большасць мімалётных захапленняў.

Упамянём яшчэ пра каханне, да якога нас прыводзіць удзячнасць і спачуванне. Пачуццё «самаахвяравання» або спачування — здрадлівы хадайнік за каханне. Ён можа нават давесці да шлюбу, але з сапраўдным каханнем мае мала агульнага і раней ці пазней стане вялікім цяжарам для абодвух.

## ЧАМУ КАХАННЕ СЛАБЕЕ І ЗНІКАЕ

Як гэта наогул здараецца, калі нібыта нішто не перашкаджае двум людзям кахаць адзін аднаго, а каханне згасае?

Можна з поўным правам адказаць, што гэтыя людзі не зведалі сапраўднага, глыбокага пачуцця. Яны зведалі толькі эратычнае ўзрушэнне, якое прыемна казытала іх самалюбства, або жылі ў коле фальшывых уяўленняў і лічылі каханнем звычайную павярхоўную закаханасць.

Сапраўды моцнае пачуццё не можа аслабець, — наадварот, яно развіваецца і паглыбляецца. Перасычэння тады не існуе. Да яго можа дайсці чалавек, які раз'ядноўвае кампаненты кахання, які не ўмее ўбачыць яго сапраўднай мэты.

Сталасць кахання патрабуе выканання пэўных умоў. Трэба не толькі ведаць, але і паважаць прынцыпы правільнага сужыцця. Кажучы больш проста і празаічна — трэба мець чыстае сэрца, сумленную душу і павагу да чалавека, з якім жывеш. Мы павінны — і гэта асабліва важна — безагаворачна прызнаваць асабістую свабоду свайго партнёра, прызвычаіцца да шчырых, даверлівых узаемаадносін, «без задняй думкі», імкнуцца нават самыя складаныя, заблытаныя сітуацыі вырашаць з узаемнай павагай і разуменнем. Калі б гэта кожны з нас усведамляў, адносіны людзей сталі б значна больш чулыя, далікатныя і менш эгаістычныя. Узаемнае сужыццё — без імкнення камандаваць і паказнога самаахвяравання, але з узаемаразуменнем — добраахвотны саюз двух раўнацэнных партнёраў, якія прыносяць абодвум пачуццё свабоды, упэўненасці і спакою.

Людзі часта вінаваты ў тым, што хочуць у другім бачыць, як у люстэрку, самога сябе. Можа нехта запярэчыць — не хочаце ж вы сказаць, што лепей спакойна канстатаваць: я жыла з чужаком або жыву з чужою?! Мы, вядома, не хочам гэта сказаць, але не можам і пагадзіцца з падаўленнем самых інтымных кампанентаў чалавечай асобы, мы не можам лічыць правільным кантроль, высочванне і спавяданне адзін аднаго. Эмацыянальныя адносіны ад гэтага не робяцца ні мацнейшымі, ні «абноўленымі», і не атрымліваюць той «гарантыі трываласці», якая павінна была б вянчаць імкненні абодвух партнёраў.

Было б ідэальна, калі б увесь час заставалася нешта, чым вы можаце здзівіць партнёра, нешта незвычайнае, што пакідае глыбокае ўражанне. Гэта — умова пастаяннага абнаўлення пачуццяў і самая моцная абарона ад страты кахання.

## КАХАННЕ І БУДЗЁННАСЦЬ

Мы ўжо гаварылі, што сапраўднае каханне паважае ўнутраную свабоду абодвух партнёраў і захоўвае ў іх пачуццё натуральнасці. А пачуццё, якое грунтуецца на неэгаістычным, моцным каханні, дае магчымасць нават на працягу многіх гадоў заставацца адзін для аднаго прывабным. І тады не трэба баяцца звыкласці і будзённасці.

Людзі павінны былі б часцей задумвацца над сваімі пачуццямі. «Каханне прыйшло, каханне адышло, знікла» — гэта ўсё, што часам людзі могуць сказаць пра перажытае пачуццё. Або канстатуюць: мы страцілі цікавасць, прывабнасць адзін для аднаго, не варта працягваць далей. Гэта безадказная, павярхоўная пазіцыя. Вядома, ёсць выпадкі, калі разыходжанне абгрунтавана, нават неабходна, калі штучнае і прымусовае захаванне адносін прынесла б партнёрам толькі новыя пакуты. Не будзем, аднак, забываць пра тое, што ў большасці выпадкаў чалавек

можа не толькі зберагчы каханне, але зберагчы яго свежым і жывым. Гэта, вядома, значна складаней, чым лёгкадумна ўсё адкінуць і зноў (можа, гэтак жа павярхоўна) закахацца.

Праўда, трэба болей думаць. Не будзем баяцца прызнання, што, часам, прысвячаем больш увагі свайму выгляду, чым свайму пачуццю, што больш увагі аддаём гатаванню любімай стравы, моднаму пакрою адзення або разнастайным асабістым захапленням замест таго, каб задумацца над тым, ці сапраўды ўсё мы зрабілі для эмацыянальнага задавальнення партнёра.

Дык давайце ж думаць пра гэта і старацца берагчы і шанаваць сваё пачуццё — пачуццё, якое ўзбагачае наша жыццё.

## КАНЕЦ КАХАННЯ І РАССТАВАННЕ

Бывае, што каханне не толькі пачынаецца, але і канчаецца. I было б карысна крыху задумацца над гэтым.

Калі канчаюцца адносіны двух людзей (усё роўна, ці іх саюз толькі маральны, ці юрыдычны), яшчэ далёка не ўсё скончана. Кожны з партнёраў рэагуе на факт расставання пасвойму, а гэта мае ўплыў і на разыходжанне. Калі ў момант разлукі абодва на вышыні сваіх пачуццяў, то ўсё ў парадку. Аднак, на жаль, так бывае не заўсёды, і калі для аднаго пэўны раздзел жыцця заканчваецца назаўсёды, то ў другога ён жыве яшчэ доўга і прыносіць боль.

Разысціся цяжка, яшчэ цяжэй — разысціся прыстойна. Крытэрыем тут павінна быць заўсёды чуласць да другога чалавека. Драматычных разыходжанняў здараецца нямала: скандалы, сцэны, нават спробы самазабойства... Некаторыя людзі нібыта адразу страчваюць усю вытрымку, партнёры становяцца заклятымі ворагамі, здольнымі адзін аднаго абліць самым чорным брудам. Яны не разумеюць, што такімі ўчынкамі прыніжаюць не толькі саміх сябе, але і тое прыгожае, што некалі было ў іх адносінах. А чаму б і пасля разлукі не захаваць чыстыя, незабруджаныя ўспаміны? З якіх бы прычын ні ўзнікала разыходжанне, навошта псаваць апошнія хвіліны?

Разлука абодвум здаецца немінучай. Задумаемся над гэтымі словамі і вернемся на хвіліну да таго моманту, калі прымаецца такое рашэнне.

Становішча нам часта здаецца бязвыхадным. Але ці сапраўды яно такое? Ці не штучна мы пераканалі ў гэтым саміх сябе? Ці не паспешліва мы прымаем рашэнне? Адкажыце сабе шчыра, і, паверце, адказ не заўсёды будзе станоўчы. А калі паглядзець на свае справы «збоку», нібыта яны датычаць не нас, а нашага прыяцеля, які просіць парады? I калі яшчэ ўсвядоміць, што бязвыхадных сітуацый не існуе? Мы самі робім іх бязвыхаднымі тым, што не хочам ні ў чым саступіць, нічым ахвяраваць. Прызнаўшы гэта, мы зрабілі б толькі адзін «крок назад», каб потым зрабіць «два крокі наперад». Часам гэта балюча, часам непрыемна, але ад пачуцця бязвыхаднасці пазбаўляе.

Можа, пры такім асабістым аналізе вам памогуць некалькі пытанняў:

Што прынясе болей шкоды — разыходжанне ці прадаўжэнне адносін? (Асабліва трэба прыняць пад увагу дзяцей.)

Ці сапраўды ўсё так блага? I нічога нельга паправіць? (Як часта ў такіх выпадках мы бачым толькі адмоўнае ў нашых адносінах, а ўсё лепшае забываем! Паспрабуем змяніць сваю пазіцыю!) Задумаемся над прычынамі і матывамі расставання.

Ці сапраўды новае асяроддзе, новыя адносіны будуць лепшыя? (Дакладная ацэнка тут надзвычай важная! Надуманыя ўяўленні часта ў сапраўднасці выглядаюць інакш, і абуджэнне бывае горкім!)

Да чаго, уласна, мы імкнемся самі? (Ці сапраўды новае каханне стала глыбокім пачуццём, ці гэта толькі захаканасць, а можа і памылка? Ці не з'яўляецца прычынай нашых учынкаў дробязная ўпартасць? А можа мы занадта пераацэньваем свае сілы і здольнасці і недаацэньваем таго, што нам даваў гэты саюз з другім чалавекам?)

I толькі калі адмоўныя адказы пераважаюць, можна думаць пра разыходжанне, і ў такім становішчы яно, відаць, будзе найразумнейшым.

Кожнае разыходжанне, кожная пагроза яго павінна быць навукай: падумайце, што вы зрабілі благога, што занядбалі, што недаацанілі. Кажуць, што кожная ашуканая жонка павінна была б пайсці да каханкі свайго мужа, каб навучыцца таму, чым яна прывабіла яго. Гэта, вядома, гучыць як жарт; і ці можна такое ўявіць у сапраўднасці. Але вопыт даводзіць, што многія жонкі пасля разводу кажуць: «цяпер ужо я змагла б утрымаць мужа», а многія мужы ацэньваюць вартасці сваёй былой жонкі толькі пасля таго, як расчаруюцца ў другой. Дык ці патрэбны былі такія разводы?

Пераклад з чэшскай мовы
Алеся МАЖЭЙКІ.





# У НЕТРАХ КРЫШТАЛЯЎ

## ВАДА ТРАЦІЦЬ ЖОРСТКАСЦЬ

Ваду, якая мае солі магнію і кальцыю, называюць жорсткай. Часта на вытворчасці яе нельга ўжываць. Асабліва непажадана яна для катлоў, таму што пакідае на сценках слой накіпу.

Жорсткую ваду «змякчаюць»: у яе дадаюць гашаную вапну, соду, спецыяльныя прэпараты. Вельмі часта для змякчэння вады карыстаюцца штучнымі мінераламі — пермуцітамі і прыроднымі цэалітамі. Ужываецца для гэтага і трынатрыйфасфат, які інакш называюць трыполіфасфатам.

У наш час бурна развіваецца сінтэтычная хімія і асабліва вытворчасць пластмас, валокнаў і штучных каўчукаў. Усе гэтыя рэчывы — арганічныя палімеры. Іх гіганцкія малекулы пабудаваны з дзесяткаў і соцень тысяч атамаў вугляроду. Да вугляроднага шкілету малекул-волатаў нярэдка прыбудоўваюцца атамы азоту, кіслароду, вадароду, фосфару.

Трынатрыйфасфат, пермуціты і цэаліты, якія з'яўляюцца алюмасілікатамі шчолачных металаў, не маюць зусім у сваіх гіганцкіх малекулах атамаў вугляроду. Таму яны — неарганічныя палімеры.

У прыродзе ёсць нямала і іншых неарганічных палімераў. Сустракаюцца яны і ў кавалку цэглы, і ў валокнах азбесту, і ў фарфоравым кубку, і ў шклянцы, у цэментных апорах фундамента, і ў бетоннай перамычцы плаціны.

## АТАМЫ ВА ЎПАКОЎЦЫ

Каб перавезці соль, якую штодзённа ва ўсім свеце спажываюць людзі і жывёла, спатрэбілася б звыш 25 000 чыгуначных эшалонаў.

Кухонная соль утвараецца пры хімічным узаемадзеянні двух абсалютна разнародных рэчываў — металу натрыю і газу хлору. Аднак крышталікі солі ўтвораны не малекуламі хлору і атамамі натрыю, а іх электрычна зараджанымі часцінкамі — іёнамі.

Рэнтгенаўскія прамені дазволілі вучоным пранікнуць у нетры крышталяў і раскрыць таямніцу іх структуры. Высвілася, што кожная самая маленькая часцінка, з якіх складаецца крышталь, ёсць прасторавая, а не плоская рашотка. Унутры яе іёны размяшчаюцца адзін адносна другога заўсёды ў строгім парадку.

Злучыўшы ў прасторавым размяшчэнні вузлавыя пункты крышталя прамымі лініямі, атрымаем як быццам бы яго «шкілет». Такі «шкілет» называецца прасторавай крышталічнай рашоткай. Кожны крышталь, апрача «шкілета», мае і «цела». Ён складаецца з безлічы элементарных ячэек, запоўненых шчыльна пакладзенымі часцінкамі. Уявім іёны солі ў выглядзе шароў. Памеры іёнаў розных рэчываў неаднолькавыя. Ёсць маленькія іёны, радыус якіх не перавышае 0,5 стомільённай часткі сантыметра. Ёсць больш буйныя іёны, радыус якіх дасягае дзвюх стомільённых частак сантыметра.

Нават пры самым шчыльным укладванні шароў аднолькавага памеру паміж імі ёсць пустоты. Гэтыя пустоты можна запаўняць маленькімі шарамі-іёнамі па-рознаму. Атрымліваецца шчыльнае пакаванне атамаў. Розная колькасць слаёў, а таксама розныя спосабы запаўнення пустот ствараюць велізарнейшую разнастайнасць канструкцый крышталяў. У крышталіку кухоннай солі буйныя іёны хлору пакладзены ў тры слаі, іёны ж натрыю



Крышталічная рашотка кухоннай солі.




Упакоўка іёнаў у крышталях кухоннай солі.

запаўняюць усе пустоты паміж імі. Кожны іён натрыю мае вакол сябе шэсць іёнаў хлору.

Інакш выглядае шчыльная ўпакоўка ў крышталі хлорыстага кадмію. Тут таксама іёны кадмію запаўняюць пустоты паміж іёнамі хлору, але не ўсе, а праз два слаі іёнаў хлору.

Аднак крышталі солей — не палімеры, хоць яны маюць мільярды іёнаў у шчыльнай упакоўцы, *бо яны раствараюцца ў вадзе.*

## ДВА БРАТЫ

З даўніх часоў у Бразіліі, Афрыцы, Індыі знаходзілі празрыстыя бліскучыя камяні — алмазы. Савецкія геолагі знайшлі алмазы-россыпы ў Якуціі. Кожнага, хто трымаў у руках гэты незвычайны камень, перш за ўсё здзіўлялі яркі бляск, шматколерныя пералівы адбітых ім светлавых промняў і незвычайная цвёрдасць.

Выдатныя ўласцівасці алмаза даўно прыцягвалі ўвагу вучоных, але толькі ў сярэдзіне мінулага стагоддзя ўдалося нарэшце выявіць хімічную прыроду таямнічага каменя. Яшчэ ў XVIII стагоддзі М. В. Ламаносаў выказаў геніяльную здагадку, што незвычайныя ўласцівасці алмаза залежаць ад будовы яго «з часцінак, шчыльна злучаных». Гіпотэза вялікага рускага вучонага бліскуча пацвердзілася.

Цяпер кожны школьнік ведае, што алмаз і графіт — крышталічныя разнавіднасці чыстага вугляроду, бліжэйшыя сваякі драўлянага і каменнага вугалю і самай звычайнай чорнай сажы.

Як жа пабудаваны крышталі алмаза і графіту?

Чысты алмаз бясколерны, з моцным бляскам, ён вельмі добра праводзіць электрычны ток. Малекула алмаза мае



Крышталічная рашотка алмаза.



Крышталічная рашотка графіту.

тры вымярэнні — вышыню, даўжыню і шырыню. Тут усе атамы вельмі моцна злучаны паміж сабою. Такую «пабудову» нельга разбурыць ні награваннем, ні ўзаемадзеяннем з растваральнікамі.

Інакш пабудавана крышталічная рашотка графіту. Атамы вугляроду размешчаны ў ёй па вуглах правільных шасцівугольнікаў, якія значна бліжэй адзін да аднаго, чым тыя, што знаходзяцца ў суседніх плоскасцях-слаях. Такім чынам атамы двухмернай малекулы графіту звязаны паміж сабою больш моцна, чым асобныя слаі.

Ці задавалі вы калі-небудзь сабе пытанне, чаму аловак піша? Правільны адказ такі: таму што крышталічная рашотка графіту мае слаістую структуру. Калі аловак дакранаецца да паперы, нетрывала звязаныя паміж сабою часцінкі — двухмерныя малекулы графіту — адшчапляюцца.

Слабае счапленне асобных слаёў у крышталічнай рашотцы графіту дазваляе ўжываць яго і для вырабу змазкі.

## ЛАНЦУГІ І КОЛЬЦЫ

Калі растварыць кавалачак серы ў бензоле або ў серавугляродзе і выпарыць раствор, на дне пасудзіны застануцца жоўтыя рамбічныя крышталі. На рэнтгенаўскім здымку мы ўбачым, што яны складаюцца з безлічы слаёў, кожны з якіх мае выгляд кальца з васьмі атамаў серы. Значыць, сера прасцейшы палімер, самае маленькае звяно якога — васьмічленнае кальцо.

Другімі па форме атрымліваюцца крышталі, калі павольна ахаладжваць расплаўленую серу ў якім-небудзь посудзе і, не даючы ёй канчаткова зацвярдзець, зліць яшчэ не застыўшую частку. На сценках пасудзіны з'явяцца доўгія тонкія жоўтыя іголкі. Такія крышталі называюцца монаклінічнымі. Яны адрозніваюцца ад рамбоэдраў і па форме, унутраная структура іх таксама інакшая: гэта не васьмічленныя кольцы, а доўгія ланцугі, што складаюцца з многіх атамаў серы.

Фосфар — у перакладзе з грэчаскай мовы азначае светланосны.

У чыстым выглядзе фосфар зусім бясколерны і ўтварае крышталі, якія таксама, як алмаз, адбіваюць светлавыя прамені і пераліваюцца на сонцы ўсімі колерамі вясёлкі. Крышталі фосфару ўтвараюцца з малекул, якія складаюцца з чатырох атамаў, што размешчаны па вуглах правільнага тэтраэдра. Архітэктура палімера белага фосфару вызначае і падабенства і розніцу яго з алмазам. Алмаз цвёрды і не раствараецца ні ў чым, фосфар мяккі, яго можна рэзаць нажом і раствараць у арганічных растваральніках. Калі крышталь алмаза — гэта адна гіганцкая трохмерная малекула, дык кры-



Васьмічленнае кальцо серы (выгляд спераду і збоку).



Будова малекул белага фосфару.

шталічная рашотка фосфару складаецца з слаба звязаных паміж сабою чатырохатамных малекул, сувязь паміж якімі лёгка парушаецца пад уздзеяннем тэмпературы і малекул растваральнікаў.

Белы фосфар — гэта толькі адна з форм, у якой існуе гэты элемент у прыродзе. Ёсць яшчэ чырвоны і чорны фосфар. Калі награваць белы фосфар да 250—300 градусаў, ён пяройдзе ў чырвоны, а пад уздзеяннем звышвысокіх ціскаў ператворыцца ў чорны.

Да гэтага часу не разгадана таямніца будовы чырвонага фосфару. Як відаць, гэта сумесь некалькіх алатропных форм. Чорны ж фосфар хутчэй нагадвае графіт, чым алмаз.

У чорным фосфары няма маленькіх малекул, таму ён не лятучы, не плавіцца, не выпараецца. Пры моцным награванні без доступу паветра адбываецца, аднак, перабудова ўнутры яго крышталяў. Міжатамныя сувязі разрываюцца, і атамы злучаюцца ў малекулы-тэтраэдры. Чорны фосфар ператвараецца ў белы фосфар.

## АСНОВА ТРЫВАЛАСЦІ

Нядаўна член-карэспандэнт Акадэміі навук СССР К. А. Андрыянаў быў удастоены Ленінскай прэміі за сваю работу па поліарганасілаксанах — крэмнійарганічных палімерах, г. зн. прадуктах, якія маюць у палімерным ланцугу атамы крэмнію і вугляроду, да якіх «прыбудаваны» розныя арганічныя групы (радыкалы). Яму ж належыць заслуга выву-




Двайныя ланцужкі палімерных вокісаў крэмнію ў слюдах і глінах.

чэння і стварэння шэрагу новых палімераў, ланцугі якіх пабудаваны з чаргавання атамаў кіслароду, крэмнію і якога-небудзь металу.

Гэтыя палімеры шырока выкарыстоўваюцца ў самых розных галінах народнай гаспадаркі. Гэта ізаляцыя для электрычных машын, водаадштурхоўваючыя вадкасці, універсальныя змазкі, жаратрывалыя лакі і многае іншае. Новыя палімеры негаручыя, тугаплаўкія, вадастойкія. Ні холад, ні вада, ні агонь не страшныя для вырабаў з іх.

Структура гэтых палімераў нагадвае структуру сілікатаў — гліны, слюды.

Аснова ўсіх сілікатаў — гэта ланцугі, што складаюцца з многіх звенняў, якія ў сваю чаргу «збудаваны» з вокіслаў крэмнію, у некаторых з іх, напрыклад, у азбеста, атамы крэмнію звязаны кіслародам у падвойныя ланцугі, у слюды — у некалькі слаёў, у крыстабаліту яны ўтвараюць крышталічную рашотку ў выглядзе многавугольнікаў, якія паўтараюцца.




Палімер вокісу крэмнію ў мінерале крыстабаліце.



Крышталічная рашотка нітрыду бору.

Хімікі, карыстаючыся высокімі ціскамі і тэмпературамі, стварылі ў сваіх лабараторыях матэрыялы, якіх зусім не ведае прырода. Спалучаючы атамы бору з азотам, атрымліваюць белыя цвёрдыя крышталі нітрыду бору. У гэтых крышталях таксама, як у графіце, у шасціграннай кышталічнай рашотцы ўкладзены атамы бору і азоту, якія адзін з другім

чаргуюцца. Гэтае рэчыва часта называюць белым графітам.

Павялічваючы ціск да 65 000 атмасфер і тэмпературу да 1 600 градусаў, з атамаў бору і азоту ствараюць другі палімер, у якім атамы абодвух элементаў размяшчаюцца, як у алмазе. Новы мінерал, які называецца боразонам, пераўзыходзіць алмаз па цвёрдасці і тэрматрываласці.

У 1861 годзе выдатны рускі хімік А. М. Бутлераў упершыню паказаў, што ўласцівасці арганічных рэчываў залежаць ад колькасці і віду малекул і ад парадку размяшчэння атамаў у малекуле.

Цэгла, сілікатнае шкло, зацвярдзелы цэмент сваёй трываласцю абавязаны прасторавай структуры сваіх рашотак.

Стварэнне надзвычай цвёрдых і вельмі ключна тэрматрывалых матэрыялаў прыцягвае ўвагу многіх вынаходцаў да неарганічных палімераў.

Яшчэ недастаткова вывучаны рэакцыі, што адбываюцца з нерастваральным у вадзе палімерамі, не даследаваны працэсы, якія адбываюцца пры абпальванні цэглы, вырабе шкла і цэменту, керамікі і фарфору.

Многае застаецца яшчэ няясным і ў паводзінах растваральных у вадзе палімераў.

Больш плённым было даследаванне поліфасфатаў і цэалітаў, якія ўжываюцца для змякчэння вады. Выявілася, што трыфасфат натрыю, растваряючыся ў вадзе, у адрозненне ад звычайных солей, распадаецца на іёны толькі на адну трэцюю частку. Таксама ўстаноўлена, што цэаліты, адбельныя гліны, алюмасілікаты, якія маюць вялікую знешнюю і ўнутраную паверхню, здольны добра паглынаць на сваёй знешняй паверхні розныя малекулы.

З кожным годам лік новых сінтэзуемых неарганічных палімераў расце. Выдатнейшыя ўласцівасці, якімі валодаюць большасць неарганічных палімераў, адкрываюць ім «зялёную вуліцу» ва ўсе галіны народнай гаспадаркі.

**Барыс РОЗЕН,**
**кандыдат хімічных навук,**

## З УСМЕШКАЙ І БЕЗ ЯЕ

### «БАЛЬЗАМАВАННЕ» ЖЫВОЙ ПТУШКІ




**Кура яшчэ бегае, а яе — нашпігавалі смачнай прыправай... Так, гэта магчыма зрабіць. Трэба настой часнаку, шалфею і іншых рэчываў з невялікім дадаткам ферменту шалуранідазы ўводзіць птушцы пад скуру на шыі. Фермент дае магчымасць прыправе хутка разыходзіцца па ўсім целе і раўнамерна насычаць мяса.**

**Вынаходцы новага метаду «бальзамавання» жывой птушкі лічаць, што такое мяса значна смачнейшае.**

●

### ЯК УЗНІКЛА ХІМЧЫСТКА



**Хімічную чыстку ніхто спецыяльна не вынаходзіў. Кажуць, што яна была ўжыта ў 1870 годзе ў Марселі зусім выпадкова. Партовы рабочы ўваліўся ў бочку са шкіпінарным маслам. Калі яго выцягнулі адтуль, звярнулі ўвагу, што пасля такога «купання» яго адзенне зрабілася на дзіва чыстае.**

**Новае «вынаходства» хутка пачалі ўжываць ва ўсім свеце — карыстацца шкіпінарам для чысткі адзення. У 1910 годзе шкіпінар быў заменены бензінам, а ў апошнія гады — рознымі сінтэтычнымі сродкамі.**





## ФІЗІКА НА ПАЛЕТКАХ



**«ЧОРНЫ СНЕГ».** Каб мець добры, устойлівы ўраджай, даводзіцца штучна рэгуляваць водны рэжым глебы, скарыстоўваючы розныя агратэхнічныя і гідратэхнічныя прыёмы. Там, дзе вільгаці не хапае, узнікае неабходнасць накапляць яе, а там, дзе занмога,— пазбаўляцца ад яе.

У апошнія гады ўсё часцей пачынаюць ужываць новы спосаб рэгулявання накаплення вільгаці ў веснавы перыяд — штучнае паскарэнне растайвання снегу. Вясною з самалёта заснежаныя палі пасыпаюць вугальным пылам, сажаю ці дробным чарназёмам — у выглядзе перамешаных палосак. Пад чорнымі палосамі снег сыходзіць раней і пачынае адтайваць глеба, якая ўбірае вільгаць з непафарбаваных палос. Вызваленыя ад снегу палі можна раней засяваць, а гэта дасць магчымасць скараціць тэрміны сяўбы.

●

**ДЗЕ ЗАЎТРА ЗАМАРАЗКІ!** У жыцці раслін вырашаючая роля належыць тэмпературы глебы. Пачынаючы ад прарастання насення да паспявання ўраджаю, для кожнай культуры патрэбна пэўная сума сярэднесутачных тэмператур.



Ртутныя тэрмометры не заўсёды даюць дакладныя паказанні. Цяпер аграномы маюць магчымасць карыстацца паўправадніковымі электратэрмометрамі, якія вызначаюцца высокай дакладнасцю і зручнасцю карыстання.

Тэрмапавук — так названы прыбор для няспыннага назірання за тэмпературай на паверхні глебы на ўсім участку поля. Ужо створаны прыборы-аўтаматы кібернетычнага тыпу, якія дапамагаюць весці назіранні за надвор'ем. У прыватнасці, адзін з такіх прыбораў прагназіруе мясцовыя замаразкі. Ён загадзя скажа, на якім участку і калі чакаецца пахаладанне, і можа памыліцца не болей, як на адзін градус.

●




**НАДЗЕЙНЫЯ ВАРТАВЫЯ.** Збожжа, бульба, гародніна, садавіна паспяваюць за некалькі месяцаў. Як захаваць іх на ўвесь год і на больш, каб яны не сапсаваліся? Вельмі цяжка захоўваць на доўгі час, напрыклад, бульбу. Нават у прахалодным памяшканні з наступленнем вясны бульба прарастае.

Бульбу і іншыя прадукты можна захаваць у свежым выглядзе, калі перад загрузкай у сховішча ёбпраменіць пэўнай дозай гамавыпраменьвання радыёактыўнага кобальту-60. Абпраменены клубні нават вясною не прарастаюць і выглядаюць, як толькі што выкапаныя. Абпраменьванне ў такіх малых дозах не тоіць небяспекі для здароўя людзей.

Добра захоўваюцца абпраменены ізатопамі цыбуля, часнок, яблыкі, а таксама падрыхтаваныя ў закрытых слоіках садавіна, гародніна і ягады. Гэтыя кансервы могуць захоўвацца доўга, не губляючы смаку, паху і нават выгляду.



**Руіны Мірскага замка ў першай палове XIX стагоддзя.**
По малюнку Напалеона Орды.

# ЗАМАК НАД МІРАНКАЙ

Гэты замак — помнік старажытнай беларускай архітэктуры. Яго сталае месцазнаходжанне — мястэчка Мір, якое ў 1434 годзе вялікі князь літоўскі Зігмунт Кестутавіч аддаў за службу нейкаму Сёмку Гедзігальдавічу «на вечнае карыстанне». У першай палове XV стагоддзя мястэчка перайшло да буйных феадалаў Іллінічаў. Іллінічы баяліся выступленняў народных мас і іншых набегаў, таму пабудавалі сабе каля мястэчка ўмацаваную рэзідэнцыю, дакладней кажучы, замак, якім з 1569 года валодалі магнаты Радзівілы, а з 1760 года Вітгенштэйны.

...Цяперашні выгляд замка значна адрозніваецца ад першапачатковага. Не цяжка здагадацца чаму: у часе Паўночнай вайны ў 1706 годзе яго разбурылі шведскія войскі, у 1812 годзе ля сцен замка змагаўся з французамі корпус генерала Платава.

У першай палавіне XIX стагоддзя замак быў перабудаваны. Замест зубцоў на вежах з'явіліся шатровыя стрэхі, значна ніжэйшыя і танчэйшыя сталі крапасныя сцены, таму што замак страціў ваеннае значэнне і стаў толькі рэзідэнцыяй феадалаў. Унутраныя памяшканні замка таксама былі перапланаваны.

**Замак у Міры сёння.**



Да нядаўняга часу ўяўленне аб першапачатковым выглядзе замка даваў адзіны малюнак польскага мастака Напалеона Орды. Ды і то на ім відны былі ўсяго толькі руіны замка да яго аднаўлення і рэканструкцыі.

Нядаўна ў фондах Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва БССР быў знойдзены дакумент, які дае ўяўленне аб Мірскім замку да разбурэння яго шведамі. Гэты дакумент — інвентар (апісанне), складзены 15 кастрычніка 1668 года мірскім гараднічым Казімірам Месажыцкім. Інвентар падрабязна апісвае знешні выгляд замка, унутраныя памяшканні, іх убранне і мэблю.

Масіўныя цагляныя сцены замка ўтваралі амаль правільны замкнуты чатырохвугольнік. У ніжнюю частку сцен умураваны счэсаныя і адпаліраваныя валуны-граніты. Да верху кладкі памеры гэтых каменняў паступова змяншаліся. На рагах замка ўзвышаліся чатыры зубчатыя вежы, а паўднёвую сцяну дзяліла на дзве часткі самая высокая ўязная вежа, якую праразалі вароты. Вежы былі пакрыты чарапіцай, кожную вежу ўпрыгожваў флюгер у выглядзе арла на жалезным пруце. Усе вежы былі злучаны ўнутранымі пераходамі, па якіх можна было падысці да вузкіх байніц у сценах замка і да вежаў. У сцяну ўязной вежы над варотамі быў умураваны вялікі гадзіннік, а ўнізе вісеў звон, якім вартаўнік адбіваў час.

Як і ўсе крапасныя збудаванні таго часу, замак быў акружаны глыбокім ровам з вадой, абнесены валам і бастыёнамі. З поўдня подступы да яго прыкрывала рэчка Міранка. Пранікнуць у замак можна было толькі праз мост, які злучаў вароты з валам. Мост гэты быў пад'ёмны. Яго падымалі і апускалі на моцных жалезных ланцугах. Палавіны цяжкіх двайных дубовых варот перамяшчаліся па палазах. Ля варот стаялі тры жалезныя гарматы.

У правай частцы ўязной вежы знаходзілася турма, а ў глыбокім сутарэнні пад вежай — каменная цямніца, пранікнуць у якую можна было толькі праз люк у столі.

У вялікім чатырохвугольным двары замка размяшчаліся пякарня і піваварня. У сутарэнні пад піваварняй знаходзілася лазня са сценамі, абліцаванымі каляровай кафляй і шліфаваным каменем. Да ўязной вежы прымыкала кардэгардыя — памяшканне для варты. У двары знаходзіліся і агародчыкі замкавых слуг.

З двара ў замак вяла ўпрыгожаная точанымі балясінамі лесвіца. За прасторнымі сенцамі — унутраныя пакоі. Сярод іх памерамі сваімі вызначаліся вялікая гасціная з паркетнай падлогай і печамі з рэльефнай кафлі, пакрытай глазурай, і прасторная зала для танцаў. Для музыкантаў у зале быў зроблены спецыяльны балкончык. На другім паверсе шмат вялікіх і маленькіх пакояў. Печы ў пакоях былі абліцаваны рэльефнаю паліхромнаю кафляй. Шкло ў вокнах устаўлена ў свінцовыя рамы.

Сярэднія пакоі замка злучаліся лесвіцамі з другім паверхам. За дубовымі выразанымі дзвярыма знаходзілася верхняя сталовая — вялікі пакой з дзевяццю вокнамі французскага шкла, прыкрытымі жалезнымі прутамі або фігурнымі рашоткамі.

Побач са сталовай пад лесвіцай — патаемныя дзверы ў старую капліцу, дзе стаяў алтар у гонар святога Хрыстафора. Сцены капліцы былі абшыты дубовымі панелямі.

Верхнія пакоі замка — жылыя. Адтуль вінтавыя лесвіцы вялі ў вежы. У некаторых вежах знаходзіліся пакоі замкавых слуг.

Замак меў вялізныя сутарэнні, у якіх захоўваліся збожжа, скуры, каляровыя кафлі, сеткі для лоўлі звяроў, паляўнічыя прыпасы, дровы. У асобных памяшканнях стаялі бочкі з «каралеўскім» і «венгерскім» віном, півам, мёдам, бочкі з селядцамі і міногамі.

У замку была каналізацыя. Разгалінаваныя каналізацыйныя хады, падведзеныя да прыбіральняў і лазні, выходзілі ў сцёкавыя ямы, якія размяшчаліся звонку, за крапасной сцяной.

У крапасны вал з боку замка была ўбудавана канюшня, у якой былі зашклёныя вокны. У канюшні стаяла каля трыццаці коней. Стойлы і яслі былі выкладзены з цэглы і атынкаваны. Перад канюшняй знаходзіліся карэтнік і павець з абозным інвентаром.

Апісанне Мірскага замка цікавае не толькі для гісторыкаў і мастацтвазнаўцаў, але і для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй свайго краю.

**Людміла МІХАЙЛОЎСКАЯ.**

# ДЗЕКАБРЫСТЫ Ў БАБРУЙСКУ

Як вядома, у Беларусі былі раскватараваны воінскія часці, у якіх служылі будучыя відныя дзекабрысты, арганізатары і кіраўнікі рэвалюцыйнага дзекабрысцкага руху. У 1820—1821 гадах у Віцебску і Мінску жыў Мікіта Мураўёў — адзін з арганізатараў Паўднёвага таварыства дзекабрыстаў. Тут ён і пачаў пісаць першы варыянт праекта будучай канстытуцыі рэспубліканскага кіравання ў Расіі. І. І. Гарбачэўскі, актыўны ўдзельнік дзекабрысцкага руху, таксама жыў у Віцебску, у сваіх бацькоў. Доўгі час у Беларусі знаходзіўся А. Бястужаў-Марлінскі, сябар Рылеева і Пушкіна, актыўны ўдзельнік паўстання дзекабрыстаў на Сенацкай плошчы. Ён служыў у Полацку, у Башканавічах, а затым у мястэчку Выганічы (непадалёк ад Мінска). У 1823 годзе ў Бабруйску служылі ў арміі С. І. Мураўёў-Апостал, М. П. Бястужаў-Румін і іншыя відныя дзекабрысты.

Дзекабрыст Кюхельбекер пасля падаўлення паўстання ў Пецярбургу некаторы час хаваўся ў Беларусі, а затым накіраваўся ў Варшаву. Яго шлях пралягаў праз Гродзеншчыну. І гэта не выпадкова. На тэрыторыі Гродзенскай губерні быў размешчаны асобы Літоўскі корпус, афіцэры якога па прыкладу дзекабрыстаў арганізавалі тайнае таварыства «Ваенных сяброў». Кюхельбекер меў намер звязацца з яго кіраўнікамі. Але, даведаўшыся аб тым, што таварыства напаткаў такі ж лёс, як і дзекабрыстаў, Кюхельбекер накіраваўся ў Варшаву, там быў арыштаваны і адпраўлены ў Пецярбург.

Пад той час Галоўны штаб 1-й арміі знаходзіўся ў Магілёве. У 1823 годзе ў Бабруйску чакалі прыезду імператара Аляксандра І, які павінен быў праводзіць агляд войск. Дзекабрысты распрацавалі план, згодна якога меркавалася арыштаваць цара разам з яго світай і камандным саставам 1-й арміі на чале з начальнікам штаба арміі генералам Дыбічам. Адначасова прадугледжвалася выступленне дзекабрыстаў у Тульчыне, дзе размяшчалася 2-я армія, выступленне Паўночнага таварыства ў Пецярбургу і дзекабрыстаў Маскоўскай управы. Пасля арышту цара меркавалася аб'яднацца з 2-й арміяй, заняць Кіеў і рушыць на Маскву, «захопліваючы з сабой усе сустрэчныя войскі».

Пасля дзяржаўнага перавароту мелася на мэце праз сенат і сінод аб'явіць аб звяржэнні самадзяржаўя і стварэнні Часовага рэвалюцыйнага ўрада. Дзекабрысты мелі намер, скінуўшы цара, захапіць уладу і ўстанавіць у Расіі буржуазна-дэмакратычную рэспубліку. Гэтая агульная задума атрымала назву Бабруйскага плана паўстання дзекабрыстаў.

Пытанне аб падрыхтоўцы да выступлення ўпершыню разглядалася і абмяркоўвалася на з'ездзе дзекабрыстаў у Кіеве ў студзені 1823 года. Канкрэтныя пытанні, звязаныя з тактыкай паўстання, абмяркоўваліся і вырашаліся на нарадах у Бабруйску летам таго ж года.

Мураўёў-Апостал і Бястужаў-Румін, якія ўзначальвалі Васількоўскую ўправу Паўднёвага таварыства, на з'ездзе занялі актыўную пазіцыю, стаўшы ініцыятарамі бабруйскага плана. Іх падтрымалі палкоўнік Павала-Швяйкоўскі і капітан Нораў.

Вось што паказаў на следстве аб гэтым плане Мураўёў-Апостал: «У 1823 годзе полк наш быў у бабруйскай крэпасці. Калі назначаны быў агляд дывізіі гасударом, мы — Швяйкоўскі, Бястужаў, Нораў і я — рашыліся пачаць дзейнічаць. Умовіліся авалодаць гасударом і потым з дывізіяй рушыць на Маскву».

Бястужаў-Румін на следстве даў наступныя паказанні: «У той год мы паехалі ў Бабруйск, дзе прынялі Швяйкоўскага і Норава... Даведаўшыся, што імператар будзе рабіць агляд войска, мы рашылі захапіць яго, прымусіць яго падпісаць адмаўленне, трымаць яго пад вартай і ісці на Маскву, захопліваючы па дарозе войскі і інфармуючы аб сабе народ пракламацыямі».

Чаму выступленне павінна было пачацца ў Бабруйску? Па-першае, неабходна было выкарыстаць рэдкі выпадак царскага агляду тых палкоў, якія былі сканцэнтраваны ў Бабруйску і знаходзіліся пад непасрэдным уплывам членаў тайнага таварыства. Па-другое, надзвычай важным момантам у плане была блізкасць Масквы, куды паўстаўшыя палкі мелі намер рушыць пасля паспяховага «авалодання асобай гасудара». І па-трэцяе, у выпадку няўдачы бабруйская крэпасць магла служыць прытулкам для паўстаўшых, дзе можна было б трымаць арыштаванага цара і тым самым захаваць шансы на выйгрыш рэвалюцыйнага выступлення з тым, каб іншыя тайныя дзекабрысцкія таварыствы здолелі прыйсці на дапамогу.

На з'ездзе ў Кіеве, побач з пытаннямі, звязанымі з выступленнем дзекабрыстаў у Бабруйску, абмяркоўваліся і іншыя пытанні, у прыватнасці ўстанаўленне ў Расіі рэспубліканскага ладу і дыктатуры Часовага рэвалюцыйнага ўрада, які праводзіў у жыццё новую канстытуцыю.

На з'ездзе абмяркоўваўся план забойства цара. Меркавалася, што ноччу на варту будуць пастаўлены афіцэры і члены тайнага таварыства, пераапранутыя ў салдацкія мундзіры. Выбраўшы зручны момант, яны зойдуць у спальню цара і заб'юць яго, а раніцай, на досвітку, узнімуць войскі і пойдуць на Маскву.

На з'ездзе паміж яго ўдзельнікамі не было адзінства поглядаў па многіх важных тактычных пытаннях выступлення. Пры поўнай згодзе з тым, што дзяржаўны пераварот павінен насіць характар ваеннай рэвалюцыі, у кіраўнікоў Паўднёвага таварыства былі рознагалоссі аб канкрэтных формах падрыхтоўкі і ажыццяўлення паўстання.

Пестэль і пераважная большасць членаў Паўднёвага таварыства прытрымлівалася такой думкі, шты выступленне трэба пачаць у цэнтры, у Пецярбургу, дзе сканцэнтравана ўся вярхоўная ўлада дзяржавы і кіраванне краінай, а выступленне арміі на перыферыі павінна насіць дапаможны характар.

Другая частка дзекабрыстаў, у тым ліку Мураўёў-Апостал і Бястужаў-Румін, лічылі, што не абавязкова выступленне павінна пачацца ў цэнтры, яго можна і трэба пачаць на перыферыі і іменна цяпер, улічваючы спрыяльныя абставіны, звязаныя з прыездам у Бабруйск Аляксандра І. А цэнтр у такім выпадку павінен неадкладна выступіць з падтрымкай паўстаўшых на перыферыі.

Вялікія рознагалоссі ўзніклі па пытанню аб забойстве цара. Частка дзекабрыстаў,



П. Г. Кахоўскі.



М. П. Бястужаў-Румін.



П. І. Пестэль.



К. Ф. Рылееў.



В. К. Кюхельбекер.



С. І. Мураўёў-Апостал.

у тым ліку і Пестэль, лічылі, што арышт цара або нават яго забойства з'яўляецца недастатковай мерай, каб забяспечыць поспех рэвалюцыі. Другая частка дзекабрыстаў, у тым ліку Мураўёў-Апостал і Бястужаў-Румін, не жадаючы кровапраліцця і тых магчымых і нечаканых ускладненняў, якія маглі адбыцца пасля забойства цара, схіляліся да той думкі, што дастаткова цара арыштаваць, прымусіць сілай зброі адмовіцца ад трона і абвясціць у краіне змену кіравання.

Бястужаў-Румін пра гэта гаварыў у сваім паказанні: «Асабліва спосабы дзеяння выклікалі ўпорныя дэбаты. Адны хацелі збавіцца ад цара, а членаў царскай сям'і выслаць за мяжу, другім унушала агіду праліццё крыві імператара, і Сяргей Мураўёў напісаў тады прамову, у якой моцна паўставаў супраць забойства. У ёй ён прапаноўваў авалодаць давер'ем войска, захапіць Маскву і абвясціць там новы парадак».

Пестэль жа прытрымліваўся сваёй думкі. Ён лічыў, што без знішчэння цара і ўсёй царскай сям'і ніякі палітычны пераварот у Расіі быць не можа. Арышт або забойства цара павінна паслужыць толькі сігналам для пачатку адкрытага ўзброенага выступлення дзекабрыстаў, услед за якім павінен адбыцца дзяржаўны пераварот і ўстанаўленне рэспублікі.

Падрыхтоўку да адкрытага ўзброенага паўстання Пестэль разглядаў як працэс працяглы, які патрабуе многа часу і вялікай арганізатарскай работы ўсяго тайнага таварыства. З «тысячы прычын», высунутых супраць бабруйскага плана, ён на следстве ўказаў па сутнасці толькі адну — непадрыхтаванасць салдат.

Мураўёў-Апостал на следстве паказаў асноўныя намеры ініцыятараў бабруйскага плана: «Так як галоўная наша мэта пад Бабруйскам быў бунт, а не забойства гасудара, то хаця аб гэтым прадмеце і было гаворана на нарадах нашых, але нічога не было вырашана рашуча».

Наспех задуманы бабруйскі план, як відаць, не сустрэў адабрэння Пестэля і іншых кіраўнікоў Паўднёвага таварыства. Давыдаў, выкліканы ў Бабруйск, не прыехаў. Валконскі і Баратынскі аднесліся да бабруйскага выступлення адмоўна. У Маскве Бястужаў-Румін абмяркоўваў план выступлення з Якушкіным і Фанвізіным і таксама не сустрэў іх падтрымкі.

Адмовіўшыся ад бабруйскага плана, Мураўёў-Апостал, Бястужаў-Румін і іншыя глыбей пачалі займацца вывучэннем тактычных пытанняў, «ваеннага ўдару» супраць царызму, пытаннямі непасрэднай агітацыі сярод салдат і іх падрыхтоўкі да выступлення. Яны пачалі весці планамерную падрыхтоўку рэвалюцыйнага выступлення. У аснове іх тактычнага плана, прынятага і адобранага ўсімі дзекабрысцкімі таварыствамі, ляжала адзінае тактычнае палажэнне, што дзяржаўны пераварот павінен насіць характар ваеннай рэвалюцыі.

Дзекабрысты былі патрыётамі-рэвалюцыянерамі, якія горача любілі сваю Радзіму і гатовы былі ўсім ахвяраваць у імя яе шчасця. Але яны не былі паслядоўныя ў сваіх праграмных установках, тактыцы. На іх думку, рэвалюцыя павінна была здзейсніцца для народа і ў імя шчасця народа, але без актыўнай і рашаючай падтрымкі самога народа. У гэтым і праявілася іх буржуазна-дваранская абмежаванасць, пра якую пісаў У. І. Ленін: «Вузкае кола гэтых рэвалюцыянераў. Страшэнна далёкія яны ад народа».

Да нядаўняга часу ў савецкай гістарычнай навуцы было прынята лічыць, што адной з рашаючых прычын правалу бабруйскага плана паўстання дзекабрыстаў з'яўлялася тая акалічнасць, што Аляксандр І не прыехаў у Бабруйск.

Аднак жа, як устаноўлена, Аляксандр І прыязджаў у Бабруйск. Агляд войска адбыўся. Аб гэтым сведчаць загад начальніка Галоўнага штаба 1-й арміі генерала Дыбіча ад 13 верасня 1823 года «Аб імператарскім аглядзе войск 1-й і 2-й армій у 1823 г». У загадзе адзначаецца, штоАляксандр І застаўся задаволены аглядам і выказаў сваё задавальненне і зычлівасць начальствуючым асобам.

Калі прааналізаваць ход падзей, то можна ўстанавіць наступныя прычыны, па якіх дзекабрысты адмовіліся ад свайго плана.

Недастатковасць сіл і сродкаў, якія яны мелі ў той час, непадрыхтаванасць арміі, нерашучасць кіраўніцтва Паўднёвага таварыства, жаданне пазбегнуць магчымасці ўзнікнення ў краіне грамадзянскай вайны («міжусобнай сваркі»), а адсюль, як вынік усяго гэтага, і адсутнасць згоды паміж членамі Паўднёвага, Паўночнага таварыстваў і Маскоўскай управы.

Мацвей Мураўёў-Апостал на следстве гаварыў: «Я ад Швяйкоўскага даведаўся, што ў 1823 г. пры лагеры ў Бабруйску брат мой Сяргей, Бястужаў, Нораў і ён мелі намер спыніць нябожчыка гасудара, але што яны гэтага не зрабілі таму, што не паспелі папярэдне даць ведаць Паўднёвай дырэкторыі». Швяйкоўскі на следстве таксама паказаў, што ў час яго знаходжання ў Пецярбургу Мацвей Мураўёў пытаў у яго: «Для чаго ў Бабруйску не спынілі гасудара?» Я яму адказаў на гэта, што трэба было мець іншыя сродкі, а тыя недастатковыя, якія мы мелі...»

Усе наступныя варыянты планаў паўстання будаваліся, зыходзячы з уліку памылак і ўрокаў правалу бабруйскага плана, які, як відаць з дакументаў, быў разлічаны на праявядзенне хуткага, а галоўнае бяскроўнага дзяржаўнага перавароту ў Расіі.

Задуманы план ажыццявіць не ўдалося. Паўстанне дзекабрыстаў было падаўлена.

Мікалай І жорстка расправіўся з дзекабрыстамі. Ён сам разглядаў следчыя матэрыялы і дапытваў кіраўнікоў паўстання. На следчых справах уласнаручна накладваў рэзалюцыі, як весці следства і як пад найстражэйшым наглядам трымаць дзекабрыстаў, зняволеных у змрочных казематах Петрапаўлаўскай крэпасці. Усяго да следства і суда па справе дзекабрыстаў было прыцягнута 579 чалавек, пераважная большасць іх былі вайскоўцы.

Галоўныя кіраўнікі паўстання Пестэль, Рылееў, Мураўёў-Апостал, Бястужаў-Румін і Кахоўскі былі прыгавораны да пакарання смерцю праз павешанне, 120 актыўных і відных дзекабрыстаў саслалі ў Сібір на катаргу, на пажыццёвае пасяленне ў самыя аддаленыя глухія месцы Сібіры — Якуцк, Туруханск, Верхаянск, Чыцінскі, Іркуцкі краі і ў іншыя бязлюдныя мясціны.

Следства па справе дзекабрыстаў вялося і ў Магілёве. Бястужаў-Румін і Мураўёў-Апостал былі захоплены са зброяй у руках на полі бітвы, дзе праходзіла паўстанне Чарнігаўскага палка, і абодва даўстаўлены ў Галоўны штаб 1-й арміі ў Магілёў, дзе і былі зняты іх першыя паказанні. Затым яны былі адпраўлены ў Пецярбург.

Калі быў абвешчан прыгавор, дзекабрыст Сухінаў гучна ўсклікнуў: «І ў Сібіры ёсць сонца!»

Знаходзячыся ў ссылцы, дзекабрысты, нягледзячы на цяжкія ўмовы, засталіся вернымі сваім ідэям, за якія яны змагаліся і аддалі жыццё.

**Аляксандр СПІВАЧУК.**



М. А. Фанвізін.

С. Г. Валконскі.



# ЦІКАВА ВЕДАЦЬ: ШТО...

● Для атрымання фотаздымка ў пачатку XIX стагоддзя патрабавалася сядзець перад фотаапаратам нерухома восем гадзін. Спосаб павелічэння фотакартак не быў вядомы да канца стагоддзя, і для атрымання фотакартак вялікага фармату часам стваралі камеру вагой да 635 кілаграмаў, з пласцінкамі памерам 3×2,5 метры.

● Аднойчы ў англійскім горадзе Ротэрхеме кот прыціснуўся праз агароджу з калючага дроту, якой быў абгароджаны трансфарматар. Ён замкнуў ток і выклікаў каласальную катастрофу: турбіна ўзарвалася, патухлі ўсе светафоры, спыніўся тралейбусны рух, спынілася работа вадаправода, горад патануў у цемры.

● Першы ў свеце ліфт быў у Калізеі (старажытны Рым) і прыводзіўся ў рух 60 рабамі. Ён служыў для падымання гладыятараў і звяроў з падзямелля на арэну.

● Амаль большая палова элементаў з табліцы Мендзялеева ўтрымліваецца ў акіянскай вадзе. Калі б моры і акіяны раптам выпарыліся, то ў сухім асадку засталіся б 188 мільёнаў тон срэбра, 15 мільёнаў тон золата і 20 тысяч тон радыю.

**Адышлі ў нябыт спрэчкі між «лірыкамі» і «фізікамі». Апошнім часам яны моцна пасябравалі. І ўсё часцей лірыкі акунаюцца ў акіян навукі, а фізікі, ды і жрацы іншых галін ведаў, спрабуюць свае творчыя сілы ў мастацтве слова. Два аспіранты — фізік Эдуард Брук і філосаф Вячаслаў Кемераў — любяць дасціпнае слова, і на гэты раз я прапаную ўвазе чытачоў плён іх сумеснай творчасці — гумарэску.**

**Антось ЦЫБУЛЬКА.**

Ілюстрацыі зрабіў мастак **Аскольд ЧУРКІН.**

# ПОШУКІ СНУ

Вася, як мог, зручней умасціўся на ложку і падрыхтаваўся да таго спакойнага і глыбокага сну, які аднаўляе сілы і здароўе.

Сёння ён прачытаў у часопісе цікавейшы артыкул пра тое, як трэба правільна і эканомна хадзіць па законах фізікі. Артыкул Васю вельмі спадабаўся і цяпер ніяк не выходзіў з галавы. Трэба спаць, а хлопец думае.

Маці, як быў малы, памятае, раіла: «Лічы да тысячы...» Або так: «*Вось адзін белы слон, вось два белыя сланы, вось тры...*» Вася добра памятае, што тут, на трэцім слане, ён і засынаў.

Побач, на суседнім ложку, храпе Саша з цэха штампоўкі. Ён нацягнуў коўдру на галаву, а пяты зіхатліва свецяцца ўпоцемках.

А Вася варочаецца, варочаецца і ніяк не можа павыкідаць з галавы розныя думкі, успаміны, мроі. Раптам прыйшла самая светлая, як яму здалося, думка: «Трэба пагуляць у гэтую... як жа гэта яе... у анталогію. У анталогію кампазітараў ці паэтаў... Не, лепш у паэтаў!»

Ён нацягнуў прасціну аж на нос і пачаў прыгадваць: «Антакольскі... Алігер... Ахматава...» Добра. «*Яшчэ вось Апухцін...*» Веды якія-кольвек былі, тое-сёе чытаў, а што па радыё слухаў. «Аспарухаў... Хто ж гэта Аспарухаў?.. Балгарын нейкі, ці што... а ці паэт?.. не, не тое... добра».

Калі дабраўся да літары Б, справа пайшла весялей: «Блок, Баратынскі, Безыменскі, Бунін... Не, гэта не паэт... Але, не, здаецца, і ён вершыкамі забаўляўся...»

Потым уз'ехаў Вася на літару В: «Верлен, Ваншэнкін, Вой... не, Войніч вершы не пісала... Васільеў... Ва... Ва... Добра, хопіць на вэ». Далей ідзе літара Г: «Гётэ, Гамзатаў, Гійом Апалінэр... Во, мусіць, ніхто *такога паэта не* чуў, *а я ве*даю: нядаўна кніжачку купіў... Можа ўстаць, запаліць святло, пачытаць... Не, не трэба... Не трэба...»

Хуценька палічыўшы паэтаў на літары Д і Е ды пачаўшы ўжо трохі сапці, Вася падышоў да літары Ж.

— Ж-ж-ж...— ажно ўголас пражужжэў і прахапіўся Вася. «Не, на жэ нічога не было».

Сашка з цэха штампоўкі страх як храпе. «Нічога,— супакойвае сам сябе Вася,— зараз прыдумаю і на жэ. Быць не можа, каб на жэ ніводнага вершатворцы...»

Але нічога такі не прыдумвалася.

— «Ж-ж-ж» — як той жужаль шуміць у галаве. Пуста. Ён выразна ўявіў сабе літару Ж. Падобную на раскірэчанага жука, які варушыць усімі сваімі вусікамі-лапкамі. Жук гудзе ўсё грамчэй, і сон, які ўжо завязваўся, знік.

Сашка побач хроп, ажно заходзіўся. Васька не вытрываў і пакратаў Сашку за руку. Той яшчэ мацней захроп. Тады Вася пачаў тузаць Арцёма, што спаў на ложку злева. Арцём не прачынаўся. Васіль выцягнуў у яго з-пад галавы падушку.

— Ты што?! — прахапіўся Арцём, гатовы выцягнуць з-пад Ваські ложак.— Ты што гэта... не спіш...

— Паэта на жэ...— зашаптаў Вася.

Арцём замахнуўся рукой, але біцца і не думаў. Проста так, каб адкаснуўся *той. Але Вася глядзеў на сябра*, бы ў гарачцы. Арцём сцішыўся, задумаўся.

— Быў адзін, добра памятаю, ведаў я яго... Жы... як жа яго... жу... жэ.. забыўся...— застагнаў Арцём.

— Сашка! — гукнуў на моцным шэпце Вася. Саша хроп, не зважаючы ні на што.

Арцём пачаў будзіць суседа злева. Сусед злева прачнуўся, але ён не ведаў паэта на жэ. Наогул, з паэтамі не знаўся.

Сядзелі, абхінуўшыся прасцінамі, спусціўшы ногі з ложка долу. У пакоі на які момант запанавала цішыня.

— Во... — спахапіўся Арцём.— У мяне ёсць хлопец на чацвёртым паверсе,— прамармытаў і ўстаў з ложка Васяў сябар,— *ён усю энцыклапедыю на памяць* ведае.

Пайшлі на чацвёрты.

— Віцька?!

Віцька маўчаў.

Чатыры прывіды спускаліся з чацвёртага паверха на першы. На другім, жаночым, паверсе цалаваліся ў прыцемках двое. Прывідаў яны не заўважылі.

Вартаўніком у рабочым інтэрнаце быў філолаг з чацвёртага курса Жэня Вожык. У гэтую познюю пару ён ганяў чай з літровай бляшанкі-конаўкі, што на ланцужку прымацавана да бачка з вадой, і чытаў дваццаць шосты том «Литературного наследства».

Пачуўшы крокі ў канцы калідора, Жэня ўзняў вочы. На яго сунуліся чатыры белыя постаці. Жэнька хацеў быў крыкнуць з усяе сілы, але крык гэты захрас у горле разам з непраглынутым чаем і забулькаў, заклекатаў... Прывіды, ужо не было ніякага сумнення, рухаліся проста на яго, вартаўніка.

— Назаві паэта на ж-ж-ж-ж-э! — чатырохгалоса прагучала ў начной цішы.

— Жа-жа...— сабраўся з духам Жэня і вымавіў нарэшце збялелымі губамі: — Жараў...— а сам паспрабаваў схавацца за літровую бляшанку.

— Жа-а-раў...— прывіды ўздыхнулі шумна, але з прыкметнай палёгкай.

— Мне трэба яшчэ двух на жэ,— прашаптаў адзін з іх.

І ўсе чацвёра зданяў зноў рушылі да Жэнькі. Ён глянуў на незараджаную дробнакаліберку, што стаяла пад пажарным кранам. Але...

— Яшчэ двух! Яшчэ!... Двух!.. Вух!...— захрыпелі, завухкалі ўсе чацвёра, працягваючы рукі да Жэні. Ён адчуў, як нешта закалацілася дробненька-дробненька ў левай палавіне грудзей, як пачалі слабець ногі. Чамусьці ўспомніўся родны дом і як ён у ясны летні дзень, калі быў яшчэ зусім малы, разам са сваім сябруком хадзіў на рэчку лавіць акунёў.

— Ну-у-у-у! — пагрозліва закрычаў чатырохгалосы прывід.

— Жу-жу... Жукоўскі! — выгукнуў, сабраўшы апошнія сілы, Жэня і, самлеўшы, зваліўся пад стол.

Адзін з прывідаў разрагатаўся.

— Слабы цяпер народ пайшоў,— заўважыў другі.

— Што ж цяпер рабіць будзем? — захліпаў трэці.

— Прыйдзецца пагалоўна ўсіх апытаць,— сказаў чацвёрты і рашуча ступіў да дзвярэй насупраць. Астатнія следам.

...Інтэрнат гудзеў, як патрывожаны вулей. Пасля таго, як прагледзелі ўсю, што была пад рукамі, літаратуру, ніякіх надзей не асталося знайсці яшчэ хоць аднаго паэта на жэ. Праўда, адна дзяўчынёха з хімцэха сцвярджала, што ёсць такі паэт Жураўлёў, але яна была вучаніцай, разраду яшчэ не мела, і таму ёй ніхто не паверыў. Думкі падзяліліся. Меншасць стаяла за тое, што такі паэт ёсць. Большасць упарта даводзіла, што такога няма. Спрэчкі зайшлі ў тупік.

Выручыў усіх член заводскага літаб'яднання, які прапанаваў пазваніць іх кіраўніку — вядомаму крытыку. Вялізны натоўп рушыў да вартаўнічага століка. Жэні там не было, яго забрала хуткая дапамога.

Крытык доўга не мог уцяміць, што здарылася сярод ночы. Калі ж ён зразумеў, дык сказаў, што паэт такі сапраўды ёсць, але што на літаб'яднанне гэты член можа не прыходзіць, бо, сказаў крытык, сапраўдны паэт не толькі ўмее пісаць вершы, але і быць чалавекам з вялікай літары, за каго той,хто звоніць а трэцяй гадзіне ночы, лічыць сябе не можа.

Усё ж факт, што яшчэ адзін паэт на жэ ёсць, быў пацверджан.

— А раптам,— пралепятаў Вася,— а раптам, на самай справе, такога паэта няма?

— Паслухай, хлопец! — звярнуўся да яго здаравяка, што стаяў побач.— Ідзі ты са сваім Жураўлёвым прэч і не перашкаджай спаць. А не, дык...— і вядомы на заводзе баксёр паднёс да Васевага носа вялізны кулак.

Васіль адступіўся, глянуў на сваіх сяброў з пакоя, што яшчэ шчыльней завінуліся ў прасціны і мелі выгляд кволых былінак.

Усе чацвёра падаліся на свой трэці паверх.

Вася зноў умасціўся ў ложак. Побач сядзелі Арцём, Віцька і Арцёмаў сусед.

— Ісакоўскі, Ісказдэр...— выціскалі Васевы вусны.

— Іваноў,— падказваў Арцём.

— Кронберг, Кузняцова, Кірсанаў....— вымаўляў дрыготкі Васеў голас.

Усе маўчалі.

— Кірсанаў С-с-с...— сапеў Вася.

Арцёмаў сусед драмаў.

— Кірсанаў С-с...— тузануўся Вася.

Арцём штурхануў свайго суседа.

— Кірсанаў С-сямён,— не расплюшчваючы павекі, сказаў той.

— Кірсанаў С-с-сямён,— заспявалі ўсе, акрамя Васіля. «Кірс-с-санаў С-с-сямён...» — сапеў Вася.

Ён засынаў, уходаўшыся як след за доўгую ноч. На яго шчоках выступіла лёгкая чырвань.

«С-с-сямён...» — ляцеў па пакоі нягучны Васеў свіст.

Усцешаныя сябры стаялі ля Васевага ложка. За акном бралася ружовае світанне.

# Нашы аўтары.

●

**БУРАЎКІН Генадзь** нарадзіўся ў 1936 годзе на Полаччыне. Скончыў філалагічны факультэт БДУ імя Леніна, член КПСС. Працаваў у рэдакцыях газет і беларускага радыё. Цяпер — уласны карэспандэнт газеты «Правда» па Беларусі. Аўтар зборнікаў вершаў «Майская просінь», «З любоўю і нянавісцю зямною», «Дыханне».

●

**РЫДЗЕЎСКІ Напалеон** нарадзіўся ў 1920 годзе ў вёсцы Мякоты Мінскай вобласці. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Член КПСС. У 1948 годзе закончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна. Журналіст. З 1949 года працуе карэспандэнтам БелТА.

«Парашуты на дрэвах» — яго першая аповесць.

●

**ЛОЙКА Алег** — аўтар кніг паэзіі «На юначым шляху», «Задуменныя пералескі», «Дарогі і летуценні» і іншых. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў Слоніме. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар шэрагу навукова-даследчых прац. Працуе выкладчыкам універсітэта.

●

**ЯНІШЧЫЦ Яўгенія** нарадзілася ў 1948 годзе на Піншчыне. Вучыцца на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта.

●

**ЗУБРЫЦКІ Эдуард** нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Шклянцы Глыбоцкага раёна. Вучыўся на філфаку БДУ імя Леніна, Служыў у Савецкай Арміі. Зараз працуе ў Чашніцкім раёне на Віцебшчыне. Чытачам нашага часопіса вядомы як паэт. «Суэма» — яго першы празаічны твор.

●

**МАСАРЭНКА Алесь** нарадзіўся ў 1938 годзе ў Слаўгарадскім раёне. Вучыўся на філалагічным факультэце БДУ імя Леніна, служыў у Савецкай Арміі, працаваў у рэдакцыі «Чырвонай змены».

Чытачы «Маладосці» ведаюць яго як аўтара апавяданняў.

●

**ПАЛЬЧЭЎСКІ Алесь** нарадзіўся 16 студзеня 1905 года на Уздзеншчыне. Закончыў Прусінаўскую школу і Новасвержанскае вышэйшае пачатковае вучылішча, займаўся на рабфаку пры БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў у часопісе «Іскры Ільіча». Апавяданні А. Пальчэўскага друкавалі часопісы «Маладняк», «Малады араты», «Беларусь калгасная», «Работніца і сялянка» і іншыя. Ён аўтар п'ес «З чырвоным сцягам» і «Зламаная іголка». Выйшлі яго кнігі «Родныя берагі», «Мора на камені» і іншыя.

Зараз працуе адказным сакратаром часопіса «Вясёлка».

●

**КОЎТУН Валянціна** нарадзілася ў 1946 годзе ў Рэчыцкім раёне. Працавала піянерважатай. Цяпер — студэнтка філалагічнага факультэта БДУ імя Леніна.

●

**КРУПЕНЬКА Яўген** нарадзіўся ў 1936 годзе на Шклоўшчыне. Служыў у Савецкай Арміі, працаваў у рэдакцыях раённых і рэспубліканскіх газет.

Цяпер вучыцца ў Літаратурным інстытуце імя Горкага ў Маскве.

●

**РОЗЕН БАРЫС,** якому 7 ліпеня мінула шэсцьдзесят гадоў, нарадзіўся на Паўночным Каўказе ў г. Арджанікідзе. Кандыдат хімічных навук. Ён працуе ў галіне неарганічнай і фізічнай хіміі, з'яўляецца аўтарам звыш 80 навуковых прац і каля 30 навукова-папулярных кніг. У беларускіх выдавецтвах у розны час надрукаваны яго кнігі: «У свеце вялікіх малекул», «Хімія зялёнага золата» «Чараўніца хімія», «Прыручаны невідзімка» і інш.


**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 7**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктар **Лідзія ТАУЛАЙ.**

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, 30, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-93-854 — сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592 — аддзелы паэзіі і прозы. 2-93-892 — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775—аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 31/V-68 г. Падпісана да друку 28/VI-68 г.
АТ 02579 Тыраж 10628 экз. Зак. 991. Цана 40 кап. Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10.
Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі прасп. 79.**




*Т. Паражняк.* Дэкаратыўнае пано «Партызаны». (Кераміка).

*М. Бялясеў.* Беразіна. (Шамот.)

*В. Гаўрылаў.* Пласціка з керамікі «Птушка».



